# ЗМЕСТ Крыніца

# Я | Уладзімір ДУБОЎКА



*Калышуцца скаргі і моўкнуць,
разносяцца разам пялёсткі.
Ня хоча Ўладзімер Дубоўка
сьпяваць пад зазубраны лёскат.*







## З кнігі "Трысьцё" (1925 г.)

### *ТЫ РУКУ СВАЮ ЗАБІНТАВАЛА*

**Ты руку сваю забінтавала,
маладая... як цябе і клікаць?
Маё сэрца рвецца на кавалкі
і сьціскаецца тугой вялікай.**

**Вусны пацалую шчыра, моцна,
прытуліся... Хай гавораць людзі:
Словы іх, як палыновы воцат,
зьвінавацяць і мяне у блудзе.**

**Ці-ж я буду скардзіцца на крыўду:
у душы поэты — чорт зламае карак.
Плач душою, а часіны прыдуць,
сьлёзы завіюцца у каралі.**

**Ты руку сваю забінтавала,
чым я раны сэрца забінтую?
Яно рвецца, рвецца на кавалкі
за сябе, цябе і за другую.**

## Пра Мяне

***2 (15) ліпеня 1900 г.*** *— нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі Манькавіцкай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласці),*

*бацька Мікалай (адмысловы сталяр і віннік, займаўся й сялянскай працай) скончыў усяго толькі тры класы пачатковае школы, але шмат займаўся самаадукацыяй, таму добра ведаў нямецкую, жыдоўскую, рускую і польскую мовы[1];*

*маці Анастасія не мела пачатковае асветы, але таксама была здатная да моў. Разумела польскую, рускую, літоўскую мовы. Аднак жа заўсёды, нават жывучы ў Маскве, размаўляла толькі па-беларуску,*

*у сям'і Дубоўкаў гадавалася сямёра дзяцей.*

***1905 г.*** *— вучыцца ў Манькавіцкай рускай школцы, пра якую пазней успамінаў: "Што я атрымаў у гэтай школе? Нядрэнную пачатковую адукацыю. Але, апрача падручнікаў (лемантара, кніг для школьнага чытання), нічога не чытаў. Не было ніякай бібліятэкі для вучняў, калі не*

[1] Дзед паэта Хведар ведаў нават лацінскую мову, што засведчана самім Ул. Дубоўкам у лісце да Ю Пшыркова (гл. у гэтым нумары публікацыю А. Каўкі "Уладзімір Дубоўка. Маё радаслоўе"), а таксама ў кнізе "Пялёсткі" (Тут і далей заўвагі мае. — *Л Д.-М* )

# ЗА ВЕРШ — ТЭРМІНОВА АРЫШТАВАЦЬ...

**У выдавецтве "Мастацкая літаратура" рыхтуецца да выхаду першы том чатырохтомнага Збору твораў Ул. Дубоўкі, у які ўключаны вершы і паэмы 1921 — 1931 гг., у тым ліку і вершы, складзеныя ў турме, а таксама верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету...", напісаны 29 верасня 1926 года ў Мінску і надрукаваны ў часопісе "Беларуская культура" (№ 1, 1927 г., г. Вільня), як твор невядомага беларускага паэта.**

**Паводле сведчання Алесі Адамаўны Бабарэкі, у вершы была страфа, у якой на беларускі лад асэнсоўваўся вядомы антысеміцкі лозунг "Бі жыдоў — ратуй Расію". Перапісваючы свой твор на машынцы, Ул. Дубоўка замест гэтае страфы пакінуў чатырохрадкоўе кропак. На жаль, аднавіць гэты фрагмент тэксту немагчыма, бо рукапіс верша паэт спаліў.**

**Да верша "За ўсе краі, за**

*лічыць дзесятка розных брашурак "богаспасацельскага" зместу".*

***1912 г.** — паступае ў двухкласнае Мядзельскае вучылішча, у якім вылучаецца сваімі здольнасцямі ў засваенні матэматычных ведаў;*

*знаёміцца з творамі Гогаля, Тургенева, Данілеўскага, Ляскова, Жуля Верна, а праз газету "Наша Ніва" сочыць за адраджэнскай творчасцю Янкі Купалы і М. Багдановіча, у будучым самых блізкіх для сябе паэтаў.*

***1914 г.** — у кастрычніку паступае ў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю.*

*Пагроза нямецкай акупацыі прымушае тысячы беларускіх сем'яў, у тым ліку і сям'ю Дубоўкаў, пакінуць радзіму. Нова-Вілейская семінарыя эвакуіруецца ў Невель. У Невелі і адбылося грунтоўнае знаёмства з паэзіяй Янкі Купалы, перш за ўсё з кнігамі "Жалейка" і "Шляхам жыцця" Пра гэту шчаслівую для сябе падзею праз пяцьдзесят гадоў пісаў: "Яго (Янкі Купалы. — Л.Д.-М ) цудоўныя вершы, мілагучная мова, родныя сэрцу малюнкі і вобразы пакінулі вечны след у маёй душы. На ўсё жыццё астаўся Янка Купала для мяне самым любімым паэтам з усіх паэтаў свету. Нават, здаецца, ні з чым не зраўнанае ўражанне ад чытання Шаўчэнкавага "Кабзара" неяк крыху саступала ўражанню ад Купалавых вершаў. Як мне здаецца, апрача агульнапаэтычнага ўражання, немалую ролю грала і родная, блізкая з калыскі мова..."*

***1918 г.** — у лютым завяршыў вучобу ў семінарыі і прыехаў у Маскву, дзе бацька працаваў рабочым-інструментальшчыкам на 1-м участку службы шляхоў Беларускай чыгункі,*

*нейкі час працуе, як і бацька, на чыгунцы, а пасля паступае на гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта[2];*

*з-за матэрыяльнае нястачы кідае універсітэт і мусіць настаўнічаць у Навасільскім павеце Тульскай губерні.*

***1920 г.** — праходзіць службу ў асобнай тэлеграфна-будаўнічай роце Чырвонай Арміі,*

*у пачатку 60-х гг. у лісце да Ю. Пшыркова так ахарактарызаваў сваё чырвонаармейства: "Мая служба. нічым асаблівым не вызначалася. Я быў у Сувязі. . Гэта значыць: дзе цягаў катушку з провадам, дзе — стаўляў слупы і нацягваў дрот на ізалятары.." Праўда, з іншае крыніцы можна даведацца, што паэт "... удзельнічаў у паходзе на Варшаву, пасля заканчэння вайны вёў барацьбу з бандытызмам"[3]*

***1921 г.** — пасля дэмабілізацыі працуе ў Народным камісарыяце асветы РСФСР метадыстам і*

## *ЗМРОК ІМКЛІВІЎ*

**Змрок імклівіў наўсцяж даліны,**
**цені слаліся — біліся долу.**
**Спахмурнелі сінія вочы дзяўчыны,**
**бы туману сьцюдзёныя столкі.**

**Засьпявай хоць вярбу над вадою,**
**бо ўспаміны адны засталіся...**
**А затое, што там, ля купін лазовых**
**ты сьпявала каліну калісьці.**

**Засьпявай, хоць жалоба туліцца шчыльна,**
**бо на сьлёзы не будзе спагады.**
**Грудзі твае ніхто не расчыніць:**
**ашуканству пашлі пагарду.**

**Ахіні, атулі, спавівай нядолю;**
**пошчак сьціхне — і годзе жалю.**
**Будуць сінія вочы затое**
**зноў узрочыстай казкай крышталіць...**

1924

## *АБЯРУЧ ПРЫЦІСНУЎ СКРОНІ*

**Абяруч прыціснуў скроні**
**і сьвідруеш дол вачыма.**
**Пагалоска дзіка звоніць,**
**як аб згвалчанай дзяўчыне.**



**Што было, што будзе — гэта**
**кайданы жабрацкай долі.**
**Беларускага поэта**
**толькі жвір і супакоіць.**

**Дык журбу — на вір прадонны,**
**дык тугу — на ніцы лозы!**
**Шлях наш бойны, шлях наш торны,**
**і імпэту засталося.**

**Спавіём надзеі песьняй,**
**можа гэта толькі дрвіны...**
**Будзем думкі рытмам песьціць;**
**што загіне — то загіне...**

**Будзем слухаць, як гамоняць**
**каласы ў купальскай хвілі.**
**Нечаканыя пагоні**
**капытамі жыта зьбілі...**

**Прылажы да долу вуха:**
**аж зямля дрыжыць і стогне.**
**Скогат, скарга, скелзы скрухі**
**дасталіся на сягоньня...**

**Дык няхай бражджыць навала,**
**троп-у-троп, пакуль ня згасьнем.**
**Нас бяда пасынкавала,**
**гадавала перагаса.**

**Жыць аднойчы давялося:**
**налівай атруты корац!**
**"Калупаць ня трэба ў носе",**
**бо у вочы пальцам порацц.**

1924

[2] Правучыўся толькі два месяцы.

[3] Гл. нататку І.П Чыгрына ў 2-м томе біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" (стар. 378)

**ўсе народы свету..." звярталіся даследчыкі, але большасць з іх лічыла яго ананімным творам. І толькі рэдкія архівісты здагадваліся аб аўтарстве. Сёння мы дакладна ведаем, што аўтар верша — Уладзімір Дубоўка. Першым устанавіў сапраўднае аўтарства У. М. Міхнюк. Зрабіў ён гэта дзякуючы "крымінальнай" справе паэта, у якой ёсць пастанова на арышт за подпісам Ягоды: "За написание и распространение антисоветского и антибольшевистского стихотворения "За все страны, за все народы...", подписанного псевдонимом Янка Крывичанин, постановляю: срочно арестовать гр. В.Н. Дубовко, проживающего по ул. М. Грузинская д. 13..."**

**Датавана пастанова 19.07.30 г.**

**Варта адзначыць, што псеўданімам Янка Крывічанін Ул. Дубоўка больш не карыстаўся. Верш хадзіў у спісах, быў перакладзены на рускую мову нейкім супрацоўнікам АДПУ і разам з арыгіналам перапраўлены ў Маскву. Следчыя выявілі, што верш перадрукоўваўся на машынцы Беларускага пастпрэдства, у якім працаваў Ул. Дубоўка. Далейшае вядома — паэт адпакутаваў 27 гадоў з 30-ці прысуджаных (два разы па пяць і два — па дзесяць). Прычым апошні дзесяцігадовы прысуд канчаўся наступнымі словамі: "... по истечению срока подследственный В.Н. Дубовко остается на пожизненное заключение".**

**Пасля 1927 года верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету..." быў упершыню надрукаваны ў газеце "Літаратура і мастацтва" (10 лістапада 1995 г., № 45). А пасля першай віленскай публікацыі прайшло семдзесят гадоў.**

**Зміцер ДАВІДОЎСКІ,**
**супрацоўнік аддзела**
**беларускай літаратуры**
**Нацыянальнай бібліятэкі**
**Беларусі**

**Уладзімер ДУБОЎКА**

***

*За ўсе краі, за ўсе народы свету,*
*І што былі, і прыдуць што пасля:*
*Аздобленае горкім цьмяным цветам*
*Зазнаць нам гора лёс благі паслаў.*

*Скараліся і моўчкі ўсё прымалі:*
*Самохаць можа прыйдзе лепшы*
*час.*
*Як лісцінку на поплаве качалі*
*І зневажалі чужаніцы нас.*

*Калонія праз некалькі сталеццяў,*
*Наедак ненажорным груганом...*
*Я прысягаю — праклянуць нас*
*дзеці...*
*За апяшаласць нашу нам праклён.*

*На плечы ганьбы мы прынялі*
*многа:*
*Нявольніцтва, жабрацтва навакол.*
*Слязьмі сясцёр чужынцам мыем*
*ногі,*
*Заместа песень стогны бедакоў.*

*Прыціх наш край: ад гутарак*
*аскома...*
*Прыціх наш край: маўчаць,*
*усе маўчаць.*
*Свабодай карыстаюцца сачкомы,*
*Каб тых, хто мысліць,*
*у астрог саджаць.*

*інспектарам беларускіх школ і вучыцца ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В. Брусава;*

*давялося таксама быць і навуковым сакратаром "кабінета паэтыкі", старшынёй якога з'яўляўся ўсё той жа В. Брусаў, а пазней чытаць лекцыі ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду;*

*28 траўня ў газеце "Савецкая Беларусь" пад прозвішчам Бладысь Дубойка друкуе дэбютны верш "Сонца Беларусі"*

***1922 г.** – у альманаху "Маладая Беларусь" (выданне маскоўскіх студэнтаў-беларусаў) змяшчае свае пераклады Байрана з цыкла "Яўрэйскія мелодыі"*

***1923 г.** – пры дапамозе супрацоўнікаў рэдакцыі заходнебеларускае газеты "Наша Будучына" друкуе ў Вільні першую кнігу вершаў "Строма" Варта адзначыць, што праз савецка-польскую мяжу рукапіс "Стромы" быў перавезены патаемна і што свае рэцэнзіі гэтаму выданню прысвяцілі Цішка Гартны, Змітрок Бядуля і А. Навіна (Антон Луцкевіч);*

*становіцца сябрам літаратурна-мастацкай групоўкі "Маладняк" і старшынёй яе маскоўскае філіі,*

*з публікацыяй года: "На шляху беларускай культуры" // Савецкая Беларусь, 22 ліпеня.*

***1924 г.** – упершыню наведвае Менск,*

## З кнігі "Credo" (1926 г.)

### *ЧАСІНА ДЫ З СОКАМ РАБІНЫ*

**Часіна, ды з сокам рабіны**
**качаеш мяне ў чорнабыльлі.**
**На дзіды, на вострыя шыпшыньнік**
**ці сэрца, ці дух мой узьбілі.**

**Калышуцца скаргі і моўкнуць,**
**разносяцца разам пялёсткі.**
**Ня хоча Ўладзімер Дубоўка**
**сьпяваць пад зазубраны лёскат.**

**Пачаў — хай канчаюць другія,**
**шляхі — адшукаю сабе я.**
**Загіну — няхай і загіну,**
**мне гымнамі будуць завеі.**

5/V 25

### *КАРМАЗЫНАМ АСМУЖАНЫ*

**Ведаеш добра: ты вельмі прыгожая,**
**вусны твае кармазынам асмужаны.**
**Вочы ненацкам жыцьцё устрывожылі**
**і агарнулі сукрысьтасьцю кужалю.**

Дакуль чакаць і варажыць павінны?
Пакуль раса не выесць вочы нам...
З усіх бакоў над нашаю краінай
Сплялася несусветная мана.

На нашым карку торг спраўляе смела
Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца мяжой.

Масква сусвету вушы прашумела
Пра самавызначэнне аж да зор.
Смаленск дзе? Невель? Гомель дзе падзела?
Стварыла Гомельскі ганебны калідор.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,
Пасмешышчам для свету усяго.
Як быццам мала ў нашай волі сталі,
Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь.

Браты мае! Даволі ашуканства!
Гасцей да хаты выправіць пара.
З лазы заплаканай сплящём ім кайстры
Для нарабаванага у нас дабра.

Сляды іх гідкія пяском пасыпем,
Пясочкам светленькім пасыпем іх,
Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў
Апошні водгук прагучэў і сціх.

А не, дык надарм́о усё, жыццё над́арма,
Лажыся ў яму Сам, Народзе мой, –
Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць, –
Не развітаешся з жабрацкай калітой.

29 верасня 1926 г.
г. Менск





**Чуў ды ня верыў — спатканьне на ростані.**
**Што ж, будзе сумная песьня, мінорная.**
**Наша каханьне звычайнае, простае, —**
**гэта туга футаралам агорнута.**

**Хвалямі ў хвалях, пакуль не загінулі,**
**нас калыхала шалёная Азія.**
**Можа і мы на акрайках дэльфінавых**
**быццам хлапчук Рафаэльвай фантазіі.**

2/IV–25

### *АПОШНЯЯ ПЕСЬНЯ*

**І было у восень, калі стрыглі поле**
**і на полі слалі дываны з лістоў.**
**Засмылела сэрца ў нячуваным болю:**
**вельмі многа крыўды,**
**вельмі мала слоў.**

**І было у восень... Я сказаў аднойчы:**
**больш не дакранущца пальцы мае струн.**
**І пайду да мэты сьцяўшы зубы, моўчкі,**
**і назад не гляну,**
**як калісьці Ван-Чжао-Цзюнь.**

**І было у восень... Я сказаў на ростань:**
**тое што зьвінела, больш няма таго.**
**І апошняй песьні завілася постаць:**
**жыватворчы праглынуў агонь.**

6/X–25

*у сакавіку едзе ў Харкаў на шаўчэнкаўскае свята, дзе знаёміцца з П. Тычынам, М. Рыльскім, Ул. Сасюрам,*

*завяршае вучобу ў інстытуце імя В. Брусава,*

*працуе рэдактарам беларускага тэксту "Весніка ЦВК, СНК і СПА ССР" і адказным сакратаром прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР, а таксама рэдактарам літаратурнай старонкі на беларускай мове ў газеце "Гудок";*

*пра часы свайго маскоўскага бытавання пазней пісаў: "Я быў асабіста знаёмы з С. Ясеніным[4] і Ул. Маякоўскім, але яны толькі ведалі, што я беларускі пісьменнік, і ўсё. Будучы студэнтам, я неяк саромеўся "лезці" ў большае знаёмства да вядомых літаратараў. Апошні раз у жыцці бачыўся з Ул. Маякоўскім літаральна напярэдадні ягонае смерці ў П М Керžанцава[5], у якога мы, зусім выпадкова, былі на прыёме ў адзін і той жа дзень. Выйшаўшы з кабінета П.М Керžанцава, Ул. Маякоўскі моўчкі паціснуў мне руку... У мяне не было нават думкі пра тое, што*

[4] 25 кастрычніка 1925 г у газ. "Савецкая Беларусь" Дубоўка надрукаваў свае пераклады з нізкі "Персідскія матывы" Цікава, ці ведаў Сяргей Ясенін, што ягоныя вершы былі перакладзены на беларускую (!) мову?

[5] Керžанцаў Платон Міхайлавіч (1881 – 1940) партыйны дзеяч, гісторык. Быў на дыпламатычнай працы ў савецкіх пасольствах Швецыі і Італіі. Высока цаніў Дубоўку як паэта.

# ТРАГЕДЫЯ ПАЭТА

**У нашай шматпакутнай літаратуры багаты на цяжкія выпрабаванні лёс Уладзіміра Дубоўкі не выглядае вельмі ўжо рэдкім выключэннем, а ў пэўным сэнсе можа ўспрымацца і нават як адносна шчаслівы, бо паэт з годнасцю пераадолеў многія крутыя перавалы на сваім жыццёвым шляху, у эпоху бурнай грамадскай ломкі, бясконцых сацыяльных катаклізмаў пражыў без некалькіх месяцаў 76 гадоў, пакінуў нашчадкам значны даробак не толькі ў паэзіі і мастацкай прозе, але і ў некаторых іншых галінах беларускай культуры. Многім больш ардынарным дзеячам хапіла б для вялікага гонару і малой часткі зробленага Дубоўкам. Але ён быў запраграмаваны на большае. Ягоны велізарны творчы патэнцыял яшчэ ў 20-я гады здзіўляў сучаснікаў.**

**Максім Гарэцкі называў Дубоўку "шуканнікам хараства ў вершаскладанні".**

**Яшчэ больш узнёслыя характарыстыкі належаць Язэпу Пушчу. Творы Дубоўкі, сцвярджаў ён, "гэта ўзвышша сучаснага беларускага мастацкага слова і паэзіі". Яго вершы захапляюць "класічнасцю свайго мастацкага ўбору, што мала ў каго знаходзім з сучасных паэтаў не**

*гэта апошняе развітанне. Нават тое, што ён быў вельмі сумны, не давала падставы для падобнага меркавання. Справа ў тым, што я бачыў яго неаднойчы ў вельмі складаных і напружаных абставінах і ён заўсёды выходзіў пераможцам. На другі дзень яго не стала на свеце..."*

*Публікацыі года: "Новая часопісь для дзяцей" // Асвета № 3 / Пад псеўд. В. Туянец; Рэцэнзія на кнігу Янкі Журбы "Заранкі" // Маладняк № 5 / Пад псеўд. У. Гайдукевіч; "Кароткі нарыс гісторыі беларускай культуры" // Маладняк Калінінічыны № 1 / Пад псеўд. У. Гайдукевіч.*

***1925 г.*** *— выступае на пленуме Цэнтральнага Бюро ўсебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк";*

*задумвае гістарычную паэму "Браніслава" і ў 7-м нумары "Маладняка" пад назваю "Там, дзе азёры" друкуе з яе ўрыўкі;*

*асобнай кнігай выдае паэму "Там, дзе кіпарысы";*

*выходзіць з друку зборнік вершаў "Трысцё", які пачынаецца творам "Ня дзівіся", пятая страфа якога мае для нашай культуры гісторыка-сімвалічнае значэнне:*

Прыпусьціся ў даліну з узвышша,
каб узьняцца ізноў, і — вышай!
Гэта лёс на спатканьне вышаў!
І пярэстасьцю сьцежку нам вышыў

*Так было заяўлена паняцце У З В Ы Ш Ш А, якое праз год*

## *ПАЧЫНАЕЦЦА З ГІСТОРЫІ*

**Такая песьня — думкі падарожныя.**
**Значыцца —**
**блёкнот і нататкі. —**
**Калісьці сіла наезджая і варожая**
**з Беларусі зьбірала падаткі.**
**З падаткаў будавала...**
**Рознае, адным словам.**
**А галоўным чынам — цэрквы і турмы.**
**Зразумела, — ня любіла беларускую мову,**
**бо чула ў ёй па сабе звон хаўтурны.**
**Успамінаць можа і ня варта,**
**бо было аж за царскім рэжымам.**
**Але ў той час гэта былі ня жарты,**
**і Беларусь стаяла то ніцам, то дыбам.**
**Часінаю не хапала пакорнасьці і цярплівосьці.**
**Кроў пачынала віхурыць у жылах.**
**Тады бралі сяляне ў рукі вілы і восьці**
**і тады душыў паноў Крычаўскі Вашчыла.**
**Карацей кажучы —**
**усяго хапала:**
**і крыві, і сьлёз, і гэройства.**
**Але спадчына чорнасоценнага цемрашалу**
**урасла ў беларускія землі глыбока і войстра.**

**толькі Беларусі, але і Расіі і Украіны".**

**"Ён умее, як з мармуру, высячы свой непаўторны вобраз", — падкрэсліваў У. Жылка.**

**Ёсць сведчанні, што ў Дубоўку тады бачылі "задаткі генія". "Геніем беларускай зямлі" ўжо ў 60-я гады называў Дубоўку і ягоны сябра — украінскі празаік Іван Сенчанка.**

**У літаратуры 20-х гадоў Дубоўка і сапраўды быў выключна яркай фігурай, стаяў у эпіцэнтры тагачаснага літаратурнага працэсу і шмат што вызначаў у ім. Ён, безумоўна, не меў сабе роўных сярод маладых паэтаў. Ягоная паэзія адрознівалася надзвычай моцным патрыятычным пафасам, які жывіўся самаадданай любасцю да Беларусі. "У песнях я на Беларусь малюся, як моліцца ля возера трысцё", — з палемічнай падкрэсленасцю заяўляў паэт яшчэ ў першай сваёй кнізе "Строма", а потым паўтараў і ў "Налі", апошнім зборніку: "Пакуль душу у песнях не раздам, не кіну толькі Беларусі". Гэтая любоў выклікала і цікавасць да нашай мінуўшчыны, што тады найменш заахвочвалася, нарадзіла паэмы "Бра... гінь", "Грахі чубатыя", "Браніслава".**

**Але сапраўднай стыхіяй Дубоўкі была не эпічнасць, якой патрабуе класічная паэма, а лірызм. Нездарма ж Ю. Бярозка, які ў 20-я гады выступаў як узвышаўскі крытык і толькі пазней стаў рускім раманістам, жартаваў: "Аўтарытэтныя людзі сцвярджаюць, што прыблізна праз пяцьдзесят гадоў лірыку выжыве плакат. Дубоўка будзе тагды пісаць плакаты. Лірыка застанецца".**

**Прагноз, можна сказаць, не апраўдаўся, бо Дубоўка ўвогуле не дацягнуў да вызначанага**





## З кнігі "Наля" (1927 г.)

### *ПАЛЫНЫ ПАСІВЕЛІ НА ЎЗГОРКУ.*

**Палыны пасівелі на ўзгорку,**
**запрыгоршчыць і кіне іх вецер.**
**Мо' таму так на сьвеце горка,**
**мо' таму часам горка на сьвеце?**

**Калі глянуць на тыя даліны,**
**калі глянуць на тыя далочкі, —**
**толькі ліст адвіхнуўся з каліны,**
**а яго ўжо у гліну топчаць.**

**А ў каліне, ў шыпшыньніку дзікім**
**начавала і сонца і росы.**
**А ў пялёстках — бяз меры, бяз ліку —**
**з сокам шчасьце суздром разьлілося.**

**Адцьвітае, усё адцьвітае —**
**і гады, і хвіліны, і кветкі.**
**Маладосьць ты мая, залатая,**
**і цябе панясе так па ветру.**

**Разьліешся пялёсткамі песень,**
**ад мяне ды на тыя даліны.**
**І цябе вецер з глінаю зьмесіць,**
**бо да зор ад зямлі не дакіне.**

**Толькі знаю і веру цьвёрда,**
**як у долю краіны роднай, —**

*сталася назваю цэлай літаратурнай плыні;*

*разам з А. Бабарэкам, Кузьмой Чорным, Кандратам Крапівой, Змітраком Бядулем, Язэпам Пушчам уваходзіць у ініцыятыўную групу па стварэнні літаратурна-мастацкага аб'яднання "Узвышша";*

*публікацыі года. "Раніца рыкае": Агляд вершаў Язэпа Пушчы, а таксама адказ на некаторыя соймаванкі // Маладняк № 8, "Фармальна-мастацкія дасягненні маладнякоўцаў" // Савецкая Беларусь, 25 лістапада; "Маладнякоўскія шляхі" // Савецкая Беларусь, 16 снежня,*

***1926 г.*** *— выдае кнігу вершаў "Credo", на якую ў 2-м нумары "Маладняка" за подпісам Я.Ч з`явілася грубая рэцэнзія, а неўзабаве адбылося і абмеркаванне кнігі на агульным пісьменніцкім сходзе. У абарону выступілі Язэп Пушча і А. Бабарэка. Супраць — Андрэй Александровіч. Ён заявіў: "Паэзія ў зборніку "Credo" — упадачная" Мусіць жа, меў на ўвазе радкі кшталту:*

Я не чураўся і патроннай торбы:
кашулю зрэбную, як будзе трэ, парву
Ужо гарбаты я, а больш жыцьцё
ня згорбіць.
Ды што мужыцкую мне зьвяжа галаву?

*У 2-м нумары "Аршанскага "Маладняку" апублікаваны артыкул С. Дробуша "Пра мастацтва і Дубоўку", а ў рэцэнзіі "Хай дайлідзяць духу трыклі-*

**тэрміну, ён пражыў пасля таго не паўстагоддзя, а 48 гадоў. Але ягоная лірыка і праўда была вельмі адметнай, наватарскай з'явай у нашай літаратуры. У лепшых сваіх узорах яна вызначалася філасофскай заглыбленасцю, моцнай асацыятыўнасцю і той вобразнай размашыстасцю, якая і сёння ўражвае: "Я на ўзгорак выходжу круты, // я выходжу Сусвет прывітаць".**

**А яшчэ ж трэба згадаць уласцівае маладому Дубоўку выдатнае майстэрства гукавой інструментоўкі, рытмічную гнуткасць яго паэтычнага радка, высокую культуру рыфмы, а таксама віртуознае валоданне іншымі так званымі фармальнымі элементамі верша, без арганічнага асваення якіх не абыходзіцца ні адзін выдатны паэт.**

**Бадай, толькі цяпер можа быць належна ацэнена і падкрэсленае эксперыментатарства Дубоўкі 20-х гадоў. Яно настойліва штурхала паэта на рашучае абнаўленне звыклых жанравых форм, вымушала яго і на "вершы з заўвагамі" ("Крыху восені і жменька кляновых лістоў"), і на драматызацыю кананічнай у сваёй аснове паэмы (тая ж "Браніслава"). Асабліва выразна эксперыментатарскія замахі ў гэтым кірунку выявіліся ў славутых паэмах "Кругі", "І пурпуровых ветразей узвівы", "Штурмуйце будучыні аванпосты!" У іх на правах істотных састаўных элементаў, якія і фармуюць складаную структуру твораў, прысутнічаюць насычаныя рэзкімі палемічнымі закідамі прадмовы ў вершах і прозе, лірычная аўтарская споведзь і яго філасофскі роздум, зробленыя паэтам апрацоўкі фальклорных казак і народных апавяданняў прытчавага характару, перакладзеныя на беларускую мову**

*ні? ." А. Бабарэка аналізуе паэму "Там, дзе кіпарысы".*

*На Першым з'ездзе маладняkоўцаў выступае з садакладам "Творчы шлях "Маладняка", а таксама спрыяе таму, каб у Маскве быў надрукаваны зборнік "Літаратурная творчасць К.М Міцкевіча (Якуба Коласа)";*

***26 траўня** ўдзельнічае ў нарадзе, якая абмяркоўвала заяву групы пісьменнікаў аб выхадзе з аб'яднання "Маладняк" так пачалася пара "Узвышша" Ант. Адамовіч пісаў: "Былі спробы прыцягнуць да новага згуртаваньня Янку Купалу. Купала быў вельмі высокай думкі аб Дубоўку. Ён навет сказаў апошняму пры першай сустрэчы: "Я толькі Дзяржавін; ты — Пушкін...", маючы наўвеце, што ён разглядае сябе як папярэдніка Дубоўкі, які мае стацца клясычным паэтам беларускае літаратуры. Гэта выклікала тады зайздрасьць у іншых маладых паэтаў, і яны ўсяляк стараліся наставіць Купалу супраць Дубоўкі. Гэта ня выйшла, але ўсё-ж удалося наставіць супраць Дубоўкі Купалаву жонку. Таму, што ейны ўплыў на свайго мужа ў справах практычнае палітыкі быў вызначальным, яна й перашкодзіла Купалу далучыцца да новага згуртаваньня. ."*

*У Беларускім клубе (Масква) знаёміцца са сваёй будучай жонкай Марыяй Пятроўнай Кляус — настаўніцай, выпускніцай Акадэміі камуністычнага выхавання. Марыя Пятроўна ўспаміна-*

**маіх думак ня кіне у бёрда,**
**не затчэ утокам нягодным.**

**Вось затым дарую і крыўду, —**
**што мінула і што надойдзе.**
**Калі сэрца каханьнем спавіта —**
**яно крыўды ўкалыша, загоіць.**

**Палыны пасівелі на ўзгорку,**
**а ў далінах — пялёсткі ад кветак.**
**Мо' затым і прыемна і горка**
**калі скрозь распрыгоршчаць іх ветры?**

13/XII 25

## *ЦЕРАЗ ДАЛІНЫ І ПАЛІ ІШОЎ*

**Цераз даліны і палі ішоў**
**ад бору ў Менск паволі вечар.**
**І калыхаўся за плячыма шоўк,**
**лілёвасьцю аздобіў плечы.**

**Ў руках смала хваёвая і кмін,**
**і папараці ліст пажоўклы.**
**Узьвеяў лісьцінай і пацяклі**
**над вуліцамі крозы зёлак.**

**Нясьлі яны і сон і супакой**
**для струджаных у шуме бруку.**
**Ў задуме вечар глянуў навокал,**
**над горадам узьнесшы рукі.**

**вершы Пушкіна і Байрана, сатырычна-з'едлівыя пародыі на праявы літаратурнага жыцця 20-х гадоў і дыялогі-спрэчкі аўтара з чытачамі і саміх герояў па самых актуальных праблемах той пары. Кідкае ў сваёй нязвыкласці спалучэнне гэтых і некаторых іншых элементаў паэтычнай структуры некалі выклікала ўражанне калейдаскапічнага кангламерату і нават здольнай на выбух "грымучай сумесі" і таму не толькі грубым вульгарызатарам здавалася недапушчальным. Але жыццё паказала, што Дубоўка і самой складанасцю сваіх эксперыментальных паэм схопліваў істотныя павевы часу, інтуітыўна, чуццём мастака ўгадваў глыбінныя патрэбы мастацтва, якое няспынна абнаўляе і, ускладняючы, удасканальвае свой выяўленчы інструментарый.**

**Вельмі істотная роля Дубоўкі ва ўзбагачэнні выяўленчых магчымасцяў беларускай паэзіі 20-х гадоў за кошт шырокага выкарыстання іроніі, якой прасякнуты многія яго тагачасныя творы, абнаўлення паэтычнага сінтаксісу, слоўніка, літаратурнай мовы ў шырокім разуменні.**

**"Художник первородный всегда трибун. В нем дух переворотов и вечный бунт", — писаў А. Вазнясенскі ўжо ў хрушчоўскія часы. У 20-я гады ў нашай літаратуры ці не найбольшым бунтаўніком, прынамсі, сярод маладых, быў Дубоўка. Нездарма ж украінцы гаварылі пра яго: "Найкрашчы бузоцер". Вядома, ён прымаў тады абавязковую для савецкіх пісьменнікаў камуністычную дактрыну, падзяляў асноўныя пастулаты марксісцкай ідэалогіі, шчыра, узнёсла славіў, кажучы тагачаснай мовай, "Камуну Свету" і гатовы быў ад-**





**Расла напорнасьць, павадка расла,**
**ў празрыстых хвалях біўся рокат.**
**Здавалася, ад рокату раса**
**ільсьніцца й з-над званіц барокко.**

**І самацьветы — дыямэнты сьлёз,**
**і сэрца лябрадорскі камень, —**
**ляжалі скрозь, рассыпаліся скрозь:**
**над галавой і пад нагамі.**

**Ў задуме вечар прахадзіў далей:**
**на Замчышча цераз Нямігу.**
**Ў сьлядох яго ўсё водарыў алей**
**смалы хваёвае і кміну.**

**Над Менскам лёг на стрэхі камяніц**
**панікшы галавой на локаць.**
**А Менск шуміць, а Менск шуміць**
**пакуль ня прыдзе ноч здалёку...**

16/I 26.

## *ТАКАЯ НОЧ*

**Такая ноч... І Менск заціх...**
**Такая ноч...**
**А верасень —**
**лісьцё тугой пазалаціў**
**і жменяю — па верасе...**

**Ды выйду-ж я... Такая ноч...**
**Ды гляну-ж я...**
**Жыцьцё маё!**
**Хвілін такіх ня меў даўно...**

*ла: "Я была супраць рэгістрацыі нашага шлюбу з Уладзімірам Мікалаевічам, казала: "Гэта не заменіць нашых адносін" А ён настойваў[6] У далейшым яму гэта спатрэбілася: пры перадачах у турму, пры дазволах на спатканне. "*

***29 верасня** піша верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету..." — яркую публіцыстычную прамову, якая ў ягоным лёсе адыграла тую ж страшную ролю, якую значна пазней у лёсе Мандэльштама адыграла антысталінская інвектыва "Мы живем, под собою не чуя страны.. "*

***У лістападзе** прымае ўдзел у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі;*

*публікацыі года: "Мастацкая проза Я. Коласа (Абагульненне некаторых нагляданняў) // Літаратурная творчасць К М Міцкевіча (Якуба Коласа); "Два гады працы "Маладняка" // Маладняк № 1, "Літаратурная творчасць сучаснай беларускай вёскі" // Маладняк № 2; "Аб вярблюдах і аб "Полымя" // Савецкая Беларусь, 1 студзеня.*

***1927 г.** — калі ў БССР адмовіліся друкаваць "Налю", дамагаецца таго, каб кніга выйшла ў Маскве — у Цэнтральным Выдавецтве Народаў СССР Кніга поўная музычнага разняволення:*

Адамантамі рассыплю Слова,

[6] Шлюб быў узяты ў снежні 1927 года.

**даць жыццё "за Саветы". Але яшчэ большай была ў яго адданасць беларушчыне, гатоўнасць у выпадку патрэбы засланіць "Беларусь сабой".**

**Аднак з цягам часу ён пераканаўся, што савецкая дзяржава толькі фармальна, для прыліку прызнае народную свабоду, а на самой справе планамерна знішчае яе. А з канца 20-х гадоў і наогул пад выглядам барацьбы з "нацдэмаўшчынай" пачаўся моцны наступ на беларускую культуру, хоць на словах абвяшчалася яе поўная падтрымка. Змірыцца з такім паваротам справы бунтоўны Дубоўка, "юнацтвам хворы", як ён сам пра сябе казаў, ужо ніяк не мог. І гэта выявілася ў шэрагу яго апублікаваных тады твораў, асабліва ў вершаваным цыкле "Пярэсты букет" ("Узвышша", 1929, № 1), дзе паэт рашуча пратэстуе супраць бальшавіцкіх прэтэнзій на рэгламентацыю духоўнага жыцця асобы аж да дробязяў, змагаецца супраць поўнага падпарадкавання мастацтва ідэалагічнаму кантролю.**

**Выказваецца аўтарская думка па-рознаму. Вось Дубоўка адкрыта бядуе: "Так настрашылі мяне за ўхілы, // пахаджэннем дробна-буржуазным, // што бадай зусім не маю сілы // у радкі паставіць дзень сучасны". І яшчэ:**

*Крок — і вывіх ідэалагічны,*
*крок — і крытык аж са скуры лезе.*
*Ці хаваць пад маскаю аблічча,*
*ці ў тузе завыць, як воўк у лесе?*

*Можа яно лепш — жабрацтва духу,*
*па скарынцы са сталоў суседніх.*
*Гэтая задуха родзіць скруху,*
*быццам ворагі на карк узлезлі.*

**Але "жабрацтва духу" смяротнае для сапраўднага паэта. І аўтар спрабуе ратавацца іроніяй: "Іду дарогаю каля слу-**

што прыняў у спадчыну ад маці.
...Адаманты і ў гальлі сасновым,
супакой і сіла ў адаманце.

*Пра "Налю" пісалі Т Глыбоцкі (А. Дудар) і Уладзімір Жылка. Жылка, дарэчы, адзначаў, што " вершы Дубоўкі даходзяць да свядомасці і ўспрымання чытача не адразу, трэба ў іх учытвацца. Паэт мае сваісты стыль, свой асаблівы спосаб выражэння, адзначаны навізною, да якога трэба прызвычаіцца. " А паводле сведчання М Гарэцкага, у "Налі" " ёсць вершы з арыгінальна зробленымі месцамі. "*

*Ва "Узвышшы" з прысвячэннем Адаму Бабарэку друкуецца паэма "Кругі"*

Творчы шлях мой нязменна адзін:
я шукаю для сіл сваіх выйсці.
Ты, Адаме, мне кажаш: ідзі,
з пераломнага часу, каб выйсці.

За натхненне табе прысвяціў
гэты твор пераходны, ламаны.
У жыцці давялося ісці
да яснот праз імглу і туманы.

Калі сцісне дачасна імгла,
ты скажы: палыхалі зарніцы,
"и рыдала молчанием глаз
далеко залетевшая птица.. "

*У аднатомніку, выдадзеным у 1959 г., прысвячэнне знята, а працытаваныя строфы маюць, на жаль, прыкметна іншы змест:*

Творчы шлях той (?) нязменна адзін:
ён цудоўныя славіць часіны,

**Прадоньне шыза-цёмнае...**

**Туга тузе... Ды выйду-ж я...**
**Туга ў тузе...**
**Ды й лёгка так!**
**Маўчы душа, засьні душа...**
**А восень ходзіць з лёскатам...**

**Ідзе яна... Туга тузе...**
**Ідзе яна...**
**Узрочыста...**
**А смутак з хмар на дол паўзе,**
**ў лілёвых сьценях корчыцца...**

**Такая ноч... Ідзе яна...**
**Такая ноч...**
**А верасень —**
**лісьцё тугой пазалаціў**
**і жменяю па верасе.**

7/IX 25

## *ВУЛІЦЫ ШУМАМ СПАВІТЫ*

**Вуліцы шумам спавіты,**
**нэрвовасьцю й вецер затканы.**
**Пырснула сонца праменьнем на пліты,**
**пырснула на брукаваны сьвітак...**
**І на сонцы ёсьць такжа плямы...**
**Родзіцца ў муках новы дзень.**
**Шчэрыцца хіжа мінулага сьцень,**
**корчыцца ў муках таксама:**

**поў, // каб не ўхіліцца ўлева ці управа". А на змену іроніі прыходзіць сцвярджэнне, што высокае мастацтва не нараджаецца пад прымусам: "Усё вытварыць можна на пэўны капыл, // за выняткам ... песні хмялёвай". А вось і прамы наказ бараніць гонар асобы:**

*Ніколі не кленчы нядолі,*
*напасці літанняў не шлі.*
*Даволі пакоры, даволі*
*Качацца ў пылу на зямлі.*

**Праўда, гэтыя радкі фармальна звязваюцца з рэчаіснасцю Заходняй Беларусі, але абарона чалавека была яшчэ больш неабходнай у краіне Саветаў.**

**Іронія, пратэст і здзек з дурных патрабаванняў да мастака і мастацтва выразна праглядваюць і ў загалоўках да раздзелаў "Пярэстага букета", якія сведчаць пра вынаходлівасць дубоўкавай паэтычнай думкі ў падцэнзурным творы. Вось некаторыя з тых загалоўкаў: "Дубоўка падрабляецца пад мяшчанскія густы", "Хаваючыся ад жонкі, згадвае пра розныя гісторыі" (размова ідзе пра адносіны да жанчын), "Займаецца тэорыяй, якая прыводзіць да ляпсусаў", "На правах рукапісу. Гутарка з самім сабой", "Дубоўка перавыхоўваецца", "У парадку самакрытыкі (Дубоўка ў сабачую скуру ўшыўся, або Наследаванне некаторым крытыкам)", "Палёты пад шкляным каўпаком, або Замест запоўненае анкеты", "Для знатакоў. Цвік і паніхіда" і інш. Змястоўная важкасць такіх загалоўкаў, іх іранічназ'едлівы зарад, які ўзмацняе палемічныя аспекты ўсяго твора, не выклікае сумнення.**





**і на Нямізе,**
**і на Траецкай,**
**і каля кожнай брамы...**

**Імкненьні, імкненьні —**
**аўто —**
**і тое памалу.**
**Нямізе-ж мала каменьня —**
**сьцены патынкавала.**
**І памаленьку, паволі —**
**на концы.**
**Імкненьне яе малое —**
**даляры,**
**чэрвонцы...**

**— Вы пашырайце культуру,**
**стварайце поэмы,**
**пішэцэ карціны...**
**Мы вам з музыкай справім хаўтуры,**
**мы вам вянкі ўзложым на дамавіны.**
**— Вы разьбівайце галовы**
**ў жалю і крыўдзе за міліёны.**
**"Дурань заўсёды ходзіць голы,**
**а разумнага — ногі кормяць"...**

**Менск, Менск!**
**Твае заводы —**
**больш на карыкатуры падобны.**
**Але ты расьцьвіцеш,**
**але ты станеш сапраўдным горадам.**
**Менск, Менск!**
**Тады будуць заводы другія,**
**не для сэльтэрскай вады ці піва.**
**Мы можа раней загінем,**
**але будзем імкнуцца да мэты**
**напорна,**
**цярпліва.**

у якія іду і хадзіў
на прасторах любімай айчыны (?).

Калі сціснe дачасна імглой,
ты скажы: хоць пагаслі зарніцы,
ды над нашай савецкай (?) зямлёй
будзе вечна зіхцець Мілавіца...
*і г.д.*

*Жанр жыццяпісу патрабуе сціспасці, але дазволю сабе яшчэ адно параўнанне. Ва ўзвышанскім тэксце "Кругоў" мяне зачараваў радок, у якім паэт звяртаецца да журавоў, як да люмпэнкрылых стварэнняў:*

Журавы на поўдзень мілі мерацъ,
ад прастуды кашляюць з аддалі.
Ах, вы, люмпэн-крылыя стварэнні,
аспірыну, мабыць, і не зналі.

*У аднатомніку ж гэты дзёрзка-нечаканы радок выпраўлены і гучыць зусім пасрэдна: "Бледныя крылатыя стварэнні. "*

*У Вільні ў 1-м нумары часопіса "Беларуская культура" пад псеўданімам Янка Крывічанін надрукаваны верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету.." Тэматычна да гэтай публікацыі можна аднесці і публікацыю заявы паэта ў газеце маскоўскіх чыгуначнікаў "Гудок", што "Узвышша" будзе прызнаваць кіраўніцтва камуністычнае партыі толькі "ў магчымым для сябе кірунку й формах"*

*Публікацыі года: "У звязку з пытаннем аб беларускіх мелодыях у творчасці Шапэна" (думкі і нататкі), "Наля" (паэма) // Узвышша № 1, "Пра нашу літа-*

**Яшчэ больш рэзка выказваўся Дубоўка ў не прызначаных для друку лістах. 26 лістапада 1928 года ён спавядаўся А. Бабарэку: "Сапраўды, што пісаць і як пісаць? Лірыку "голую", каб нехта ў твае інтымнае пляваў і сморкаўся? Грамадскія матывы? А хто яго зараз ведае, я цяпер ні з кім не гавару нават, не тое, што пісаць пра грамадскія матывы: члены ЦК аказваюцца вінаватымі ў розных ухілах, што ж казаць пра нас грэшных? Пра што ж пісаць? Брацъ тэмы далёкія? Вось як капанешся ў далёкія тэмы, дык там і нацыяналізм і містыка. Такім парадкам, я зусім лагічна прыйшоў да вываду: вершы зараз нікому не патрэбны, бо, тым больш, яны на Беларусі наогул скампраметаваны".**

**Зразумела, ён ясна прадчуваў драматычную развязку, у прыватнасці, што яго самога "прагоняць са службы" (ліст да А. Бабарэкі ад 29 студзеня 1930 года). Аднак прыйшлося не толькі развітацца з працай у Крамлі, але і садзіцца за краты.**

**Непасрэднай прычынай арышту стаў, як цяпер дакладна ўстаноўлена, верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету...", ананімна надрукаваны яшчэ ў 1927 годзе ў віленскім часопісе "Беларуская культура". Сучасная публікацыя гэтага твора зроблена З. Давідоўскім ("ЛіМ", 1995, 10 лістапада)[1].**

**Твор проста выдатны. Па сіле пратэсту супраць гвалту над паняволеным народам яго можна параўнаць хіба што з купалаўскім вершам 1922 года**

[1] Гл. у гэтым нумары публікацыю З. Давідоўскага "За верш — тэрмінова арыштаваць...".

*ратурную мову" (думкі і нататкі) // Узвышша № 2; "Рыфма ў беларускай народнай творчасці" (артыкул) // Узвышша № 3; "Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашае мовы" (артыкул) // Узвышша № 4; "Кругі" (паэма) // Узвышша № 5, 6, "Отражать — адбіваць — адлюстроўваць" (лінгвістычная нататка) // Узвышша № 6; "Пра чарговыя задачы нашае кінавытворчасці" (артыкул) // Звязда, 16 кастрычніка.*

***1928 г.** — нараджаецца сын Альгерд,*

*У літаратурнай крытыцы часта згадваецца імя паэта. А. Бабарэка, напрыклад, адзначае: "Дубоўка — паэт нацыянальны. У гэтым кірунку яго творчасць увабрала ў сябе дух творчасці Янкі Купалы". Гэткая ж высокая характарыстыка дадзена і ў артыкуле М. Гарэцкага "Белорусская литература", надрукаваным у 4-м нумары маскоўскага часопіса "Октябрь" "З паэтаў першае месца ў беларускай паэзіі паслякастрычніцкага перыяду належыць Уладзіміру Дубоўку — па сіле пачуцця, глыбіні думкі і мастацкай дакладнасці формы ў лірычных вершах і невялікіх па аб`ёме паэмах. "*

*У сваім іншым артыкуле "Беларуская літаратура пасля "Нашай Нівы", публікацыя якога адбылася ў 4-м нумары "Маладняка", М Гарэцкі сцвярджае, што Дубоўка " шукальнік арыгінальнага хараства ў вершаскладанні. "*

**Вуліцы шумам спавіты,**
**нэрвовасьцю й вецер затканы.**
**Дзень стары ляжа на пліты,**
**неба нам будзе палітрай,**
**стагодзьдзі цяпер экранам.**

19/I 26.

## *ПАЛЬЦЫ ЖОЎТЫХ КЛЯНОВЫХ ЛІСТОЎ*

**Пальцы жоўтых кляновых лістоў**
**мкнуцца восень схапіць за шыю.**
**Не парушаць яе хараство,**
**не парушаць лісты залатыя.**

**Клён у вокны забразгатаў,**
**адгукнулася каняю рэха.**
**Месяц рваў арэхі з куста,**
**раскідаў над сусьветам арэхі.**

**Яны ў воўне блакітнай ляглі,**
**сумавала ў даліне ляшчына.**
**Лятуценьні ня зьмерклі ў гальлі,**
**лятуценьняў згасіць немагчыма.**

**Расьцярушацца ў далі і ў высь,**
**каб нагадваць аб сьветлым над чорным.**
**Ці таму, што сумуюць журавы,**
**ненасытна сьвіргочуць жорны?..**

**Ліставея ня моўкне, шуміць**
**ад вясны да вясны на прасторах.**

**"Перад будучыняй". Яўна пераклікаючыся з вялікім нацыянальным Пракрокам і рызыкуючы ўсім, Дубоўка даў адзін з самых яскравых узораў патрыятычнай паэзіі, якая натхнялася думкай пра беларускую незалежнасць.**

**Расплата за верш, які ў дэмакратычнай дзяржаве наогул наўрад ці мог разглядацца ў якасці "крыміналу", была жахлівай — амаль трыццацігадовае блуканне па астрожных этапах і высылках. Зрэшты, у якасці абвінавачання Дубоўку прыпісвалі і шмат яўнай лухты, бо ён праходзіў па справе так званага "СВБ", міфічнай антысавецкай арганізацыі, прыдуманай карнымі органамі для расправы над нацыянальнай інтэлігенцыяй. Так што, калі б не было "крамольнага" верша, бунтоўнага паэта пасадзілі б за нешта іншае...**

**Дубоўка шмат расказваў мне і пра абставіны зняволення, і пра розныя гісторыі з турэмнага побыту і часоў высылкі. Ён раіў пашукаць другую, неапублікаваную, частку паэмы "І пурпуровых ветразей узвівы", рукапіс і апошні машынапісны экземпляр якой адабралі ў яго ў Чувашыі ў час паўторнага арышту летам 1937 года, але ні разу, ні ў якой сувязі не згадваў пра верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету...". Дапусціць думку, што паэт проста забыўся пра існаванне гэтага верша і пра тое, што ён быў непасрэднай падставай для арышту, ніяк не выпадае, бо памяць у Дубоўкі была выдатная. А такія "падрабязнасці" і ўвогуле не забываюцца. Значыць, думаю я цяпер, ён не хацеў, каб пра той твор стала хоць што-небудзь вядома. Пас-**





**Поверх стрэх і мурoў камяніц**
**я пабачыў яе учора...**

**Дзесь далёка галосіць сава,**
**небакрай апрануўся жалем.**
**Людзі любяць душу прасаваць,**
**калі гэта душа чужая.**

30/XII—25

## *ЦЯГНІК СЬПЯШАЎСЯ*

**Цягнік сьпяшаўся, сакатаў маркотна,**
**цягнік сумленна мерыў кілёмэтры.**
**На ўзгорку, бачылі усе праз вокны,**
**каліна красавала белым цьветам.**

**Наводля дзеўчына ў кужэльных шатах**
**маю дарогу шчасьцем вышыць вышла.**
**І пад шатром зялёным і бахматым**
**застыла ў млявасьці на ўзвышшы.**

**І хараство істоту агарнула,**
**каліна белая... нявеста маладая...**
**Праз вокамгненьне з гоманам і гулам**
**далечыня ад воч яе схавала...**

**І скардзіцца няма каму, ды дзе там:**
**цягнік імкнуўся ў небасхіл, у далі.**
**Каліна водарыла белым цьветам,**
**каліну звалі тую: Наля... Наля...**

4/IV—26

*Да дзесятай гадавіны ўтварэння БССР піша паэму "Урачыстая дата". Ант. Адамовіч адзначаў, што паэма поўная іранічных празаізмаў. І відавочна, што гэта так:*

Песьняй не абняць
сучасную асьвету,
і нельга ў песьні ўсё сказаць
пра школы і ўніверсітэты,
і нельга ў песьні ўсё сказаць
пра цуды калектыўнай волі,
якімі будзем адзначаць
мы паляпшэньне долі.

*Паэт крытыкуе не толькі савецкія дасягненні, але і беларускі рух за ягонае празмернае карыстанне нацыянальнай фразеалогіяй, высмейвае сентыментальнасць дзеячаў беларускага руху, якія:*

Вельмі любілі народ
і зь верашчакай бліны,
дрэннае ці дабро
не разважалі яны.
Нехта кудысь ішоў,
некага нехта зваў
Слоў, было многа слоў,
дзеі ніхто ня знаў

*У выніку, як адзначае ўсё той жа Ант. Адамовіч, ухваляючы саркастычны пафас паэмы "бальшавікі здолелі перахапіць ініцыятыву"*

*Публікацыі года: "Беларускі кампазітар Мікола Равенскі" (артыкул) // Узвышша № 3; "Праект літар для згукаў "дз" і "дж" (артыкул) // Узвышша № 4, "Беларускі згук [illegible] і літара*

**ля перажытых нягод ён ужо праяўляў асцярожнасць ва ўсім і ў выказваннях на людзях страхаваўся абавязковымі згадкамі пра мудрасць партыі і іншымі тагачаснымі ахоўнымі клішэ.**

**Часам даходзіла і да яўных пераборaў. Гэта ж не выдумка мемуарыстаў, а факт, сведкам якому быў і я, што ў рэстаранным сяброўскім застоллі з нагоды 65-годдзя і выхаду двухтомніка выбраных твораў паэта ён рашуча запярэчыў, калі ў адпаведнасці з даўняй традыцыяй першы тост прапанавалі ў яго гонар. "Што вы, што вы... За мяне не трэба... За родную камуністычную партыю", — прыкладна так сказаў Дубоўка, здзівіўшы, мусіць, усіх прысутных.**

**Ды дзівіцца асабліва і не было чаго — Дубоўка ўжо быў навучаны многаму. За адну ягоную фразу пра тое, што ўзвышаўцы не адмаўляюцца ад грамадскай працы і будуць "праводзіць яе і надалей пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, у магчымым для сябе кірунку і формах — у галіне літаратуры, у формах літаратурна-мастацкага згуртавання", — за гэтую ўвогуле бяскрыўдную і лаяльную да бальшавіцкай палітыкі фразу з артыкула ў маскоўскай газеце яго распіналі безліч разоў яшчэ да зняволення — маўляў, прызнае партыйнае кіраўніцтва з нейкімі агаворкамі. Маючы такі горкі вопыт, стократна перастрахуешся і ніколі, ні пры якіх акалічнасцях не забудзешся на партыю, якая дапускала гэткі здзек з чалавека.**

**Словам, Дубоўка "роднай камуністычнай партыі", як мне здаецца, ужо не верыў ніколь-**

*„Зело" (артыкул) // Узвышша № 5; “Урачыстая дата” (паэма) // Узвышша № 6.*

***1929 г.** – паведамляе А. Бабарэку пра свой намер перакласці паэму Байрана “Паломніцтва Чайльд-Гарольда”;*

*Друкуе паэму “І пурпуровых ветразей узвівы”, якая была варожа ўспрынята камуністычным рэжымам – перш за ўсё ягонымі памагатымі з БелАППа, сярод якіх найбольш артадаксальным пафасам вылучаўся Бэндэ. У Беларускім Дзяржаўным Тэатры была наладжана дыскусія, на якой аўтару паэмы не дазволілі выступіць. Наспеў час, калі на поўны голас былі абвешчаны партыйныя заклікі змагацца з усякімі праявамі нацыянал-дэмакратызму і што “. нацыянал-дэмакратызм з`яўляецца галоўнай небяспекай на даным этапе”,*

*адзін з першых заўважае, што бальшавікі вядуць беларускую літаратуру на згубу,*

*здаў у друк зборнік вершаў “Дэпешы без адрасу”, якому не суджана было ўбачыць свет,*

*гэткі ж лёс чакаў і створаную ў канцы года паэму “Штурмуйце будучыні аванпосты” – яна была надрукавана толькі ў 1965 годзе.*

*Асноўныя публікацыі года. “Пярэсты букет” (вершы), “Лацініка ці кірыліца” (артыкул) // Узвышша № 1; “І пурпуровых ветразей узвівы” (паэма), “Падоўжаныя (або падвойныя) зычныя і спосаб іх азначэння на пісьме” (артыкул)// Узвышша*

## *ЗАГАДАЮ КРОЗАМ, КАБ ЗАЦІХЛІ*

**Завілі ў пунсовыя каралі**
**ці надзвычай шчаснае, ці ліха.**
**Як бы там ня клікалі, ня звалі —**
**Загадаю крозам, каб заціхлі.**

**Утапіў іх сёньня у крыніцы,**
**каб пасьля і не спаткаць ніколі.**
**Людцы добрыя, ня лайце, ня дзівіце —**
**гэта вецер прашумеў над полем.**

**Гэта песьні ды не дасьпяванай**
**пошчак рассыпае словы ў лесе.**
**Яно, пэўна, застанудца раны —**
**там, глыбока, каля сэрца дзесьці...**

**Завілі ў каралі, крышаць, кружаць,**
**ці ў жыцьці, ці у якім мажджэры...**
**Больш пахмурна трэба бровы мружыць**
**над усім, што носіць назву зэро.**

3/IV 26.

## *О, БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА*

**О, Беларусь, мая шыпшына,**
**зялёны ліст, чырвоны цьвет!**
**У ветры дзікім не загінеш,**
**чарнобылем не зарасьцеш.**

**кі. Ён быў удзячны Хрушчову за выкрыццё “культу асобы” і рэабілітацыю нявінных пакутнікаў сталінскіх засценкаў, але ніколі не быў упэўнены, што ўсё гэта надоўга, што і яго не “замятуць” яшчэ раз. Таму і асцярожнічаў. На словах, сказаных публічна, прылюдна.**

**У сваіх творах ён яшчэ зрэдку адважваўся закранаць вострыя тэмы. Гэта зроблена і ў вершах “Даносчыку “са стажам” (1959) і “Падобны з твару да машчэй” (1975), і ў драматызаваным апавяданні пра сустрэчы Т. Шаўчэнкі з беларусамі “Sàlus pòpuli” (1963), і ў няскончанай паэме “Свінцовы век” (1964). Але пры жыцці паэта гэтыя творы не змаглі прабіцца ў друк (верш “Падобны з твару да машчэй” і ўвогуле не прызначаўся да друку, прынамсі, не быў разлічаны на прыжыццёвую публікацыю). Самому паэту ўдалося надрукаваць толькі невялікі, самы бяскрыўдны з пункту гледжання савецкай цэнзуры ўрывак са “Свінцовага веку”. А найбольш вострыя строфы з гэтай паэмы, калі не памыляюся, і да гэтага часу не пабачылі свету. А ў іх жа ёсць вельмі важкае абагульненне:**

*Ніяк не знойдзе шчасця чалавек,*
*хоць да канца ідзе дваццаты век.*
*Не баючыся смертнага граха,*
*пачаўся ён ад кулі і штыха.*
*Крываваю ахоплены сяўбой,*
*адну вайну вядзе ён за другой.*
*Што б ні стварылі людзі на зямлі,*
*злачынцы фюрэры ў агонь мялі.*
*Мільёны сэрцаў юных і старых*
*прабіў свінец або халодны штых.*
*Каго ж яны мінулі, дапамог*
*скарыць жыццё канцлагер ці астрог.*
*Жуда ідзе з пачатку у канец.*
*Праз цэлы век –*





**Пялёсткамі тваімі стану,**
**на дзіды сэрца накалю.**
**Тваіх вачэй — пад колер сталі, —**
**праменьне яснае люблю.**

**Ніколі пройме з дзікім ветрам**
**не разьвіваць дзявочых кос.**
**Імкнешся да Комуны Сьвету,**
**каб радасьць красавала скрозь.**

**Варожасьць шляху не зачыніць:**
**у перашкодах дух расьце.**
**О, Беларусь, мая шыпшына,**
**зялёны ліст, чырвоны цьвет!**

3/V–25.

## *ЦАЛЯ ЗА ЦАЛЯЙ*

***Г.Г.***

**Цаля за цаляй і хвіля за хвіляй**
**мы адыходзім, імкнёмся наперад.**
**Хто-б ён ня быў, — а галоў нам ня схіліць.**
**Вось ужо ў гэта — дык моцна я веру!**

**Любы мой браце! — Ня мы — дык другія,**
**справа жывая ня можа памерці.**
**Можам і не расьцьвёўшы загінуць,**
**але не здрадзім ні думцы ні сэрцу.**

4/IX–25.

*№ 2; “Браніслава” (паэма)// Узвышша № 4; “Нататкі для сяброў” // Узвышша № 5; “Крыху восені і жменька кляновых лістоў” (вершы з заўвагамі), “Мы”, “Трырэма”, “Муляр” (пераклады з паэзіі В. Брусава)// Узвышша № 7*

***1930 г.** – прадчуваючы згубныя наступствы партыйна-пралетарскага ціску на беларускую культуру, 3-га студзеня піша А. Бабарэку: “Будзе яшчэ горш. Устаноўка такая: дабіць групу Полымя і наколькі магчыма зьнясільнічаць нашу групу. Бадай што і дасягнулі... Загінем усе...”*

***3-га лютага** ў газетах БССР друкуецца рэзалюцыя аб выкрыцці палітычных памылак згуртавання “Узвышша”. Да ліку “памылак” аўтара “Налі” партыйцы перш за ўсё аднеслі ягоны тэзіс аб прыняцці кіраўнічай ролі камуністаў толькі “ў магчымым для сябе кірунку й формах” Далей як ідэалагічна невыразная, непралетарская была расцэнена паэма “І пурпуровых ветразей узвівы” Гэтак жа забойча трактаваліся вершаваныя цыклы “Пярэсты букет” і “Крыху восені і жменька кляновых лістоў”*

***У лютым** пачаліся арышты дзеячаў беларускай інтэлігенцыі. У чэрвені, ліпені арышты набываюць характар эпідэміі.*

***19 ліпеня** ў Маскве Ягода падпісаў пастанову[7]: “За напі-*

[7] Больш дэталёва аб згаданай пастанове чытайце ў гэтым нумары публікацыю З. Давідоўскага “За верш – тэрмінова арыштаваць. ”

*свінец,*
*свінец,*
*свінец.*

**Здаецца, усё яшчэ не надрукаваны і верш “Даносчыку “са стажам”.**

**Мне Уладзімір Мікалаевіч казаў, што адчуў сябе па-сапраўднаму рэабілітаваным толькі пасля таго, як атрымаў у 1962 годзе за “Палескую рапсодыю” Літаратурную прэмію імя Янкі Купалы. Але на самой справе Дубоўка да канца сваіх зямных дзён не адчуваў сябе надзейна абароненым ад нечаканага капрызу ўладаў. Не рашыўся ён і на пераезд з Масквы ў Беларусь (яго сюды запрашалі), бо не быў упэўнены, што заўсёды знойдзе паразуменне з кіраўніцтвам рэспублікі. З-за гэтай няўпэўненасці не пажадаў і свой апошні прыстанак мець на беларускай зямлі. Спалены ў маскоўскім крэматорыі, ён увогуле не займеў нармальнай магілы...**

**Ды што казаць пра поўны давер да начальства ці пра сур'ёзнае спадзяванне на безумоўнае апраўданне за нязробленыя злачынствы, калі пра сам факт зняволення і высылкі Дубоўка не мог напісаць адкрыта, а мусіў абыходзіцца няўцямнымі намёкамі і сцвярджаць, што амаль трыццаць гадоў быў у нейкай незразумелай вандроўцы па чувашскай глухамані ды сібірскіх і далёкаўсходніх абшарах: “Я на немалы час пераключыўся на розныя іншыя работы, у тым ліку і на будаўнічыя”. Гэта з жыццяпісу “Сярод людзей добрых”. “Давялося выехаць з Беларусі” (артыкул “Імя яго не забыта”). “Я выязджаў з Масквы на Далёкі Усход і ў Сібір” (“Пра**

*сание и распространение антисоветского и антибольшевистского стихотворения, подписанного псевдонимом Янка Крывичанин, “За все страны, за все народы...” постановляю: срочно арестовать гр. В.Н Дубовко, проживающего по ул. М. Грузинская..”*

***20 ліпеня** паэта “забіраюць” на працы ў Крамлі і этапіруюць у Менск. Неўзабаве ў Менск прыязджае і Марыя Пятроўна. З цяжкасцю ёй удаецца перадаць за краты адзенне, яду і кнігу Байрана.*

*Сябры “Узвышша”, якія пакуль засталіся на волі, мяркую, хутчэй за ўсё пад прымусам, распачынаюць “выкрывальную” кампанію супраць кінутых у турэмнае пекла Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Бабарэкі, Жылкі, Купцэвіча, Ант. Адамовіча ды інш. Максім Лужанін публікуе верш “Дзень гневу” (9 – 10 нумар “Узвышша”). І ў тым жа нумары друкуецца рэзалюцыя агульнага сходу згуртавання ад 30 лістапада пад доўгай і недвухсэнсоўнай назваю “Патрабуем жорсткай кары агентам міжнароднай буржуазіі ў Савецкай Беларусі – беларускім кантррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратам” Пад рэзалюцыяй (даводзіцца шкадаваць!) подпісы М Лужанін, Т. Кляшторны, С. Дарожны, К. Чорны, К. Крапіва, А. Мрый, З. Бядуля, П Глебка, Л. Калюга.*

*Згаданая рэзалюцыя мела й “эпічнае” падмацаванне. Усё ў тым жа 9 10 нумары “Узвышша” Кандрат Крапіва паспявае надрукаваць працяг сваёй ганебнай паэмы “Хвядос чырвоны*

## *ЛЯТУЦЕНЬНЕМ ПРАХАДЖУ НАД КРАЕМ*

**Лятуценьнем прахаджу над краем**  
**і загіну быццам лятуценьне.**  
**Я сумленьня не прадаў у краме,**  
**У той бок і вочы не глядзелі.**

**Свайго сэрца здрадай не запляміў,**  
**услаўляў каханьне, працу, дружбу.**  
**Мае песьні водарацъ, як язьмін,**  
**мае песьні — як пялёсткі ружы.**

**Разам з моцнымі у думцы сьмелай**  
**маё сэрца песьнямі гаворыць.**  
**Калі сьвет пад засьцілаю белай —**  
**мы па ім рассыпім жменяй зоры.**

**У змаганьні многа нас загіне,**  
**у змаганьні за Комуну Сьвету.**  
**Загалосіць вецер пры даліне,**  
**месяц будзе паглядаць, як сьведка...**

**А пакуль у жылах кроў іграе —**  
**нам каханьне не варожасьць сьцеле.**  
**Лятуценьнем прахаджу над краем**  
**і загіну быццам лятуценьне...**

10/I 26.

**адзін дом”). “Вярнуўшыся пасля свайго шматгадовага падарожжа ў Маскву...” (“Да новых даляглядаў”).**

**Настойліва выкасоўваліся ўсе ўпамінанні пра зняволенне ў кнізе пераважна аўтабіяграфічных абразкоў “Пялёсткі”, хоць большасць з іх прысвечана перажытаму менавіта тады.**

**Па вымогах цэнзуры наводзіўся пэўны лакіровачны глянец і на творы 20-х гадоў пры новым перадруку. Яны асаблiва пацярпелі ў аднатомніку, выдадзеным у 1959 годзе.**

**У вершах пасляваеннай пары паэт для дэманстрацыі сваёй “прававерна сці” час ад часу знарок даваў рыфмаваную рыторыку ў казённым духу. Так паяўляліся адпісачныя радкі накшталт: “У нас ідзе за словам справа. // Камуністычнай працы — слава!”**

**Згадваючы гэта, я зусім не збіраюся перакрэсліваць працу Дубоўкі на заключным этапе ягонага жыцця. Яна была і тады вельмі актыўнай і, вядома ж, плённай. Пра тое сведчаць не толькі “Палеская рапсодыя” ці цудоўна напісаныя “Пялёсткі”, але і вельмі своеасаблівыя аповесці для дзяцей “Жоўтая акацыя” і “Ганна Алелька”, і шматлікія кнігі апрацаваных паэтам казак, і яго выдатныя пераклады з Байрана, Шэкспіра і многіх іншых пісьменнікаў свету.**

**Аднак жа Дубоўкава творчасць пасляваенных гадоў, пры ўсёй яе важкасці і ў нечым унікальнасці, ужо не была вызначальнай у літаратурным працэсе гэтай пары. А галоўнае, што паэт, які меў усе шанцы стаць у нацыянальнай літаратуры вялікім класікам, быў гвалтоўна пазбаўлены магчы-**





# МАЁ РАДАСЛОЎЕ*

*(Ліст да Юльяна Пшыркова — з Масквы, ад 11 сакавіка 1963 г.)*

ДАРАЖЭНЬКІ ЮЛЬЯН СЯРГЕЕВІЧ!

Мы з Марыляй Пятроўнай вельмі ўдзячны Нонне Іванаўне[1] і Вам за добрую памяць, пажаданні, а яна і за павіншаванне. Хоць з некаторым спазненнем віншуем дарагую Нонну Іванаўну са святам, жадаем усяго самага радаснага і светлага.

Не хацеў бы згадваць пра благое, але мушу адзначыць, што мы адчуваем сябе апошнім часам кепска. здароўе М.П. не лепшае, а маё горшае. Усё ж спадзяемся пазмагацца з гэтымі старэчымі хваробамі Хочацца зрабіць тое-сёе ў літаратуры, чаго за мяне[2] ніхто зрабіць не здолее пры самым лепшым жаданні

Перахаджу адразу да адказаў на Вашы пытанні

Пра дату нараджэння. Дату нараджэння я даю па старым стылі, бо так яна запісана ва ўсіх дакументах

Мае продкі. Майго прадзеда (па бацькавай лініі) звалі Якубам Жыў ён 103 гады Прадзед не быў прыгонным, але не быў шляхціцам Калі быў передзел зямлі ў 1863 г (адпаведна ў Расіі быў у 1861 г ) прадзедаву сям‘ю

* Загаловак рэдакцыйны.  
[1] Жонка Ю. Пшыркова *(рэд.)*  
[2] Падкрэслена тут і далей аўтарам ліста *(рэд.)*.

*нос”, у якой знаходзім такія радкі.*

...Экскурсантам тут ня люба,  
Падышлі яны да клюбу  
На сьцяне вісіць афіша,  
На афішы чорным піша:  
“Неўзабаве ў клюбе гэтым  
Сёньня выступяць “поэты”  
Увайшлі і селі ў крэслы.  
Хваляваньне Федзю[8] трэсла:  
Праз шчасьлівае здарэньне  
Ён знаёмых тут сустрэне.  
Не счакаецца – калі-ж?  
Ад чаканьня сэрца ные.  
Праз хвіліну з-за куліс  
Выплываюць “расьпісныя”  
На нацдэмаўскім карыце,  
Каб не ўбачыў ратазей  
Дасканалае прыкрыцьце  
З “пурпуровых ветразей”[9]  
Ды заўважыць можа дбайны –  
Кулаком вязуць “Комбайны”[10]  
Узьняліся на “вышыні”,  
Паднатхніліся, “ўявілі”  
І дуэт удвох[11] завылі:  
“О Беларусь мая шыпшына!  
Цябе чакае лёс паганы,

[8] Федзя – Хвядос, галоўны персанаж паэмы. Ён, паводле Крапівы, п‘яніца, якіх свет не бачыў·

*Я-ж кажу – мастак быў выпіць:*  
*Праз яго ня то што Прыпяць –*  
*Можа, цэлае Днястро*  
*Пралілося праз нутро.*

Мэта Крапівы зразумелая, калі ён даводзіць чытачу, што, трапіўшы на выступленне паэтаў-”нацдэмаў”, Хвядос невераемна радуецца, ажно ад шчасця ные, што “знаёмых тут сустрэне” – г.зн. такіх жа, які сам, п`яніц.

[9] Здзеклівы намёк на паэму “І пурпуровых ветразей узвівы”

[10] Жанравае вызначэнне паэмы “Штурмуйце будучыні аванпосты”

[11] Ул. Дубоўка Язэп Пушча.

**масці больш-менш поўна рэалізаваць свой магутны творчы патэнцыял. Гэтыя магчымасці ў вялікага жыццялюба і пакутніка адабрала таталітарная дзяржава.**

**Ён гэта добра ўсведамляў і аднойчы ўхітрыўся сказаць пра тое ў падцэнзурным друку. Маю на ўвазе артыкул “Да новых даляглядаў”, у якім праскочылі скрушліва-тужлівыя радкі: “Калісьці ж і я быў паэтам”, ды вось “пакрышаны талент і рытмы...”**

**Вядома, ён заставаўся паэтам заўсёды. Ва ўспамінах Дубоўкавай жонкі мяне, можа, больш за ўсё ўразіла згадка, што паэт, калі ён не мог працаваць у літаратуры, гэта значыць займаецца тым, да чаго быў прызначаны лёсам, пісаў сваёй сяброўцы вершаваныя запіскі пра кухонныя справы. І паэзія ў гэтых запісках часам праглядвае!**

**Дык хіба гэта не самая вялікая трагедыя — так, на такія дробязі марнаваць магутны талент? А Дубоўка ж за ўсе гады афіцыйнай грамадзянскай бясправўнасці амаль нічога сур‘ёзнага не напісаў. Вядомыя толькі тры сапраўдныя вершы паэта за той перыяд, апублікаваныя ў нас Б. Сачанкам.**

**Для нармальнага чалавечага ўспрыняцця не інакш як трагедыяй выглядае таксама, што супраць Уладзіміра Мікалаевіча публічна выступаў яго брат Язэп. Ён друкаваўся пад псеўданімам Язэп Вазёрны, пісаў вершы, вытрыманыя ў строгай адпаведнасці з “сацыяльным заказам” (іх Ул. Дубоўка называў “дырэктыўнымі”), але ўрэшце быў закатаваны тымі, хто нацкоўваў яго на роднага брата.**

Тває аплёваны мэсіі..
Вартуй, мой дружа, родны ганак,
Я ліст пішу табе з Расіі"[12] ..
Трэці[13] славіць на каленях
Поэтыцкія іх душы,
З дапамогаю "ўяўленьня"
Пасьвячае ў "мамамушы"[14].
Ускладае на галовы
Трохмэтровы сук лаўровы...

***1931 г.*** *– у менскай турме пераклаў паэму Байрана "Шыльёнскі вязень",*

*10 красавіка асуджаны на пяць гадоў высылкі ў Яранск (былая Вяцкая губерня). У перасыльнай турме (маскоўскія Бутыркі) апынуўся ў адной камеры з А. Бабарэкам, які прадбачліва перапісаў для сябе пераклад "Шыльёнскага вязня" Дзякуючы гэтай сябравай руплівасці, пераклад захаваўся,*

*Прыкладна ў гэтыя ж тыдні ў 2-м і 3-м нумарах "Узвышша" друкуецца злавесны артыкул Пятра Глебкі "Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай" (Пра літаратуразнаўчую працу Бабарэкі), у якім чытаем. " Бабарэка пра Дубоўкаву форму гаворыць так: "Сакавітая, а часамі і ацяжная сэнсам, мэтафорычнасьць. складае адну з стылістычных адзнак творчасці Ул. Дубоўкі". І далей: "Гэта гучаньне рознастайных куткоў "беларускай душы", вызваленай Кастрычнікам. ."*

*У гэтым выказваньні словы "вызваленай Кастрычнікам" няхай чытач не бярэ на ўвагу, бо гэта адна толькі шырма для таго, каб ня вельмі кідалася ў вочы, што "беларуская душа" вельмі-ж ужо падобна на буржуазную нацыянал дэмократычную "душу" Сэнс-жа паданай вышэй бабарэкаўскай вытрымкі толькі сьцьвярджае наша палажэньне, што складанасьць формы Дубоўкавай творчасьці ёсьць прыём, спосаб замаскаваньня нацыянал-дэмократычнага зьместу. Бабарэка гаворыць, што "гэта гучаньне рознастайных куткоў "беларускай душы" Але-ж мы ведаем, што слова "беларускі" ў вуснах нацыянал-дэмократаў роўназначна слову буржуазны. Адгэтуль мы можам сказаць, што Дубоўкава форма – гэта рознастайныя куткі буржуазнай нацыянал-дэмократычнай "душы", у якіх, калі паглядзець, можна знайсьці схованага Кайзэра, Пілсудзкага, Балаховіча і інш. ...";*

*Працуе ў Яранскім райспажыўсаюзе на пасадзе сакратара. У Яранск прыязджае з маленькім Альгердам і Марыя Пятроўна.*

*У канцы года спыніла сваё існаванне літаратурна-мастацкае згуртаванне "Узвышша"*

[12] Змяшанне славутых радкоў Ул. Дубоўкі і Язэпа Пушчы (з нізкі "Лісты да сабакі") са сваім паклёпніцкім тлумачэннем.

[13] Адам Бабарэка (?)

[14] У камедыі Мальера "Мешчанін у дваранстве" галоўнага героя Журдэна пасвячалі ў міфічны сан турэцкага вяльможы "мамамушы", высмейваючы імкненне наіўнага мешчаніна стаць арыстакратам. Крапіва нават і такім прыёмам спрабаваў зняважыць сваіх нядаўніх сяброў па супольнай працы.

сагналі з ягонае ўласнае – недзе каля Шчокатава ў той жа воласці – і нарэзалі замест гэнае адну валоку зямлі ў вёсцы Агародніках.

Прадзед, паводле расказаў родных і суседзяў, быў асілак і ў той жа час чалавек вельмі рахманы. Ніколі нікога не пакрыўдзіў карыстаючыся сваёй фізычнай сілай. Пра яго сілу хадзілі бадай што легенды. Расказваюць, што аднойчы з суседзьмі ён ехаў з кірмашу, з Мядзела. На паўдарозе была карчма. Зайшліся пагрэцца. Прадзед як сеў за стол, адваліўся плячыма да сцяны, дык прасценак вываліўся зусім на панадворак. Карчмар узняў хай і запатрабаваў сплаціць выдаткі на рамонт. Прадзед катэгарычна адмовіўся ад гэтага. "У цябе тут уся карчма заваліцца, а я буду плаціць? Трэба лепш будаваць! А калі хочаш – прыедзь да мяне ў хату і паспрабуй таксама сваімі плячыма ў маёй хаце прасценак выбіць, тады і квіты будзем" .

Аднойчы на балоце загразла ягоная кабыла. Людзі, якія былі блізка, нацягалі жэрдак і хворасту. Тым часам прыбег прадзед, якому павядомілі пра гэтае здарэнне. Ён толькі сказаў· "Чакайце, чакайце, дзеткі!" Падлез пад перад, узяў пярэднія ногі сабе на плечы і вывалак кабылу з гразі на сухадолле.

Ведаў назвы ўсіх зёлак і зорак па-беларуску. Як пачне, бывала, называць іх: (зоркі) "Коўш, Сітцо, Алень" .. дык аж дзіву даешся. Шкода, што тады розуму не хапіла запісаць усё гэта.. Назіранні за з`явамі прыроды дапамагалі яму арыентавацца ва ўсіх сваіх справах: вызначэнне часу, вызначэнне тэрміну сельска-гаспадарчых работ. Вось, напрыклад, адна заўвага: "Трэба сеяць (вось тое і тое), бо на дубе ліст стаў, як заечае вуха"..

Сваю сядзібу ён спланаваў так, што дом ды і ўсе надворныя будынкі былі аддзелены ад вуліцы садам, за домам быў таксама сад. Свіран быў трыма сценамі ў садзе. Наша вёска тройчы гарэла. Ува ўсіх будынкі згаралі, а прадзедавы заставаліся цэлымі. Калі пажар здарыўся ў трэці раз, да яго прыбеглі суседзі. "У цябе цудадзейны абраз, таму цябе не кранае пажар!"

Ён ім пачаў тлумачыць, што гэта не абраз, а дрэвы ратуюць ад агню, але ў такія жудасныя моманты словы дапамагаюць мала. Суседзі сілаю забралі абраз, панеслі яго навокал вёскі, але гэта нічога недапамагло і ўся вёска згарэла. Нават некаторыя дрэвы ў прадзедавай сядзібе абгарэлі і пасля прышлося перасаджваць іх.

Пасля гэтага пажару, паслухаўшы прадзедавых тлумачэнняў, наша вёска пабудавалася больш разумна, каля кожнага дому насадзілі сады Толькі каля двух не было садоў (з агульнага ліку сорак). На маёй памяці – пажараў у нашай вёсцы не было, калі не лічыць паасобных будынкаў у 1915 г., спаленых пры артылерыйскіх абстрэлах.

Памёр мой прадзед пры даволі цяжкіх акалічнасцях, на 103-м годзе свайго жыцця. У гэтым годзе ён аслеп. Гэта так уразіла яго, што ён пачаў скардзіцца: "Я марна хлеб ем, я не працую, я не магу нічым дапамагчы сям`і"

Дзед мой Хведар угаворваў яго:

– Татачка, родны! Пра што ты гаворыш? Я ў цябе адзін, жывем мы ў дастатку. Чаго ж табе не хапае? Мала ты напрацаваўся за сваё жыццё?! Адпачывай! Калі хочаш – выйдзі калі з хаты, кіем па плоце пастукай, каб куры з гароду паўцякалі Хопіць з цябе той работы!

Але прадзед ніяк не мог згадзіцца з такой нядоляй Ён лёг на ложак, не стаў ні есці, ні піць і праз трое сутак памёр. Хоць цяжка згадваць пра гэта, але трэба сказаць, што памёр ён фактычна не сваёй смерцю. .

Дзед Хведар памёр на 64-м годзе. Справа ў тым, што яму аднойчы кабыла азадкам дала пад самае сэрца. Пасля таго ён жыў чатыры гады, але з кожным годам слабеў

Між іншым, дзед, будучы ў агуле малапісьменным, ведаў дасканала... латынскую мову, чытаў у арыгінале Авідыя, Гарацыя. "Як так, – запытаецеся Вы? –

А вось як. Быў адзін памешчык, вялікі пан. Ён прайграў у карты і прапіў палову сваіх маестатаў Згодна

**А здрада некаторых сяброў, якія, самі ратуючыся ад пагрозы зняволення, у час разгрому "Узвышша" прыпісвалі Дубоўку такія грахі, да якіх наўрад ці маглі дадумацца самыя вынаходлівыя следчыя? Той жа П. Глебка, які раней спяваў Дубоўку дыфірамбы і быў залежны ад яго як паэт, надрукаваў велізарны артыкул "Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай" ("Узвышша", 1931, № 2, 3), дзе заявіў, што ў творчасці паэта "можна знайсці [мусіць, вельмі ўжо захацеўшы!] схованага Кайзера, Пілсудскага, Балаховіча і інш." Жахлівае па тых часах палітычнае абвінавачванне. І гэта пісалася і друкавалася тады, калі Дубоўка за кратамі менскай турмы чакаў афіцыйнага прысуду!**

**А К. Крапіва не толькі вінаваціў Дубоўку, хоць і не так рэзка, як Глебка, за ідэалагічныя пралікі (артыкул "Узвышша" на новым шляху", апублікаваны ў аднайменным часопісе, 1931, № 1), але і ў карыкатурным выглядзе падаваў яго разам з іншымі ўжо арыштаванымі ўзвышаўцамі ў сваёй паэме "Хвядос – Чырвоны нос", якая, дарэчы, першапачаткова задумвалася як сатыра на ворагаў "Узвышша".**

**Як было пасля ўсяго гэтага не зняверыцца ў "сябрах па літаратуры"? І Дубоўка, здаецца, зняверыўся назаўсёды. Відаць, толькі гэтым можна растлумачыць, што ў вершы "Падобны з твару да машчэй" з`явіліся і наступныя радкі: "Да славы рупны чалавек, // Гадуеш крытыкаў прысенак, // Кубло Пшырковых і Казек, // Рой Скрыганоў і Барысенак" ("ЛіМ", 1994, 28 студзеня, публікацыя Б. Сачанкі).**

**Тут здзіўляе не сам выпад супраць крытыкаў увогуле, а тое, што ў пералік трапілі, скажам, Казека і Пшыркоў. У лістах жа да іх паэт выказваўся не толькі прыхільна, але і з удзячнасцю. Яны і сапраўды нямала зрабілі для вяртання твораў паэта да чытачоў. І раптам такі выпад. Выходзіць, Дубоўка ўжо не верыў да канца і ім? Гэта таксама трагедыйны паварот, калі ўлічыць, з якою добразычлівасцю ставіўся паэт і пасля зняволення да людзей звычайных, тых, што не мелі дачынення да літаратурных спраў.**

**Вядома, глыбокай трагічнай адмеціной назаўсёды засталася ў Дубоўкавай душы страта адзінага сына, які стаў ахвярай няшчаснага выпадку, калі паэт быў гвалтоўна адарваны ад сям'і.**

**Трагічнае і загадкавае ў лёсе Дубоўкі бачыцца і ў тым, што ён адолеў шматгадовыя жахі гулагаўскага пекла, двойчы (у 1945 і 1946 гадах) спраўляўся з сур'ёзнымі фізічнымі траўмамі, перанёс таксама два інфаркты, а загінуў праз тое, што зламаў шыйку бядра, паслізнуўшыся на сакавіцкай маскоўскай вуліцы.**

**Ён збіраўся дажыць да двухтысячнага года. І мог бы дажыць, каб не той сакавіцкі лёд, бо прырода надзяліла яго не толькі рэдкім літаратурным талентам, але і магутным здароўем.**

**P.S. Пры падрыхтоўцы артыкула аўтар карыстаўся матэрыяламі з архіва У. Дубоўкі, якія знаходзяцца ў ЦНБ АН Беларусі, аддз. рук., ф 14.**

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

*1932 г. – жыццё ў Яранску, "сталы" пачатак тых бясконца-пакутлівых гадоў, калі, паводле пазнейшага прызнання самога Ул. Дубоўкі, ён " як пісьменнік, нічога не рабіў".*

*1933 г. – прымусовы пераезд у вёску Шэшурга. Да мноства бытавых клопатаў дадаўся яшчэ адзін – праз кожныя два тыдні "адзначацца" ў міліцэйскім участку, які знаходзіўся ад вёскі за сем кіламетраў;*

*Марыя Пятроўна выкладае ў мясцовай школцы матэматыку;*

*у лістападзе паэту загадана перабрацца ў Чабаксары, дзе ён уладкоўваецца ў Чувашсаюзе тэхнічным сакратаром у юрыдычным аддзеле. Праз колькі часу з сынам выпраўляецца ў Чабаксары і Марыя Пятроўна.*

*1935 г. 13 лютага на паседжанні бюро ЦК КП(б)Б, на якім вёўся допыт першага рэдактара "ЛіМа" Хацкеля Дунца, кіраўнікі БССР мімаходзь, але дастаткова сімвалічна, згадалі імя Ул. Дубоўкі. Цытую стэнаграму паседжання на мове арыгінала[15]:*

*т. Гикало[16]: "Вот, смотрите, троцкизм – есть, буржуазный шовинизм – есть, а вот Вы (Х. Дунец. – Л.Д -М ) называете это лучшим произведением искусства"*

*т. Голодед (пред. СНК БССР): "точно так же было у Дубовки: там тоже было два героя[17]"*

*т. Гикало: "И, как будто, Дубовка с ними не соглашался[18]. Что скажете?"*

*– Что я скажу? Я еще раз повторю, что я говорил. Я прошу, чтобы ЦК меня испытал еще. "[19]*

*У 3-м нумары "Калосьсяў" перадрукаваны вершы з кніг "Трысцё" і "Credo" – "Пачынаецца з-пад хмар вандроўных", "Паляжам мы", "Можаце лаяцца", "Не можа абысціся без лірыкі" Віленскія публікатары выбралі тыя вершы, у якіх выразна чуюцца ноты пратэсту і навіда-*

жончынай просьбы, была склікана апякунская рада, якая рассудзіла так. "Адну палову, сваю ты прапіў і прагуляў, а другая належыць жонцы і дзецям" Карацей кажучы, яго пазбавілі права прапіць другую палову Вось ён і пайшоў, не зразумееш кім жабрак не жабрак. Ягоныя сабутыльнікі, якія ў ягоным палацы балявалі і дні і ночы, нават на ганак яго не пушчалі

Аднойчы, перад нядзеляй, чакаючы лазні, прадзед сядзеў перад домам, на лаўцы, а гэты былы багач ішоў праз нашу вёску Пабачыўшы яго, пазнаўшы прадзед запрасіў яго адпачыць Той сеў Пагаманілі Прадзед запрасіў пахаджаніна памыцца ў лазні Памыліся Далі яму чыстую бялізну Запрасілі да стала. Павячэралі

Калі госць стаў збірацца ў дарогу, яму запрапанавалі

Куды ты на ноч гледзячы? Начуй!

Пераначаваў А тут нядзеля Бліны Святочны настрой. У панядзелак ізноў· "Куды ты пойдзеш? Хіба табе не абрыдла па свету цягацца?!"

Жыве дзень, тыдзень, два тыдні Вось аднойчы гэты былы багаты пан узяў ды заплакаў.

Мае сябры паны, якія ля мяне жывіліся няма ведама як, усе павыракаліся мяне, нават сабак на мяне цкавалі некаторыя, калі я да іх тыркнууўся А ты, мужык, якога я ў ліку іншых за людзеї не лічыў калісьці, аказваешся сапраўдным чалавекам Я раскідваў золата прыгоршчамі направа і налева на ўсю тую зграю А цяпер мяне слёзы душаць, калі я падумаю, што я менавіта ў цябе ем запрацаваны табою хлеб.. Тым больш, што я нічога не ўмею рабіць у вашай рабоце, каб аддзякаваць сваёй працай за вашу ласку

Эх, кажа яму ў адказ прадзед, – пра што ты гаворыш! Ты бачыш нашу сям'ю я, жонка, сын Усяго ў нас хапае. А ці многа чалавеку трэба? Трэба каб была на душы лагода. Жыві Ніхто з цябе не вымагае ніякае работы Паглядзіш хаты, вароты адчыніш вось і ўсё. У дужках зазначу, што сам прадзед, калі аслеп, не захацеў жыць без работы, не захацеў есці самім сабой запрацаваны хлеб... Мабыць таму, што тая слепата пазбавіла яго, адабрала ад яго душэўную лагоду, пра якую я згадваў вышэй ..

Госць прадзедаў адказаў так:

– Не! Я так не магу! Я павінен нечым аддзякаваць цябе! Ведаю я добра латынскую мову Давай навучу твайго сына Хведара латыні

Вось так мой дзед і стаў латыністам!

Паколькі ў тым часе латынь страціла сваё ранейшае значэнне (а на беларускай тэрыторыі яна мела надзвычайна вялікае значэнне, бо вельмі багата дакументаў напісана на гэтай мове), ён карыстаўся сваім багаццем толькі ў адным кірунку. у вольны ад работы час чытаў сваім суседзям і тлумачыў на беларускую мову ўрыўкі з Авідзія, Гарацыя і другіх класікаў антычных .

Лёс маёй непасрэднай сям'і. Маці і бацька памерлі ў канцы вайны, без мяне. Бацьку было 82 гады, маці 76 Маці памерла і пахавана ў Маскве раней, бацька у Ленінградзе, пазней. Пахаваў яго брат мой старэйшы, генерал-майор, Вячэслаў

Пра братоў, ды наогул пра сям'ю, не хацелася б пісаць, бо лёс усіх бадай нешчаслівы. Старэйшы самы брат Іван быў механікам сувязі, у Коўне. Калі пачалася вайна, яго мабілізавалі Прайшоў увесь фронт, аж да Румыніі У яго былі вельмі цікавыя дзённікі за ўвесь час першае вайны Але, на вялікі жаль, іх спалілі пасля яго смерці ў г Гур'еве, бо ён памёр ад халеры ў 1918 г , працуючы пасля дэмабілізацыі механікам у паштовай канторы сувязі

Другі брат, Вячэслаў, такжа старэйшы за мяне, генерал-майор, спецыяліст па сувязі (быў не адзін год выкладчыкам у Ваен Інж. Акадэміі Сувязі) на пенсіі, дажывае веку ў Ленінградзе.

Сястра Анастасія, малодшая ад мяне, вучылася ў Літаратурным Інстытуце, крыху не скончыла яго, працавала ў ваенных выдавецтвах, а пасля цалкам пераключылася на хатнія справы Муж яе доктар хірург.

[15] Гл. публікацыю Р Платонава (ЛіМ 28 лютага 1997 г № 9)

[16] Мікалай Гікала (1897 – 1938) – у 1935 годзе першы сакратар ЦК КП(б)Б.

[17] Маецца на ўвазе апальная паэма "І пурпуровых ветразей узвівы" галоўныя дзеючыя асобы якой – спрачальнікі Лірык і Матэматык

[18] Заўвага М. Гікалы адпавядае наступным радкам паэмы

Л і р ы к<br>
Давай да аўтара мы пойдзем лепш<br>
і спрэчку нашу вырашым супольна.<br>
М а т э м а т ы к<br>
А пурпуровых ветразей узвівы<br>
ці прынясуць нас да яго ізноў?<br>
Д у б о ў к а<br>
Пайшлі шукаць мяне мае героі<br>
Яны адзін другога вінавацяць,<br>
прычыны нейкія з'явіліся адразу<br>
І кожны з іх сябе праўдзівым лічыць<br>
у гэтай спрэчцы можа, цікавай.<br>
Чакаць?<br>
Мірыць?<br>
Не буду лепш займацца,<br>
А то мае уласныя героі<br>
мяне самога ў нечым звінавацяць.<br>
Няхай ідуць да чытачоў гаворац,<br>
супольна з імі вырашаюць крыўды

[19] Словы Х. Дунца.

# "...НАШТО Ж МНЕ ЛЁС ТАКОЕ ДАЎ БАГАЦЦЕ?"

**Старажытныя грэкі ўяўлялі айкумену ў выглядзе круга, у цэнтры якога быў чалавек.**

**Герой Дантэ прайшоў кругі – пекла, чысцілішча, раю.**

**Кругамі жыцця лічыў пройдзеныя выпрабаванні Якуб Колас. З ягоным Сымонам-музыкам мы развітваемся тады, калі быў "круг замкнут адзін", а далей пачыналіся "новыя кругі – яшчэ далёкі берагі, аб іх раскажа повесць вам ужо не я, а хто другі".**

**Хто гэты другі? Можа, нават і Уладзімір Дубоўка, аўтар паэмы "Кругі". Герой яе, дзеньдзівар Цікаўны, з яго вечным "Чаму вось так, чаму не так?", у сваёй вандроўцы да Сонца, якое "многа ведае бясконца", таксама праходзіць кругі спакусаў, выпрабаванняў, пазнання. Мілавіца, дачка Сонца, дае яму першыя ўрокі: "Усё у меру толькі добра". А затым і само Сонца папярэджвае няўрымслівага шукальніка ісціны: "Згарыш на попел ты ад праўды". Цікаўны "прымае да ведама" (кажучы мовай бюракратаў) гэтыя парады, але сам у жыцці кіруецца не рацыянальнымі разлікамі. "Здзейсняцца ўсе нашы летуценні, Знішчыць чалавек прыгоны ў свеце". Але гэта адбудзецца тады, калі людзі будуць менш клапаціцца "аб шлунку", перастануць трымаць дух "на галоднай норме". Духу патрэбна "акавіта" – жыватворны, цудадзейны напой. У казцы пра калодзеж Цікаўны апавядае пра добра вядомае кожнаму, хто хоць раз у жыцці з рыдлёўкай у руках дабіраўся да крыніцы: перш трэба прайсці некальки пластоў – спачатку будзе "жалезнае дно", дзе сочыцца верхаводка, затым – "срэбранае дно", дзе наплывае і хутка вычэрпваецца выпадковая падземная плынь, і нарэшце – "залатое дно", дзе струменіць "акавіта".**

**Сам Дубоўка ў сваім жыцці прайшоў тры кругі, выразна акрэсленыя перыяды. І штораз ён перад намі зусім іншы, незнаёма знаёмы.**

**20-я гады, пяць гадоў "узвышэнства" – зорная часіна творчага росту, калі этапнымі былі не толькі кнігі, а нярэдка асобныя вершы і паэмы. "А ў Беларусі ёсць адзін Дубоўка"[1], – гэта не толькі паэтычная, але і вельмі дакладная метафара, за якой глыбокае разуменне сапраўднага маштабу таленту Дубоўкі. У гэты час паэт упарта шукае вобразнае вызначэнне Беларусі. Апісваючы ў кнізе "Строма" беларускія краявіды, ён на вачах у чытача шукае найбольш трапную характарыстыку. Адна адмяняе другую, але ўсё роўна застаецца ў памяці, і ў выніку такога ўзаемаакладвання ствараецца дзівоснае стварэнне: "У песнях я на Беларусь малюся, Як моліцца ля возера трысцё, Матулі спеў, шматмілая ста-**

[1] Словы належаць Міхайлу Еўгансэну, украінскаму пісьменніку.

*воку прадбачанне свайго пагібельнага лёсу:*

Паляжам мы і вецер косьці нашы
паточыць, пылам над лясамі разьнясе.
Ужо сьціскае грудзі цяжкі кашаль
і вусны песень не нясуць красе.

Можаце лаяцца да сыці, да сквілу,
можаце клікаць і ночы, і дні.
Вока маё ня міргне палахліва,
хоць і ёсьць, як і быў, адзін.

*У ліпені скончылася пяцігадовае пакаранне, але праз два тыдні паэту было паведамлена, што тэрмін высылкі падоўжаны яшчэ на два гады.*

***1937 г.*** *— у ліпені новы арышт, пры якім быў канфіскаваны і згінуў[20] пераклад "Паломніцтва Чайльд-Гарольда";*

*Марыя Пятроўна з сынам вяртаецца ў Маскву Свякроў раіць скасаваць шлюб, каб пазбегнуць пераследу. Марыя Пятроўна адмаўляецца зрабіць гэта і едзе ў Талдом[21] (сто кіламетраў на поўнач ад Масквы), працуе там рахункаводам,*

*У снежні з прысудам "пазбавіць волі на дзесяць гадоў" паэта этапіруюць на Далёкі Усход.*

***1939 г.*** *знаходзіцца на лагернай будоўлі ў Новым Бірабіджане; віленцы перадрукоўваюць*

[20] Хочацца верыць, што згінуў не канчаткова. Магчыма, гэты пераклад па сённяшні дзень знаходзіцца ў архівах КДБ Чувашыі.

[21] Тут, напачатку вайны, загінуў трынаццацігадовы Альгерд.

Брат Леў сканаў у 1922 г., у росквіце сіл, у дзень здачы апошняга экзамена за сярэднюю школу

Брат Язэп — у свой час, у дваццатыя гады — быў завербаваны маімі ворагамі ў свой стан, заахвочваўся імі да літаратурнае працы, пісаў і друкаваў вершы пад псеўданімам "Язэп Вазёрны". Але я іх не чытаў ніколі і не магу сказаць пра іх ні добрага, ні дрэннага. Чуў толькі, што нібыта адзін з яго "дырэктыўных" вершаў пачынаўся радкамі.

— Я не пішу дэпешы без адрасу...

Справа ў тым, што ў мяне быў адзін верш з такім пачаткам Думкі лятуць, як дэпешы без адрасу. Апрача таго, свой чарговы зборнік вершаў, аддадзены ў выдавецтва перад 1930 г, я назваў быў "ДЭПЕШЫ БЕЗ АДРАСА" Вось, мабыць, натхніцелямі майго брата і было даручана яму напісаць нешта супроць мяне..

У далейшым, калі "маўр зрабіў сваю справу", а менавіта — ў 1937—1938 г (?) яго забралі, і, як паведаміў маю нябожчыцу маці чалавек, быўшы ў адным нумары атэлю з маім братам, пасля аднае вельмі гуманнае гутаркі з ім, быў прынесены ў той нумар і сканаў там. Цікава, што ні адзін гад з тых, якія нацкоўвалі ў свой час Язэпа на мяне, якія супроцьстаўлялі яго мне, як больш таленавітага і ідэёва-накіраванага паэта — не згадваюць пра яго ніколі . Хоць бы ў даведніку згадалі калі! А я, яшчэ раз шчыра прызнаюся, не чытаў ніводнага ягонага радка і не магу сказаць нічога пра яго больш.

Самы малодшы брат Павел працуе рабочым мэталістам, мае дарослых дзяцей, ды і малых мае.

Мая жонка Марыя Пятроўна — ураджоная з с. СТУДЗЯНЕЦ Касцюковіцкага раёну на Магілёўшчыне. Скончыла Клінцоўскую гімназію. Скончыла Акадэмію Камуністычнага Выхавання ім. Крупскай. У свой час добра вывучала марксызм, а пад кіраўніцтвам выдатнага педагога П П Блонскага — і педагогіку

Працавала бадай усё жыццё настаўніцай. Толькі ў перыядзе 1937—1947 г.г , калі была немагчыма такая праца для яе, працавала бухгалтарам у лясніцтве пад Масквой, каля ст Вярбілкі па Савёлаўскай чыгунцы, дзе пахаваны і наш адзіны сын Альгерд, які загінуў у самым пачатку вайны ад выбуху бомбы

Як добры псіхолаг і педагог, жывучы са мною такі доўгі час, мая жонка пэўна нямала дадала да майго інтэлекту станоўчага. Тым больш, што ў цяжкія для мяне часы, яна не пакідала мяне, а прыяжджала туды, куды гэта было дазволена, і працавала там настаўніцаю Я не даваў, зразумела, сваіх кніжак ёй, але адну яна папрасіла даць спецыяльна для яе, бо непакоілася, што ў нас не застанецца ніводнае Вось я зрабіў тады на гэтай кнізе ("Выбраныя творы", 1959 г ) надпіс, які, хоць можа здацца і жартаўлівым, адлюстроўвае сапраўднае становішча.

*Скромны дарунак, мая ты сяброўка!*
*Ты не асудзіш — сама ты Дубоўка!*

*Можаш сказаць у любую хвіліну:*
*— Ёсць і мая тут, бясспрэчна, часціна!*

*Створым, напішам з табою нямала,*
*абы мяне, як раней, ты кахала.*

*Гэта каханне і ёсць дапамога,*
*ехаць з ім можна ў любую дарогу!*

(10 XI 59)

Мая служба ў Чырвонай Арміі нічым асаблівым не вызначалася. Я быў у Сувязі Чырвонай Арміі Гэта значыцца. дзе цягаў катушку з провадам, дзе стаўляў слупы і нацягваў дрот на ізалятары у залежнасці ад таго, на якой адлегласці была першая лінія фронту Часць, у якой я служыў, называлася "Отдельная телеграфно-

*у 3-м нумары "Калосьсяў" паэму "І пурпуровых ветразей узвівы".*

***1947 г.*** *— 27 ліпеня скончыўся тэрмін дзесяцігадовага зняволення. Паэт апынаецца ў Зугдзідзі (Грузія) і працуе рахункаводам у канторы чайнага саўгаса Наразені;*

*у Зугдзідзі прыязджае Марыя Пятроўна і ўладкоўваецца ў суседні з Наразені чайны саўгас Хацэры выкладаць матэматыку ў рускай школе.*

***1949 г.*** *у лютым чарговы арышт;*

*да ліпеня — тбіліская турма, пасля этап у Краснаярскі край,*

*за вагоннымі кратамі згадваюцца радкі з кнігі "Наля"*

Дзесь далёка галосіць сава,
небакрай апрануўся жалем.
Людзі любяць душу прасаваць,
калі гэта душа чужая...

*Працуе сталяром у Почэце Абанскага раёна, а ў вольны ад "дзяржаўнай" работы час будуе хату;*

*Марыя Пятроўна выкладае ў Почэпскай школе нямецкую мову.*

***1955 г.*** *— піша ліст Якубу Коласу і ў сакавіку атрымлівае адказ:*

Дарагі Уладзімір Мікалаевіч!

Копію Вашай заявы на адрас Пракуратуры СССР я атрымаў Разам з гэтым пісьмом да Вас я пасылаю ад сябе як ад дэпутата Вярхоўнага Савета СССР у пракуратуру просьбу, каб паскорылі

**ронка, Купалы край, край чараўніц дзяўчат! Люблю цябе, як татачку старога, Як дзеваньку люблю, як брата брат!" І гэтак ажно да славутага: "О, Беларусь, мая шыпшына..."**

**Справа не ў словах, а ў гучанні слоў, у музыцы роднай мовы. Дубоўка не малюе, а хутчэй спявае, самавыяўляецца праз песню: "На блакіце ды шэрыя плямы, кузлаватаю воўнаю смутак", "у блакіт — кармазынавы пошчак разам з крыўдай на лёс апантаны". Спісаць усё толькі на маладнякоўскую "бурапену" не ўдаецца. "Імклівіць", "крышталіць", "смутак нішчымны", "узрочыстая казка", "ліловыя крозы", "сукрысты напеў" — нездарма паэт называў свае асобныя творы — "мелодыямі", а некаторыя крытыкі — "дзея-беснямі".**

**Чуласць паэта да мелодыі радка, гучання слова, майстэрства інструментоўкі, шматстайнасці рытмаў і рыфмаў асабліва моцная ў ягонай інтымнай лірыцы. Дубоўка супернічае з самой музыкай, дэманструючы меладычныя магчымасці беларускай рапсодыі. Ён распрацоўвае народную лексіку, прыстасоўваючы яе да перадачы самых складаных адчуванняў, смела, а часам і рызыкоўна, збліжае розныя моўныя пласты, звяртаючы надзвычайную ўвагу на адценні слоўнага значэння. У вершы "Пачынаецца з-пад хмар вандроўных" паказваецца сам працэс нараджэння мелодыі, верша, песні, калі, здаецца, пяе ўсё навокал, абуджаючы ў душы жней, незалежна ад іх жадання ці нежадання, музыку без слоў: "Пачалася ад сцежачкі песня, пабыла і на небе высокім, верасы зварухнула на ўзлессі, ўсіх жывых зварухнула навокал".**

**Песні "чыстага мажору" суседнічаюць у паэта з мінорнымі інтанацыямі, якія "сэрца болем пояць". У любоўнай лірыцы і радасць і смутак побач, ствараюць шчымлівую мелодыю. Герой верша "Я шкадую усё ж ткі сябе" такі юны, што робіць вялікае адкрыццё, якое захапляе і таго, хто ўсё на свеце спазнаў: "Ёсць каханне". Па-мойму, гэта лепш, чым сумнавядомае: "Ёсць такая партыя!" Гэта пачуццё юнак успрымае як пажар, які можна патушыць толькі "песняй ці вершам": Песня пра любую, каханую, адзіную, непаўторную нараджаецца сама па сабе ў яго душы: "Бо прыгожай такой, як яна, — яшчэ ў свеце не бачылі, мусіць. Калі ў свеце яна не адна, — дык напэўна адна ў Беларусі". Супярэчлівы відарыс-узор пачуцця закаханасці малюецца ў вершах "Ты руку сваю забінтавала", "Што складаць пра каханне вершы", "Кармазынам асмужаны", "Палыны пасівелі на ўзгорку"... Як працяг багдановічаўскага "Эрасу" — верш "Калі вусны шапталі — не трэба!.." З ім перагукаецца барадулінскае: "Ад "не трэба, не трэба" да "святло патушы"..." Верш выяўна паўтарае рытм палавога акту, але ў малюнку няма і каліва натуралістычнасці і брутальнасці, уласцівай пазнейшаму разуменню кахання ў паэтаў: "І ў той час, што не знае падобных, ў захапленні і месяц на хмарах спыніўся. Векавечныя тайны ў адзін знітаваліся подых: у нязмерных глыбінях нязмерныя высі". Вось гэтае "у нязмерных глыбінях нязмерныя высі", якое паўтараецца рэфрэнам у кожнай страфе, і выяўляе "філасофію" сусвету, якую так дакладна выказаў паэт і якую спавядала маладая нацыя беларусаў, поўная любоўнага агню да ўсіх бліжніх і дальніх у свеце.**

**А потым былі "эксперымен-**

разгляд Вашай заявы. Як паставяцца там да мае просьбы, не ведаю. Толькі ведаю адно, што ўсе людзі, беспадстаўна рэпрэсіраваныя, вернуцца на свае сядзібы ці аселішчы, і з іх будзе знята судзімасць, і яны будуць аднаўлены ў сваіх правах. Усё пытанне зводзіцца к часу· засуджаных і высланых, як Вам вядома, многа.

Забыліся Вы ці памятаеце беларускую мову? Цешу сябе надзеяй пабачыць Вас. Тады і пагутарым. 19/II г.г рабілі мне аперацыю — выразалі апендыцыт Яшчэ і да гэтага часу не магу цвёрда стаць на ногі.

Усяго добрага.

Якуб Колас.

***1956 г.*** *піша ліст у Чаадаева (Уладзімірская вобласць) Язэпу Пушчу. "Братка, Язэп, я быў у Мінску ў Вярхоўным судзе, дзе атрымаў паперку аб рэабілітацыі. Я там бачыў і твае прозвішча. Так што збірайся дахаты. Я прадаю ўсю маёмасць: хату і ўсю сваю гаспадарку і едзем у Маскву. Буду праязджаць праз Мурам, калі здолееш, то спаткай мяне і пагаворым хоць некалькі хвілін. "*

***1957 г.*** *— 15 лістапада канчаткова рэабілітаваны.*

***1958 г.*** *— жыве ў Маскве.*

***1959 г.*** *— наведвае Кіеў,*

*разам з Марыяй Пятроўнай і Васілём Віткам падарожнічае па Палессі;*

*у Дзяржаўным выдавецтве*

строительная рота Реввоенсовета Республики". Параненым не быў, забітым не быў, бяз "звестак" ні разу не прападаў. Цяпер можна было б пісаць так, як пішуць некаторыя заднім чыслом пра свае баявыя подзвігі, па рэцэпту дарэвалюцыйнага "Сатирикона"

*... Иван Иваныч Иванов,*
*Герой в любом и каждом смысле,*
*Взорвал четырнадцать мостов*
*На Рейне, Немане и Висле...*

Я ні воднага маста не ўзарваў, а ў пабудове новых прымаў не аднойчы актыўны ўдзел, рукамі. Але ў гэтым — ніякага геройства, як вядома, няма, затым і я не спыняюся больш на гэтым пытанні.

Бадай што тое самае можна сказаць і пра кабінет паэтыкі. У газеце "Известия" у свой час была надрукавана нататка пра тое, што пры Літ Маст. Ін-це імя В Брусава арганізаваны кабінет паэтыкі Старшынёй кабінета В.Я. Брусаў, навуковым сакратаром я".

Гэта нататка была перадрукавана ў культурнай хроніцы часопісу "Полымя", мабыць, за 1923 год. Што сказаць пра яго, пра той кабінет? У сваёй ідэі кабінет павінен быў стаць асяродкам навукова-даследчае думкі Студэнты зачытвалі свае даклады па пытаннях паэтыкі Пасля адбываліся "спрэчкі", было абмяркаванне. Валеры Якаўлевіч даваў свае заключэнні. Але ўсё гэта было даўно, асабліва цікавых і актуальных праблем вырашыць або грунтоўна высвятліць мы не паспелі Ізноў паўтараю, як і пра баявыя паходы,· напісаць цяпер можна было б шмат. Прыклады сучасных мемуарыстаў перад вачыма. Але я абмяжуюся толькі адным Калі цікавая гутарка нават з выпадковым чалавекам дзе-небудзь у дарозе, каля ракі, або ў аўтобусе прыносіць нам вялікую карысць, дык зусім зразумела, не малая карысць і для мяне і для маіх таварышаў была ад тых нарад, спрэчак, спатканняў А ў чым і як канкрэтна

**тальныя паэмы", дзе лірыка часта саступала месца актуальнай палітычнай рэчаіснасці, а паэт-медыум станавіўся пракокам, дзе іронія перарастала ў сатыру і аўтар не мог стрымацца, каб не зрабіць такі небяспечны выпад у бок свайго крытыка-апанента: "Павесся лепш на тэй вяроўцы сам, Што мне віеш, вяровачных дзел майстра". Грамадзянская смеласць і сёння ўражвае, бо не можа пакінуць абыякавым подзвіг, мужнасць, самаахвярнасць паэта. Але Дубоўкавы філіпікі ў бок прагматыкаў-уладатрымцаў, якія арыентаваліся на людзей кшталту Дон Пуза, аднаго з персанажаў паэмы "Штурмуйце будучыні аванпосты", гучалі ўжо як адчайны крык загнанага ў кут чалавека: "Не было і не будзе ніколі ад паэзіі трактарам нафты", "Усё вытвараць можна на пэўны капыл, за выняткам... песні хмялёвай".**

**У многіх творах Дубоўкі канца 20-х гадоў вее подыхам смерці — паэт прадчувае свой лёс: "Летуценнем праходжу над краем і загіну, нібы летуценне", "У змаганні многа нас загіне..." У 1930 годзе яго прароцтва збылося, і пачаўся новы круг. У гісторыі літаратуры гэта, мабыць, рэдкі выпадак, калі таленавіты паэт зусім свядома адмовіўся ад мастацкай творчасці і за чвэрць стагоддзя не напісаў ані радочка. А як сведчаць блізкія, і па-беларуску стараўся гаманіць як мага радзей. Вядома, можна гэтыя факты падагнаць пад простую схему, растлумачыць іх тым, што Дубоўка перапалохаўся на смерць ці мімікрыраваў у лаяльнасць да нялюдскай сістэмы. Аднак жа ў ягоных вершах 20-х гадоў знаходзіш мноства вызначэнняў, фармулёвак, сентэнцый, якія адназначна даказваюць яго ду-**





ўсё гэта адлюстравалася ў маім арганізме або творчасці я дакладна сказаць не магу

Я быў членам-супрацоўнікам Інстытуту Беларускае Культуры, а ён — эмбрыён Акадэміі Навук. Такім чынам, я мог быць не ў адной камісіі У Камісію І.І Замоціна па падрыхтоўцы да друку збору твораў М Багдановіча я ўвайшоў разам з другім паэтам — Язэпам Пушчам. Што мы рабілі? Усёй справай кіраваў І.І. Замоцін, чалавек вельмі высокай культуры, шырокіх поглядаў, надзвычайна спагадлівы да беларускае культуры і вельмі вялікі знаўца сваёй справы.

Мы толькі дапамагалі. Нічога свайго мы не ўносілі Адзінае што было гэта замілаванне да памяці М А. Багдановіча, з якім замілаваннем мы расшыфроўвалі кожны радочак ягоных, напісаных бісерным почыркам, рукапісаў Пры гэтым прыходзілася не выпускаць з рук павялічальнага шкла.

Іван Іванавіч з захапленнем спаткаў кожны расшыфраваны намі радок. Памятаю, як усе мы былі рады расшыфраванаму катрэну· (даю па памяці)

*Ты яшчэ засвеціш, ясная зараначка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край!*
*Беларусь мая, краіна-браначка,*
*Прабудзіся, ўстань, шляхі шукай! .*[4]

Вы можаце праверыць па арыгіналу, бо я за сорак гадоў мог пераблытаць гэту цытату

Калі я ўдзельнічаў у гэтай працы, жывучы ў Маскве? А тады, калі прыяжджаў для выдання "Беларускага піянера", жыў тады на Нова-Серпухоўскай вуліцы, якое цяпер няма на свеце.

[4] Тэкст арыгінала:
*Ты не згаснеш, ясная зараначка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край.*
*Беларусь мая! Краіна-браначка!*
*Ўстань, свабодны шлях сабе шукай.*

*БССР з прадмовай*[22] *П. Глебкі выпускае аднатомнік "Выбраныя творы" Рэдагаваў гэтае першае паслялагернае выданне сумнавядомы А. Кучар.*

***1960 г.*** *у тым жа выдавецтве выдае зборнік казак "Цудоўная знаходка"*

***1961 г.*** *— для дзяцей дашкольнага ўзросту друкуе асобным выданнем палескую казку "Як сінячок да сонца лётаў",*

*выпускае кнігу вершаў і перакладаў (з паэзіі Ду Фу, Байрана, А. Андрэева) "Палеская рапсодыя". Кніга гэтая адкрываецца "Інтрадукцыяй", пятая страфа якой мяне заўсёды ўражвае:*

Калісьці, у старой Эладзе,
хадзілі вандраваць рапсоды.
Было ў іх творчасці суладдзе
з жыццём і думкамі народа.

*У ленінградскім аддзяленні выдавецтва "Советский писатель" выдае паэтычны зборнік "Золотая ранница" У анатацыі, дарэчы, сказана, што гэта " первая попытка по-настоя-*

[22]Пачынаючы прадмову ці ўспамінаў П. Глебка сваю забойчую ацэнку паэзіі Ул. Дубоўкі, дадзеную ў артыкуле, які ўжо згадваўся тут, "Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай"· "Творчасьць Уладзімера Дубоўкі, ад першага зборніку "Строма" да апошняга так званага "Комбайну" "Штурмуйце будучыні аванпосты", зьяўляе сабою адзіны і просты шлях ад нацыяналістычных момантаў да закончанага контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму"

**хоўную нязломнасць і свядомае самагартаванне: "жыццё ў змаганні", "змаганне вітай істотай", "імкніся наперад — угрунь", "ніколі не гніся ў нядолі", "у перашкодах дух расце". І гэтак ажно да прарочага — "у ветры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш". У мяне няма на руках патрэбных аргументаў, якія неабвержна сведчылі б на карысць менавіта такой версіі, але, мабыць, меў рацыю Алесь Адамовіч, калі зазначыў (пасля наведвання паэта ў яго "хрушчоўцы" ў Чаромушках), што абачлівасць Дубоўкі і яго вонкавы, празмерна прыкметны "патрыятызм" і "адданасць" савецкай уладзе хутчэй за ўсё маска чалавека, які перакладаў шмат Шэкспіра і добра ведаў яго славутае выслоўе: "Увесь свет тэатр, і людзі ў ім акцёры". Недарма яго "эксперыментальныя паэмы" будуюцца па драматургічным прынцыпе: гавораць, спрачаюцца, абвінавачваюць адзін аднаго літаратурныя персанажы, а сам аўтар-дэміург знаходзіцца збоку, і цяжка сказаць пэўна, што ён думае на самой справе. А славутая дубоўкаўская іронія мудрага чалавека, які ведае ўсяму на свеце сапраўдную цану, гэта іронія пранізвае ягоныя самыя лірычныя вершы.**

**"Дактылічныя рытмы", а яшчэ больш пераклады санетаў У. Шэкспіра, якімі звярнуў увагу на сябе Уладзімір Дубоўка на змярканні свайго жыцця, калі яго Муза праходзіла па апошнім крузе выпрабаванняў, наглядна даводзяць, што паэт не толькі не "зламаўся", але нават і не "надламаўся" ў сваім вялікім супрацьстаянні гвалту, дый самому Часу.**

**Можа, таму што добра засвоіў у свой час ісціну: "Усё вяртаецца на кругі свае".**

**Міхась ТЫЧЫНА**

*щему познакомить русского читателя с творчеством замечательного н а р о д н о г о (разрадка мая. – Л.Д.-М.) поэта Владимира Дубовки". Сярод перакладчыкаў кнігі – Ахматава, Ус. Раждзественскі (пераклаў паэму "Браніслава"), Браун. Ахматава пераклала вершы "Пальцы жоўтых кляновых лістоў" (1925 г.) і "Думкі лятуць" (1926 г.). Цікава адзначыць, што ў першым перакладзе дубоўкаўскі імажынізм згубіўся ў ахматаўскім новакласіцызму. Асабліва тое відавочна ў пачатковых строфах:*

Пальцы жоўтых кляновых лістоў
мкнуцца восень схапіць за шыю.
Не парушаць яе хараство,
не парушаць лісты залатыя.

Клён у вокны забразгатаў,
адгукнулася каняю рэха.
Месяц рваў арэхі з куста,
раскідаў над сусветам арэхі...

*Гэтая неўтаймоўная юнацкая вобразнасць, народжаная на старонках "Налі", у "Золотой раннице" загучала па-жаночаму стрымана:*

Клены в пальцах своих золотых
держат осень с ее красотою.
Осень властвует в рощах густых,
ограждаясь листвой золотою.

Клен ровняет листок за листком,
плачет чайкой печальное эхо.
А в орешнике свист и разгром,
на кустах ни листка, ни ореха...

*Што датычыць другога пе-*

Артыкул П.М. Керженцава я пашукаю ў Ленінскай бібліятэцы і прышлю вам або увесь, калі там яго перадрукуюць, або выняткі з яго, з дадаткам бібліяграфічнае даведкі Але гэта — праз некалькі дзён.

Пабраліся мы з Марыляй Пятроўнай у снежні месяцы 1927 г

Пакуль што на гэтым я і скончу, бо і так багата напісаў. Спадзяюся ўсё ж быць у Мінску, тады можа дадам яшчэ якія тлумачэнні асабіста. Кажуць, што нібыта і пленум нашага Саюзу меліся склікаць у сакавіку.

Сардэчнае прывітанне Вам і ўсёй Вашай слаўнай сям'і.
З нязменнаю пашанаю да Вас:

Ул. Дубоўка[5]

## *З лістоў Ул. Дубоўкі да П Глебкі*

### Ліст першы

28/X. (19)27 г Масква.

Братка Пятрусь!

<. .> З усіх іншых зборнікаў "Шыпшына" вылучаецца цэльнасцю і апрацаванасцю. Гэта плюс. Мінусамі можна было б лічыць некаторыя уплывы, у т.л. і мой. Пра іншыя хібы пагаворым у Менску А зараз не магу не падзяліцца з табой сваімі пажаданнямі адносна далейшай тваёй працы Апрача вывучэння тэарэтычнай літаратуры (ня толькі вузка тэхнічнай, але і больш глыбокай, як працы Весялоўскага, Патэбні ды іншых) старайся больш чытаць Гэтае чытанне не абмяжоўвай <. >аднымі вершамі чытай і творы народныя, чытай і добрую прозу ("Сокі цаліны" можаш пакуль што не чытаць) Варта, калі адчуеш ужо ў сабе належную цікавасць, узяцца за чытанне Дастаеўскага і г.д.

<...> Што да апрацоўкі новых твораў, дык вазьмі сабе правіла Брусава (здаецца не запісанае нідзе). У свой час ён радзіў нам пісаць сыстэматычна, г. зн. кожны дзень, у вядомую нават гадзіну, на вядомыя тэмы і рытмы Праўда, ня ўсё з напісанага такім чынам будзе надрукавана. Праўда, ня ўсё будзе задавальняць цябе. Але такія, я б сказаў, практыкаванні зусім непрыкметна разьвіюць у табе пачуццё рытму, памножаць запас гэтых рытмаў і страфічных форм...

Цалую цябе.

Уладзік.

[5] Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі, ф. 14, воп. 1, адз. зах. 483, а.а. 1 – 6., машынакопія.



### Ліст другі

23/I 1929 Масква.

Дубоўка перад люстэркам у ролі прарока
(аматарам для абвінавачання яго ў самазахапленні)

*Гады ідуць. Адказнасці ўсё болей*
*на плечы ложыцца. Гады ідуць.*
*Мне кажуць, што праз гэтае поле*
*я многіх за сабой ужо вяду.*

*Яны ідуць і вераць, моцна вераць*
*і ім лягчэй, маім сябрам лягчэй.*
*Вось я адзін шукаў на моры бераг*
*і ці знайшоў я? Не знайшоў яшчэ..*

*Знайшоў я мора: шырыню і сілу,*
*бяскрайнасць беларускае душы.*
*Яна маю душу перапаліла*
*і загадала мне: ствара, пішы. .*

*ракладу, то ён тоесны арыгіналу Аднак, на маю думку, чацвёртае двухрадкоўе: "Усё адцвітае, таксама і маладасць,// вось і трывога з'яўляецца ў голасе..." у рэдакцыі Ахматавай мае больш паэтычны змест:*

Век вековать у меня – невозможно ей
(молодости. – Л.Д-М.)
вот и становится голос тревожнее.

***1962 г.*** *у Дзяржаўным выдавецтве БССР выдае зборнік вершаваных казак у перакладзе на рускую мову "Миловица" Сярод перакладчыкаў кнігі В. Тарас, Ус. Раждзественскі, М Браун і інш.,*

*за зборнік "Палеская рапсодыя" прысуджана Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы.*

***1963 г.*** *асобным выданнем выпускае казку "Дзівосныя прыгоды", а таксама зборнік вершаваных казак паводле народных матываў "Кветкі — сонцавы дзеткі",*

*у 1-м нумары часопіса "Полымя" змяшчае аўтабіяграфічны артыкул "Сярод людзей добрых"*

***1964 г.*** *— у выдавецтве "Беларусь" асобный кніжкай друкуе казку "Мілавіца",*

*у тым жа выдавецтве тыражом тысячу асобнікаў выдае свае пераклады 154-х санетаў Шэкспіра. Кнігу аформіў Б. Забораў. У беларускай крытыцы не раз адзначалася, што паэзія Шэкспіра ў Дубоўкавых перакладах мае ўзорнае гучанне[23] Аўтар*

# "У НЯЗМЕРНЫХ ГЛЫБІНЯХ НЯЗМЕРНЫЯ ВЫСІ..."

**Кожная эпоха пакідае свой след у паэзіі. Гэтыя сляды, вынікі працы літаратурнага пакалення, заўсёды розныя: уздзеянне аднаго літаратурнага перыяду на пазнейшую літаратуру бывае працяглым і плённым, іншыя, у сілу розных прычын, праз некалькі дзесяцігоддзяў ці нават гадоў забываюцца, "кансервуюцца" самі ў сабе.**

**Калі паглядзець на паэзію 20-х гадоў менавіта з такога пункту гледжання, дык малюнак будзе больш складаны і супярэчлівы, чым згаданая вышэй і ў асноўным правільная схема. З аднаго боку, агульны пафас, паэтычныя сродкі, упершыню вынайдзеныя ў самы ранні перыяд "новай" паэзіі, атрымалі ў далейшым свой працяг і сваё развіццё. Ды і цяпер, калі каштоўнасці і арыенціры ў грамадстве і літаратуры шмат у чым змяніліся, водгалас далёкай ужо эпохі 20-х не-не, ды й пачуецца ў вершах многіх прадстаўнікоў самых розных літаратурных генерацый.**

**Гэты водгалас нібыта сведчыць — уздзеянне той, далёкай, маладой пралетарскай паэзіі працягваецца, яна несла ў сабе нешта трывалае, сапраўднае, і, нягледзячы на кардынальныя змены ў грамадскай свядомасці, абстрагавацца ад гэтага ўздзеяння, не заўважыць яго нельга.**

**З другога боку, уплыў літаратурнай эпохі не можа, не павінен быць сумарным. Не можа быць абагуленай традыцыі Купалы, Коласа, Багдановіча, хаця пісалі яны ў адзін час і паэзія кожнага з іх нясе адбітак грамадскіх праблем, настрояў, пачуццяў менавіта іхняй эпохі. Але хто сёння гаворыць пра літаратурныя традыцыі Чарота ў сучаснай паэзіі? А. Александровіча? А. Дудара? В. Маракова? Нават У. Дубоўкі, узвышэнская паэзія якога, безумоўна, уписваецца ў ідэалагічную атмасферу нашага часу. Дзе, у творчасці якога з сучасных паэтаў працягвае развівацца традыцыя Дубоўкі настолькі выразна, каб яе можна было вылучыць, выкрышталізаваць беспамылкова? Але ж не ўяўляе ніякай цяжкасці вызначыць верленаўскія традыцыі ў сучаснай французскай паэзіі, блокаўскія — у рускай, купалаўскія — у беларускай.**

**У. Дубоўка аб'ектыўна вылучаецца на фоне многіх маладых паэтаў 20-х гадоў. "Аднаго натхнення для паэта недастаткова — патрабуецца натхненне развітага розуму" (Ф. Шылер). Дубоўка меў менавіта такі "розум", бо ён быў адным з тых нямногіх, хто здолеў атрымаць літаратурную адукацыю. Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава падняў Дубоўку, у пэўнай ступені, "з нізін на ўзвышша".**

**У. Дубоўка — паэт рацыянальны. Многія яго эксперыменты — напружаная работа думкі. Для прыкладу можна прывесці цыкл "Крыху восені і**

*"Налі" "... здолеў узнавіць у максімальна дакладнай ступені ідэйна-мастацкі змест арыгінала, напоўніўшы напружаны драматызм думак і пачуццяў лірычнага героя жывою крывёю свайго, у многім трагічнага, жыццёвага вопыту" (В. Небышынец). Да згаданай цытаты дадам яшчэ адну (першую страфу з 13-га санета) і рытарычна спытаюся: ці гэта Шэкспір гутарыў з сабою, ці Дубоўка вёў перамовы з лёсам?*

Каб мог ты вечна быць самім сабою!
Але жывеш на свеце да пары.
Пакуль не стане смерць перад табою,
Сабе падобны вобраз ты ствары.

***1965 г.*** *— выходзяць выбраныя творы ў двух тамах (уступны артыкул В. Віткі);*

*піша ўспаміны пра Уладзіміра Жылку,*

*Дз. Бугаёў выпускае крытыка-біяграфічны нарыс "Уладзімір Дубоўка"[24],*

*выдавецтва "Беларусь" друкуе для дзяцей дашкольнага ўзросту дзве вершаваныя казкі паэта ў перакладзе на рускую мову "Кто сильнее" и "Чудесные приключения" Пераклады выканалі М. Браун і А. Жараў.*

***1966 г.*** *— у трэцім томе аўтабіяграфій "Советские писатели" (маскоўскае выдавецтва "Художественная литература") змяшчае свой жыццяпіс "Среди добрых людей" Дарэчы, у гэтым жа томе надрукаваны біяграфічныя нарысы Змітрака Бядулі, Максіма Танка і Кузьмы Чорнага.*

***1967 г.*** *— у Ленінградзе, у выдавецтве "Художественная литература", выходзіць паэтычны томік "Полесская рапсодия" (прадмова А. Пракоф`ева, рэдакцыя перакладаў М Брауна). У томік уключана паэма "Крычаўская спакуса" (пераклад Ус. Рождзественскага), а таксама два ахматаўскія пераклады з кніжкі "Золотая ранница";*

*у выдавецтве "Беларусь" выдаў аповесць "Жоўтая акацыя", рэч цікавую па сваім батанічным змесце, але празмерна дыдактычную і па-савецку павучальную. Відавочна, што пісаў яе пад уплывам асноўнай партыйнай догмы пачатку 60-х гг. — догмы аб хуткай пабудове камунізму.*

***1968 г.*** *— у выдавецтве "Народная асвета" ў серыі "Школьная бібліятэка" са сваёй прадмовай выпускае тыражом 35 тысяч асобнікаў зборнік вершаваных казак.*

***1969 г.*** *— у выдавецтве "Беларусь" выдае аповесць "Ганна Алелька" — своеасаблівы, але больш белетрызаваны працяг "Жоўтай акацыі".*

***1970 г.*** *— у серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі" з франтыспісам Арлена Кашкурэвіча выдае томік сваіх выбраных вершаў;*

*у маскоўскім выдавецтве "Детская литература" ў перакладзе М Гарбачова выпускае аповесць "Жоўтая акацыя"*

***1971 г.*** *гэты год паэта можна адлюстраваць урыўкам з прозы Янкі Брыля. "У лістападзе семдзесят першага года, у падмаскоўным Доме творчасці Перадзелкіна, мы з ім сустрэлі-*

[23] Гл. артыкул "Твой вечны помнік — мой сардэчны верш..." В. Ніціфаровіча, выдавецкага рэдактара згаданай кнігі. Аўтар артыкула з захапленнем апавядае пра тое цярплівае і ўважлівае майстэрства, з якімі Ул. Дубоўка апрацоўваў кожны свой пераклад. (Дзень паэзіі — 78, стар. 152)

[24] Змест нарыса вельмі дапамог мне ў складанні гэтага жыццяпісу, за што выказваю спадару Бугаёву вялікую ўдзячнасць.

*І я схіляўся перад тым загадам,*
*прыняў яго як святасці закон.*
*У сэрцы у маім заўсёды радасць.*
*я пазнаю жыццё не праз вакно.*

*Ў пазнанні тым салодкасць і пакута,*
*з якім пайду і павяду другіх.*
*А трэба будзе выпʻю сам атруту,*
*якую мне рыхтуюць берагі.*

*А перад тым завет адзін пакіну:*
*шуканне вечнае вяло нас і вядзе.*
. . . . . .
*На Беларусі, ў роднае краіны*
*Ня знойдзеце вы берагу нідзе.*

*Бязбрэжнасць сіла і крыніца ўзлётаў,*
*абмяжаванасць паніхідны глас.*
. . . . . . . . . . . . .
*гісторыя нас кінула ў балотах*
*узяўшы ўсё, нічога не дала.*

*А мы расцём, мацнеем паступова,*
*бязбрэжнасці ня трэба берагі.*
*І дух наш будзе цераз наша Слова*
*схіляць да нас прасцягі і вякі.*

*Гады ідуць. Адказнасці ўсё болей*
*на плечы ложыцца, на нас, сябры.*
*Няхай пакуль прасякнуты мы болем,*
*мы падначалім лёс, або згарым.*

**Публікацыя**
**Аляксея КАЎКІ**[6]

[6] Лісты да П Глебкі таксама захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі, ф. 24, воп. 1, адз. зах. 1654, арк. 1, 5, 6.

**жменька кляновых лістоў" з падзагалоўкам "Вершы з заўвагамі", цыкл цалкам эксперыментатарскіх паэм "Кругі", "Штурмуйце будучыні аванпосты", "І пурпуровых ветразей узвівы", ужыванне ламанай рыфмы ў паэме "Там, дзе вазёры". Імкненне Дубоўкі да закончанасці думкі і формы прыводзіла да дакладна прадуманага аб`яднання многіх вершаў у нізкі, цыклы: нізка "Пацеркі", нізка "Трыпціх", цыклы мелодый "Плач навальніцы" і "Наля", цыкл "вершаў з заўвагамі", цыкл з "камбайнаў" і г.д.**

**Вершам Дубоўкі ўласцівы выразная лірычная сканцэнтраванасць і вытанчанасць вобразаў. Паэт рэдка карыстаецца пышнасцю фарбаў. Замест прыгожых эпітэтаў ён звяртаецца да эпітэтаў дакладных, простых. Часта не фарба, а малюнак вобраза здзіўляюць нас у паэзіі У. Дубоўкі. Сапраўды, колеравых прыметнікаў вельмі мала ў яго вершах: зялёны (свята, бярозавыя сцены, ліст), сіні (вочы, туманы, далі), чорны (луста, пляма, валасы), шэры (імгла, плямы), "жоўтыя морды", "срэбны туман" "блакітная воўна", "каліна белая", "пунсовыя каралі", "перламутны смутак", "залатая зара", "пурпуровая раса" і г.д. Часцей, чым у іншых паэтаў, ужываецца такі рэдкі колер для беларускай паэзіі, як ліловы: "ліловыя спіцы", "ліловыя сцені". Любіць ужываць Дубоўка састаўныя прыметнікі тыпу: "сіне-ліловы туман", "чорна-чорныя косы", "пурпурна-ліловыя каралі" і г.д. Часта сустракаюцца састаўныя прыметнікі, у якіх корань колеравага значэння супастаўляецца з коранем, які не мае колеравага значэння: "сцюдзёна-ліловыя туманы", "цудоўна-русыя косы" і г.д. Прыметнікі ў**





**Дубоўкі дапамагаюць і стварэнню цікавых аксюмаранаў, якія ў паэзію заўсёды прыносяць элемент нечаканасці: "Не шкадаваў, не скардзіўся нікому — // хоць часам дух звіваўся ў немы лямант"; "А я супакойны балючым спакоем". Магчыма такое частае ўжыванне складаных прыметнікаў і аксюмаранаў ідзе ад разумення складанасці і супярэчлівасці свету і жыцця: "Жыццё ідзе // у зменнасці нязменнай, // навокал розныя // кладзе сляды".**

**Як адзначалася ўжо ў крытыцы, адны са скразных вобразаў творчасці Дубоўкі — шыпшына і палын. Артыкул Л. Дранько-Майсюка так і называецца: "Галінка шыпшыны, сцябло чарнобылю". Цікава, што гэтыя вобразы, хоць і менш значныя, былі ўжо ў Максіма Багдановіча (калі не ўлічваць беларускі фальклор): "Ўся ў слязах, дзяўчына // Хіліцца да тына. // Поруч з ёю пад расою // Зіхаціць шыпшына"; "А палын-трава няхай сабе заглушыць // Пазабытыя даўнейшыя пуці". У гэтых вобразах, канешне, няма той сімвалічнасці, якую яны набудуць у Дубоўкі: "О, Беларусь, мая шыпшына, // зялёны ліст, чырвоны цвет! // У ветры дзікім не загінеш, // чарнобылем не зарасцеш". Але не толькі Беларусь увасабляе Дубоўка ў вобразе шыпшыны. Гэта прыгожая і моцная расліна тоіць у сабе і радасць: "Пурпуровасць каліны, пунсовасць, // кармазынавасць дзікіх шыпшын. // Ці не вам у таемныя сховы // людзі радасць сваю аддалі"; і "спрадвечную існасць": "На дзікім каменні, // На дзікім і жорсткім, // шыпшына не звяла, пасцеле цвяцістасць. // І з гэнай цвяцістасці, // з гэных пялёсткаў // паўстане // спрадвечная існасць"; і змаганне за свой уласны гонар, за краіну, за жыццё: "Пазлятаюць пялёсткі з шыпшыны — // ў дзіды ўпартасць кладзе яна".**

**Вобраз шыпшыны ў Дубоўкі глыбокі і пранікнёны. Вельмі прыгожа пра гэта выказаўся А. Вялюгін: "Калі я думаю пра паэзію У. Дубоўкі, перад вачыма паўстае менавіта шыпшына, над якою, як гуслі, мудра гудуць руплівыя пчолы. Зялёны ліст, чырвоны цвет".**

**Цікавым уяўляецца і супастаўленне вобразаў шыпшыны і ружы ў вершах У. Дубоўкі. Колькасна вобраз шыпшыны, канешне, пераважае, але і ўжыванне вобраза ружы дае падставы для роздуму. Толькі адзін раз гэтыя вобразы ў паэзіі Дубоўкі можна амаль цалкам узаемазамяніць. Параўнайце: "А ў каліне, ў шыпшынніку дзікім // начавала і сонца, і росы. // А ў пялёстках — без меры, без ліку — // з сокам шчасце суздром разлілося" і "Дык хто там не бачыць над краем зару, — // з пялёсткамі шчаснымі ружу?!". У іншых выпадках ружа сімвалізуе жыццё ("Жыццё маё — ці васілёк ці ружа: // вялізманая кветка дыядэмай") і сімвалізуе саму паэзію Дубоўкі ("Мае песні — як пялёсткі ружы"). Чаму ружа, а не шыпшына? Чаму пялёсткі ружы, а не пялёсткі шыпшыны? Ці мела гэта пэўнае значэнне для Дубоўкі? Думаецца, што мела. Шыпшына — гэта спрадвечнасць, прыроднасць, эмацыянальнасць (калі лічыць, што эмоцыі папярэднічаюць розуму), ружа — навізна, эксперымент, рацыянальнасць. Таму Дубоўка (як паэт racio, а не emotio) не мог выбраць сімвалам сваёй паэзіі шыпшыну.**

**Вобразам, супрацьлеглым шыпшыне, у Дубоўкі з'яўляецца палын (чарнобыль): "Палыны пасівелі на ўзгорку, // запрыгоршчыць і кіне іх вецер. // Мо` таму так на свеце горка, // мо` таму часам горка на свеце?". "Будучыню Беларусі і сваю ўласную будучыню паэт Уладзімір Дубоўка бачыў менавіта пад знакам гэтай звычайнай чырванавата-бурай расліны, што пышна расце на нашых пустках і каля нашых дарог і сімвалізуе незвычайна страшную бяду" (Л. Дранько-Майсюк).**

**Адам Бабарэка лічыў Дубоўку "першым сярод беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, які ацаніў народную спадчыну і які гэту спадчыну расчыняе і пускае яе каштоўнасці ў абыходак". Сапраўды, у Дубоўкі ёсць**

*ся нечакана і, за сябе скажу, вельмі прыемна. Неяк вечарам, у вестыбюлі, сам-насам пад фікусамі, я спытаўся пра тое, што даўно цікавіла:*

*– Уладзімір Мікалаевіч, і як вы маглі столькі гадоў вытрымаць за кратамі, у лагеры, у тайзе?*

*"Столькі гадоў" амаль што трыццаць.*

*– У тайзе? – перапытаў ён, крыху падумаўшы. – Калі мае таварышы грэліся каля вогнішча, я націраўся снегам.*

*– Ну, а разбуджаны інтэлект? А пакуты ад немагчымасці пісаць, хоць бы чытаць?*

*– Я так навучыўся быў адключацца, што ў самай цясноце, у самым найбольшым шоламе ды гвалце мог анічога не чуць, думаць сваё.*

*Толькі думаць. "*

***1973 г.*** *– у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выдае лепшы свой празаічны зборнік – апавяданні-ўспаміны "Пялёсткі"*

***1974 г.*** *– у тым жа выдавецтве выпускае дзіцячую аповесць "Як Алік у тайзе заблудзіўся" Да слова сказаць, заўсёды пільная савецкая цэнзура не заўважыла, што ў гэтым кароткім па аб'ёме творы праз пакуты і вынаходлівасць маленькага хлопчыка аўтар выказаў свой вопыт сталінскага вязня – вопыт выжывання ў сібірскай непраходнай тайзе.*

***1975 г.*** *– у альманаху "Дзень паэзіі" змяшчае паэму "Усходняя казка і сібірская быль",*

*у выдавецтве "Мастацкая літаратура" друкуе апошнюю сваю прыжыццёвую кнігу – зборнік казак "Залатыя зярняты".*

***1976 г.*** *– у Маскве 20 сакавіка паэт памірае.*

Падрыхтаваў
Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК[25].

[25] Працуючы над жыццяпісам Ул. Дубоўкі, раіўся з Дзм. Бугаёвым, выкарыстоўваў матэрыялы З. Давідоўскага і Я. Кісялёвай.

**нямала вершаў, стылізаваных пад фальклор ("Васількі збіралі, васількі", "Выхадзіла дзеўчына" і інш.), але нечага новага гэтая стылізацыя не прынесла. Можна пагадзіцца з С. Дробушам у тым, што больш за ўсё народная песня дала У. Дубоўку ў кампазіцыі (сістэма паўтораў, цыкл і г.д.). Ад народнай паэзіі ў паэзію Дубоўкі прыйшла музычнасць. Увогуле, паэзія і музыка, развіваючыся кожная паводле сваіх прыватных законаў, заўсёды дапамагаюць адна адной (часам нават фармальна: скажам, Дубоўка назваў цыклы вершаў "Наля" і "Плач навальніцы" мелодыямі).**

**Музычнасць сваёй паэзіі, відаць, адчуваў і сам паэт, бо словы "песня", "спеў", "спяваць" сустракаюцца ледзь не ў кожным вершы. Адам Бабарэка адзначае ў Дубоўкі такія "азначэнні-эпітэты песні: дзікая, чужая, насная, жабрачая, старая, чараўніца, шчырая, сумная, маркотная, мінорная і чыстага мажору". Але гэта яшчэ не ўсё, ёсць у Дубоўкі і "песня хіміі каталітычнай", "недаспяваная песня", "шчаслівыя песні", "апошняя песня", "задушэўная песня", "песня-надзея", "песні волі" і г.д. Акрамя слоў "песня", "спеў", "заспяваць", сустракаюцца ў вершах Дубоўкі і іншыя "музычныя" словы: струны (найчасцей), музыкі, лад, акорды, сімфанічны, назвы музычных інструментаў (гітара, гармонік, жалейка, лютня, віола, бубен, цымбалы) і г.д.**

**Музыка заключае ў сабе гармонію, у гармоніі, на думку Дубоўкі, – прыгажосць. "Прыгажосць для паэта ці прыгажосць жанчыны, ці прыгажосць як жанчына" (І. Аненскі). Дубоўка, які спрабаваў супрацьстаяць ідэалагічнай паэзіі лірыкай кахання, не мог, канешне, не аддаць даніну жаночай прыгажосці: "Ведаеш добра: ты вельмі прыгожая, // вусны твае кармазынам асмужаны". Але Дубоўка не абмяжоўваецца апяваннем "прыгажосці жанчыны", ён і ва ўсіх праявах жыцця бачыць прыгажосць, "прыгажосць як жанчыну": "Карагод непазбыўных часін, // харaство тваё сэрцам вітаю!" "Прыгажосць — гэта каралева, якая пануе вельмі нядоўга" (Сакрат). Дубоўка бачыць гэты ўнутраны драматызм прыгажосці: "Красаваў вяночак і засох, // на пяску пялёсткі каля ног". Але паэт у сваім "іншасвеце" можа ствараць і вечную прыгажосць: "На дне далін вянкі цвітуць адвечна, // істоту акрынічылі красой".**

**Самай прыгожай парой года для Дубоўкі была восень. У восеньскіх вершах паэтам створана вельмі цікавая асацыятыўная вобразнасць: "Журавінамі плача восень, // апавіўся тугою абшар". Праз усю паэзію Дубоўкі праходзіць скразны вобраз "кляновых лістоў". Унутраную сутнасць вобраза ліста выявіў сам паэт у вершы з цыкла "Крыху восені і жменька кляновых лістоў" "Ізноў шумяць і шастаюць кляновыя лісты": "І мне здаецца, што ўсяго ў лістах па крыху ёсць".**

**Праз усю паэзію Дубоўкі прайшлі вобразы ветру, навальніцы, мора, стаўшы ў ёй своеасаблівым сімваламі дынамізму жыцця: "Я іду праз пушчу, я іду праз вецер, // навальніца плача, // пошчак не заціх". Вецер — асноўная прыродная сіла ў вершах Дубоўкі, якая гучыць: "А ўначы галасілі вятры, // абрывалі ў мяцеліцы крылле"; "І чую — кволасць іх лягла на плечы // і вецер запявае ў верасох". З прыведзеных урыўкаў відаць, што не выпадкова стыхія ветру адыгрывае вялікую ролю ў творчасці паэта. Стыхія ветру — "музычная" стыхія, і яна заключае ў сабе ўнутраную музыку дубоўкаўскай паэзіі: "Распрастайцеся, плечы мае! // Яшчэ толькі жыццё пачалося! // Падарожнаму вецер пяе // з палазамі у тон сугалоссі". Стыхія ветру ў Дубоўкі мнагазначная. Гэтая супярэчлівасць стыхіі ветру добра паказана самім паэтам у вершы "Увосень, кажуць, сумныя ўсе дні": "Здаецца, сіла пырскае з вятроў, // хоць з імі часам сцюжа і трывога".**

**Акрамя стыхіі ветру гучыць у паэзіі Дубоўкі і стыхія мора.**





**"Колькасна" стыхія ветру, безумоўна, пераважае, але марская стыхія звяртае на сябе ўвагу ўжо сваёй пэўнай экзатычнасцю для беларускай літаратуры. Мора, як і вецер, — музычная стыхія. Дастаткова згадаць Цютчава: "Певучесть есть в морских волнах". Мора заўсёды прыцягвала паэтаў сваёй непрадказальнасцю, няўлоўнасцю, неспасцігальнасцю. Не выключэнне тут і Дубоўка: "Раскалыхалася мора ў запале, // пеною плача, іглініць пырскі"; "І у вочах было вечна-палкае мора і неба: // у нязмерных глыбінях нязмерныя высі".**

**Як відаць, вобразнасць Дубоўкі імкнецца да агульначалавечага: прыгажосць, музыка, восень, мора і г.д. Дубоўка свядома паставіў задачу вывесці беларускую паэзію на шлях еўрапеізму. Ён адмяжоўваецца ад сацыяльнасці паэзіі, нібыта не звяртае ўвагу на тое, што для нацыянальнай паэтычнай традыцыі характэрна дамінацыя сацыяльнага. Маладнякоўцы сацыяльнае замянілі класавым, Дубоўка паспрабаваў абысціся без яго. І перабор, і поўная адсутнасць сацыяльнасці кепска адбіліся на іх паэзіі. "Вялікія тэмы лірыкі не заўсёды "вечныя", але заўсёды экзістэнцыяльныя ў тым сэнсе, што яны закранаюць карэнныя аспекты быцця чалавека і асноўных яго каштоўнасцей і часам маюць крыніцы ў самых старажытных уяўленнях. Гэта тэмы жыцця і смерці, сэнсу жыцця, кахання, вечнасці і хуткаплыннага часу, прыроды і горада, працы, творчасці, лёсу і пазіцыі паэта, мастацтва, культуры і гістарычнага мінулага, зносін з бажаством і нявер'я, сяброўства і адзіноты, мары і расчаравання. Гэта тэмы сацыяльныя, грамадзянскія: свабоды, дзяржавы, вайны, справядлівасці і несправядлівасці" (Л. Гінзбург). Такім чынам, без сацыяльнасці няма агульначалавечага. Нават М. Багдановіч, які так імкнуўся ў наднацыянальныя вышыні, не забываў пра пэўную сацыяльнасць (дастаткова згадаць цыкл "Места" з "Вянка"). Якуб Колас, не адкінуўшы сацыяльнасць, здолеў стаць нацыянальным эпікам. У маладых паэтаў 20-х гадоў не было таго пачуцця густу і меры, якое б дазволіла ўзняць сацыяльнасць да агульначалавечага маштабу. "Вечнае і эстэтычнае забыта. На першым месцы ідэйнасць" (Ю. Кудраўцаў). Дубоўка не жадаў ісці па гэтым шляху, але паэта ў значнай ступені робіць ягоны час. Эпоха 20-х гадоў "не імкнулася" да агульначалавечага, яна спрабавала пазбавіцца ад яго. Уласная паэтычная інтуіцыя цягнула паэтаў у другі бок. У. Дубоўку ў гэтай барацьбе з эпохай пашанцавала больш, чым астатнім, але... "перамагла" эпоха. Магчыма, таму і цяжка вылучыць традыцыі Дубоўкі ў сучаснай паэзіі.**

**І ўсё ж — "у нязмерных глыбінях нязмерныя высі".**

**Аксана СПРЫНЧАН**

# СТРАСЦІ ПА ЛЯСНОЙ РУЖЫ

**У 1925 годзе Уладзімір Дубоўка напісаў знакамітыя радкі:**

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*чарнобылем не зарасцеш.*

*Пялёсткамі тваімі стану,*
*на дзіды сэрца накалю.*
*Тваіх вачэй, пад колер сталі,*
*праменне яснае люблю.*

**Гэтыя дзве страфы да краю поўняцца сымбалямі. Для "зялёнага ліста, чырвонага цвету" даследчыкі хутка знайшлі простую расшыфроўку: персанаўасобленыя колеры афіцыйнага сцяга БССР! Дзякаваць Богу, што вочы "пад колер сталі" ў час напісання верша яшчэ аніякага дачынення не маглі мець да пэўнай асобы, што хутка спазнала ўласны культ.**

**А пра палын-чарнобыль у Дубоўкавым вершы зноў згадалі праз многа дзесяцігоддзяў, калі сціплая расліна зрабілася сымболем усёй нашай зямлі. Радок "чарнобылем не зарасцеш" меў моцнае адценне мадальнасці: не павінна зарасці. Ён канцэнтраваў энергію надзеі, як гэта нярэдка здаралася з асобнымі геніяльнымі радкамі паэтаў усіх часоў і народаў. Гэты вобраз абумовіў як бы другое прышэсце верша ў літаратуру.**

**Але зварот "О, Беларусь, мая шыпшына" кожным чытачом успрымаўся па-свойму — як лекавая доза лірычнай інтымнасці, як прамень ружовага світальнага святла. Бо вытлумачыць, надаць адназначны сэнс Дубоўкавай шыпшыне гэтак жа немагчыма, як "поверить алгеброй" Блокава "О, Русь моя! Жена моя!".**

**У кнігах ранняга Дубоўкі шмат раслінаў. Менавіта з іхняй антрапаморфнай дапамогай паэт вымалёўваў зрокавыя вобразы: "Я за радзіму песнямі малюся, як па-над возерам лясным трысцё", "з похваў выкінуў шаблі напорны чарот", "журавінамі плача восень"...**

**Крывавыя слёзы восені — ці не прагноз гэта на ўсё дваццатае стагоддзе, якое толькі-толькі займалася на даляглядзе паэтавага лёсу?**

**З усіх ландшафтаў Дубоўкавай паэтыцы найбольш родная — звычайнае балота. У поўным суладдзі з тэорыяй Карла Юнга, які даследаваў уплыў месца нараджэння, уражанняў дзяцінства на асобу і прыйшоў да высновы, што "прырода больш велічная за чалавека, і нікому не ўдаецца сысці ад яе". Дзераза, хмызняк, едланцовае**

куп`ё, ніцыя лозы, ракіты, чарот, быццам вадзяныя знакі, праяўляліся ў ранішнім тумане радкоў маладога паэта.

*Зварухнецца аір ля трысця*
*і замоўкне, у млявасць спавіты.*

Ці вось яшчэ дакладны, як афорт, краявід:

*Балаты разлягліся абапал ракі,*
*і туман, і дрыгва з прадвякоў у вякі.*
*Ні жыцця, ні шляхоў, ні людзям*
*пекнаты.*
*Разлягліся абапал ракі балаты.*

Рака часу беларусаў у чатырох радках, поўная "імжы, і склізоты, і прыкрай золі"...

Улюбёнай парой года ў Дубоўкі была восень, калі "верас ля лесу асыпаў красу і папараць адзелянела", калі "гарэла каліна ў сцюдзёным агні".

Ёсць у паэта вершы, прысвечаныя, так бы мовіць, аднакарэннаму дрэву:

*Вершаліна дуба схілілася толькі,*
*са жвірам цалуецца.*

Але мне здаецца, што найбольшую прыязнасць паэт адчуваў да клёна:

*А клён галаву нахіліў і застыў*
*і плакаў слязой нечаканай.*
*У змроку здаваліся з клёну лісты*
*вялізманым войскам кажанным.*

Побач з усюдыіснымі трыпутнікамі ды лозамі на імгненне з'яўляюцца экзатычныя кіпарысы, бамбукі, лотасы, лілеі і нават хрызантэмы. Гэта шчодрая даніна любімым кнігам ды ўражанням ад крымскага падарожжа.

Але найчасцей сустракаюцца чарнобыль і шыпшына, каб аднойчы сысціся разам і з нечуванай тады яшчэ кампутарнай беспамылковасцю стварыць прарочыя радкі...

Палыны поўняць вершы! "На вуснах палыновы воцат", "Часіна ды з сокам рабіны, качаеш мяне ў чарнабыллі", "Палыны пасівелі на ўзгорку", "Зерне віюх палыновых"... А колькі расце шыпшынніку?! Непралазныя кусты! "На вострым шыпшыннік ці сэрца, ці дух мой узбілі", "Пазлятаюць пялёсткі з шыпшыны", "У шыпшынніку дзікім начавалі і сонца, і росы", "Пурпуровасць каліны, пунсовасць, кармазынавасць дзікіх шыпшын"...

Запомніце гэтае слова — кармазынавасць — тыповы, але непаўторны мазок Дубоўкавага пэндзля.

Потым, калі паэту выпадзе быццём сваім засведчыць некалі па-юначы неашчадна кінуты радок "Жыццё, твой шлях такі цярновы", потым, калі ў рэдкіх, як зоркі на пахмурным сібірскім небе, вершах усе расліны набудуць безаблічную зборную назву "тайга", аднойчы, як адбітак даўняга цяпельца, зіркне:

*А ты, кармазынам убраны кіпрэй,*
*Таёжная, сціплая кветка...*

Пройдзе яшчэ колькі палыновага часу, паэт вернецца на радзіму, і тое вяртанне адбудзецца, нібы ў метафізічнай геаграфіі, у выстылай хаціне даўняга верша, пабудаванага з шыпшынніку і палыну. Радкі загучаць з сілай эпітафіі:

*О, Беларусь, лясная ружа,*
*зялёны ліст, чырвоны цвет ..*

Паміж "маёй шыпшынай" і "лясной ружай" мінуць евангельскія трыццаць тры гады.

Галіна БУЛЫКА

# ПЯСНЯР ШЫПШЫНАВАЙ КРАІНЫ

*Душа творчая,* дадзеная ў гэты свет, каб адчуць напоўніцу хараство і панаду быцця, і надзеленая здольнасцю перадаць свае веды і разуменне іншым, мае шанц раскрыцца ва ўнісон Струнам Сусветнай Гармоніі; але часам з прычыны розных абставін і сваёй выпадковай прысутнасці ў іх, душа творчая становіцца ніколі не спатольным прыдаткам, з чаго вынікаюць — празмерны сум, пакуты, адмаўленне і заўчасная смерць... Бывае: трапіўшы ў благія часы, не могучы аніштo перайначыць, яна — прагная, цікаўная да ўсяго, самотна-прысутная, — вызірне праз чарнахмарнасць лёсу яскравым сонечным бокам, каб асвяціць шлях сабе, нам, будучым...

Душа творчая (як многа раз да таго і пасля таго) нарадзілася 15 ліпеня 1900 года ў вёсцы Агароднікі Манькавіцкай воласці Вілейскага павета, непадалёк ад возера Нарач. З імем — Уладзімір Дубоўка.

***

Жывой крывёй у венах сусветнай культуры заўжды лічылася лацінства, старажытная грэка-рымская спадчына. Пэўна, толькі праз зварот да старажытнай культуры, да вытокаў можна адчуць сябе грамадзянінам вялікага *зямнога свету*; усе мы — стварэнні, народжаныя з улоння лацінства, антычнасці.

Падсвядома адчувае гэта і кожны Творца; памяць *пра гэта* прачынаецца разам з жаданнем сцвердзіцца, праявіцца. Nihil est in intellectu, guod non prius fuerit in sensu.[1]

А далёкія мясціны, праз якія прайшлі вандроўныя шляхі творцы Уладзіміра Дубоўкі, — "Вавілон, Егіпет, Фінікія // ці не дыхалі тым самым паветрам?" І ці не тым жа паветрам дыхала родная Беларусь?

Эмацыйнае ўздзеянне сусветных каштоўнасцяў аказваецца такім вялікім, што нават у 1925-м годзе, калі паэта агортвае "такая сцюжа на душы" і ўжо "няма сталёвасці і арфазвоннасці", у вершы пераносяцца і згадка пра тых, што "гінулі... за косы Клеапатры", і разважанне-здагадка: "Можа і мы на акрайках дэльфінавых, // быццам хлапчук з Рафаэльвай фантазіі..."

...Але ўбачыў паэт дзень, "калі ў нашых палёх // пасеяла смутак Ніоба...", і прыйшло прадчуванне шляху, з якога "назад не гляну, // як калісьці Ван Чжао-цзюнь"...

***

Вялікім і неацэнным скарбам ва ўсіх народаў лічыцца *паэтычная мова*; тады як любая мова ёсцека прыродны камень, дык мова паэзіі — камень каштоўны, адшліфаваны, агранены...

Чуйнае сэрца ўбірае ў сябе прыгажосць роднага краю і, зачараванае навакольным светам і прысутнасцю ў ім, пачынае вяртаць дыяменты пачуццяў, агаты ўражанняў, смарагды напоўненага сузірання... У час, калі "край не знаў наш песень чыстага мажору", ішоў працэс адшліфоўкі Слова, сыпаліся пярліны, нізаліся на ніты Натхнёнай Паэзіі. Дэскрыпцыя Вечнасці знаходзіла азначэнне праз момант хвіліннага, разважлівага ўсведамлення *існавання*; Слова станавілася словагімнам Жыццю: яркім, узнёслым, сцвярджальным.

У "час брыльянцісты, залацісты... узрочысты, узняты", калі: "кармазынам гарыць небакрай", або: "у хмарнасць убралася светава столь, // блакіт ад зямлі адарвала", ці: "расою крышталіць кілім аксамітны", — лёгка зважаць на "пурпуровасць каліны, пунсовасць, // кармазынавасць дзікіх шыпшын"; і, пераасэнсаваўшы ў сабе вялікае чуццё Роднай Прыроды, зведаць, як з вачэй "узрочыстых", дзе "фіялкі з расой" "наземяцца няспынна слёзы" *проста* ад хараства, перанасычанасці, цноты...

***

І зварот да такога жанру, як казкі, напісаныя да таго ж у codeршаванай форме, таксама пацвярджае, што Дубоўка "ў сваіх творах (і не толькі напісаных паводле матываў фальклору) умее быць сапраўды народным — паэтам, для якога народнае светаўспрыманне, народны дух, народныя мары, ідэалы, спадзяванні, адлюстраваныя ў фальклоры, з`яўляюцца вельмі блізкімі, арганічнымі".[2]

Праз сталасць і стамленне душы, праз балючы вопыт вымушанага <u>не</u>-пісьменства, <u>не</u>дапушчальнасці ў савецкую літаратуру — як праз бяздонна-глухую прастору — ляцеў Дух творцы, арыентуючыся на глыбока-прыхаванае, акрэсленае свядомасцю разуменне *душы народа*; фальклорныя традыцыі, вобразнае слова, гарманічная сутнасць індывіда, як сукупнасць рыс, характэрных нацыі, — вось паходні, здольныя асвятліць шлях вымушаным Ікарам начнога прадоння.

А ці ж лёгка пачувацца выгнаннікам, калі значна раней паспеў з непахіснаю вераю ў сваю чалавечую моц і недатыкальнасць, загадаць: "раскалыхайся, сіняе мора, // распапрасонься, вада-ваданіца"!

***

Усё часцей і часцей замест сцвярджальных слоў і слоў пэўнасці, моцнай трываласці прыкладаюцца словы неспакою, неразумення, наканаванасці. Натуральнае памкненне "перачуць увесь боль і ўсю слодыч жыцця, // акунуцца ў прадонне жыцця з галавою" мае адценне ведання *магчымага*: "Летуценнем пройдзем мы над краем // і загінем, быццам летуценне".

І "сыну сваёй сучаснасці" ў той час, калі "жыццё" крынічыць і музыкі граюць, // на лад папасці ўсё не шчасціцца". А таму пад канец 20-х гадоў надыходзіць перыяд, калі "на змену ранейшаму перахвальванню прыйшлі вульгарызатарскія прычэпкі, падазронасць і насцярожанасць у адносінах да Уладзіміра Дубоўкі і яго творчасці, найчасцей заснаваныя на розных домыслах ды яшчэ не зусім адвольным, а то і проста нядобрасумленным перакручванні асобных паэтавых радкоў".[3]

***

Пасля маладосці надышоў доўгі час вымушанага маўчання, час фізічнай працы і адарванасці ад нацыянальнай літаратуры. Вялікім Дубоўка паўстае перада мною ў двух сваіх перыядах: у час натхнёна-пачуццёвай маладосці і ў час духоўнага росквіту — перакладчыцкай дзейнасці.

Перачытваючы "маладога" паэта, з лёгкасцю пагаджаюся са словамі драматурга К. Губарэвіча, якому "з усёй маладнякоўскай літаратуры... больш падабаецца Дубоўка... паэта незвычайнай таленавітасці і індывідуальнасці", што ўмее моцна закрануць "сваім глыбокафіласофскім пераўвасабленнем жыцця ў прыгожай мастацкай адшліфаванасці сваёй творчасці".[4]

Саматворчасць ранняга Дубоўкі падобная на магічны абрад, калі з дапамогай пэўных прылад (у дадзеным выпадку — *словаў*) праз чароўнае кола энергіі выклікаюцца вобразавершы.

***

Маладому Дубоўку ўласцівы жывапіс гуку, ці *гукавы жывапіс*. Анархія пачуццяўператвараецца ў гармонію вобразнага пісьма, калі "краса любімае зямлі" адгукалася ў "задушэўнай" паэтавай песні.

*Ноч наплакалі бярозы,*
*нашумеў чарот*
*Надышла ліловай крозай,*
*стала над гарой.*

(Ноч наплакалі бярозы. 1922 г.)

*Лясы  бярозы ніцыя*
*туманамі набраклі вохкімі.*
*Вецер з ліловымі спіцамі*
*у галлі над амшарай вохкае.*

("Вы мелодый не слухаеце..." 1925 г.)

***

Што можа быць большым праяўленнем волі, чымся асабістая воля, індывідуалізм, унутранае жыццё аднаго чалавека?

Але ж згрупаваўшы волю многіх, мы бачым як сукупнасць

асабістага ператвараецца ў сацыяльнае; воля пераходзіць у абавязкі; свабода — у падначаленне.

Чалавек, які ўзяў на сябе абавязак згуртаваць волю шматмільённага насельніцтва, на доўгі час становіцца ідалам; любое праяўленне *асабістай волі* караецца адлучэннем ад пакорлівага грамадства... Творца яшчэ спрабуе разабрацца ў *такой* няпростай сітуацыі, але падсвядомасць ягоная ведае адказ. І Уладзімір Дубоўка, адзін "з самых прыкметных беларускіх паэтаў дваццатых гадоў" (сведчанне П. Глебкі), спрабуе з`яднаць глыбокі ўнутраны роздум са штучна-радаснай будзёнасцю.

*Непакоем я сёння укрыты.*
*Кажуць —*
*сумныя песні мае.*
*...Новыя словы,*
*новыя рытмы*
*поўнай жменяй*
*жыццё дае...*

(Непакоем я сёння укрыты)

І потым, на трыццаць гадоў пазбаўлены права займацца пісьменніцкай працай, ён, пастаўлены ў рады рабочых, трымаўся пэўнасцю, уласцівай ягоным паэтычным героям:

*Павязалі рукі,*
*павязалі ногі,*
*павязалі цела, —*
*дух звязаць няможна.*

(Трое іх)

"Так што паэтава творчасць дваццатых гадоў не адыграла поўнасцю той ролі, на якую яна суб`ектыўна была здатная".[5]

***

Традыцыйна параўноўваючы паэта з аратым, У. Дубоўка раіў паплечнікам і наступнікам, каб створанае закрасавала "скарбам неўміручым", "...ты, паэт, працуй уважна з мовай: // рыхтуй упарта грунт і працавіта".

Паспеўшы "словамі яснымі, словамі сціплымі // ...пакрысе сваю моладасць" выпеяць, Паэт не паспеў дапісаць кнігу для маладых паэтаў "Навука вершавання".

...20 ліпеня 1930 года яго арыштавалі.

"Вучоба беларускага паэта ў лепшых майстроў рускай паэзіі, яго жыццё і праца ў Маскве ўмацоўваюць жыватворчыя сувязі і плённы ўплыў выдатных рускіх пісьменнікаў на маладую беларускую літаратуру".[6]

Уладзімір Дубоўка быў арыштаваны ў маскоўскім Крамлі.

***

Перыяд адлучэння пазначаны быў для майстра гукавога жывапісу белым колерам, ён *разумеў* гэта ўжо ў 25-гадовым узросце. "І нічога не ведаю больш белага, // чым ростань нечаканая і снег".

І няўпэўненасць: "Можам і не расцвёўшы загінуць, // але не здрадзім ні думцы, ні сэрцу", набывала сэнс, бо "не хоча Уладзімір Дубоўка //спяваць пад зазубраны лёскат".

А ў краіне мар і памкненняў, краіне "О Беларусь, мая шыпшына..." ужо "на дзіды, на востры шыпшыннік // ці сэрца, ці дух мой узбілі". І ў нейкі момант глыбокага роздуму і разумення прыналежнасці да "часіны ды з сокам рабіны", Паэт паверыў:

*Загіну — няхай і загіну,*
*мне гімнамі будуць завеі.*

Белы колер перакрэсліў вясёлкавую радзіму.

Час пазначыўся рабінавым сокам.

***

*Час паэтавы* нельга дзяліць на гады, яго вызначае *стан духу*. На Беларусь вярнуўся грамадзянін, адноўлены ў правах літаратар, цясляр радка, тынкоўшчык рыфмы...

За трыццаць гадоў Дубоўка засвоіў больш за два дзесяткі спецыяльнасцяў.

***

"...У асобе Уладзіміра Дубоўкі наша паэзія атрымала майстра, які адным з першых у Беларусі раскрыў і паказаў новыя багацейшыя магчымасці народнага паэтычнага слова".[7]

Майстар, ведаючы еўрапейскія мовы, пераклаў на беларускую і выдатныя творы сусветнай класічнай паэзіі. Пабеларуску загучалі вершы Брусава, Байрана, Пушкіна, Ясеніна, Тычыны, Яноніса, грузінскіх, азербайджанскіх паэтаў.

Праз шмат гадоў, нібы адчуўшы *насалоду помсты за няўдалую прысутнасць у часе*, Паэт вяртаецца праз пераклады Сыракомлі, Славацкага, Гётэ, Рыльскага, Ду Фу, Абуль Фараджы... Але ў працэсе самасцвярджэння, працэсе сягання да вышыняў культуры, адбылася падзея, што застанецца значнай і для Беларусі, і для разумення Асобы Паэта. У. Дубоўка *падарыў* нам санеты найвялікшага творцы сусветнай паэзіі Уільяма Шэкспіра.

На Беларусі ніхто дагэтуль лепей не перакладаў слыннага Паэта.

***

Паэт выйшаў з класічнай краіны "О, Беларусь, мая шыпшына..." (1925 г.) і трапіў у дзяржаву, якая патрабавала ад яго толькі быць грамадзянінам; адмовіўшы Паэту ў паэзіі, *яна* паблажліва прыняла ад пакоранага: "О Беларусь, лясная ружа..." (1958 г.)

***

Уладзімір Дубоўка назаўжды застанецца творцам *часу, неабмежаванага ў прасторы,* творцам ЧАСУ пад назвай Беларускасць.

Вольга КУРТАНІЧ

---

[1] Няма нічога ў інтэлекце, чаго раней не было б у адчуваннях *(лац.)*.
[2] Дз. Бугаёў. Уладзімір Дубоўка (Мн., "Беларусь", 1965).
[3] Цытуецца па згаданай кнізе Дз. Бугаёва.
[4] Цытуецца па згаданай кнізе Дз. Бугаёва.
[5] Цытуецца па згаданай кнізе Дз. Бугаёва.
[6] В. Вітка. З прадмовы да "Выбраных твораў" У. Дубоўкі.
[7] В. Вітка. З прадмовы да "Выбраных твораў" У Дубоўкі.





# ПЯРЭСТЫ БУКЕТ

Уладзімір Дубоўка — адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры. І адзін з прадаўжальнікаў невынішчальнай народнай традыцыі — займацца творчасцю словам, тварыць свет словамі. Міхась Стральцоў пісаў: "Дубоўка прыйшоў у маладую беларускую паэзію як бы "з боку", маючы за плячыма не толькі вопыт удзелу ў грамадзянскай вайне..., але і грунтоўныя пазнанні ў тэорыі і прыктыцы літаратурнага майстэрства, набытыя ў літаратурна-мастацкім інстытуце пад кіраўніцтвам Брусава". Як характэрную рысу творчасці Стральцоў адзначаў у Дубоўкі смелае асэнсаванне рэчаіснасці, а таксама маладое, задзірыстае жаданне "штурмаваць будучыні аванпосты" (ён нават назваў так сваю паэму!) і "праменнем пярэстым крышталіць"... Пазнейшыя іпастасі паэта, у тым ліку добрага, сівабародага дзіцячага казачніка ("чарадзея") і перакладчыка, таксама могуць быць прадметам літаратурнага гонару беларусаў.

Мне падабаецца творчасць Дубоўкі 20-х гадоў — ягоныя маленькія паэтычныя зборнікі "Строма", "Трысцё", "Credo", "Наля", проста і лаканічна аформленыя ў духу сваёй мадэрнісцкай, індустрыяльна-разбуральнай і "бурапеннай" эпохі. Я трымаю іх у руках: гербарныя матылькі, пашкоджаныя бібліятэчнай інвентарызацыяй і бясконцай перашыфроўкай... Лепшыя ці найбольш ілюстрацыйныя, прыдатныя для літаратуразнаўчай работы вершы ўвайшлі ў пазнейшыя, больш "важкія" кнігі паэта 50 – 70-х гадоў. З інакшым ужо правапісам, зыначанымі радкамі і, наогул, з іншымі правіламі "літаратурна-жыццёвай граматыкі" (для пісьменніка яны часцяком супадаюць з правіламі фізічнага існавання — так ужо склалася ў свеце, і, о, якая гэта даўняя, даўняя гісторыя!..).

У шэрым, ганебна шэрым для такога "рознакаляровага", па-народнаму "пярэстага" паэта, як У. Дубоўка, афармленні; у гэтым акадэмічна прыгладжаным і быццам надушаным "Чырвонай Масквой" двухтомніку яго выбраных твораў, што выйшаў у 60-я гады, чытачы прачыталі адразу два варыянты аднаго і таго ж верша. Так, некалі ў 20-я гады, у зборніку "Credo" Дубоўка надрукаваў такія паэтычныя радкі:

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*чарнобылем не зарасцеш.*

*Пялёсткамі тваімі стану,*
*на дзіды сэрца накалю...*

(1925)

Пазней праз гэтыя радкі, пакінутыя там, у чорнай, тлустай глебе даваенных рэпрэсій, прараслі зусім новыя — бадзёрыя і гладкія, як сляпыя зялёныя парасткі вясной, упэўненыя, што жыццё пачалося менавіта з іх:

*О, Беларусь, лясная ружа,*
*залёны ліст, чырвоны цвет!*
*Да камунізма крокам мужным*
*ты пракладаеш вечны след.*

. . .      . .

*Пялёсткамі тваімі станем,*
*каб вечна красавала ты...*

(1958)

Па-сапраўднаму гэты незвычайны верш-*палімпсест* прачытаўся толькі ў 1986-м годзе, калі ў Еўропе (глянеш на карту – сціскаецца сэрца: пярэсты букет дзяржаў!..) здарылася Чарнобыльская катастрофа, якая выпаліла сваім нябачным агнём — радыяцыяй — найперш значную частку тэрыторыі Беларусі і закранула пытанне аб яе будучыні ўвогуле. Тады многія, многія людзі, і не толькі пісьменнікі, згадвалі ў сваіх публікацыях і зваротах, а таксама ў прыватных размовах той, першапачатковы тэкст Дубоўкавага верша: "...чарнобылем не зарасцеш!" І сапраўды, Уладзімір Дубоўка — гэта Жылка Усходу, як вызначыў яго калісьці Светазар Я. у 20-я гады, назваўшы так свой артыкул у "Беларускім слове".

Дарэчы, гэта знакамітая страфа Дубоўкі згадваецца і ў нашы 90-я гады. Праўда, часцей ужо ў сувязі з іншым — драматычна пераменлівымі колерамі нашай дзяржаўнай сімволікі ў XX стагоддзі: то чырвоны, то чырвоны з зялёным, то спрадвечны белы з чырвоным, то зноў зелень і чырвань... Анатоль Вялюгін у артыкуле "Гуслі на шыпшыне" (1975 г.), згадваючы Дубоўкавы вобраз шыпшыны ("зялёны ліст, чырвоны цвет"), пісаў: "...Сёння для нас, для моладзі рэспублікі — гэта колер нашага сцяга і жыцця, калёры нашага шчасця і славы". Але сучасная моладзь, якая напачатку 90-х гадоў зведала ўжо смак іншага жыцця пад бел-чырвона-белым сцягам, ужо не ўяўляе ці не хоча ўяўляць сваю краіну дзікай лясной ружай, шыпшынай, бо гэты вобраз асацыіруецца ў яе з правінцыйнасцю, другаснасцю, сентыментальнасцю — наогул, з запаволеным рухам па дарозе да здабыткаў цывілізацыі. Гэтыя "пярэстыя букеты", складзеныя насуперак сусветным правілам геральдычнай навукі (або мастацтва), — не для іх.

Магчыма, што ўсё-ткі меў рацыю Л. Дранько-Майсюк, калі пісаў: "Як і кожнаму значнаму паэту, Дубоўку таксама быў дадзены талент прадчування, лірычнага прароцтва". Бо яно, прадчуванне, заўсёды "зыбкае", у паўнаце сваёй заўсёды вагаецца паміж "так" і "не"...

Між іншым, сама творчасць паэта Леаніда Дранько-Майсюка ў нечым важным істотна блізкая творчасці У. Дубоўкі. Іх зближае "кветкавая тэма", якая быццам аплятае лірычныя пачуцці, інтымныя адчуванні герояў. Асабліва ўлюбёная кветка ў абаіх паэтаў — ружа. Дубоў-

ка смела параўноўвае з ёй самыя важныя "экзістэнцыі": "Жыццё маё — ці васілёк, ці ружа"; "Мае песні — як пялёсткі ружы"; "О, Беларусь, мая шыпшына"... Яго лірычны герой, нібы зачараваны, любіць глядзець на тое, як абсыпаюцца кветкавыя пялёсткі; ён бачыць у гэтым сімвал, поўны жыццёвай ісціны:

*І яны [нашы вёсны. – Л. С.]*
*злятаюць так жа,*
*як пялёсткі з кветкі быццам.*
*А калі апошні ляжа,*
*дык і нам пара лажыцца.*

Цікава, што як сам чарадзей з блакітнымі вачыма, так і яго вучань-вандроўнік упэўнены, што ў гэтай "квяцістасці" схаваная спрадвечная існасць. Хіба не ў таемныя сховы "пунсовых кветак" і "пурпуровых ягад" "людзі радасць сваю аддалі", разважаюць лірычныя героі паэтычных кніг У. Дубоўкі і Л. Дранько-Майсюка.

Дарэчы, у абаіх — схільнасць называць свае лірычныя кнігі па-мужчынску скупа і лаканічна (сімвалічна), часта адным словам: "Строма", "Трысцё", "Наля", "Вандроўнік", "Тут" (прыкмета сучаснай еўрапейскасці: калісьці Д. Дэфо патрэбна было паўсотні слоў, каб даць назоў сваёй кнізе пра аднаго неабыякавага да жыцця вандроўніка, а цяпер для гэтага дастаткова аднаго-двух слоў, напрыклад, "Акропаль", "Стомленасць Парыжам"). У пазнейшых назвах сваіх кніг, у асноўным для дзяцей, Дубоўка становіцца больш шчодрым на словы: "Кветкі — сонцавы дзеткі" і іншыя яшчэ даўжэйшыя загалоўкі.

Наогул, пра назвы. Як прыгожа і вызначальна, з якой любоўю названыя многія артыкулы і ўспаміны пра яго! "Поступ жыццялюба" (М. Стральцоў), "Чалавек вялікай душы" (В. Дайліда), "Чарадзейнік з блакітнымі вачыма" (М. Арочка), "Майстар-чараўнік" і "Чарадзей падзей" (М. Федзюковіч)... Янка Брыль у літаратурным партрэце "Асцярожнасць" ("Не падыходзіла яму асцярожнасць") вызначае яго знешнасць: "асілак і прыгажун". Сапраўды, нейкая моцная жыццёвая сіла жывіла гэтага непераможнага антэя беларускай паэзіі. Напэўна, гэта была незвычайна вялікая любоў да зямлі, што яго нарадзіла, — да яе зменлівай, багатай прыроды, шматпакутнага народа, цудадзейнай роднае мовы... Нават адарваны ад яе ў гады нялюдскіх сталінскіх рэпрэсій, Дубоўка, вярнуўшыся, застаўся ў пэўным сэнсе непераможаным — ні целам, ні духам; калі не лічыць тое, што прынята не лічыць. Толькі вельмі хочацца, каб менш было ў паэтаў (усіх часоў і краін!) такіх радкоў, як гэтыя, што напісаў Дубоўка:

*І з кельняй браў размах такі,*
*каб не было і з ёй заганы, –*

дзе "кельня" азначае ганебную, прымусовую і малакваліфікаваную фізічную працу. Не для майстроў яна з яснымі вачыма, якія твораць свет словамі...

І яшчэ адна кветка ў мой "пярэсты букет" знакамітаму Майстру. Калісьці, у 1926-м годзе, паэт сказаў:

*Раз келіх наліты, –*
*жыццё – не віно, –*
*пакуль не дапіты,*
*не ўбачыш ты дно.*

І ён смела паднёс келіх да вуснаў, і піў, піў да дна... ("Шумі, прасцяг, — у нецвярозым шуме/ я нецвярозым такжа стаў даўно./ І кроў мая ў адно з табой пульсуе,/ і вусны п'юць спрадвечнасці віно...")

Цікава, што ў Максіма Багдановіча ёсць адзін невялікі малацытуемы верш, з назвай якога супадае назва адной паэтычнай кніжкі У. Дубоўкі, — "Credo" (і таксама старажытнай лацінай!):

*Ёсць адна толькі мудрасць жыцця*
*яе я шаную;*
*Вось што кажа яна:*
*Калі хочаш праўдзіва ты жыць,*
*дык пей чару любую,*
*Але толькі да дна.*

У. Дубоўка сваю "чару" выпіў сумленна, да дна. Што́ ён убачыў там, "на дне", якую ісціну, мы, на жаль, ужо ніколі не даведаемся...

На заканчэнне хочацца яшчэ раз падкрэсліць *народнасць* творчасці Дубоўкі. Бывае, што яго вершы ці асобныя строфы нагадваюць маляваныя дыванкі — прызнаныя ў нашы дні (асабліва пасля адкрыцця такіх імёнаў, як Алена Кіш) за творы народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тыповая гама колераў, шчодрасць алейных мазкоў па суровым палатне часу, рытмічная кампазіцыя, кранальная ўвага да дробязяў, прыветная, чалавечая пачуццёвасць (а дзесьці і мілая недасканаласць). Напрыклад:

*Пурпуровасць*
*з ліловасцю*
*вечар саткаў,*
*размашыста*
*кінуў сусвету.*
*Яе разняслі*
*ў залатых капытах*
*пад ветлымі хатамі*
*ветры.*

Вось такога Дубоўку я люблю...

P.S. Толькі дзве цытаты — як празрыстая, хрумсткая абгортка для "Пярэстага букета". Адна — з тае эпохі 20-х гадоў: "Аўтарытэтныя людзі сцвярджаюць, што прыблізна праз пяцьдзесят гадоў лірыку выжыве плакат. Дубоўка будзе тагды пісаць плакаты" (Ю. Бярозка, "Узвышша", 1928 г.). І — сучасны літаратурны момант: "У сённяшнім свеце людзі спяшаюцца жыць: увесь час кудысьці едуць або абнаўляюць сістэму рэчаў свайго жытла. Людзі жывуць на хаду, і таму маляваная інфармацыя мае больш шанцаў быць прачытанай, чым укладзеная ў літары. <...> Дарэчы, мы і сёння дорым адзін аднаму, напрыклад, кветкі з тым або іншым падтэкстам" (Ю. Барысевіч, "ЗНО", 1995 г.).

Людка СІЛЬНОВА





# СВАЯЦТВА ПОСТАЦЯЎ

Ён нарадзіўся "там, дзе азёры", жыў "там, дзе кіпарысы", але найбольш — "там, дзе машкара і ўсялякі гнюс..."

Усё жыццё Яму бракавала азёрнай лагоды і чысціні.

З дзяцінства адкрылася абачлівая мудрасць: у радасці схаваная не сама радасць, а горкія слёзы. І наадварот. З тым і бытаваў усе свае семдзесят шэсць гадоў.

Ніколі не наракаў, бо ведаў – наракаць няма на што і няма на каго. Наракаць на лёс паэту не выпадае, а наракаць на людзей — зусім пустое, бо людзі, завучыўшы на памяць евангельскія запаветы, іх ніколі не выконваюць.

Свае літаратурныя дні пачынаў лірыкам, а скончыў дзіцячым казачнікам; пачынаў эстэтычна, спавядаючы дастаткова модны напачатку 20-х гг. імажынізм, а завяршаў вершаванае разгарненне этычна — шчыра і настойліва апавядаў дзецям пра дабро і зло.

Неаднойчы пісьмова і вусна сведчыў пра сваю любоў да паэзіі Янкі Купалы, але чытаў пераважна Байрана і Шэкспіра.

Сваім жыццём і творчасцю даводзіў, што хараство аднаўляецца пяшчотаю, і такім цудоўным парадкам, сам таго не заўважыўшы, вынайшаў самы надзейны спосаб аднаўлення хараства.

Ён — першы з нашых паэтаў, які навукова ўсвядоміў, што Беларусь — краіна вербальная, краіна слоў, таму Ягоныя артыкулы пра мову і цяпер гучаць, як паэмы.

Яго неверагодная фізічная цярплівасць была тоесная Яго таленту, аднак, на жаль, талент не заўсёды быў тоесны цярплівасці, таму ў гэтай спадчынна-звыклай для нас неадпаведнасці нябеснага зямному Ён — абсалютна беларускі паэт.

А самае відавочнае тое, што Ён духоўны брат свайму персанажу з кнігі "Пялёсткі" — разьбяру Януку Біюцкаму, бо, як і Янук, таксама вызваляў "... хараство з-пад грубай абалонкі. І надарваўся ад такога непасільнага цяжару". Янук Біюцкі вызваляў хараство чужымі рукамі, Ён — чуйнай душой. Вынік жа атрымаўся аднолькава драматычны — "... вялікі мастак так і сышоў са свету, не сказаўшы таго, што мог сказаць сваімі творамі..."

Тут варта ўдакладніць і нагадаць вядомае: Ён паспеў *сказаць*, але Яму не далі дагаварыць, таму на працягу дваццаці сямі гадоў Ён, грамадзянін вербальнай краіны, ствараў бясконцую кнігу маўчання.

Ён зведаў спадзістыя, а найперш — стромыя схілы галгофы. Тым не менш, выніковаму жыццяпісу даў замілаваную назву "Сярод людзей добрых". Аднак назва назваю. Пра яе забываеш, пачуўшы пачатковую ноту невыпадковага адмаўлення: "Прарок Майсей не даводзіўся мне раднёй ні па бацькавай, ні па матчынай лініі..."

Крэўнага сваяцтва з прарокам не было, але пэўна, што было сваяцтва постацяў!

Яму, песняру палыновага краю, было наканавана выводзіць бяспамятных з палону абыякавасці і не сорак, а значна болей гадоў блукаць разам з імі па беларускай пустэльні...

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК
18 сакавіка 1997

# ЁН БЫЎ ПРЫГОЖЫМ ЧАЛАВЕКАМ...

Калі ён адчыніў дзверы, велізарная палата, дзе нас, "прадстаўнікоў" розных народаў — ад беларуса да самалійца — ляжала ажно шаснаццаць чалавек і дзе быў вечны вэрхал, ледзь не анямела...

У палату ўваходзіў высокі, ужо немалады, але велічна-прыгожы — адна барада чаго была вартая! — крыху разгублены ад такога відовішча, але з нейкай рэдкай даверліва-прыязнай усмешкай, нейкі на дзіва зваблівапросты і адначасна відавочна нестандартны чалавек. У руках у яго быў вялізны цэлафанавы мяшок з вабнапахучымі апельсінамі і невялічкая штучная ёлачка...

Было гэта 31 снежня 1968 года ў Маскве, у Расійскім інстытуце туберкулёзу, дзе мне пасля чатырох няўдалых, зробленых у роднай Беларусі, зрабілі, нарэшце, пятую, уратавальную аперацыю на пазваночніку.

Прайшоў ён праз усю палату да мяне. Моўчкі пачаў гладзіць па галаве. Я ж не тое, што ўстаць, але нават павярнуцца не мог — трэці месяц ляжаў на жываце. Да канца дзён маіх буду помніць, як ён далікатна гладзіў мяне і шаптаў: "Патрывай... Як толькі можаш, трымайся..." І тыя гарачыя, гаючыя ягоныя слёзы на маёй патыліцы...

... Што ён, Уладзімір Мікалаевіч, які хоць і жыў далёка ад нас, але якога так любілі многія з нашага пакалення, быў за чалавек, сведчыць вельмі яскрава і такі вось "прыватны" факт.

Калі яго гналі чарговым этапам, недзе перад Волгай малая дзяўчынка вынесла засмяглым гаротнікам вядро свежае вады і напаіла яго і тых, каго паспела. І вось недзе праз дзесяць гадоў, калі яго выпусцілі, ён накупляў гасцінцаў і паехаў шукаць тую дзяўчынку.

І трэба ж было атрымаць яшчэ і такі ўдар лёсу — за нейкі тыдзень да яго прыезду дзяўчынка... патанула ў Волзе.

Як жа ён горка і шчыра плакаў праз дваццаць гадоў, седзячы за сваім гасцінным сталом побач з намі, ягонымі нечаканымі гасцямі з Мінску, тагачаснымі аспірантамі Іванам Саламевічам, Вячаславам Рагойшам, Лёнем Акаловічам і мной, грэшным, якія ў сакавіку 1967 года прыехалі ў Ленінскую бібліятэку ў Маскву.

Пасядзеўшы колькі дзён у гэтым сапраўдным кніжным храме, мы паехалі ў не менш тады нам святое месца — у Новыя Чаромушкі, дзе жыў Чалавек, якога мы рэдка бачылі, але якога ўсе так любілі...

Не ведаю, што ён адчуваў, мілы наш Уладзімір Мікалаевіч, калі адчыніў дзверы сваёй кватэркі і ўбачыў ажно чатырох, хай сабе і не надта падобных на "нкусаўцаў", маладых хлопцаў. На твары была ... разгубленасць. Але як толькі пачуў беларускую мову — развёў шырока рукі і ледзь не з крыкам радасці запрасіў: "Заходзьце, хлопчыкі!.."

І хлопчыкі сядзелі ў яго за сталом з 12-ці гадзін ажно да позняга вечара. Яго любая, мілая жонка Марыля Пятроўна таксама гэтак жа шчыра радавалася нам. Была яна, аднак, такая хворая, што не магла падняцца нас пачаставаць і толькі ціхенька ўсё прасіла нас: "Хлопчыкі, не налівайце яму многа..." Ён жа шаптаў: "Налівайце, хлопчыкі..."

Колькі ж ён нам тады ўсяго панарасказваў, як умеў слухаць. Як жа нам усім было хораша!.. На ўсё жыццё — адзін з самых светлых успамінаў.

І яму яна, тая сустрэча, відаць, запомнілася — інакш хіба прыйшоў бы ён праз два гады ў той перадснавагодні дзень адыходзячага 1968 года ў тую бальніцу, як толькі даведаўся неяк, што я там ляжу...

Больш нам з Уладзімірам Мікалаевічам сустрэцца не давялося... Але ж тады засталася са мной тая ёлачка і... адзіная па тым часе беларуская кніга — "Жоўтая акацыя" з ягоным аўтографам: "Сардэчна паважанаму земляку Генадзю Шупеньку — з пажаданнем хутчэйшага выздараўлення і з Навагоднім (1968) павіншаваннем". Яна ж мне была як глыток роднага паветра ў тагачаснай маёй духоўнай атмасферы!..

Хай даруецца ўжо мне такі даўгаваты "запеў" на старонках сапраўды інтэлектуальнага часопіса. Але ж няма Паэта без Чалавека. Да канца дзён маіх не перастану дзівіцца — як гэта мой незайздросны лёс паслаў мне такіх людзей? Максім Танк. Іван Мележ. Юльян Пшыркоў і Міхась Ларчанка. Уладзімір Караткевіч і Міхась Стральцоў. Вера Палтаран і Варлен Бечык...

Якое ж зусім іншае было б наша ўсеагульнае, народнае, нацыянальнае жыццё, калі б іх, такіх, было сярод нас хоць крышачку больш!..

"Гм-гм!.." — гмыкне іншы наш сучасны "апостал". Наткнуўся ж я толькі што, перачытваючы кнігі Дубоўкі, на "каментар" аднаго з такіх найвялікшых нашых "рупліўцаў" на старонках аднаго з бібліятэчных томікаў: "Прымітыў, наіў..., савецкая ідылія..., савецка-партызанскі сіроп... савецкая лухта..."

Як тут не прыгадаць даўняе, сказанае ажно ў 1925 годзе:

*...Дзесь далёка галосіць сава,*
*небакрай апрануўся жалем.*
*Людзі любяць душу прасаваць,*
*калі гэта душа чужая...*

Амаль усё жыццё пражыў за межамі Беларусі, чвэрць веку ўвогуле нічога не пісаў — і да канца дзён сваіх паэт захаваў дзівосную чуласць да роднага слова...

На яго словы пісалі песні такія глыбінна-самабытныя кампазітары, як М. Равенскі, Л. Абеліёвіч, А. Багатыроў.

Пра яго з захапленнем пісалі Р. Бярозкін, В. Бечык, П. Глебка, В. Вітка, А. Вялюгін, М. Стральцоў... Сутнасць усіх іхніх ацэнак можна сцісла звесці да таго, што сказана ў загалоўках двух артыкулаў "Пясняр высокіх дум і глыбокіх пачуццяў" і "Пясняр красы і прыгажосці", напісаных сумесна Ю. Пшырковым і А. Лойкам...

І ўсё ж!.. Ужо дваццаць гадоў прайшло, як ён назусім пайшоў ад нас. І за гэтыя дваццаць гадоў не выйшла ніводнае яго кнігі для "дарослага" чытача. Здаецца, толькі мы на белым свеце можам быць такімі!..

Апошнім часам не пакідае мяне пачуццё і сваёй віны перад яго светлай памяццю.

Гадоў колькі назад маё роднае выдавецтва запланавала ажно чатыры тамы збору твораў У. Дубоўкі. Як мне здаецца цяпер, зроблена гэта пэўнымі нашымі "рупліўцамі" дзеля таго толькі, каб прыкрыць гэтым свае пяцітомнікі, шасцітомнікі. Не так даўно за год выйшла ажно дванаццаць тамоў пераважна жывых "змагароў", якія проста прыдушылі выдавецтва... Выпуск жа кніг такіх аўтараў, як У. Дубоўка, пакуль што... у перспектыве. А такі "грандыёзны" план не даў мне, тады яшчэ загадчыку рэдакцыі, якая выдавала нашу спадчыну, выпусціць у свет невялікі томік, складзены ў канцы жыцця самім Уладзімірам Мікалаевічам і падрыхтаваны да выдання Янкам Саламевічам...

І ўсё ж, што не ўсе мы бяспамятныя, няўдзячныя і абыякавыя, сведчыць хоць бы той жа леташні ліпеньскі плэнэр-семінар "Даўжанскія вечары", прысвечаны памяці Уладзіміра Дубоўкі, арганізаваны вялікімі намаганнямі яго земляка, маладога паэта з горада Паставы Ігара Пракаповіча.

Некаторым нашым "вядучым" паэтам не было часу паехаць на чытанне твораў Дубоўкі "ў сяброўскай бяседзе" аж ... у Пастаўскі раён... І ўсё ж прыехалі Ул. Арлоў і В. Аксак, Я. Лецка, М. Кенька, Я. Малец і я, грэшны. А колькі ж пісьменнікаў было з Пастаўшчыны, Глыбоччыны, Полаччыны. Колькі ж незабыўных уражанняў засталося ў сэрцы, якая жыццядайная была тая паездка. Як жа любяць яго землякі!..

Будем жа спадзявацца, што вартае слова пра яго будзе сказана яшчэ і ў будучыні...

Але што ж, маўляў, вы будзеце казаць пра тое, што сваю кніжачку, выдадзеную ў серыі "Бібліятэка беларускай паэзіі" ў 1970 годзе, ён пачынаў такімі цяпер адыёзнымі радкамі:

*О, Беларусь, лясная ружа,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*Да камунізма крокам мужным,*
*Ты пракладаеш вечны след.*

А завяршаў сваё "літанне" для сённяшняга дня ўжо зусім нечым "страшным":

*Толькі наперад і толькі няспынна*
*Пойдзе Савецкая наша Айчына,*
*перамагаючы злыя напасці*
*Да Камунізма; да светлага шчасця!*

Сапраўды. Што гэта такое? Прыстасавальніцтва? А што калі шчырая вера, нягледзячы ні на што? І хіба ідэалізм — самы страшны чалавечы грэх?.. Не кажу ўжо пра тое, што ў нашых сучасных самазваных Вярхоўных Суддзяў такіх воклічаў намнога больш.

Ды калі б Уладзімір Дубоўка пакінуў пасля сябе толькі раннія пераклады вершаў Байрана (1922 г.) і "Санеты" Шэкспіра (1964 г.), і то навекі застаўся б у нашай Літаратуры.

А закончыць сваю гаворку дазволю ўрывачкам з XXXII санета Шэкспіра, пастаўленага Дубоўкам да тае кніжачкі эпіграфам:

*... Скажы ўсім ім: "Калі б мой друг не згас*
*І за жыццё пазнаў бы ліха меней,*
*Не горш бы ён тварыў за многіх з вас,*
*Не горшы быў бы ў вашым пакаленні..."*

І ўжо зусім пад канец — урывак з "Дактылічных рытмаў" (1966):

*Я не бываў дармажэрцам ніколі,*
*ані ў зняволенні, ані на волі...*
*... Што мяне ў гэтых паходах вадзіла,*
*што мне давала нязломную сілу? —*

*Вера ў праўду, у шчасце людское,*
*несакрушальная вера у тое,*
*што і у нашай бязмежнай старонцы*
*сонца засвеціць усё ж ткі ў аконцы...*

Трохкроп'е, ягонае, аўтарскае.

На ім і закончу...

Генадзь ШУПЕНЬКА

# МОВАДБАЎЦА І МОВАЗНАЎЦА

У часопісе "Узвышша" (1927, № 1) змешчаны тэзісы пра ўтварэнне аднайменнага творчага аб'яднання пісьменнікаў. Адзін з тэзісаў, вызначаючы комплекс патрабаванняў, якія павінны забяспечыць "магчымасць утварэння ўзвышша беларускай мастацкай літаратуры", на першае месца ставіць культуру беларускае мовы. І гэтыя словы адразу падмацоўваліся справай: у часопісе была ўведзена адпаведная рубрыка "Культура мовы". Актыўна ўдзельнічалі ў ёй сябры-заснавальнікі пісьменніцкай суполкі Уладзімір Дубоўка і Кузьма Чорны.

У канцы 20-х гадоў У. Дубоўка апублікаваў у часопісе "Узвышша" некалькі артыкулаў, прысвечаных мове. Гэта быў канкрэтны ўклад пісьменніка ў вырашэнне сфармуляванай ім задачы "ўзвышэння культуры мовы як аднэй з перадумоў належнага развіцця культуры наогул".

Перш за ўсё У. Дубоўка звярнуў увагу грамадскасці на праблемы беларускай лексікалогіі, якая на той час, паводле слоў паэта, знаходзілася "ў першабытным стане. Яна яшчэ не сканцэнтравала на сабе грамадскай думкі". Гэта (і папярэдняя) цытата — з артыкула "Пра нашу літаратурную мову (Думкі і нататкі)", у якім У. Дубоўка дзеліцца "сваімі наглядannямі над развіццём нашага літаратурнага слоўніка"[1].

Аўтар названага артыкула канстатуе, што ў друку сустракаецца шмат памылак пры ўжыванні слова. Ён прыводзіць (з вершаванага твора Анатоля Вольнага) недакладныя радкі, асобныя няўдалыя словаўжыванні і дае да іх свой каментар. Тлумачыць моўныя хібы, абапіраючыся на разуменне лексічных нормаў беларускай мовы, з улікам стылістычнай дыферэнцыяцыі лексікі, а таксама мастацкай задачы стварэння вобраза. У прыватнасці, У. Дубоўка звяртае ўвагу на слова *травы* ("Вецер травы на долу хіліў..."): "Слова "трава" заключае ў сабе паняцце мнагасці. Дзеля гэтага, выражаючы паняцце зборнае, — ужываецца ў народнай і літаратурнай мове падначаленае формам адзіночнага ліку. Слова "травы" пачало ўжывацца ў сельскагаспадарчай навуцы дзеля спецыфічных патрэб. У даным выпадку — патрэбы ніякай не было і ўжытае Ан. Вольным паказвае на незнаёмства яго з народнай мовай".

Адзначае У. Дубоўка ў творы Анатоля Вольнага і русізмы: *лунныя (лапы), уцёс* і падкрэслівае, што слоў *лунны, луна* ў беларускай мове няма, а слова *ўцёс* "нашы старэйшыя літаратары ўнікаюць ужываць", "уважаючы лепшым адменнікам слова "скала".

Паказваючы недарэчнасць "лунных лап" у беларускай мове, У. Дубоўка ўдакладняе сваю пазіцыю: *"Я не праціўнік, а прыхільнік запазычанняў з суседніх моваў,* але толькі ў тым выпадку, калі гэта вымагаецца неабходнасцю". Гэтая думка дапаўняецца і канкрэ-

тызуецца ў іншым артыкуле: “Мы не павінны, бо гэта не мэтазгодна, замяняць беларускімі словамі тыя іншакраёвыя словы, якія нельга перадаць дакладна нашымі словамі. Так, напрыклад, у дзеякім “слоўніку” *гібрыд і гермафрадыт* аб'яднаны адным словам *мяшанец*. Зразумела, што гэта поўная недарэчнасць, выкліканая непісьменнасцю складальнікаў слоўніка. У такім разе трэ' пакінуць іншакраёвыя тэрміны ці больш уважліва пашукаць ідэнтычныя адменнікі ў беларускай мове”[2].

Маючы на ўвазе, што беларуская мова папаўняецца і будзе папаўняцца новымі словамі, У. Дубоўка распрацоўвае “асновы развіцця мовы”. У адпаведнасці з імі, у літаратурную мову ўводзяцца словы, пашыраныя на ўсім этнаграфічным абшары (як прыклад разглядаецца слова *дойлід*). Мясцовыя ж словы (“паветалізмы”) можна ўводзіць у літаратурную мову, калі яны: а) пашыраны на значнай частцы беларускага этнаграфічнага абшару; б) могуць ці выразіць паняцце, на якое няма адпаведнага слова ў літаратурнай мове, ці ўзбагаціць гэтае паняцце новым адценнем; в) маюць сувязь у гучанні і пабудове з рэштай слоў”[3]. У. Дубоўка вылучае і яшчэ групы слоў (словы рамесніцкія і навуковыя, словы старыя, наватворы), якія пры пэўных варунках могуць ужывацца ў літаратурнай мове.

У. Дубоўка зазначае, што ад самага пачатку літаратурнай дзейнасці ён, раней падсвядома, пачаў кіравацца пры ўжыванні тых ці іншых слоў гэтымі асновамі. І далей піша: “Некаторыя ўведзеныя мною з жывой народнай мовы словы, — *уведзеныя, а не створаныя штучна*, бо штучна я не стварыў бадай ніводнага слова, — набылі гэтыя самыя правы грамадзянства”[4].

Беларускія лінгвісты, высока ацэньваючы дзейнасць У. Дубоўкі ў справе ўзбагачэння літаратурнай мовы, яго “цвярозы падыход да вырашэння пытання аб так званых правінцыялізмах”, кваліфікуюць як створаныя У. Дубоўкам словы *адлюстроўваць, мілагучны, мэтазгодны, дабрабыт, ажыццяўленне, цемрашал*[5].

У. Дубоўка надаваў вялікае значэнне такой уласцівасці мовы, як мілагучнасць. Прааналізаваўшы многія з'явы і факты жывой народнай мовы і фальклору, ён выявіў тыя выпадкі ў мове, у прыватнасці стыкі слоў, дзе беларуская мова дае мажлівасць пазбягаць нязручных у вымаўленні збегаў зычных або галосных гукаў, павысіць мілагучнасць[6]. Пісьменнік робіць выснову адносна сродкаў, якімі дасягаецца прыгожае гучанне мовы: “Трэба раз назаўсёды ўстанавіць адно: прыстаўныя галосныя, прыдыханні, падвойныя формы некаторых склонавых канчаткаў (напр., канчаткі прыметнікаў роднага склону жаночага роду ў адзіночным ліку – “ае”, “ай”...) з'яўляюцца ў народнай мове не выпадкова, а дзеля мэты ўхілення немілагучных гуказлучэнняў”.

Разгортваючы гэтае сцверджанне, У. Дубоўка фармулюе практычныя правілы ўжывання некаторых склонавых канчаткаў, прыназоўніка *у*, прыстаўных гукаў *в*, *і*, прыдыханняў *й*, *в* і інш.

Слушнасць Дубоўкавых пошукаў пацвердзіў час. Заўважаныя ім асаблівасці беларускай мовы адлюстраваны часткова ў падручніках, у слоўніках. Пытанні мілагучнасці мовы ўсё часцей трапляюць у поле зроку пісьменнікаў, крытыкаў, мовазнаўцаў.

У 20-я гады актуальнай была задача далучэння шырокіх працоўных мас нашай краіны да свядомага культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. Вядома, вырашыць яе было немагчыма без ліквідацыі непісьменнасці, без ахопу насельніцтва рознымі формамі навучання. У сувязі з гэтым паўстала пытанне выбару аптымальных алфавітаў.

У часопісе “Узвышша” надрукаваны тры тэматычна звязаныя артыкулы У. Дубоўкі. Яны прысвечаны праблемам стварэння міжнароднага “альфабэту” і дасканалення беларускай графікі.

Зразумела, сённяшні чытач лёгка заўважыць некаторыя меркаванні, ацэнкі, што засталіся ў тым часе, калі артыкулы пісаліся. Гэта датычыць як палітычных поглядаў аўтара, так і яго навуковых уяўленняў і арыентацый.

Мары-лятункі пра “Камуну Свету” стымулявалі працу дзеля хутчэйшага набліжэння жаданай будучыні. Як адну з многіх задач на шляху “поўнага вызвалення чалавецтва з-пад прыгону аджылых форм бытавога і грамадскага ўкладу” У. Дубоўка разглядаў “утварэнне універсальнага, інтэрнацыянальнага альфабэту”.

Важна, аднак, тое, што, захапіўшыся глабальнай задумай “Кастрычнікавага” алфавіту, якая падагравалася агульнай сацыяльна-палітычнай атмасферай, уздзеяннем “некаторых сучасных тэорый выдатных навуковых працаўнікоў, рэвалюцыянераў навуковае думкі” (М. Мара, М. Марозава. — *А.К.*), паэт-мовазнаўца найперш заставаўся грамадзянінам Беларусі. І канкрэтныя прапановы, з якімі ён выступаў, былі скіраваныя на ўмацаванне пазіцый беларускай мовы ў грамадстве, на павышэнне яе культуры.

Падтрымліваючы ідэю стварэння сучаснага універсальнага алфавіту, выказваючы свае меркаванні на гэты конт, У. Дубоўка зыходзіў з таго, што “такі алфавіт не заслоніць асаблівасцей паасобных народаў”.

У рэфарматарскім запале У. Дубоўка не адрываўся ад зямлі. Роднай зямлі. На яго думку, час, у які мае ісці праца над універсальным алфавітам, трэба скарыстаць на тое, каб “упарадкаваць свой сённяшні альфабэт, правесці ў ім самую неадкладную рэформу”.

Адзначыўшы, што “ў нас няма некаторых патрэбных літар, у нас ёсць некаторыя дрэнныя з навуковага пункту погляду літары”, У. Дубоўка прапаноўвае: “Зараз жа правесці самыя неадкладныя дапаўненні альфабэту, а менавіта — у дачыненні да згукаў “дз” і “дж”.

Паводле У. Дубоўкі, неабходнасць увядзення адмысловых літараў для гукаў *дз* і *дж* выклікаецца “эканоміяй” (“Неразумна друкаваць дзве, ці нават тры, літары там, дзе можна абысціся аднэй”), а таксама “школьным выкладаннем і вымовaю”, асабліва цяпер у сувязі з беларусізацыяй.

Прааналізаваўшы розныя славянскія і неславянскія алфавіты, У. Дубоўка распрацаваў праект літар для афрыкатаў *дз, дж*. Адлітыя спецыяльна літары былі выкарыстаны пры друкаванні асобных тэкстаў у часопісе “Узвышша”, у прыватнасці артыкулаў “Беларускі згук „ջ“ і літара „Зело“, “Лацініка ці кірыліца”.

Што да пытання: лацінку ці кірыліцу ўжываць у беларускай мове, дык тут У. Дубоўка заняў, так бы сказаць, дыялектычную пазіцыю. На цяперашнім этапе функцыянавання беларускай мовы лепш карыстацца кірыліцай, а вось пры стварэнні універсальнага алфавіту прыдасца лацінка, якая ўсё болей пашыраецца сярод народаў свету.

Пры канцы 20-х гадоў, пасля публікацыі артыкулаў У. Дубоўкі, з'явіўся ў друку іх крытычны разгляд[7]. Прафесар П. Бузук падкрэсліў, што іх аўтар выявіў “эрудыцыю даволі сур'ёзную для пісьменніка”. Разам з тым ён выказаў нязгоду з некаторымі сцверджаннямі, у прыватнасці наконт аўтарства першых славянскіх азбук – глаголіцы і кірыліцы, характарыстыкі асобных гукаў *(дз)*, адзначыў графічныя хібы ў літарах на абазначэнне гукаў *дз, дж*, не прыняў прапановы У. Дубоўкі, каб у новым, універсальным алфавіце не было вялікай літары.

Мовазнаўца заўважыў пэўную запалітызаванасць аргументацыі: “На карысць сваіх праектаў т. Дубоўка павёў, праўда, шырокую агітацыю. Літара для *дж* нагадвае злучэнне сярпа і молата, літара ж для *дз* з'яўляецца сымбалем еднасці нашай з іншымі народамі СССР — грузінскім і азербайджанскім, але на гэта можна адказаць, што ёсць у нас лепшыя шляхі для яднання, чымсі кавалкі літараў...”[8].

Пэўна ж, можна шукаць лепшых літараў ці дасканаліць абрысы прапанаваных. Зрэшты, і гэтыя, Дубоўкавы, лёгка, хутка засвойваюцца ў друкаваным тэксце, бо гукавае значэнне іх “падказваецца” суседнімі ў слове літарамі, усім абліччам слова.

Так, рэвалюцыйная філасофія праектаў У. Дубоўкі сёння дзесьці далёка ў мінулым, а канкрэтныя захады, якія ён рабіў дзеля росквіту нашай мовы, не страцілі вартасці і чакаюць свайго працягу. Зусім відавочна, што прыняцце асобных літараў на гукі *дз, дж* дапамагло б захаванню і замацаванню апошніх у беларускай мове, а гэта ў канчатковым выніку паспрыяла б павышэнню культуры мовы.

Алесь КАЎРУС

---

[1] Узвышша. 1927 № 2. С. 167

[2] Дубоўка У Праект літар для згукаў “дз” і “дж” //Узвышша. 1928. № 4. С. 164.

[3] Дубоўка У. Пра нашу літаратурную мову /думкі і нататкі/ //Узвышша. 1927. № 2. С. 172—173.

[4] Дубоўка У Пра нашу літаратурную мову /думкі і нататкі/ С. 174.

[5] Крамко І.І., Юрэвіч А.К., Яновіч А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т 2. Мн., 1968. С. 241—242.

[6] Дубоўка У Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашае мовы //Узвышша. 1927 № 4. С. 88—93.

[7] Проф. П. Бузук. “Культура мовы” ў “Ўзвышшы” //Маладняк. 1929. N 5—6. С. 111—116.

[8] Проф. П. Бузук. “Культура мовы” ў “Ўзвышшы” //Маладняк. 1929. № 5—6. С. 115.



# Я ПЫТАЮСЯ Ў НАЛІ...

Наля? — пытаюся я...

Наля! — я звяртаюся...

Наля. — Задумваюся...

Я вінюся, я прашу даравання. Бо яшчэ ўчора літаральна не атаясамляў назву кнігі (“Наля”) з асабовым жаночым імем. Не атаясамляў па недасведчанасці, па прычыне недастатковага, мабыць, ведання паэтычнай спадчыны Уладзіміра Дубоўкі. Апошняе, прызнацца, вытлумачваю для сябе тым, што ён не мог быць для мяне проста аб'ектам мастацкай цікаўнасці, што я не столькі цікавіўся напісаным ім за нейкія дзесяць гадоў маладога, вольнага жыцця (”Яно адзінае і мэта яго адзіная — жыць, жыць і жыць...” — гаварылася пра паэзію Дубоўкі на першым з'ездзе “Маладняка”), колькі з горыччу задумваўся: колькі б ён, з яго магутным талентам, мог напісаць за наступныя трыццаць гадоў, калі б яны не сталі гадамі блукання па пакутах, нявольніцкага, рабскага існавання.

Словам, яшчэ ўчора я быў у няведанні. Наконт жанчыны, імя якой стала назвай паэтычнай кнігі. Ды вось загаварылі мы з Максімам Лужаніным пра яго літаратурную маладосць, пра абставіны ўтварэння і лёс творчых аб'яднанняў “Маладняк” і “Узвышша”, пра іх стваральнікаў і, у прыватнасці, пра Уладзіміра Дубоўку (Аляксандар Амвросьевіч не раз, я чуў, яго цёпла згадваў).

— Уладзік (так называлі яго ўсе, акрамя маці: яна звала Валодзем) вылучаўся і рабіў уражанне шмат чым — і сваёй яўна паэтычнай знешнасцю (яснавокі, статны, натуральны ў абыходжанні), і незвычайнай дасціпнасцю, і манерай чытаць вершы і пераконваць у спрэчках. І яшчэ, мабыць, тым, што на маладнякоўскіх сходах, на першым пленуме і з'ездзе “Маладняка” ён з'яўляўся не адзін...

— Не адзін? З сябрамі?

— З сяброўкай, з Наляй.

— З Наляй? Наля... Чакайце, дык так жа называецца адзін з яго зборнікаў!

— Таму так і называецца, што была Наля...

І тут дзядзька Максім пачынае чытаць добра захаваны ў нетрах памяці верш:

*Я шкадую усё ж ткі сябе*
*і мне сорамна сэрца ганіць.*
*Але ж праўду кажу цяпер:*
*я не верыў, што ёсць каханне.*
*Чуў заўсёды, што гэта жарт,*
*што і ў попеле золата значна.*
*А калі запалае ў душы пажар, —*
*трэба песняй лячыць, не йначай.*
*І пяяў, калі песні былі,*
*як на дзікім камені навальніца.*
*Узрастаў, бы чабор ля раллі...*

— Гэта Дубоўка прысвячаў Налі? — нецярпліва пытаюся я.

— Так. Калі не падводзіць памяць... Помняцца і такія, з іншага яго верша, радкі:

*Ты руку сваю забінтавала,*
*чым я раны сэрца забінтую?*
*Яно рвецца, рвецца на кавалкі*
*за сябе, цябе і за другую.*

Наколькі я ведаю, гэта ўжо была спроба развітацца з Наляй, забыць яе. Чаму і як разышліся, не магу сказаць. Ведаю толькі, што асабістае жыццё яны ўладкоўвалі паасобку, яна ў сваім Магілёве, ён у Маскве.

— А ці помніце, якая яна была? Прыгожая?

— Не сказаць каб прыгожая, але мілавідная, светлая, з выразнымі вельмі вачыма. Насіла, як і ўсе тагачасныя студэнткі, кажушок, квяцістую з чырвоным хусціну, якая называлася чамусьці "тараноўкай"... Дарэчы, вы можаце прачытаць пра яе ў Мальдзісавым біябібліяграфічным слоўніку. Том чацверты, Маркава Наля.

— Маркава? Такое яе было прозвішча?

— Так, дзявочае яе прозвішча. Ім яна падпісвала свае вершы.

Вось дык адкрыццё! Максім Лужанін — увасоблены біябібліяграфічны слоўнік.

Дома здымаю з паліцы названы том слоўніка "Беларускія пісьменнікі" і на старонцы 214-й знаходжу даведку: "Маркава Наля". З хваляваннем чытаю: "Маркава Наля (Анастасія Паўлаўна (у замужжастве Хмара); н. 25. 12. 1906, в. Хатоўня Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.), паэтэса..." Вёска Хатоўня? Сапраўды цесны гэты свет. Быў я не раз у Хатоўні, калі працаваў у рэдакцыі Рагачоўскай газеты. Мог бы і параспытаць пра Насцю Маркаву, калі б ведаў, што тут яна пачынала свой жыццёвы шлях, тут "...выхоўвалася ў рэлігійнай сям'і дзеда, ад якога змалку чула шмат апавяданняў пра розныя страхі і чарадзействы..." Вучылася, працавала, чытаю далей артыкул, "выхавацелем у Магілёўскай дзіцячай камуне, а пасля пераезду ў Ленінград да мужа (1929) — выхавацелем дзіцячага сада пры заводзе "Электрык". У 1934 скончыла Ленінградскі педінстытут. Выкладала рускую мову і літаратуру ў Ваенна-артылерыйскім вучылішчы, загадвала там жа агульнаадукацыйным цыклам. Напярэдадні вайны працавала дырэктарам інтэрната Куйбышаўскага р-на Ленінграда. У гады Вялікай Айчыннай вайны разам з 200 выхаванцамі інтэрната эвакуіравана ў Чалябінскую вобласць. Пасля вяртання адтуль у 1944 працавала дырэктарам школ № 201, 84 і 38-й школы працоўнай моладзі Ленінграда. З 1952 – настаўніца рускай мовы і літаратуры ў школе працоўнай моладзі № 35 Петраградскага р-на. З 1962 — на пенсіі. Узнагароджана медалямі..." Далей ідзе творчая частка біяграфіі, і канчаецца артыкул словамі: "Жыве ў Санкт-Пецярбургу".

Быў у Ленінградзе, быў у Санкт-Пецярбургу, мог бы пацікавіцца, пашукаць, сустрэцца, распытаць. Але, на жаль... Усё тое ж нязведанне, тая ж недасведчанасць.

Ды, дзякуй Богу, хоць і са спазненнем, хоць толькі ў думках я сёння ўсё ж звяртаюся да іх. Звяртаюся то да мілавіднай, светлатварай "маладнякоўкі", аўтаркі вершаў "Сінь васільковая", "У сэрцы аганькі", "Аб кучаравай Беларусі", сяброўкі-каханкі Уладзіміра Дубоўкі Налі Маркавай, то — вобраз раздвойваецца — да сівенькай, згорбленай пад цяжарам гадоў і нялёгкага досведу выхавацельскай ды настаўніцкай працы, з добрым, прытомленым (калісь такім выразным!) позіркам Анастасіі Паўлаўны Хмары. Звяртаюся то да адной, то да другой з адным і тым жа пытаннем: ці запомнілі і ці выканалі вы яго просьбу-запавет: "Скажы ім, Наля, любая мая!.." Ці сказалі, ці казалі *ім*? Катам яго, душыцелям яго слова — натхнёнага, прасякнутага бязмежнай любоўю да роднай Беларусі і пякучай трывогай за яе лёс, яе будучыню. Зрэшты, пытанне гэтае не столькі рэальнае, колькі ўмоўнае. І не зусім, мабыць, па адрасе яно прамоўлена. Таму пытаюся ў іх, Налі і Анастасіі Паўлаўны, крыху інакш:

Ці помніце?

Ці перажывалі за яго, ці суперажывалі з ім у гады яго нявольніцкага жыцця?

Ці даражыце імем і славай яго?

Ці прыходзіў ён раней і ці прыходзіць сёння ён — Уладзік, Уладзімір, Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка — у сны вашы?

І калі прыходзіць, то як, якім? Маладым гарэзай, поўным жыццёвай энергіі і натхнення, ці знясіленым і барадатым?..

Сёлета кнізе "Наля" спаўняецца 70 гадоў.

Летась споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Налі — Анастасіі.

Да Анастасіі Паўлаўны звяртаюся ў думках праз адлегласць.

Да Налі звяртаюся гэтак жа ў часе.

На- а- л- я!..

Анатоль ВЯРЦІНСКІ
Студзень 1997 г



Юрась ПАЦЮПА

У НАС



*Словы навобмацак чуе рука,*
*тонкія літары сыплюцца*
*жытам.*

# ЗАЎСЁДЫ ВОСЕНЬ

## *Да знаёмства*

Даўно за дванаццаць. У шэрым пакоі
зусім незнаёмая ты...
І ўсё-ткі мы поўныя будзем любові
праз два, праз чатыры гады.

Пакуль жа зіма. Мы зусім незнаёмы.
Сняжынкі ў бакале віна.
Я п'ю не за нас. Ты ў заплаканай блоні,
ў прастуджанай ночы адна.

## *Дом. Восень 1990*

На вокнах ёлкія газеты
глядзяць партрэтамі чужых.
Агонь ды гліна. Аж да светла —
прачнуся — мрояцца дажджы.

Вада збіраецца пад дзверы,
што яйкі, бульба у вадзе,
і летараслі, як папера,
пад бледным небам дзе-нідзе.

Паўзе па бедных сенях плесня,
пляце карункі — смерці твар.
Ні ноч ні дзень, а вечар вечны,
на кноце тлустасці нагар.

Навокал цынкавая цемра,
ды з лёду дом, пад ім — пясок.
(Як звер, спалоханае цела
назвала Богам гэты змрок.)

І ўсё ж, нібы абраз благаю
квадратных шыбаў пустату,
анёла з неба сустракаю:
— Ты гаспадыняй будзеш тут.

Ты сцены бедныя напоўніш,
дзе шчыліны наскрозь гудуць —
прыму, як полымя, ў далоні
і ў цішыню тваю ўвайду.



***

Надзенем гумовыя боты, якія хрумсцяць, як капуста,
і пойдзем туды, дзе з-пад хмары ляціць аж да вечара ліст,
туды, дзе ласі мухаморы ядуць, нібы тоўстыя лусты,
дзе пальцы выкручвае холад, дзе чэзнуць травы касмылі.

Мы пойдзем далёка-далёка у шчырую восень, у верты,
дзе ўсё з цэлафану й паветра, дзе яблыкі, быццам грахі.
Няма ані кроплі былога — аднога чырвонага ветру
дзявочыя стужкі на круглай, круглей за калена, зямлі.

Блакітнымі агуркамі і мёдам зялёным закусім
прастуду, прыйшоўшы дахаты, ля мокрага крыжа акна,
ля кіслага важкага хлеба ў заседжанай мухамі кухні.
Як зімна на свеце і нудна! А дроваў — і тых ні ражна.

І людзі, як быццам знаёмцы, ці, можа быць, проста падобны,
"дзень добры", "бывайце", "заходзьце", ды толькі ніхто не зайдзе.
Штоноч асыпаюцца верты, заснуць не даюць кабыздохі,
на Млечным шляху ані ўздыху, а зоркі — глыбока ў вадзе.

Вары мне капусту і зелле, каб я на вандроўку не ўспомніў,
каб век на цябе углядаўся, калені дыханнем каб грэў.
Якія прыемныя людзі! А псіны, сагрэтыя поўсцю,
не брэшуць, бо іх гэтай ноччу ні воўк, ні мароз не бярэ.

***

Сыплюцца птушкі, лісты і званы,
вежы згалелі, і дрэвы — аблуплены,
поўняцца слыхам шыбы, збаны,
толькі плады на гародзе паглухлі.

Скрыні — глухія, кадушкі — маўчаць,
мышы — у смецці шкрабуцца начамі,
нехта наняўся па блясе бражджаць,
рассе на ветры забытае чаўрае.

Досі. Салатàвай тонкай смугой
тлее свірэпіца, пчолы азяблыя
цэдзяць у соты журлівы настрой.
Кроку не ступіш, бо — яблыкі, яблыкі...

Роспач. Душу ад вятроў не схаваць —
выйсці і знікнуць між небам і полем,
мухай у сетку дажджу-павука
ўвязнуць, бадзяцца, нічога не помніць.

Ці — паміж трох чарацін заблукаць,
ці — напісаць табе ліст на паўсшытка.
Словы навобмацак чуе рука,
тонкія літары сыплюцца жытам.

***

Як аблокамі азёры,
пухам поўніцца прастора
з тапалёў,
сумам шыракалісцёвым
і дыханнем паркалёвым,
рэхам слоў.

Цёплы вечар на абрусе,
сонца голкамі цярушыць,
млее дол.
Знікнуць — і сачыць за пухам,
за назолай, тонкай мухай.
Ну й дурной!

У вядзерцы акаваным
зеўрыць шыба разарвана,
спіць камень
змеем цёплым, каляровым
ды пад пухам паркалёвым
цэлы дзень.

Не бывае развітання,
час мільгае пухам танным —
як зірнуць,
толькі — далеч па-над плотам,
і — кранае пазалотай
каламуць.

***

І дом ад горада навекі адвярнуўся,
і мы ўдвайгу. Штоноч расхлістаны балкон,
на коўдры жменямі раса расла, імкнуўся
да лямпы матыльковы рой, утульны звон
і тонкі пах гарбаты слаліся ў пакоі,
і зорка плавілася ў кубку, ноч і лес
яловы нас забралі ў мяккія аковы
і даўняй таямніцай абступілі спрэс.
Драмала котка на тваіх каленях, вецер
мне кнігу легкадумную гартаў, але
я думаў аб другім, а там за цемрай недзе
грувасціліся цягнікі, яловы лес
шаптаў і варушыўся, мы з табой на ўзмежку
быцця і небыцця, сусвету і зямлі
паўз горад, праз ліяны і аблокі снежныя
даўно адсюль плылі.



## *Песня пра сяброў*

Ахвярую М. Касцюкевічу

Ужо няма ні смеласці ні веры,
ужо даўно не пішацца сябром —
і я закіну на гарышча вершы
ды распачну рамана першы том.

Інфляцыя — адзінае надвор'е,
а насмарк — найцудоўнейшы настрой,
рыцынаю мацуйма свае нервы —
хай кожны будзе рыцар і герой.

Мы аўтары уласных ганарараў.
Ці доўга ў небе зоры нам лічыць?
Ляжым, пад сонцам славы загараем,
каб потым сябе крытыкай лячыць.

Для вершаў мы напэўна састарэлі,
а да раманаў мо не дараслі,
адзін аднога, добра, што сустрэлі —
тым самым чытачоў сабе знайшлі.

## *Жнівень*

Інэсе

Ад гэтага духу асенняга
ніколі ўжо нам не ўцячы,
і звоняць лісты, нібы ў сенях
к замку падбіраюць ключы.

У цёплых, заплаканых вулках
завешаны вокны дажджом,
а звонку ў матэрыі волкай
лунае падвешаны дом.

Блукаючы, мы выпадкова
сюды уцяклі ад дажджу.
Табе запаветнае слова
я з вуснаў у вусны кажу.

І рукі лягаюць на плечы,
і вузкіх пазногцяў тваіх
міндальныя ўспыхваюць свечкі,
каб ноч асвятліць хоць на міг.

Як дзеці, што ўкралі запалкі,
мы тоім адзіны уздых,
а ноч загараецца цалкам,
і восень гарыць назаўжды.

ЁН

# Кшыштаф ЧЫЖЭЎСКІ



*можа, нам удасца збудаваць такую страху над нашай галавой, якая не будзе захінаць неба.*

**З Кшыштафам ЧЫЖЭЎСКІМ гутараць Валянцін АКУДОВІЧ і Валерка БУЛГАКАЎ**

ДЗЕЙНАЯ КУЛЬТУРА

ЯК ЗБУДАВАЦЬ СТРАХУ, ЯКАЯ НЕ БУДЗЕ ЗАХІНАЦЬ НЕБА

**АД МЕЖАЎ ДА САМОГА ЦЭНТРА, АБО ЕЎРАПЕЙЦЫ Ў ПОШУКУ ТОЕСНАСЦІ**

**ГОЛАС ІНШАГА**





# З Кшыштафам Чыжэўскім гутараць

## Валянцін Акудовіч і Валерка Булгакаў

**Валянцін Акудовіч.** Спадар Кшыштаф, калі вы не супраць, то мы хацелі б распачаць гаворку з вашай біяграфіі Калі ласка, колькі слоў пра сябе

**Кшыштаф Чыжэўскі.** Я нарадзіўся праездам у Варшаве падчас шляху маіх бацькоў з Усходу на Захад. Гэта быў 1958 год. Маленства я правёў у невялікім мястэчку ў Вялікай Польшчы, але ў школу пайшоў ужо ў Познані. У тамашнім універсітэце імя Адама Міцкевіча я атрымаў дыплом магістра польскай філалогіі. Мая магістарская праца мела назву "Кніга шляху Чэслава Мілаша" Ужо тады мяне захапляў чалавек вандроўны, *homo viator*, які ў пошуках таямніцы падарожнічае ў глыб свету і ў глыб самога сябе адначасна. Абараніць працу пра Мілаша, які быў забароненым пісьменнікам, тады было нялёгка, але ў нашым універсітэце, дзе адным з маіх выкладчыкаў быў Станіслаў Бараньчак, панавала адносна ліберальная атмасфера Я быў заангажаваны ў дзейнасць студэнцкай апазіцыі, арганізацыю “лётаючага універсітэта”, падпольны выдавецкі рух (у тым ліку выдаў том вершаў Мілаша з уласным уступам) Ужо пазней, калі было абвешчана ваеннае становішча, я разам з Рафалам Групіньскім заснаваў падпольны часопіс “Час культуры”, які сёння з`яўляецца адным з найважнейшых культурных часопісаў у Польшчы

Аднак падчас навучання ва універсітэце я бываў у Познані адно спарадычна.

Мяне поўніцай захапіў тады тэатр, у прыватнасці адмысловае "антрапалагічнае вандраванне" Яшчэ падчас вучобы ў гімназіі я быў моцна звязаны з дыкламатарскім рухам і аматарскім тэатрам Тады гэта было прыўкраснае асяроддзе чулых, незалежных і шукаючых людзей, якія на працягу года сустракаліся ў розных месцах Польшчы, каб дэкламаваць або пяяць паэзію, прэзентаваць манадрамы або тэатральныя спектаклі. Як гадунец гэтага руху пасля першага года навучання ва універсітэце я трапіў у мясцовасць Гардзяніцэ пад Люблінам, дзе якраз і стваралася новая тэатральная група. Я застаўся там на шэсць гадоў З тэатрам"Гардзяніцэ" я аб‘ехаў усю Еўропу, ад Лапландыі да Сіцыліі, але — што нашмат важней — я пабываў і ў сёлах усходняга і паўднёвага ўзмежжа Польшчы, пазнаёміўся з летувіскай,беларускай, габрайскай, цыганскай культурай адным словам, са светам, аб якім, гадуючыся ў Познані, я не меў найменшага панятку. Наш спектакль “Варажба”, заснаваны на “Дзядах” Міцкевіча, нарадзіўся падчас выправаў у сёлы, размешчаныя непадалёк ад Крушынян пры беларускай мяжы, на Гару Грабарку, у Вершалін і г.д.

У канцы 1983 года я вярнуўся ў Познань, дзе выкладаў (у тым ліку гісторыю культуры

# ДЗЕЙНАЯ КУЛЬТУРА

**Кшыштаф Чыжэўскі належыць да новай, іншай генерацыі людзей культуры ў Польшчы, вызначальнай адзнакай якой ад пачатку была адмова ад ранейшых, недэмакратычных метадаў ажыццяўлення культурных практык. У своеасаблівых умовах культурнага жыцця Польшчы гэта накладала дадатковыя абавязкі, сэнс якіх зводзіўся да выпрацоўкі новых арганізацыйных формаў дзеяння, што ў сапраўднасці доўгі час азначала схільнасць да нестандартных рашэнняў і прыярытэт, так сказаць, альтэрнатывы над дырэктывай. Наогул, для гэтай генерацыі было характэрна і праграмнае адмежаванне, дыстанцыя да афіцыйных, дзяржаўных органаў культуры, што знаходзіла сваё адлюстраванне ў стварэнні і рэалізацыі незалежных культурных ініцыятываў.**

**Відавочна дзякуючы гэтаму багажу Кшыштаф Чыжэўскі сёння з‘яўляецца і галоўным рэдактарам часопіса “Краснагруда”, і дырэктарам Фонда “Паўзмежжа мастацтваў, культур, нацый” з сядзібай у Сэйнах (выбар гэтага мястэчка на самай мяжы Польшчы і Летувы таксама вельмі паказальны), і актыўным удзельнікам польскага ПЭН-клубу. Кшыштаф Чыжэўскі — гэта чалавек, якога сёння ведаюць культурныя эліты ўсіх**

і эстэтыку) у Вышэйшай мастацкай Школе. Адначасна ў Доме культуры я з групай прыяцеляў з Познані, Любліна і Чарнай Дамбруўкі, што ў Кашубшчыне, выступіў ініцыятарам культурнай і тэатральнай працы. Неўзабаве з гэтага асяроддзя вылучыўся калектыў людзей, з якім я прыняў рашэнне аб пераездзе ў Сэйны, мястэчка пры польска-летувіскай мяжы, дзе мы стварылі спярша фонд "Паўзмежжа" (1990 год), а пазней ваяводскі цэнтр "Паўзмежжа — мастацтваў, культураў, нацыяў" (1991 год). Я і дагэтуль кірую гэтымі ўстановамі, якія ўсё шырэй ажыццяўляюць культурную, даследніцкую і адукацыйную дзейнасць у паўзмежжах Сярэдне-Усходняй Еўропы. Адначасна я з'яўляюся галоўным рэдактарам часопіса "Краснагруда" і чытаю цыклічныя або аднаразовыя лекцыі ў розных вучэльнях Польшчы і за мяжой, напрыклад, год таму ў Віленскім універсітэце я правёў лекцыю аб спадчыне Вялікага княства Літоўскага.

**В.А.** З той жа нагоды яшчэ і адцягненае пытанне. мера тоеснасці інтэлектуальных рэфлексій Кшыштафа Чыжэўскага гісторыі падзей? Плён інтэлектуальных рэфлексій ці, шырэй, інтэлектуальнай дзейнасці, напэўна, фармуе біяграфію суб'екта, але ці ёсць біяграфія суб'екта тым, ад чаго залежыць чын і кшталт інтэлектуальнага рэфлексавання? Адным словам, ці ўплывае біяграфія Кшыштафа Чыжэўскага на тое, *што* і як ён прадумваў у сферы інтэлектуальнай праблематыкі?

**К.Ч.** Сярод людзей бываюць такія, якія здзяйсняюць далёкія падарожжы, не пакідаючы дома або свайго кабінета (такім быў Кант або Бруна Шульц), а таксама такія, якія маюць свой дом у дарозе. Я, відавочна, належу да другіх. Я чалавек дзеяння, практыкі, надзвычай адчувальны на *mimesis*, на дотык сапраўднага, якое ўтойваецца і несупынна запрашае да далейшага падарожжа. Таму спярша адбываецца пагружэнне ў жыццё, у канкрэтную практыку,адкрытасць да прыгодаў і перажыванняў, а пасля надыходзіць рэфлексія... Мае інтэлектуальныя развагі нагадваюць занятак вандроўніка, які затрымліваецца ў нейкай схованцы ў гарах, каб пераначаваць, адкрывае нататнік і спрабуе назваць тое, што на працягу дня ён перажыў У гэтым сэнсе маё жыццё мае асноватворнае значэнне для інтэлектуальнай рэфлексіі. Каб мець чым запоўніць нататнік, я выбіраюся ў падарожжа, ахвочы да адкрытай прасторы, непасрэдных сустрэч з людзьмі, пагружэння ў новую стыхію, у невядомае..

**В.А.** Ці можна хаця б прыблізна акрэсліць тое эстэтычнае інтэлектуальнае поле, дзе вы сфармаваліся як культуролаг (філосаф)?

**К.Ч.** Адказваючы, мушу прывесці некалькі ўзаемазвязаных уздзеянняў, якія коратка я б назваў так:

<u>выхад з горада</u> — з часоў Жан Жака Русо і *Henry Thoteau* у нашай культуры важнае значэнне мае пазіцыя, альтэрнатыўная да дамінацыі гарадской цывілізацыі, якая шукае новых вытокаў і магчымасцяў у вясковым асяроддзі або ў малым мястэчку, у блізіні прыроды, невыпадкова Русо лічыцца патронам новай навукі — культурнай антрапалогіі, якой я вельмі цікаўлюся;

<u>антрапалагічнае вандраванне</u> — гэтае вызначэнне я ўжыў ужо раней у дачыненні да таго, што рабіў у сваім жыцці, і разумею пад гэтым вандраванне да вытокаў пэўных культур

**краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы, і захады якога знаходзяць там падтрымку і разуменне.**

**Падчас публічнай лекцыі (19.06.1996г.) у польскім селішчы Вігры, дзе адбывалася першая сесія "Школы Паўзмежжа", слухачом якой давялося быць і мне, Кшыштаф Чыжэўскі сам непасрэдна звярнуўся да аўтэнтыкі ўласнага досведу. Паспрабуем тэзісна акрэсліць асноўныя моманты гэтай прамовы. Найперш у ёй першачарговую важнасць атрымала шматскладовая апазіцыя *status quo/in statu nascendi*. У адпаведнасці з гэтым прынцыпам мэта актуальнай культурнай тэхнікі была пастулявана як падрыў *status quo*, разрыў з тым, што было ўжо высваенае. Пры гэтым была запрапанавана арыгінальная матывацыя: вельмі цяжка збудаваць нешта новае, але падчас разрыву ўзнікае новая энергія і магчымасць збудаваць гэтае новае. На думку Чыжэўскага, пераходным часам для іхнай дзейнасці быў 1985 г., час росквіту альтэрнатыўнай культуры і канчатковага ўсведамлення, што "так жыць далей нельга". Надыходзіць пералом у сітуацыі, у выніку чаго ў 1989 г. адбываецца выхад з падполля на фоне задэкляраванай дэмакратызацыі і захадаў для стварэння грамадзянскай супольнасці. А ў чым палягаюць зарукі паспяховай дзейнасці? Чыжэўскі адказвае так: важна ствараць аўтарскі, арыгінальны праект, заснаваць самастойны асяродак, што ўжо само сабой можа прадугледжваць арыгінальныя і творчыя рашэнні; пры гэтым варта рабіць толькі самае неабходнае, а да прадуктаў сваёй дзейнасці ставіцца як да ўласнага дзіцяці.**

**Валерка БУЛГАКАЎ**





і традыцый, часта вельмі старых, не закранутых яшчэ пячаткай сучаснасці, цікавыя вынікі гэтых доследаў найчасцей давалі штуршок да вельмі сучасных філасофскіх або навуковых сістэм, а таксама авангарднага мастацтва; такія вандроўкі праводзіў і сацыёлаг Клод Леві-Строс, і мастакі Пікаса або Гаген, і пісьменнікі *An-sky* (каб напісаць "Дыбука") або Вінчэнз (каб напісаць "На высакагорнай пашы"), рэжысёр Вернэр Герцаг і г.д. Для мяне гэтае антрапалагічнае вандраванне звязана спачатку з тэатрам — побач з "Гардзяніцамі" былі таксама Ежы Гратоўскі, Пітэр Брук або Эўжэніа Барба, з якімі я пазнаёміўся, з якімі падарожнічаў і вёў гаворку Гратоўскі вандраваў на астравы Балі, Брук у Афрыку, Барба скіроўваўся да паўднёва-амерыканскіх індзейцаў, мы на Палессе або Лемкаўшчыну — пазнаючы іншыя культуры, рытуалы і традыцыі, мы, такім чынам, насамрэч шукалі праўду аб саміх сабе, жыхарах XX стагоддзя, якія забыліся або згубілі значэнне пэўных словаў, што дазваляюць расшыфраваць таямніцу існавання;

<u>Зямля Ульро</u> — гэтае падарожжа сучасных шукальнікаў страчанай зямлі, дзе пануе Фантазія і духоўнасць, вольная ад зняволення рацыяналістычна-навуковым светапоглядам, дзе чалавеку вернутае *enracinement* (так Сімона Вайль вызначыла ўкараненне), дзе Блэйк перамагае Ньютана — гэтае падарожжа, апісанае ў тым ліку і Мілашам, ёсць для мяне адной з найважнейшых светапоглядных інспірацый,

<u>этнас паўзмежжа</u> — глыбока гуманістычная пазіцыя, сфармаваная ў шматкультурных грамадствах, з далёкасяжнымі экзістэнцыяльнымі імплікацыямі (адкрытасць для іншага, суіснаванне з іншым — гэта парог, які неабходна прайсці ў духоўным развіцці да гэтага мы ўсцяж застаемся паганцамі), якая можа інспіраваць філасофію (напр., філасофія дыялогу Марціна Бубэра) або творчасць (напр , паэзія Паўля Цэлана), і адначасна ўяўляе сабой бясцэнны жыццёвы *praxis* людзей, што жывуць у супольнасці;

<u>дзейная культура</u> — гэтае паймо ўвёў Ежы Гратоўскі, калі адмовіўся ад падрыхтоўкі прадстаўленняў для публікі і запрасіў людзей да ўдзелу ў самім творчым працэсе, я і дагэтуль маю падобнае стаўленне да культурнай дзейнасці — я незадаволены падзелам на крэатара і спажыўца (гэта кашмар сучаснай культуры, якая з аграмадных масаў людзей робіць толькі спажыўцоў усё лепш прыпраўленых ласункаў), я шукаю сустрэчы, дыялогу, адкрытага працэсу тварэння.

**В.А.** Мы збольшага ведаем кола тых праблемаў, якія вы раней асэнсоўвалі ў сваіх тэкстах. А над чым рэфлексуе Кшыштаф Чыжэўскі сёння і што яго завабіць заўтра?

**К.Ч.** Мы жывем у эпоху, калі занепала цывілізацыя, якая ў нашай частцы Еўропы выявілася ў такіх наднацыянальных арганізмах, як дынастыя Ягелонаў, Вялікае княства Літоўскае, Габсбургская манархія або Асманская імперыя. Цікава, што мы амаль не заўважылі гэтага заняпаду, паколькі ў перыяд, калі ён канчаткова адбыўся, падчас першай сусветнай вайны, мы былі занятыя аднаўленнем дзяржаўнасці і пабудовай нацыянальных дзяржаваў Толькі сёння мы пачынаем усведамляць сабе, што адбылося тады і што мы страцілі. Гаворка тут не ідзе ні пра апафеоз таго, што было, ні аб адмаўленні здабыткаў нацыянальных і незалежніцкіх памкненняў Лёгка сцвярджаць, што занепадаючыя шмат-

# Як збудаваць страху, якая не будзе захінаць неба

*Чалавек, які акрэслівае мяжу, вельмі часта вызначае лінію прыналежнасці да сферы сакральнага.*

**Кшыштаф Чыжэўскі**

**Гэтай метафарай, пазычанай у героя майго тэкста і вынесенай у загаловак, бадай, можна ў нейкім сэнсе акрэсліць галоўны клопат Кшыштафа Чыжэўскага ва ўсіх ягоных вымерах: менеджэра культурных праектаў, культуролага, галоўнага рэдактара часопіса "Краснагруда", урэшце — вандроўніка. Апошняе ў гэтым пераліку можа падацца выпадковым, бо вандроўнік найменш будаўнік. І гэта сапраўды так. Але, з іншага боку, вандроўка ёсць тым адзіна магчымым ідэальным домам, у якім страха не захінае неба.**

**Хаця, калі пажадаць большай дакладнасці, то давядзецца заўважыць, што Кшыштафа Чыжэўскага хвалюе не столькі праблема "страхі", колькі праблема "сценаў", гэта значыць таго, што абмяжоўвае магчымасць засваення ўласнай прысутнасцю культуралагічнай прасторы.**

нацыянальныя арганізмы былі хворыя і раздзіраныя ўнутранымі слабасцямі, а нацыянальныя рухі мелі на сваім баку выбітных асобаў, і іх дасягненні ў пытанні абароны нацыянальнай тоеснасці бессумнеўныя. Гаворка, аднак, ідзе аб пэўным цывілізацыйным выкліку, перад якім мы ізноў цяпер стаім, і які не ў стане пераадолець нацыянальная дзяржава, і тым больш нацыянальная ідэалогія Таму такой важнай становіцца сёння тая спадчына, таму жывой застаецца ідэя Сярэдняй або Сярэдне-Усходняй Еўропы, таму такім важным цяпер з'яўляецца польска-беларускае або беларуска-украінскае паразуменне. Мы жывем у вельмі цікавую эпоху, ужо не змяркання, не згібення, а стварэння й будавання. Ад нас, хто жыве ў гэтую эпоху пераломy, залежыць, ці адказ, які мы даем на сітуацыю, узніклую ў Сярэдне-Усходняй Еўропе, будзе адно адаптацыяй узораў Захаду на нашым грунце ці нашай уласнай, адмысловай прапановай

**В.А.** Наколькі нам уяўляецца, Беларусь, як суб'ект еўрапейскай гісторыі, не мае нейкага пэўнага месца ў кантэксце вашых разваг над актуаліямі сучаснай еўрапейскай сітуацыі. Але ці існуе ўвогуле для вас Беларусь як суб'ект еўрапейскай гісторыі? А калі існуе, то якім вам гэты суб'ект бачыцца ў сэнсе яго значэння, месца, ролі?

**К.Ч.** Ужо з таго, што я сказаў дагэтуль, вынікае, што "беларуская справа" для мяне надзвычай важная. Я звяртаюся да вас як да партнёра, неабходнага, каб адолець гэты цывілізацыйны выклік. Як інтэгральнай часткай "Дзядоў" Міцкевіча ў "Гардзяніцах" былі беларускія песні, так і "беларуская барва" будзе інтэгральнай часткай вобразу супольнасці, якая фармуецца ў гэтай частцы Еўропы. На жаль, і цяпер няшмат людзей бачаць гэты вобраз ва ўсім яго будучым патэнцыяле, кіруючыся хутчэй патрэбай — напрыклад, у Польшчы Беларусь пачала згадвацца толькі тады, калі ізноў рэальнай стала магчымасць вяртання расійскай арміі на нашу ўсходнюю мяжу Шмат карысці магло б прынесці ажыўленне нашай супольнай культурнай спадчыны, якая ў вялікай ступені забытая або прысутнічае ў свядомасці ў тэндэнцыйна ўцятай і сфальшаванай форме. Паралельна, аднак, трэба ствараць новую традыцыю нашых кантактаў і супрацоўніцтва. Для мяне зразумела, што Беларусь цяпер знаходзіцца ў іншым момансе свайго развіцця, чым Польшча, што ў вас яшчэ не скончылася барацьба за ўмацаванне ўласнай тоеснасці, за фармаванне сучаснай нацыі, за незалежнае гаспадарства. Аднак з`яўляюцца шанцы, каб Польшча была хаўруснікам у вашай справе, каб яна загладзіла тыя недаравальныя грахі, здзейсненыя ў дачыненні да беларусаў на пачатку гэтага стагоддзя, такія як Рыжскі трактат і іншыя памылковыя рашэнні ды адсутнасць паразумення. Бо такога хаўрусу паміж намі не было вельмі, вельмі даўно, і ў гэтым шанец на яго ажыццяўленне.

**Валерка Булгакаў.** Ці змянілася вашае ўяўленне аб Беларусі пасля наведвання нашай краіны? Ці ўяўляе сабой вобраз Беларусі зблізку і здалёк тое самае?

**К.Ч.** Я ўжо некалькі разоў быў на Беларусі, але ў Мінску ў першы раз Сам Мінск зрабіў на мяне вялікае ўражанне, паколькі раней я ўяўляў яго як савецкі горад, накшталт — толькі ў меншым маштабе — Масквы, якая для мяне ёсць антычалавечым горадам, гэта значыць, што ўсё, там пабудаванае, увесь той аграмадны малох, вялікія шэрыя прасцягі, вуліцы, якія сягаюць проста і не маюць канца, гінучы ў нейкай неакрэсленай неабсяжнасці, халодныя



будынкі без пячаткі асабістасці і адметнасці — усё гэта скіравана супраць паасобнага чалавека. Тым часам сталіца Беларусі падалася мне горадам, пабудаваным на меру чалавека,чыстым і гарманічным у архітэктуры, у якой нават сацрэалізм намагаецца быць вытанчаным Апрача гэтага мяне ўразіла вялікая колькасць акцыдэнтальных элементаў, так далёка высунутых на Усход, з чаго тут усюды адчуваецца якраз паўзмежжа, і гэта не толькі ў архітэктуры, а таксама ў ментальнасці людзей, у завядзёнках. Да гэтага я дадаў бы яшчэ тое, што для мяне заўсёды з'яўляецца важным сімптомам грамадскай кандыцыі, — вялікая колькасць цікавых кніг і навуковых альбо культурных часопісаў, якія я мог купіць у мінскіх кнігарнях. Беручы пад увагу палітычную і эканамічную сітуацыю, у якой сёння знаходзіцца Беларусь, самаадданасць і амбіцыі вашых эліт могуць выклікаць адно пашану Зрэшты, я сам быў запрошаны ў рэдакцыю часопіса "Фрагмэнты", праграма якога вельмі амбіцыйная, і зычыць толькі трэба, каб удалося яе рэалізаваць. Найбольш, аднак, добрых уражанняў з Мінска я вынес з сустрэчаў і дыскусіяў з самімі людзьмі. Я гэта ўжо падкрэсліваў, што ў адрозненне ад сустрэчаў на розных міжнародных форумах Заходняй Еўропы, у якіх мне выпадала ўдзельнічаць, дзе часта размаўляюць ні аб чым, прыводзяць мноства слоў, што не апелююць ні да якой практыкі, дзе на ўсё маецца шмат часу і г.д., — прыезд у Мінск — гэта сапраўдная радасць, бо тут сустракаюцца людзі, якія насамрэч нечым захопленыя, якія цікавяцца светам і новымі ідэямі, якія гатовыя да дзеяння і не маюць часу на пустое балбатанне, з якога не вынікае нічога. Сярод іх ёсць людзі, заангажаваныя ў беларускае нацыянальнае адраджэнне, у ідэю Сярэдняй Еўропы, у пытанне еўрапейскай інтэграцыі Цікава, што гэта часта адны і тыя ж людзі, а нацыянальныя і універсальныя справы не знаходзяцца ў супярэчнасці, як гэта часта бывала ў мінуўшчыне. Я мяркую, што гэта важны знак часу — пазіцыя людзей, якія змагаюцца за сваё (лакальнае, нацыянальнае, дзяржаўнае) і адначасна імкнуцца да адкрытасці, інтэграцыі, пабудовы пэўнай вышэйшай, цывілізацыйнай супольнасці.

**В.Б.** Цяжка пазбыцца пераканання, што ўсе мы цяпер з'яўляемся сведкамі ўзнікнення так званага беларускага "цуду" (паводле аналогіі з паўднёва-карэйскім цудам і г.д.), зразуметага хутчэй у негатыўным сэнсе Ці не мяркуеце вы, што Беларусь перабывае ў іншым экзістэнцыяльным вымеры, што Беларусь мае сваю ўласную візію атачаючага свету і самой сябе ў гэтым свеце? Паспрабую сфармуляваць гэта яшчэ больш правакацыйна. ці не мяркуеце вы,што цяпер беларуская культура з культуры адставання ператвараецца ў культуру адхілення?

**К.Ч.** Беларусь — гэта краіна, у якой дагэтуль вёска — замкнёная, алергічная на такія вартасці, як свабода або ператварэнне, якая зацята бароніць статус кво — перамагае горад, у якім значна хутчэй прышчапляюцца зародкі трансфармацыі і развіцця. У гэтым яна не адрозніваецца ад іншых у нашай частцы Еўропы Прыклад Новай Югаславіі, у якой дыктатарскі рэжым Мілошэвіча дагэтуль утрымлівае ўладу дзякуючы падтрымцы сельскага электарату і церпіць усё большыя паразы ад жыхароў гарадоў, вельмі нагадвае сітуацыю Лукашэнкі, які абапіраецца на савецка-калгасны электарат. У гэтым выпадку неадэкватным з'яўляецца нават само паняцце вёскі, бо што супольнага з вёскай мае

---

**Кшыштаф Чыжэўскі не метафізік, кантава "зорнае неба над галавой" — не ягоныя турботы, здаецца, яму павінна быць значна бліжэй кантава "этыка", бо толькі наяўнасць "маральнага закона ўва мне" (а значыць і ў другім, іншым) ствapae вандроўніку, як і гандляру ці дасследніку, вераемнасць бяспечнага выхаду за межы спадчыннага дзядзінца. Без гэтага, *a priori* нам дадзенага маральнага закона ніхто, акрамя заваёўніка, не змог бы разгортваць для сябе перспектыву далягляду.**

**Праўда, у меру майго ведання тэкстаў Кшыштафа Чыжэўскага, я не магу сцвярджаць, што этыка яго цікавіць сама з сябе ці сама ў сабе. Зусім верагодна, яго болей інтрыгуе тое, што адразу пасля этыкі, — гэта значыць геаграфія. (Яшчэ раз паўтаруся, як на маё перакананне, геаграфія сталася магчымай адно дзякуючы этыцы. Эпоха Вялікіх геаграфічных адкрыццяў распачалася не раней, чым у асноўных сваіх знаках і атрыбутах сфармавалася Вялікая этычная эпоха — хрысціянства. Усё дахрысціянскае засваенне свету было не спазнаннем прасторы, а яе гвалтоўным аваloданнем.)**

**Фізічная геаграфія і геаграфія культуры — з'явы непадзельныя, уласна, гэта адна і тая самая з'ява, у якой спачатку быў больш актуальны фізічны аспект, а ўжо бліжэй да нашага часу заактуалізаваўся аспект культуралагічны.**

**У XV стагоддзі этыка дап магла адбыцца падзеі геагр фіі, у XX — культуралогіі.**

**Кшыштаф Чыжэўскі — і вандроўнік і культуролаг, таму ён, безумоўна, этык. Але ні ў якім выпадку не наадварот.**

**Як вандроўнік, Кшыштаф Чыжэўскі не любіць межаў, бо мяжа — гэта тое, што запыняе вандроўку, але як культуролаг ён мусіць з пашанай ставіцца да мяжы, бо ў шмат якіх выпадках фігурай мяжы акрэсленыя контуры культуры.**

**Як скасаваць мяжу, не касуючы межы?**

**Механізм "фізічнага" касавання межаў быў вынайдзены даўно — імперыя. Але відавочна, што сёння ўжо немагчымыя такія наднацыянальныя структуры, як Вялікае княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, Габсбургская манархія, Асманская імперыя, Брытанская імперыя, СССР і да т.п. Кшыштаф Чыжэўскі гэта выразна фармулюе, а фармулюючы, шукае альтэрнатыву колішнім імперыям — і таму, што рэанімацыя былых у прынцыпе немагчымая, і таму, што класічная імперыя, сціраючы межы, сцірала іх да рэшты, разам з тым сакральным знакам культуры, які яны акрэслівалі.**

**Ідэя Еўропы рэгіёнаў ці, інакш, Еўропы татальнага цэнтра (на паверхні шара цэнтр знаходзіць сябе ў кожнай асобнай кропцы), у рэчышчы якой спрабуе намацаць альтэрнатыву колішнім імперыям Кшыштаф Чыжэўскі, гэта, у рэшце рэшт, не што іншае, як, магчыма, і неўсвядомленае, жаданне замены ідэалагемы прасторы на ідэалагему дыскурсу. Што найперш азначае кастрацыю традыцыйнага цэнтра, як агрэсіўнага механізму адмыкання і разгортвання прасторы сродкамі зброі, палітыкі ці культуры. А затым — стварэнне рагрэсіўнага механізму, які б, аднак, змог пазбаўленую цэнтра прастору, гэта значыць ужо дыскурс, структурна ўтрымліваць як нешта цэлае і тым самым берагчы ад экспансіі энтрапіі.**

**Адным словам, уся праблема палягае ў тым, як замяніць ідэалогію (шырэй — светабачанне) Мадэрна на ідэалогію (светабачанне) Постмадэрна.**

**Наколькі я ведаю, Кшыштаф Чыжэўскі рашуча не прымае**

савецкі калгас? Мае толькі тое, што ён зусім знішчыў традыцыйную вёску. Таму паняцце вёскі я ўжываю адно ўмоўна, адначасна ўсведамляючы ўсю недасканаласць майго параўнання — паколькі нямала прыхільнікаў і Мілошэвіча, і Лукашэнкі можна знайсці і ў гарадах. Аднак, гэта ў Бялградзе і ў Мінску нараджаецца грамадскі пратэст, і гэта з правінцыі супраць яго накіроўваецца хваля атак, як яшчэ некалькі гадоў таму шахцёры з правінцыі атакавалі "згнілых" студэнтаў і інтэлігентаў у Бухарэсце У Румыніі гэты бой ужо мінуўся, а ў Югаславіі і Беларусі дагэтуль яшчэ не скончыўся. Я, аднак, мяркую, што перамога горада — гэта толькі пытанне часу, што гэта натуральны і немінучы працэс. У гэтым сэнсе Беларусь не будзе ніякім выключэннем, ніякай "культурай адхілення" Нават калі пагадзіцца, што беларускае грамадства ў параўнанні з іншымі больш памяркоўнае і рахманае, менш схільнае да забурэнняў і рэвалюцый, гэта ніяк не запыніць натуральнага працэсу высоўвання гарадской фармацыі на першы план. І я тут надта не пераймаўся б, не ставіў бы на рэвалюцыйныя перамены, а хутчэй канцэнтраваўся на арганічнай працы, якая б рыхтавала грунт пад немінучыя ператварэнні.

**В.Б.** На заканчэнне я хацеў бы запытацца, якое месца рэальна адводзіцца беларусам і Беларусі ў вашай культурнай дзейнасці? Ці дачакаемся мы беларускага нумару часопіса "Краснагруда"?

**К.Ч.** Беларуская справа ад пачатку займае важнае месца ў дзейнасці "Паўзмежжа". Я вельмі добра памятаю ліст, які мы атрымалі неўзабаве пасля ўзнікнення нашага Цэнтра ад Ежы Гедройца, аднаго з нашых майстроў і апекуноў, у якім ён горача заахвочваў да захадаў на карысць польска-беларускага супрацоўніцтва. Гэта не засталося без рэха. У нашых праектах часта ўдзельнічаюць як беларускія дзеці і моладзь, так і беларускія мастакі і інтэлектуалы. Мы маем вельмі добрыя кантакты з беларусамі ў Польшчы — такія людзі, як Сакрат Яновіч альбо Лявон Тарасэвіч частыя госці ў нас. У нашай еўрапейскай школе "Паўзмежжа" ўдзельнічае адносна шмат беларусаў Беларускія тэмы з`яўляюцца і ў нашай "Краснагрудзе" Пасля апошняга візіту ў Мінск, калі я пераканаўся, што маю там вельмі добрых партнёраў для супрацоўніцтва, я пачаў сур`ёзна думаць аб падрыхтоўцы спецыяльнага нумару нашага часопіса, прысвечанага Беларусі. Гэта будзе нялёгка, бо я вельмі патрабавальны ў падрыхтоўцы матэрыялаў, да таго ж праблема палягае і ў добрых перакладчыках з беларускай мовы на польскую, трэба сабраць разам вялікую колькасць вельмі разнароднага матэрыялу і г.д. Я, аднак, не сумняюся, што гэты праект нам удасца рэалізаваць. Зрэшты, гэта будзе вельмі добры жэст на карысць польска-беларускага і беларуска-сярэднееўрапейскага супрацоўніцтва. Цікава, што Беларусь скажа Сярэдняй Еўропе?

**Постмадэрн як форму і спосаб мыслення, але, тым не менш, базавыя ідэі, да якіх ён актыўна звяртаецца, месцяцца ў полі постмадэрновай ідэалагемы (Еўропа рэгіёнаў, татальнасць цэнтра — як анігіляцыя цэнтра, дзейная культура, этнас паўзмежжа...).**

**Бадай, на ўлюбёным Кшыштафам Чыжэўскім сюжэце паўзмежжа давядзецца спыніцца асобна...**

**Падобна на тое, што паўзмежжа, дзе сыходзяцца і суіснуюць у рэальных сацыяльных і культурных практыках самыя розныя этнічна-нацыянальныя групы, уважаецца Кшыштафам Чыжэўскім за магчымую мадэль цывілізаванага і прасторавага ўладкавання, якое можа стацца плённай альтэрнатывай як наднацыянальным імперыям, так і нацыянальным дзяржавам.**

**Гісторыя паўзмежжа — гэта гісторыя эвалюцыі стасункаў з Іншым: ад фізічнага знішчэння Іншага да намацвання магчымасці дыялогу з ім праз працяглы перыяд жорсткай палемікі.**

**Асабіста мяне феномен паўзмежжа цікавіць найперш тым, што яно задоўга да XX стагоддзя дэманстравала магчымасць жыцця без Ісціны, назапашвала вопыт такога жыцця і, пэўна, шмат у чым прычынілася да канчатковага краху ідэі Ісціны ў найноўшую пару.**

**Паўзмежжа здавён відавочніла практыкай пабытовай рэальнасці латэнтна ўтоенае веданне, што пры розных багах (ісцінах) чалавек нараджаецца і памірае аднолькава, ды і жыццём не моцна розніцца. Усе высілкі па адпрэчванні гэтай эмпірычнай відавочнасці праз палеміку з Іншым за ісціннасць сваёй Ісціны, фармальна замацоўваючы наяўнасць Ісціны, бурылі ідэю Ісціны з самага яе падмурка, бо ў гэтай зацятай і бясконцай па-**





# Ад межаў да самога цэнтра, або Еўрапейцы ў пошуку тоеснасці

Яшчэ зусім нядаўна, у шасцідзесятыя гады, Заходняя Еўропа імкнулася да скасавання межаў, што падзяляюць людзей, дзяржавы і нацыі. Дынамічнае развіццё сучаснай тэхнікі, а таксама ўзрастаючая колькасць праблем, вырашэнне якіх было магчыма толькі па-над межамі, такіх як экалогія ці бяспека, — усё гэта, здавалася, пацвярджала прадказанне Мак Моэна аб "глабальнай вёсцы", сусветнай супольнасці, у якой межы страцяць усялякае значэнне. Гэтаму спрыяла перакананне, што дзякуючы такому развіццю падзеяў знікнуць этнічныя канфлікты і ўсялякі нацыянальны сепаратызм Падобнае цвярджанне можна было знайсці і на Усходзе кантыненту ў камуністычнай ідэалогіі, толькі там вызваленне ад нацыянальных фобій павінна было адбыцца праз уніфікаваны чалавечы выраб — *"homo sovieticus"* Гэты ўсходні інтэрнацыяналізм у сапраўднасці аказаўся адно абалонкай, за якой хаваўся паслядоўна культываваны тут шавінізм Апошняе найзырчэй выкрывала межы "братніх дзяржаваў", што ашчэрваліся нянавісцю і варажнечай Гэта былі своеасаблівыя палосы-зоны, да якіх было страшна наблізіцца. Падарожнік, у якога ўсе дакументы былі ў парадку, які не вёз ніякай кантрабанды і не меў з сабой нават забароненых кніг, на мяжы пачуваўся вінаватым, зняважаным і прыніжаным. Жыхар дзяржаваў з гэтага боку берлінскага муру з зайздрасцю назіраў за працэсамі, што адбываліся ў Заходняй Еўропе. Свет адкрытых межаў сімвалізаваў свабоду

У 1990 годзе быў разбураны берлінскі мур, што павінна было даць пачатак руйнаванню межаў ва ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропе У той жа час узніклі акропленыя новай крывёй межы ў былой Югаславіі, незразумелая для многіх мяжа падзяляе Чэхію і Славаччыну, цэлая сетка межаў пакрыла прасцяг колішняга СССР

Пераацэнцы падлягае само разуменне мяжы усё часцей у імя якраз свабоды і прадухілення пагрозаў суверэннасці грамадзяне дамагаюцца ўтрывалення межаў ці нават іх закрыцця.

Такая сітуацыя ва ўсходняй частцы Еўропы, аднак ці толькі тут? Апрача спраўджаных прагнозаў аб мадэрнізацыі і тэхнічным прагрэсе, апрача імклівага працэсу задзіночання Еўропы, напрыканцы XX стагоддзя ніхто сур'ёзна не гаворыць аб поўным скасаванні межаў на нашым кантыненце Якраз наадварот, чуюцца ўсё больш магутныя галасы ў іх абарону, у абарону захавання ўласнай адметнасці. Тэхніка зрабіла вельмі шмат, але яна бездапаможная перад страхам чальцоў супольнасці ад яе поўнай адкрытасці. Нельга таксама гаварыць аб знікненні этнічных канфліктаў, а свядомасць нацыянальнай прыналежнасці,

**леміцы некалі мусіў быў быць пачутым Іншы ў яго, іншага, Ісціне. Але дзве Ісціны — гэта адсутнасць Ісціны. У адрозненне ад сыру, які і ў кавалку той самы сыр, Ісціна абсалютная, непадзельная і адзіная (адзінкавая).**

**Для чалавека паўзмежжа разуменне сябе не як прэзентанта непадзельнай Ісціны, а як толькі іншага сярод іншых, сфармавалася значна раней, чым наўсцяж распаўсюдзілася і запанавала ідэя Дыялогу. І хаця гэтае веданне да пары заставалася ў чалавеку паўзмежжа ўтоеным, ён моўчкі ведаў, чым ёсць Дыялог для Ісціны.**

**Зусім не выпадкова, што ідэя Дыялогу канстытуявалася толькі ў XX стагоддзі, бо толькі ў XX стагоддзі завершылася бурэнне ўсіх цэнтрапалеглых, логацэнтрычных ідэй, і найістотнай сярод іх — ідэі Ісціны.**

**Калі Ісціна магчымая, то Дыялог немагчымы, а калі магчымы Дыялог, то немагчымая Ісціна.**

**Прымірэнне з ідэяй Дыялогу — гэта маўклівае пагадненне з тым, што Ісціна немагчымая, а магчымы толькі Дыялог, як анемічнае сумоўе нікога ні з кім.**

**Іншая рэч, а ці магчымы направўду Дыялог, ці не ёсць ідэя Дыялогу чарговым ідэалагемным сімулякрам? Мне здаецца, што якраз Кшыштаф Чыжэўскі, адзін з самых паслядоўных адэптаў ідэі Дыялогу, аналізуючы ў розных ракурсах бацькаўшчыну гэтай ідэі — паўзмежжа, ужо трывожна ўслухоўваецца сам у сябе і задуменна азіраецца па баках. Нешта там, унутры гэтай ідэі, глыбока пад пацінай гуманізму не так, як жадалася б, адгукаецца, нейкія чуюцца там абертоны, дысгарманічныя шумы, а не чыстае рэха... Калі мае "інсінуацыі" адносна Кшыштафа Чыжэўскага хоць у нейкай меры слушныя і калі я не памыляюся ў сваіх меркаваннях наконт сутнасці Дыялогу, то**

нягледзячы на змены ў ёй, дагэтуль застаецца важкай сілай, што аказвае ўплыў на сучасных еўрапейцаў

Еўропа перажыла ўжо шмат розных формаў існавання мяжы Яе ўзводзілі, каб падзяляць, адпалохваць і ізалёўваць, каб бараніць, а таксама каб злучаць і сустракаць. Змена падыходу да праблемы мяжы заўсёды была моцна звязана з узнікаючым новым тыпам светапогляду Цяперашні момант — гэта час пераацэнак, заняпаду старых сістэмаў і іерархій, з чаго важным становіцца паўторнае пытанне пра разуменне мяжы сёння, калі адбываюцца дэбаты аб еўрапейскім саюзе ці аб Еўропе рэгіёнаў

Дзяржаўныя межы, геаграфічныя межы не будуць асноўнай тэмай гэтых разважанняў Нас больш цікавіць культурны, грамадскі і псіхалагічны аспект мяжы ў жыцці еўрапейцаў.

Жан-Мары Дамэнах у сваёй кнізе "Еўропа. выклік для культуры" *(Europe: le défi culturel)* вось як разважае пра Еўропу, межы якой сціраюцца. "Пераходзячы на другі бок Рэйну Еўрапейскім мостам, мы нават не заўважаем, што пераходзім з Францыі ў Нямеччыну Калісьці, яшчэ дзіцем, я з заходняга берагу Рэйну назіраў пры дапамозе бінокля майго дзеда-артылерыста манеўры маладых нацыстаў Сёння мяне агортвае радасць, якую, аднак, суправаджае пэўны непакой. я ўжо не бачу межаў маёй тэрыторыі, дарма што мяжа *(finis)* заўсёды была тым, што мяне акрэслівае *(définit)*, абумоўлівае, што вызначае мае ўласныя абмежаванні".

Трэба пагадзіцца, што для еўрапейца такі погляд змяшчае цяжкую ў плане вырашэння супярэчнасць: з аднаго боку, радасць ад пераадолення, а па сутнасці ад выбаўлення ад межаў, з другога боку патрэба ўстанаўлення мяжы, якая мяне акрэслівае, вызначае маю тоеснасць. Інакш кажучы, туга па адчужэнні сустракаецца з тугой па ўкараненні.

Цяпер і мы дасягнулі асяродка палемікі, якая адбываецца ў сённяшняй Еўропе і ангажуе людзей палітыкі, эканомікі, культуры і навукі. Няма нічога дзіўнага, што мы толькі пачынаем удзельнічаць у выпрацоўцы новага кшталту аб'яднанай Еўропы Палеміка ўзмацнілася пасля публікацыі вынікаў сацыялагічных даследаванняў, якія праводзіліся найперш сярод маладога пакалення еўрапейцаў і якія выявілі ўзрастаючую перавагу поглядаў, звернутых да ўкаранення, над поглядамі, звернутымі да адчужэння Як жа мы далёка ад шасцідзесятых гадоў Таму варта запытаць. ці прыведзеныя тут погляды неабходна прызнаць узаемавыключальнымі? Ці трэба шукаць вырашэння ў прызнанні рацыі аднаго з бакоў? Ці не належыць папросту дазволіць узнікнуць гэтай супярэчнасці, такой жа натуральнай, як і ў сведчанні Дамэнаха? Ці не такі па сваёй сутнасці еўрапейскі дух, які сягае сваімі каранямі разнастайнасці і шматгалосся ды пагарджае чысткамі і рэдукцыяй рэчаў да аднаго вымеру? Дазволіць узнікнуць гэтай супярэчнасці азначае прызнаць яе прыналежнай натуры Еўропы, азначае так будаваць яе кшталт, каб ён змясціў тое, што дзе-небудзь яшчэ змясціць будзе немагчыма, што разарве любую іншую, з нашага металу зробленую судзіну У гэтым і задача сапраўднага будаўніка, бо — як гаварыў мой майстра, цясляр і старавер — не вялікае дзіва збудаваць сабе страху над галавой, значна цяжэй збудаваць такую страху, якая не захінае неба! Да такой будовы імкнуцца

Кшыштаф Чыжэўскі мае падставы для трывожнага задумення. Не хацелася б быць катэгарычным, але, як мне ўяўляецца, ідэя Дыялогу — гэта толькі часовы падменнік ідэі Ісціны ў эпоху яе татальнага крызісу.

З ідэі Дыялогу нічога не вынікае, яна нічога ў сабе не акумулюе і нікуды не рухае; Дыялог — гэта не *новая ідэалогія*, а ўсяго толькі *іншая тэхналогія* рэалізацыі чалавекам магчымасцяў быцця. Роля Дыялогу палягала адно ў тым, каб без ганьбы пахаваць ідэю Ісціны і ў меру магчымасці падрыхтаваць грамадства да ідэі Постмадэрна.

Я ўжо згадваў, што Кшыштаф Чыжэўскі вельмі скептычна ставіцца да Постмадэрна, але, заангажаваўшы сябе тапаграфічна і рэфлексіўна сітуацыяй паўзмежжа, ён міжволі апынуўся ў прасторы, якая і ёсць натуральнай (а не тэарэтычнай, як у цэнтры) рэальнасцю Постмадэрна, ёсць наяве тым, што цэнтр яшчэ толькі тэарэтычна імкнецца вybудаваць унутры самога сябе.

Я не бачу патрэбы разгортваць у гэтым тэксце аргументацыю тэзы, што паўзмежжа ёсць рэальнасцю абстракцыі Постмадэрна (зрэшты, гэта, лічы, навідавоку). Я хачу звярнуць увагу толькі на адзін момант, істотны як для практыкі Постмадэрна, так і для практыкі адпрэчваючага Постмадэрн Кшыштафа Чыжэўскага, а менавіта — на дзейную культуру. (Праўда, тут адразу мушу заўважыць, што Кшыштаф Чыжэўскі нагружае гэтае словазлучэнне іншым і значэннем, і сэнсам.)

Кожная культура на паўзмежжы (і ў кожным сваім складніку) мусіць быць дзейнай, бо яна тут знаходзіцца ў перманентнай вайне (палеміцы, дыялогу) з іншымі культурамі.

Культура цэнтра — статычная, яна абароненая ад Іншага ўсім





тыя, хто выпрацоўвае кшталт Еўропы рэгіёнаў, Еўропы, у якой яшчэ раз універсальнае народзіцца з таго, што з'яўляецца адметным

## МЯЖА СВЯТАЯ

Чалавек, які акрэслівае мяжу, вельмі часта вызначае лінію прыналежнасці да сферы сакральнага. Парушэнне такой мяжы раўназначнае зняважэ Бога. У "Законах" Платона мы знаходзім якраз такую думку, укладзеную ў вусны самога Зеўса, апекуна межаў, якога грэкі называлі Геркоёс — Памежны "Хай ніхто не зрушыць каменя, які аддзяляе яго маёмасць ад маёмасці суседа. " Ганна Арэндт, інтэрпрэтуючы гэты фрагмент у *"The Human Conditon"*, падкрэслівае, што тым, што змушала грэкаў бараніць незачэпнасць межаў, была "не пашана да прыватнай уласнасці, як мы разумеем яе сёння, але факт, што без валодання домам чалавек не ўстане ўзяць удзел у справах гэтага свету, бо ён не заняў у ім свайго ўласнага месца" Славяне садзілі на межах грушы, сцяць якія — як верылі паўсюль — азначала няшчасце Мы баранілі свае месца, сваю адметнасць, як тое, што — згодна Дамэнаху — нас акрэслівае, што стварае нам магчымасць асабістага ўдзелу ў справах гэтага свету Адкрытым застаецца пытанне аб прасторавым абсягу гэтага месца. Некалі гэта было найбліжэйшае акружэнне, сямейная маёмасць, наша малая бацькаўшчына, муры нашага горада. Сёння ў нас нацыянальныя дзяржавы са сваімі ахоўнымі межамі, але гэтыя межы не вызваляюць ад пачуцця, што мы страцілі ўласнае месца.

## МЯЖА АДНОСНАЯ

Гэтае пачуццё паходзіць з той часткі Еўропы, у якой цяжка знайсці што-небудзь больш няпэўнае, чым дзяржаўныя межы Тут можна сустрэць людзей, якія, не змяняючы на працягу ўсяго жыцця месца свайго жыхарства, былі грамадзянамі трох, а нават і чатырох дзяржаў. Межы маёй краіны пасля другой сусветнай вайны былі перанесены на сто, а часам і больш кіламетраў на Захад.

Адноснасць межаў яшчэ больш падкрэслівае факт іх часта абсурднага размяшчэння, якое пагарджае ўсялякімі нормамі рацыянальнага мыслення і належнага ўспрымання сапраўднасці. Здараецца, што мяжа тут праходзіць праз цэнтр мясцовасці, падзяляючы з незразумелых прычынаў сем'і ці людзей, што гавораць на адной мове Пасля першай сусветнай вайны ў Цэнтральнай Еўропе ўзніклі — замест сямі — чатырнаццаць дзяржаваў, і цяпер у ёй няма дзяржавы, якая б лічыла свае межы за справядлівыя, — такая вось спадчына мірных трактатаў, заключаных у выніку абедзвюх войнаў "Гэтыя межы вызначала алоўкам на стале, на якім святкаваліся ваенныя перамогі, група палітычных і вайсковых псіхапатаў", — сцвярджае прафесар Кучэра з Прагі

Я сам жыву паблізу т.зв. "патройнага стыку", месца, нязвычнага ў гэтай частцы Еўропы, у якім пачынаючы ад XV стагоддзя нязменна сыходзяцца межы трох дзяржаў — былога Каралеўства Польскага, Вялікага княства Літоўскага і Крыжацкага Ордэна, сёння Польшчы, Летувы і Калінінградскай вобласці Расіі

Я падаю гэты прыклад як выключэнне, што пацвярджае правіла.

полем перыферыі і таму мае магчымасць рэалізоўваць сябе ўнутры самой сябе; культура на паўзмежжы выяўляе і рэалізуе сябе вонкі, яна заўсёды сцвярджае сябе насупраць другой культуры (некалькіх культур) і таму павінна быць дзейнай увесь час — бясконца жывой і бясконца дынамічнай; знерухомець для яе — адразу згінуць, быць праглынутай другой культурай. Вось чаму культура ў сітуацыі паўзмежжа — гэта абавязкова рэальная культура, тут яна не можа сабе дазволіць раскошу, якую мае ў цэнтры, — уяўляць сябе культурай, а не быць ёй; на паўзмежжы кожная культура ёсць адно тады, калі яна ёсць, і толькі такой, якой яна ёсць, а не была (архіў) ці будзе (каталог).

Адным словам, культура паўзмежжа заўсёды ў стане перформенса, яна ёсць, пакуль адбываецца. І штаб-кватэра Кшыштафа Чыжэўскага ў Сэйнах, на памежжы Польшчы, Літвы і Калінінградскай вобласці — той самы постмадэрновы перформенс. Перабярэцца Кшыштаф у Варшаву, Парыж ці на Антыльскія астравы — і ад усёй яго культуралагічнай і выдавецкай дзейнасці назаўтра ў Сэйнах застанецца адзін успамін, як у памяці ад нядзельнага кірмашу. З аўторка Сэйны пачнуць рыхтаваць наступны кірмаш.

***

Кшыштаф Чыжэўскі праз браму паўзмежжа спрабуе *выйсці за межы* адной лакальнай культуры. У адрозненне ад яго мы, наадварот, спрабуем *увайсці ў межы* адной лакальнай культуры. Мы ўсё яшчэ не ўцялеснілі метафізіку беларускай прасторы ў рэальных ландшафтах. Для нас усё яшчэ застаецца актуальным працэс перайначвання геаграфічнай ідэі Беларусі ў канкрэтныя тапаграфічныя праек-

Гэтаму спрыяе з'ява нязвычнай міграцыйнай дынамікі жыхароў Цэнтральна-Усходняй Еўропы, выкліканай ці то эканамічнымі прычынамі (у апошні час, напрыклад, вандроўкі румынскіх цыганоў у Польшчу і Нямеччыну, ці трансільванскіх венграў у Венгрыю), ці то прымусовымі дэпартацыямі, што праводзіліся камуністычным рэжымам (перасяленне ўкраінскага насельніцтва з усходу на захад Польшчы, дэпартацыя судэцкіх немцаў з Чэхаславаччыны ў Нямеччыну) Прыклады можна множыць. На Захадзе падобныя з'явы не мелі месца, ці, прынамсі, адбываліся не ў такой заўважнай меры. Тым не менш, якраз там, найперш з прычыны прагрэсуючага працэсу адкрыцця і сцірання дзяржаўных межаў, узнікла ўзрастаючае пачуццё адноснасці і часовасці межаў У выніку жыхары абедзвюх, яшчэ нядаўна падзеленых, частак Еўропы сёння ў аднолькавай ступені сумуюць па месцы, межавы камень якога не быў бы парушаны, але якое адначасна спрыяла б нашаму ўкараненню.

Таксама ўсё больш відавочным становіцца перакананне, што памежная лінія гэтага месца ўжо не будзе памежнай лініяй нацыянальнай дзяржавы, а хутчэй нашага бацькоўскага, роднага рэгіёну, з якім нам лягчэй поўніцай сябе атаясаміць.

## МЯЖА ПАРУШАНА

Еўрапейскі дух, так жа моцна, як да ўкаранення, імкнецца і да адчужэння, выбаўлення ад лакальных прыналежнасцяў Несупыннае перасяганне межаў ёсць выклікам, які еўрапеец намагаецца з радасцю агарадзь.

За гэтым стаіць неспатольная цікавасць да свету, адкрытасць для адметнасці, пошук багацця ў разнароднасці. За гэтым стаіць і жаданне стварыць надлакальную структуру, цывілізацыю з універсальным характарам, якая б ахоплівала і асвойвала па магчымасці больш розных прастораў Якраз такой была лацінская цывілізацыя. Такой была і *"Republique des Letters"*, зыніцыяваная гугенотамі, выгнанымі Людовікам XIV напрыканцы XVII стагоддзя. Гугеноты сярод элітаў розных краінаў распаўсюджвалі кнігі, што друкавалі самі, дзякуючы чаму французская мова стала мовай супольнага, еўрапейскага паразумення Прыналежнасць да гэтай рэспублікі атаясамлялася з абсалютным і поўным адмаўленнем ад усялякай канфесійнай, нацыянальнай і нават сямейнай прыналежнасці. Тут мы маем крайні прыклад супрацьстаўлення сябе лакальнасці і дыскрэдытацыі ўсялякай адметнасці.

Інакш стаяла справа з лацінскай цывілізацыяй, якая дзякуючы хрысціянству была талерантнай да лакальнага каларыту і якая паглынула і тым самым захавала рэгіянальныя адметнасці Яе адзінствам было адзінства ў разнароднасці.

Безумоўна, якраз з таго духу, што несупынна імкнуўся да перасягання межаў, і нарадзілася сённяшняе еўрапейскае задзіночанне Не падлягае сумневу, што яго канчатковае здзяйсненне створыць зусім новую якасць у гісторыі Еўропы. Тым не менш, прыведзенае мной водгулле розных аб'яднальных канцэпцыяў з мінуўшчыны ўсплывае ў сённяшніх дыскусіях пад знакам саюзу

Таксама трэба памятаць, што якраз дзякуючы імкненню да парушэння межаў Еўропа, як ніякая іншая культура, заўсёды застаецца дынамічнай, адкрытай і экспансіўнай.

---

**ты. Нас яшчэ чакае праца па пераносе паэтычных і палітычных абстракцый з ірацыянальнага, містычнага вымеру ў вымер падзейнасці, фактурнасці, шараговасці. Для нас Беларусь усё яшчэ святочны ласунак, а не хлеб надзённы...**

**З усяго гэтага, як быццам, вынікае, што праблематыка творчасці Кшыштафа Чыжэўскага і беларускіх інтэлектуалаў вектарна скіраваная ў супрацьлеглыя бакі (у яго — да выхаду за мяжу, у нас — да ўваходу ў межы). Але калі глядзець не на фармальны бок нашых узаемадачыненняў, а на сутнасны, то праблематыка Кшыштафа Чыжэўскага не падасца нам супраціўнай, бо гэта тая самая *наша* праблематыка, толькі яна месціцца ў іншым перыядзе альбо ў іншай сітуацыі нашай (ці таксама і нашай) гісторыі. Адсюль і паразуменне паміж беларускімі інтэлектуаламі і Кшыштафам Чыжэўскім.**

**Бадай якраз гэтае двубочнае паразуменне дазволіла не каму іншаму, а менавіта Кшыштафу Чыжэўскаму заўважыць унікальную адметнасць сучаснага беларускага інтэлектуалізму, які не адчувае дысгармоніі ў адначасным памкненні да *ўваходу ў межы* і да *выхаду за межы* — пры татальнай заглыбленасці ў сакральную ідэю Нацыі беларускі інтэлектуалізм упарта актуалізуе прафанную ідэю лучнасці з еўрапейскім культуралагічным кантэкстам...**

**Пэўна, нашыя ўзаеміны з Кшыштафам Чыжэўскім і далей будуць разгортвацца і паглыбляцца. Бо мы, гэтаксама як і ён, спрабуем збудаваць страху, якая не будзе захінаць неба. Толькі наша сітуацыя розніцца з ягонай тым, што мы пакуль яшчэ не маем сценаў.**

**Валянцін АКУДОВІЧ**





## МЕЖЫ ЕЎРОПЫ

Вельмі цяжка сказаць, дзе праходзяць межы Еўропы. Дагэтуль, напрыклад, ідуць спрэчкі аб яе ўсходняй мяжы. Герадот змяшчаў яе на Доне, дэ Голь — на Урале, а да апошняга часу былі яшчэ і такія, што ўпарта змяшчалі яе на Лабе. Сёння ўсё часцей гавораць аб Еўропе ад Атлантыкі да Уралу. А дзе праходзяць яе межы на Поўдні?

Гэта прагучыць парадаксальна, але універсалізм еўрапейцаў заўсёды меў свае межы. Была універсальная еўрапейская цывілізацыя, якая ахоўвала свае межы, што аддзялялі яе ад свету варвараў Таму пачынаючы ад *"limes"* — межаў Рымскай імперыі — само існаванне Еўропы абумоўлена выразлівым устанаўленнем яе геаграфічных ліній Гэтыя межы, відавочна, можна было, ці нават — як сцвярджалі цывілізацыйныя місіянеры, — трэба было пашыраць. Само слова, што вызначала еўрапейцаў — *"europeenses"*, з'явілася ўпершыню як вызначэнне хрысціянскіх ваяроў, якія ў VIII стагоддзі змагаліся за пашырэнне імперыі Карла Вялікага. Існаванне мяжы, што аддаляла нас, жыхароў Дзяржавы Цэнтра, ад чужых, якіх мы на працягу доўгага часу абразліва называлі варварамі, сведчыла аб існаванні нашай еўрапейскай тоеснасці Але тут трэба памятаць, што нашы *"limes"* ніколі не былі такімі шчыльнымі і замкнёнымі, як, напрыклад, кітайская сцяна, яны былі і межамі пранікнення ўзаемных уплываў, значэнне якіх для развіцця Еўропы не падлягае дыскусіі. Тым не менш сам факт іх існавання вызначаў нашу адметнасць і наш характар.

У розную пару рабіліся спробы парушыць ці нават скасаваць тыя самыя межы. У нашым стагоддзі адкрытасць Еўропы для іншых цывілізацый, да чаго асабліва спрычынілася дынамічнае развіццё антрапалогіі культуры, мела не толькі пазнавальны характар — гэта суправаджалася падрывам еўрацэнтрызму і супрацьстаўленнем пыхлівай Еўропе мудрасці іншых культур. У выніку еўрапейская культура стала яшчэ больш разнароднай, а "limes" у нашай свядомасці існуюць і надалей Існуюць, дарэчы, як свядомасць пагрозы, што, безумоўна, заўсёды і актывізоўвала ўсе спробы аб'яднання Еўропы.

Такая сітуацыя і сёння. *Contehove-Calergi*, які ў Вене ў 1923 годзе сваёй кнігай пад назвай "Пан-Еўропа" заклаў падваліны пад сённяшні саюз, перасцерагаў ад Саветаў, бачачы на варварскім Усходзе галоўную пагрозу для Еўропы У тым, што перасцярогі Калергі не былі беспадстаўнымі, пераконвае польскі пісьменнік Станіслаў Вінцэнз, які ў кнізе "Дыялогі з Саветамі" апісвае рэакцыі людзей, што на вестку аб уступленні Чырвонай арміі ў Польшчу пачыналі паліць кнігі, бо іх маёмасць магла стаць прычынай уласнай згубы. Сённяшнія дзеянні еўрапейцаў, скіраваныя на абарону, у тым ліку і кнігі, ад амерыканскага засілля, ад масавай кічавай культуры, адразу нагадваюць намаганні па ўстанаўленні мяжы, новых "limes" у абароне еўрапейскай тоеснасці.

## ЕЎРОПА ЦЭНТРА

Узмацненне і пільная ахова межаў, ці то *"limes"*, ці то межаў нацыянальных дзяржаў, мае месца не толькі ў эпоху ўзрастаючай пагрозы звонку. Моцных межаў дамагаецца слабы цэнтр. Інакш кажучы, гэта наш унутраны крызіс, наша тоеснасць, якая знаходзіцца пад пагрозай, прыводзіць да таго, што мы пачынаем надаваць вялікую вагу мяжы, якая павінна нас абараніць. У такой сітуацыі нараджаюцца напружанні і лёгка выбухаюць канфлікты.

На пачатку я быў згадаў, што сёння змяняецца наша разуменне межаў у параўнанні, напрыклад, з шасцідзесятымі гадамі. Вытокаў такога стану рэчаў варта шукаць ва ўнутраных праблемах саміх еўрапейцаў Усё больш настойліва артыкуляваная патрэба ўкаранення выражае непакой, звязаны са стратай уласнага месца. Захапленне магчымасцю лёгкага перамяшчэння, здабыцця прасторы, адкрытасцю межаў, саступае месца пошуку шляхоў, што вяртаюць да свайго асяродка, да самога цэнтра.

А дзе шукаць цэнтр у сучаснай Еўропе? Мы ўжо даўно страцілі Рым як цэнтр, што лучыць усю нашу цывілізацыю. У мінуўшчыне таксама адышоў перыяд, калі ролю цэнтра маглі выконваць гарады з магутным культурным і палітычным патэнцыялам, такія як Парыж або Вена. Не ўдаецца гэтай ролі адыгрываць і сучасным цэнтрам еўрапейскай адміністрацыі, Брусэлю ці Страсбургу, за якімі сапраўды стаіць Еўропа адкрытых межаў, але Еўропа уніфікаваная.

Калі я не памыляюся ў памкненнях еўрапейцаў, найярчэй выяўленых у існуючай супярэчнасці паміж выразным устанаўленнем межаў свайго месца і іх несупынным парушэннем, то новай Еўропай, якая ўзнікне ў найбліжэйшым часе, будзе Еўропа рэгіёнаў

Бо мне здаецца, што толькі такая яе форма зробіць магчымым дасягненне сучасным еўрапейцам цэнтра, што ўкарэньвае і вызначае еўрапейца ў ягонай адметнасці і адначасова забяспечвае яму ўдзел у справах гэтага свету, у тым, што паўсюднае

Што такое Еўропа рэгіёнаў? Гэта шар, цэнтр якога паўсюль, а межы нідзе Гэта адмысловае вызначэнне Бога, сфармуляванае яшчэ герметычнай традыцыяй і дзякуючы сярэднявечным містыкам засвоенае хрысціянствам, падаецца надзвычай трапным і ў адносінах да нашых разважанняў Узнікненне малых і вялікшых рэгіёнаў — гэта ўзнікненне аўтэнтычных цэнтраў, што знаходзяцца паблізу чалавека і што як мага паўней яго выражаюць. Гэты працэс неабходны ў часе ўзнікнення еўрапейскага саюзу, неабходны для раўнавагі Адкрыццё ці скасаванне межаў выкліча ўзмацненне разнароднасці і адметнасці, якія будуць бараніцца ад уніфікацыі І гэта натуральная з'ява Так спараджаецца далёка не чужое еўрапейскаму досведу адзінства ў разнароднасці Узнікненне рэгіёнаў — гэта імкненне да пошуку цэнтра, рух унутр. Адначасна ўзмоцнены цэнтр адчыніць межы, прыцішыць нашы страхі перад адкрытасцю і змяшэннем, і тым самым спрычыніцца да павелічэння шанцаў рэалізацыі ідэі еўрапейскай супольнасці.

Фальшывым з'яўляецца цвярджанне, што ў імкненні еўрапейцаў да ўкаранення ў сваіх малых рэгіёнах хаваецца небяспека прымату партыкулярных інтарэсаў, ксенафобіі і нацыяналізму Нацыяналізм распаўсюдзіўся з перыферыі. Ён нарадзіўся сярод людзей, аддаленых ад цэнтра, якія жылі з комплексам цэнтра і былі эксплуатаваны цэнтрам У гэтым сэнсе нацыяналізм з'яўляецца плодам перыяду нарастаючай дыспрапорцыі паміж палітычна-культурным цэнтрам і рэгіянальна-этнічнай правінцыяй. Рэальную процівагу гэтаму можа стварыць Еўропа, якая заснуе цэнтры на перыферыях, і асяродак якой будзе паўсюль.

Еўропа рэгіёнаў, баронячы адметнасці і разнароднасці як багацці, якія яе самавызначаюць, безумоўна, не будзе імкнуцца да сцірання існуючых межаў Існаванне магутных рэгіянальных цэнтраў будзе захоўваць і ўмацоўваць гэтыя межы У гэтым няма супярэчнасці, паколькі першапачатковае значэнне самога слова "мяжа", лацінскага *"finis"* і роднаснага яму *"finitimus"* — памежны — звязана хутчэй з паняццем блізкага суседства, чым з поўнай ізаляцыяй У гэтым спецыфіка рэгіёну, які можна назваць рэгіёнам паўзмежжа, гэта значыць такім, у якім межы ідуць унутр, а не навонкі блізкага яму прасцягу Існаванне жывога цэнтра аслабляе адно тыя межы, якія ідуць навонкі, якія ізалююць і замыкаюць, натуральным чынам узмацняючы існаванне межаў, што ідуць унутр і вызначаюць характар рэгіёну

Існаванне і развіццё рэгіёнаў паўмежжа, якіх у сучаснай, шматкультурнай Еўропе будзе ўзнікаць усё больш, надзвычай важна ў працэсе ажыццяўлення еўрапейскага задзіночання Бо якраз у гэтых рэгіёнах мае шанцы найхутчэй адбыцца аўтэнтычная супольнасць, народжаная ў змаганні магутных адметнасцяў Якраз тут выразліва ўстаноўленыя межы будуць супадаць з універсальным цэнтрам Так будзе ўзнікаць Еўропа Цэнтра. І тады, можа, нам удасца збудаваць такую страху над нашай галавой, якая не будзе захінаць неба

# Голас іншага

### З перспектывы паўзмежжа

*З паўзмежжам клопат — тым, што табе так дорага, ты ніколі не зможаш завалодаць цалкам, ты заўсёды мусіш гэтым дзяліцца А калі б так усё ж такі стала — у выніку гвалту або іншага наканавання — што ніхто апрача тваіх не прэтэндуе на гэта месца, тады акажацца, што гэтага, так табе дарагога, ужо няма.*

Я не быў упэўнены, ці гэтыя словы вымавіў сам Віктар Вінікайціс, з якім я стаяў на высокай строме кляштару над Віграмі, ці гэта таксама быў нейкі іншы голас Дагасала якраз восень 1990 года Ён — са жмутом ключоў, якія забраў са сваёй старажоўкі ўнізе, адчыняючы і зачыняючы дзверы ў касцёл, келлі і катакомбы, запальваючы і гасячы святло, ляпаючы па сходах угару і ўніз — патрапіў ужо выпытаць у мяне ўсё, да чаго я імкнуўся, скіроўваючыся на паўзмежжа Калі мы затрымаліся на строме, спакойна і доўга паглядаючы на ўсходні бераг возера, я ўжо толькі слухаў. Чый гэта быў голас? Сёння ўжо няма сярод нас "апошняга самотніка", як мы называлі Вінікайціса, а я і дагэтуль вяду дыялог, які тады пачуў, з голасам Іншага.

Спачатку я быў перакананы, што ён хаваецца ў іншай мове, у іншай нацыянальнасці або канфесіі Гэта не было пазбаўлена сэнсу Я таксама адчуў, што павялічылася мая ўражлівасць на голас людзей, якія думаюць інакш А пры гэтым я заўважыў, што набываю дыстанцыю да сапраўднасці, раблюся алергічным на маналог, на ідэалогію, на выключнасць адной пазіцыі

Я прыгадваю, як у маленстве бег да мамы, каб распавесці ёй, што здарылася ў двары і як я быў укрыўджаны сваімі сябрамі А потым прыходзіў мой брат і прыгадваў новыя дэталі, якія я абмінаў, і да таго ж інакш інтэрпрэтаваў ходу ўсяго сутыкнення Я злаваўся, што мой расказ не можа быць канчатковым, што брат супраць мяне, што не магу пераканаць маму толькі ў маёй праўдзе Ці не прыгадвае гэта сітуацыю ўрока гісторыі ў школе ў Сэйнах, калі настаўнік — дапусцім, летувіс — прыступіў бы да абмеркавання тэмы польска-летувіскай вайны ў 1918—1920 гадах, маючы ў класе польскіх і летувіскіх вучняў. Ён хацеў бы мець толькі летувіскіх, бо палякі ведаюць сваё Таму, напэўна, і адны, і другія па абодвух баках хочуць мець чыста польскія і чыста летувіскія школы. І, можа, якраз з прычыны такіх клопатаў прыгаданы ўрок цалкам выдуманы, бо ў школе ў Сэйнах гаворыцца аб розных войнах па ўсім свеце, але ніколі аб той, у якой дзядулі вучняў біліся паміж сабой, аб якой нагадваюць сямейныя архівы і магілы палеглых, цырымонія наведзінаў якіх адбываецца штогод.

З голасам іншага існуе клопат У школе яго ўдаецца змоўчаць, але ў жыцці ніколі не ўдаецца заглушыць гэтай моўчы Нязносна з гэтым жыць, але тут — на паўзмежжы — нельга інакш Наколькі спакайнейшым горадам быў бы напрыклад, Беласток, каб не Сакрат Яновіч "Пісьменнік ён, канечне, добры, — тлумачыў мне некалі адзін уцвялены журналіст, — але тое, што ён вырабляе, выходзіць за межы здаровага розуму" Гаворачы гэта, ён нервова гартаў кнігу ў пошуку аргументаў, якія б "выявілі трызненні гэтага беларуса" Ён нешта там знайшоў, але не быў да канца задаволены і толькі коратка абагульніў: гэтыя людзі маюць вольны выбар, ніхто іх не змушае да таго, каб яны адмаўляліся ад вывучэння беларускай мовы або перакідаліся ў палякаў Самі таго хочуць. Тым часам Сакрат зацінаўся і сцвярджаў, што пакуль гэтым людзям не будуць створаныя шанцы азнаямлення з беларускай гісторыяй і культурай, датуль нельга гаварыць аб іх вольным выбары Але і сам Сакрат Яновіч не зазнае спакою ў сваіх Крынках, у якія ён вярнуўся з Беластока некалькі гадоў таму І гаворка не ідзе ўжо толькі пра мясцовага ксяндза, для якога Госпад Бог разумее адно па-польску, а не пабеларуску. З палякамі яшчэ нішто сабе, пасля стольскіх гадоў спрэчак жыццё неяк склалася У рэшце рэшт, усе карты былі ўжо адкрыты і вядомыя, як каза аблупленая І вось ні стуль, ні ссюль на яго "беларускіх разлогах" з`явіліся ўкраінцы У Бельску Падляскім выдаецца нават часопіс "Над Бугам і Нарвою". Сацыёлагі, этнолагі і моваазнаўцы пачынаюць пісаць аб гэтым спаважныя дысертацыі, заснаваныя на тэрытарыяльных даследаваннях. Сакрат мае свае аргументы, бярэ пяро, уступае ў дыспуты. Ён, аднак, усведамляе, што не здолее скляпаць сапраўднасць на свой капыл, што раз прыведзеная ў дзеянне дынаміка паўзмежжа кіруецца сваімі законамі, што яго голас — гэта ледзь чутнае гучанне жалейкі

Спрабую высваіць голас Іншага, які так неспадзеўкі ўварваўся ў маё жыццё тут на паўзмежжы і які я навучыўся слухаць. Часам мне здаецца, што ён зусім не ідзе знутра, што гэта ўва мне нехта гаворыць, што ён ёсць маім голасам, без якога я не змагу ўжо быць сабой. А калі так, то што тады яго адсутнасць, жаданне яго змоўчаць або нежаданне яго слухаць.

**2.**

А хто Вы такі? — спытаўся я ў Вінікайціса пасля таго, як ужо сам сказаў, што я паляк і хрысціянін, узгадаваны ў каталіцкай традыцыі. Тады ён троху падаўся назад і скурчыўся, неяк пачынаючы не гаварыць нармальна, а крычаць, або гаварыць прынам-

сі ў некалькі разоў галасней, чым таго патрабавала наша размова. За таямнічай усмешкай і мармытаннем накшталт "а нашто гэта каму ведаць.. " мне, здаецца, чулася цішэй. . разняволься, чалавеча. спакойна. Што ён хацеў гэтым сказаць? Што лепей не раскідвацца такімі нацыянальнымі або рэлігійнымі дэкларацыямі, бо ніколі нічога невядома? Ці ж не быў, гэткім чынам, закрануты страх, які застаўся пасля папярэдняй эпохі, бо хіба ён не быў выкліканы дэмакратыяй або маёй асобай? Не Ён не на тое хацеў звярнуць увагу ў гэты момант нашай размовы. Я пачуваўся хутчэй як госць, які сваімі паводзінамі парушае пэўныя правілы, даўно ўстаноўленыя гаспадарамі дому Я паводзіў сябе нетактоўна, але чаму? Лепей зразумець гэта мне дапамог Ежы Стэмпоўскі, які "У даліне Днястра" апісаў сваё расчараванне, перажытае пасля прыбыцця ў цэнтральную Польшчу, дзе ён сустрэўся з "нацыянальнымі пачуццямі, якія выяўляліся крыкліва, галасіста, амаль бессаромна. Такія маніфестацыі падаліся мне благім густам, добрым адно для невукаў і прастакоў"

Мне здаецца, што я ведаю, што меў на ўвазе Стэмпоўскі, бо гэты "стыль" дагэтуль у модзе. Я да сёння яго не заўважаў, бо ён нагэтулькі паўсюдны, відавочны ды натуральны, і ад таго празрысты. Усюды адбываўся несупынны матч, у якім задача заўзятараў — у выхваленні сваіх, а задача сваіх — біць па чужых варотах. Ці можна паводзіць сябе інакш на стадыёне? Разгледжаны з гэтай перспектывы, напрыклад, дыялог Чэслава Мілаша з Томасам Венцловам аб Вільні, аб паляках і летувісах будзе біццём па ўласных варотах, што мы звычайна папросту называем "самагубствам". На стадыёне гэта параза, але яны, відавочна — у адрозненне ад мяне — выхоўваліся не на стадыёне І таму дзе? На паўзмежжы? Тады, як падаецца, паўзмежжа — гэта толькі стадыён, на якім адбываецца несупынная барацьба адных супраць другіх.

Тым часам гэты голас з размовы з Вінікайцісам, здавалася, гаварыў аб зусім іншых прынцыпах, абавязковых у доме жыхароў паўзмежжа. Можа, няшмат ужо жыве з тых, хто захаваў памяць аб былых прынцыпах, можа, іх дапасаванне да сапраўднасці, што змяняецца бесперапынна, было занадта цяжкім, можа, яны патрапілі пад паўсюднае забыццё Тым не менш, спадар Віктар стаяў на іх варце, валодаў той забытай мовай. Пазней я сустракаў такіх людзей у розных месцах на паўзмежжах, без цяжкасці распазнаваў іх голас у штодзённым жыцці, у мастацтве, у палітыцы.. Яны валодалі пэўнай тайніцай, якую можна параўнаць з мастацтвам быць сабой у спеве, у якім удзельнічаюць шмат галасоў, або з мастацтвам пабудовы мосту, які злучае стромкія берагі імклівай ракі і змяшчае ў сабе вобраз спакойнай харашыні, гонкую лінію, вытанчаны арнамент і лёгкасць. Іва Андрыч сказаў бы пра іх у сваёй мове *neimar* (будаўнік мосту) Ён надзвычай цаніў іх майстэрства, усведамляючы, што, калі яно будзе забытае, Боснія і ўся Югаславія можа ператварыцца ў пекла. Зрэшты, гэта не малое мастацтва, паколькі найменшая няўважнасць або памылка пацягнуць за сабой фальш, дысгармонію і дэструкцыю

Я сустракаў гэтых людзей у месцах, якія трохі нагадвалі мястэчка з фільма Вэрнэра Герцага "Шкляное сэрца" Я маю на ўвазе сітуацыю чалавечай супольнасці, раптам пазбаўленай тайніцы (у фільме гэта тайніца выплаўкі спецыяльнага шкла), якая дагэтуль рабіла іх жыццё ніштаватым, асэнсаваным і поўным Калі тыя, хто да гэтай пары стаяў на яе варце, паміраюць, не пакідаючы пасля сябе наступнікаў, жыццё — як мазаіка — распадаецца на дробныя кавалкі, адарваныя, каструбаватыя, пазбаўленыя сэнсу, з якіх цяжка скласці цэльную выяву Калі пасля такога краху нават і з`явяцца людзі з даўнімі ведамі, ужо ніхто не будзе разумець іх мовы, ніхто не будзе слухаць іх голас, і ніколі яны не змогуць пераказаць сваёй тайніцы Яны жывуць адзінцом, чужыя сярод сваіх, адыходзячы няўзнак, як адышоў "апошні самотнік"

У той вечар Вінікайціс найвыразней стараўся накіраваць мяне на шлях той старой веры. Як і належыць для чалавека паўзмежжа, ён не рабіў гэтага наўпрост, асцярожна абыходзіў кожную праблему, ніколі надта да яе не набліжаючыся, заўсёды канцэнтруючыся на дробных дэталях, пабочных для асноўнай тэмы, абрываючы сябе на паўслове, часам змаўкаючы, каб я мог прыслухоўвацца. Калі я пачаў дапытвацца аб нацыянальных справах, аб тым, паляк ён ці летувіс, каталік ці хто там яшчэ, ён самім жэстам цела даў мне зразумець, што так не трэба, што тут — насуперак таму, што я сабе наўяўляў, — ніхто не балбоча аб гэтым на кожным рагу вуліцы, не выцягвае гэтага пры кожнай прыдатнай аказіі. Адно прыезджыя з цэнтра пытаюцца аб гэтым Мой





знаёмы з Сэйн заўсёды гаворыць, што калі ён дае "ў карак Воўку", то яго не цікавіць, той русак ці стараабраднік, а толькі тое, што ён яго раззлаваў, робячы нейкую дурноту Але журналіст ужо з гэтага можа зрабіць справу і адвучыць майго знаёмага ад спантанных паводзінаў і натуральных рэфлексаў, паколькі гэта ўжо "нацыянальная" або "канфесійная справа" Гэта паралізуе. Аднак не толькі гэта меў на ўвазе Вінікайціс, які ўстрымліваў мяне ад дапытванняў пра нацыянальныя дэкларацыі Безумоўна, у гульню тут не ўступаюць ніякія светапоглядныя меркаванні, у якіх можна адшукаць жаданне схаваць уласную нацыянальную тоеснасць, яе асіміляцыю, падрыў або нешта іншае ў гэтым родзе. Якраз наадварот Гаворка хутчэй тут ідзе пра пытанне густу, на што звяртаў увагу Стэмпоўскі. Застаецца толькі расшыфраваць задуму ранейшых гаспадароў дому, якія, устанаўляючы прынцыпы добрага густу, усё-такі бачылі, дзе праходзіць мяжа, за якой пачынаецца ўжо фальш і знішчэнне Пазней я шмат разоў пераконваўся ў жыццёвай мудрасці, утоенай у малазначным і, здавалася б, фанабэрыстым эстэтычным пачуцці таго джэнтэльмена з шляхецкім радаводам з даліны Днястра. Калі ў 1995 годзе я дабраўся да размешчанага на поўначы Босніі горада Тузла, у якім яшчэ вялася вайна, я спытаўся ў сяброў, якія жывуць там, чаму тых, хто страляе ў іх з навакольных узгоркаў, яны называюць "чэтнікамі" Аказалася, што тут не маюць найменшага значэння гістарычныя аналогіі, што апелююць да прафашыстоўскіх згуртаванняў "усташоў" і "чэтнікаў", якія існавалі ў часе другой сусветнай вайны. Важнейшым было тое, каб не называць іх сербамі Чаму? Бо сербы — гэта іх суседзі, часам чальцы іх сем`яў, грамадзяне Босніі. А мае сябры заўсёды верылі ў шматкультурную Боснію, у якой ім давядзецца жыць разам з іншымі Таму лепей гаварыць аб чэтніках, лепей не ўзгадваць імён народаў, якія далі выхад гэтым дэманічным сілам Бо вайна скончыцца, а жыць трэба будзе далей нармальна

### 3.

З урыўкаў забытых словаў, недагаворак і знакаў, пакінутых Віктарам Вінікайцісам, якія часта тады былі для мяне незразумелымі і нечытэльнымі, я намагаюся пачуць голас Іншага. Гэта нялёгка, і нагадвае працэс рэканструявання забытай мовы, падчас якога асобныя словы або сказы пачынаюць поўніцай выяўляць свой сэнс толькі тады, калі адкрытыя будуць прынцыпы і ўвесь кантэкст іх функцыянавання Каб іх зразумець, трэба пачаць імі гаварыць і імі жыць, трэба звярнуцца да звычаяў, у якіх яны былі ўкарэнены.

Не так даўно Стэфан Хвін параўнаў сваю працу над "Ганэманам", раманам, які рэканструюе свет германа-славянскага Гданьска, з працай палеантолага. Падобнае параўнанне можна ўжыць і ў адносінах да шмат якіх творцаў культуры, якія працуюць цяпер у Памор`і, Варміі, Мазурах, Сілезіі, Лемкаўшчыне, Падляшшы, Сувальшчыне Такая цяпер наша доля, людзей, якія знаходзяцца ўжо не толькі ў цесных каморках нацыянальнай дзяржавы, але таксама на аскепках зніклай цывілізацыі. Шукаючы ўласнага месца і самих сябе, мы схіляемся над кожнай дробяззю, адчуваем пашану да старых прадметаў, уважліва намацваем сляды мінуўшчыны. І ўсё гэта ў надзеі на адкрыццё парадыгмы, якой мы не атрымалі ў спадчыну, але якая ёсць іерогліфам гэтай зямлі. Таму гаворка не ідзе аб вяртанні да мінуўшчыны, прынамсі, не толькі аб гэтым. Гэта не пытанне рэсантыменту і настальгіі, характэрных для старэйшых пакаленняў Расшыфраванне гэтай парадыгмы патрэбна для жыцця цяпер, паколькі ў ёй схаваны ключ да не аднага скарбу, да брамаў горада і рэгіёну, да этнасу людзей, якія тут жывуць. Сёння ўжо не так важна высвятленне таго, чаму брамы былі замкнёныя і хто ў гэтым вінаваты. Больш важна адшукаць да іх ключ Без яго мы будзем, як і дагэтуль, бяздомнымі, або хутчэй жыць у правінцыі, на ўскрайках і перыферыях, перакананыя, што там наша карэнне, у гэтых субкультурах, гетах, у асобных мікрараёнах, у якіх мы пабудавалі стадыёны Там можна быць палякам, немцам, летувісам . Гэтаму мы навучыліся зусім няблага. Аднак дагэтуль мы не можам стаць грамадзянамі цэнтра Гэта азначае, што мы не ў стане суіснаваць з сабой інакш, як на стадыёне. Гэта асабліва выяўна відаць з перспектывы паўзмежжа Тут асабліва цяжка жыць з запячатаным іерогліфам уласнага месца. Штохвіліны даходзіць да сутычак, нестае кампетэнцыі ў

супольным вырашэнні праблем, спробы дыялогу канчаюцца маналогамі, у адкрытых людзей павялічваецца колькасць ворагаў, нарастае падазронасць да тых, хто першы працягвае руку да згоды І ўсё гэта незразумела чаму дзеецца, неяк так міжвольна, пад уздзеяннем сілы інерцыі. Бо ніхто гэтага не хоча, і, прынамсі, няшмат тых, хто мае ў гэтым свой інтарэс. Невядома, аднак, як сабе з гэтым даць рады Нават тыя, хто мае найлепшыя інтэнцыі, хто перакананы ў сваёй добрай волі не толькі да сваіх, урэшце апынаюцца ў тупіку з цэлым стосам праблем і — не могучы ісці далей — пачынаюць падавацца назад, разгубленыя і бездапаможныя

Верасень 1995 года быў перыядам чарговага напружання ў Сэйнах Арганізацыі летувісаў у Польшчы напісалі скаргі біскупу Зембу (да ведама Ватыкана, кардынала Глемпа, Епіскапату Летувы і г.д.) на касцельную іерархію, якая адмаўляе ім у набажэнствах на роднай мове Яны абвінавачвалі, асабліва дэкана сэйненскай парафіі, у "свядомых дзеяннях, якія шкодзяць захаванню пачуцця нацыянальнай тоеснасці" Навідавоку быў факт, што ў некалькіх касцёлах, у якіх дагэтуль адбываліся імшы на летувіскай мове (напр , у Сэйнах, Жэгарах, Смалянах, Сувалках), у гэты перыяд іх сталі прамаўляць па-польску Прычынай была адсутнасць ксяндза-летувіса або такога, які б ведаў летувіскую мову Быць можа, касцельная іерархія дзейнічала надта млява, недаацэньваючы вагі праблемы для летувісаў Быць можа, цяжка было знайсці некага для гэтага пасля таго, як парафіяне з Пуньска холадна развіталіся са сваім пробашчам, ксяндзом Дзярмейкам, не пускаючы яго ў свае дамы, калі ён ішоў з калядой За гэтым усім, безумоўна, крыюцца доўгія гісторыі падзей, якія папярэднічалі факту Я не буду іх цяпер прыгадваць. Цяпер важна тое, што пасля гэтага ліста ксёндз Казімеж Гацкі, дэкан сэйненскай парафіі, страціў цярпенне *"Przegląd Sejneński"* апублікаваў яго поўнае жалю і крыўды выступленне, вельмі агрэсіўнае да летувісаў Яму адказаў Браніслаў Макоўскі, старшыня рады Супольнасці летувісаў у Польшчы, не ўздымаючы, праўда, палемікі, абмяжоўваючыся агульнымі сцвярджэннямі накшталт· "мы, свядомыя сваіх правоў і абавязкаў у Царкве і дзяржаве " У абодвух выступленнях цяжка было ўбачыць хаця б далікатную інтэнцыю звязаць дыялог, моманту сумневу ва ўласных меркаваннях, крытыкі, скіраванай да ўласнага асяроддзя

У вачах ксяндза-дэкана Макоўскі быў нацыяналістам, адным з тых крыклівых дзеячаў, якія толькі абцяжарваюць жыццё нармальным людзям У вачах старшыні ксёндз быў ворагам летувісаў, адсталым цемрашалам, з якім не варта нават уздымаць палеміку

Ксёндз Казімеж Гацкі зусім нядаўна прыбыў у Сэйны з найлепшымі інтэнцыямі, поўны добрай волі да летувісаў, уважаючы сябе за іх сябра Ён мяркуе аб сабе як аб асобе вельмі талерантнай і мае ў гэтым сто працэнтаў упэўненасці Старшыня Браніслаў Макоўскі, які з'яўляецца таксама вядомым гісторыкам, аўтарам кнігі "Летувісы ў Польшчы", таксама не мае благіх інтэнцыяў да палякаў Ён лічыць сябе абаронцам паняволенай мяншыні ў Польшчы і асобай вельмі талерантнай, у чым таксама мае сто працэнтаў упэўненасці Абодва карыстаюцца павагай многіх людзей, а іх мысленне і дзейнасць нічым асабліва не розняцца ад нашых. Толькі калі яны сустрэліся на прасцягу паўзмежжа, паміж імі ўзнікла спрэчка, рахунак якой уяўляецца наступным чынам талеранцыя і 100% рацыі плюс талеранцыя і 100% рацыі раўняецца адсутнасці талеранцыі і канфлікту рацыяў

Вось прыклад спрэчкі, адной з тых, якія на паўзмежжах мы перажываем несупынна і якім мы не ў стане даць рады Не адчуваецца нястачы добрых інтэнцыяў Я ўпэўнены, што пры арганізацыі запланаванай на чэрвень гэтага года сустрэчы творцаў польскай і летувіскай культуры, мэтай якой ёсць чарговая спроба збліжэння палякаў і летувісаў, супрацоўнічаць будуць як ксёндз Гацкі, так і старшыня Макоўскі. Як ужо цяпер вядома, ксёндз будзе гаспадаром канцэрту летувіскай арганнай музыкі ў сэйненскай базыліцы, а старшыня, які прыедзе ўдзельнічаць у самой сустрэчы, сёння служыць сваімі ведамі і кантактамі арганізатарам з агульнапольскага клуба прыхільнікаў Летувы Такім чынам, як і шмат хто з нас, яны заангажаваны ў справу, якую мы лічым слушнай і патрэбнай Але чаму тады нам не ўсё ўдаецца? Безумоўна, можна шмат гаварыць аб пэўным недахопе кампетэнцыі. Можна спрабаваць гэта змяніць, арганізуючы рознага роду сустрэчы і трэнінгі, вучыцца метадам вырашэння канфліктаў і адкрытага дыялогу Можна стварыць спецыяльныя арганізацыі, запрасіць паўнамоцных прадстаўнікоў





уладаў, царквы і мяншыняў, вельмі паважаных радаў і іншых інстытуцыяў Можна выпрацоўваць і ўдасканальваць правa з думкай аб меншынях, аб слабейшых, аб талеранцыі. Усё гэта, безумоўна, будзе неабходным і карысным, выявіць занядбанасць і праблемы, якія ўжо даўно трэба было запоўніць Але што за гэтым? Нічога Іерогліф паўзмежжа і надалей застаецца нерасшыфраваным. Талеранцыя? Лешэк Калакоўскі ў сваёй гутарцы аб талеранцыі на польскім тэлебачанні пераконваў, што яе асноўным гарантам права не з'яўляецца. Закон або пастанова аб талеранцыі могуць шмат дапамагчы, але гэта яшчэ не абумоўлівае таго, што грамадства гэтай дзяржавы будзе талерантным "Паўтараю, — гаварыў Калакоўскі, — талеранцыя ў меншай ступені забяспечваецца правам, а ў большай — умацаваннем талерантных узвычаенняў" Ну што ж, думаць аб сабе як аб чалавеку талерантным — а хто ж з нас думае інакш — гэта адно, а наша талеранцыя ў сітуацыі выпрабавання — гэта другое Доўгія гады я стараўся адшукаць у голасе Іншага нейкай веды аб талерантным чалавеку, але ніколі не атрымліваў пазітыўнага адказу, якім бы падкрэслівалася існаванне нейкіх рысаў, якімі можна авалодаць і тым самым стаць талерантным. Можа, гэта дзіўна, але ўсё паказвала на тое, што гаворка ідзе хутчэй аб выбаўленні ад нечага, аб сціснэнні. Сёння я думаю аб талерантным чалавеку як аб такім, які не давярае свайму перакананню аб уласнай талеранцыі, не дае ўмацаваць сябе ў гэтым меркаванні і несупынна падвяргае яго сумневу

**4.**

З часу той вечаровай размовы з Віктарам Вінікайцісам мне не давала спакою думка, што ён жыхар таго прасцягу, куды мне няма ўваходу У гэтым я зайздросціў яму. Бо ён, калі хацеў, мог знаходзіцца ў маім свеце, браму якога пераступаў без цяжкасці Зрэшты, ён ведаў гэты свет наскрозь і ўмеў у ім спраўна перамяшчацца. Мы шмат разоў размаўлялі аб гістарычных працэсах, і дагэтуль жывыя на паўзмежжы. Ён часам прыходзіў у нашу кнігараньку ў "Белай сінагозе", каб купіць кнігі Ласоўскага, Макоўскага, Грэймаса, Жукаса і іншых. Мне імпанавалі яго гістарычныя веды Ён ведаў вытокі напружанняў, а таксама ў якой форме яны назіраюцца сёння Ён трапна прадбачыў праблемы, якія ўзнікаюць у новага прыхадня, які ўступае ў зону паўзмежжа *Ты мусіш вытрымаць у сітуацыі паміж молатам і кавадлам, нават калі табе дадзена лічыцца* ***не-*** *сваім. Застанься* ***не****-свой і не мяркуй наіўна, што табе ўдасца замірыць молат з кавадлам. Шукай хутчэй для сябе трэцяга шляху, а ён праходзіць заўсёды бліжэй да чалавека, чым да супольнасці. Пасля пэўнага часу можа аказацца, што ты не адзін. Памятай, што гэта не Варшава, дзе часам, каб вырашыць нейкую праблему, трэба ўзрушаць грамадскую думку, арганізоўваць пратэст або дэманстрацыю, праводзіць акцыю ў сродках масавай інфармацыі. На паўзмежжы ты такім чынам распаліш пажар, які цяжка будзе пагасіць. Тут лепей не датыкацца да жывой раны Калі ты хочаш патрапіць у мэту, да якой імкнешся, не глядзі ніколі наўпрост, а заўсёды трохі вышэй ці ніжэй, трошкі збоку.*

Добрыя парады, якія я пачуў у голасе Іншага, змаглі акуратна сцерці мяжу паміж атачаючым мяне светам і тым, што было мне найбольш асабістым Ён, безумоўна, хацеў, каб я не аддзяляў сапраўднасці паўзмежжа ад сваіх уласных слабасцяў, каб я ішоў далей, пакідаючы за сабой дзяржаўныя, нацыянальныя і культурныя межы, скіроўваючыся да праўды аб самім сабе

Я назіраў за Вінікайцісам, як ён супраўаджаў гасцей па кляштары, плаўна пераходзячы з польскай мовы на летувіскую Кожны меў яго за свайго, а хутчэй хацеў мець за свайго, хоць усе і адчувалі, што яны толькі мінакі ў месцы, якое ёсць яго домам. Ён ведаў іх мовы і звычаі Дарма што ён адчыняў перад імі розныя дзверы, праводзіў іх у катакомбы і на вежу — ён усё-такі пакідаў іх заўсёды перад брамай, якую пераступаў толькі сам, уваходзячы ў самы цэнтр Ён там і жыў — грамадзянін цэнтра.

**З польскай пераклаў**
**Валерка БУЛГАКАЎ.**

# НАШ | Уладзімер ГЛЫБІННЫ



*Змагаючыся ўвесь час за сваю незалежнасьць, бароначыся ад агрэсіі з Поўначы (Ноўгараду) і Паўдня (Кіева), а таксама з Заходу ад Літвы і з Усходу ад татарскае навалы, Смаленск здабыў сабе імя непераможнага гораду крывічоў.*

## *Пра Уладзімера Глыбіннага*

**Сапраўднае прозвішча літаратара і навукоўца, які друкаваўся пад гэтым псеўданімам, — Сядура. Ён меў і другі псеўданім — Кастусь Старажоўскі, у якім адлюстравалася назва той часткі Менска, дзе ў 1910 годзе будучы пісьменнік прыйшоў на свет.**

**Паступленне ў сталічны Белпедтэхнікум і далучэнне да "Маладняка", як і навучанне на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ, амаль аўтаматычна гарантавала арышт і блізкае знаёмства з далёкімі часткамі краіны, "где так вольно дышит человек". З 1933-га Уладзімір Сядура карміў сібірскую камарэчу.**

**Пасля вызвалення лёс былога "маладнякоўца" і палітвязня склаўся не зусім тыпова. Ул. Сядура вучыўся ў Маскоўскім, а ў 1939 годзе скончыў Ленінградскі універсітэт, абараніў кандыдацкую дысертацыю па філалогіі і напярэдадні вайны выкладаў літаратуру ў Менскім пядінстытуце. 22 чэрвеня 1941 года органы НКВД выправілі свой недагляд, і малады вучоны быў зноў арыштаваны, але на этапе Менск — Чэрвень здолеў уцячы з-пад варты.**

**У гады нямецкай акупацыі ён рэдагуе ў Рызе часопіс "Новы шлях", дзе з восені 1942-га сакратаром працаваў паэт Алесь Салавей. У той самы час былі набраныя, але так і не выйшлі кнігі Ул. Сядуры "Беларускае мастацтва", "Жыве беларус" і "Беларускі тэатр".**

**З 1951 года ён жыве ў ЗША, дзе чытае лекцыі, з'яўляецца прафесарам Політэхнічнага інстытута штата Нью-Ёрк і каледжа Мідлбуры ў Вермонце. Адначасова Уладзімер Сядура-Глыбінны цесна супрацоўнічае з беларускім і расейскім эміграцыйным друкам, займаецца мастацкай творчасцю і навуковымі штудыямі ў сферы літаратура-і тэатразнаўства, а таксама гісторыі беларускай культуры.**

**Яго пяру належыць колькі кніг прозы, найбольш значнымі з якіх трэба лічыць раман "Вялікія дарогі", навукова-мастацкі нарыс "На Сьвятой Зямлі" і прысвечаную Максіму Багдановічу кнігу "Пад лебядзіным знакам". З навуковых працаў нашага суайчынніка вылучаюцца кнігі "Беларускі тэатр і драма" (на англ. мове; Нью-Ёрк, 1955), "Доля беларускае культуры пад Саветамі" (Мюнхен, 1958; на нямецк. мове выйшла ў 1959 г.) і "Дастаеўсказнаўства ў СССР" (на расейск. мове; Мюнхен, 1955). Апошняя была двойчы перавыдадзеная па-ангельску ў Лондане і Нью-Ёрку і выкарыстоўвалася як падручнік для студэнтаў-славістаў. Рэцэнзіі на гэтае даследаванне з'явіліся, апрача ЗША, Вялікабрытаніі і Нямеччыны, у Францыі, Швецыі, Польшчы, Канадзе і іншых краінах.**

**Заходнія славісты разам з беларускай, расейскай і украінскай эміграцыяй шырока адзначалі 70-годдзе нашага суайчынніка. Юбілейны артыкул у таронцкім "Современнике" меў назоў "Ученый мирового признания", а ньюёркская газета "Новое русское слово" у тыя дні пісала аб "выдающемся специалисте по творчеству Достоевского".**

**Зямны шлях Уладзімера Сядуры-Глыбіннага завяршыўся ў 1995 годзе.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# АДВЕЧНАЯ ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

*З гор паглядае прыгожы Смаленск*
*цераз прысады а блоні свае.*
*Замак і цэрквы ў даліны глядзяць,*
*цяжкія дні ім прыйшлося зазнаць.*
*Тут адбываліся бойкі ня раз,*
*тут задрамаў, затрымаўшыся, час.*
*Сяньняшняй бойкі ня чулі вякі,*
*гэтакай цяжкай ня зналі рукі.*
*Павадкай дзікай прайшлі па зямлі,*
*новы тэстамэнт няволі далі...*
*Сьціх і скарыўся магутны Дняпро...*

**Ул. Дубоўка**

**Аб чым гавораць старыя летапісы**

Смаленск... Як шмат гістарычных успамінаў будзіць гэтае слова, як многастайна ў дазнаным ведаю мінулага ўяўленьні паўстае багатая на падзеі гісторыя гэтага гораду. А гісторыя Смаленску, як крывіцкага гораду, пачынаецца яшчэ ад незапомных часоў Бадай усе першыя летапісы з гісторыі славянства ўжо ўспамінаюць Смаленск, як палітычны цэнтар крывічоў, яшчэ ў пэрыядзе паганскае старавечнасьці, калі крывічы калянізавалі шырака поўнач і ўсход Беларусі і крывіцкія паселішчы паўставалі ў Вазёрным краі аж да самага Белавозера, а на ўсходзе і паўдні да Акі і Дону. Побач з Ізбарскам і цэнтрам падзьвінскіх крывічоў — Полацкам, — навет раней за яго, называецца цэнтар усходніх Прыдняпроўскіх крывічоў — Смаленск.

Смаленск быў цесна зьвязаны ў эканамічных і тэрытарыяльных дачыненьнях з слаўным Полацкам. Лучылі іх інтарэсы Дняпра — Дзьвінскага воднага шляху, якім ішоў гандаль заходніх готаў з усходнімі баўгарамі і хазарамі; эканамічна лучыў іх вялікі водны шлях "з варагаў у грэкі". Ажыўлены гандаль праз гэтыя шляхі багаціў Полацак і

Смаленск, а раньняе палітычнае вылучэньне ў васобныя дзяржаўныя адзінкі рабілі іх гаспадарамі над шмат якімі суседнімі пляменьнямі, якіх яны ўзалежнівалі ў дзяржаўным дачыненьні. Шмат якія назовы мясцовасьцяў і паселішчаў, што паходзяць ад слова "крывіч", як Крывец, Крэчаны, Крыўскае, Крэва, Крывозны і г.д., што сустракаюцца ў вялікай колькасьці ў землях Радзімічаў, Севяранаў, Дрыгвічоў, сьцьвярджаюць, што крывічы надта далёка пашырылі сваё расьсяленьне У дзяржаўнай залежнасьці ад вялікага племя Крывічоў і іхнага цэнтру Смаленску была і Севяранская зямля Аб гэтым у "Повести древних времен" гаворыцца:

"И по сих братии (пасьля Кія, Шчэка і Харыва) држаці почаша род іх княженье в Полях, а в Деревлях свое, а Дрьгевичи свое, а Словене свое Нов`егроде, а другое на Полоте, иже и Полочане, от них же и Кривичи, иже седять на верх Влги и на верх Двини и на верх Днепра, іх же град есть Смольнск, туда бо седят Кривичи, таже Север от них"

Зьліваючыся з севяранаўскімі, радзіміцкімі і дрыгавіцкімі землямі ў працэсе калёнізацыі гэтых земляў, яшчэ ў тыя пачатковыя для сваёй гісторыі часы яны далі той асобны славянскі тып беларусаў, які становіць цяпер зусім непадобную да расейцаў нацыю. Этнаграфічнай і расавай чысьціні полацкіх і смаленскіх крывічоў спрыяла раньняе дзяржаўнае самавызначэньне і магутнасьць, набытая дзякуючы этнаграфічнаму, эканамічнаму і гэаграфічнаму адзінству

Аб велічы і значэннасьці Смаленску ў тыя старадаўныя часы гавораць і летапісныя весткі пра паход 865 г варaскіх баяраў Аскольда і Дыра, якія з згоды Рурыка пайшлі ў Царгорад з родам сваім "И поидоста изь Новагорода по Днепру и идуче мимо Смоленск, и не явистася в Смоленску· зане град велик и мног людьми"

Той самы летапіс адзначае, як пазьней Смаленск, у 882 г., прызнаў залежнасьць ад Алега і Ігара, але ўсё-ж меў самастойнага князя і належыў, як раней, да вялікіх гаспадарстваў Калі Алег у 907 годзе супольнымі славянскімі сіламі паняволіў Грэцкую зямлю і загадаў плаціць даніну — "рускім гарадом" перш Кіеву, так-жа Ноўгароду, а затым Полацку, Растову, Смаленску і іншым, дык адразу-ж давалася тлумачэньне, што гэта вялікія княствы — "па тых бо гарадох сядзяць вялікія князі, якія знаходзяцца пад Алегам"

Гэтак, летапісы называюць гэткіх раньніх самастойных князёў у Смаленску, як князя Станіслава, сына Валадзімера, затым Вячаслава Яраслаўага (ад 1054 г) Канчальна вызваліў Смаленшчыну ад усякае залежнасьці ад дынастыі русаў у 1128 г і стварыў магутнае Смаленскае княства Расьціслаў Мсьціславіч, унук Манамаха (1125 — 1160).

Смаляне хрысьціліся паводля прынятага ў 1013 г. хрысьціянства. А ў 1137 г, імкнучыся да паступовага палітычнага самавызначэньня і навет духовае незалежнасьці ад русаў, за Расьціславам Смаленшчына вылучылася ў васобную епіскопію За першага епіскапа быў вучоны грэк Мануіл, пасьля ў гэтай ролі былі беларусы. Адгэтуль пачынаецца час культурнага і гаспадарскага росьцьвіту Смаленску — залатая пара незалежнага Смаленскага княства.

Гандлёвыя сувязі Смаленску, даўней з арабска-бізантыйскімі краямі, а гэтым часам і з захадам — Рыгаю, Готляндам ды іншымі нямецкімі гарадамі — багацілі горад.

У Смаленскіх курганах знаходзяць шмат бізантыцкіх і арабскіх манетаў VII — XI ст ст Багата хлеба Смаленск вывозіў на свой хлебны рынак — Ноўгарад. Смаленскія купцы езьдзілі ў Суздаль і аж у Канстантынопаль. Немцы-ж самі прыяжджалі ў Смаленск і трывала тут асядалі. Ужо ў XIII ст тут была цэлая нямецкая калёнія з сваёю царквою імя Божае Маці, якая мела і свой двор За той самы час ведамыя ў гісторыі беларускае мовы і беларускага права гандлёвыя ўмовы, якія рабіў князь Мсьціслаў з Рыгаю і Готляндам, як, скажам, Смаленская Targовая грамата ад 1229 г і інш.

Гэтыя дакумэнты, пісаныя ў тагачаснай беларускай мове, сьветчаць пра пашыранасьць гэтае мовы далёка і за межамі Беларусі, а таксама і пра тое што яна мела прызнаньне ў шырокіх колах замежных купцоў, як мова літаратурная, мова юрыдычных і гандлёвых дакумэнтаў і штодзённага ўжытку ў асьвечаных колах беларускага жыхарства.





**Старадаўны асяродак беларускае культуры**

Яшчэ перад афіцыйным прыняцьцем хрысьціянства беларускія купцы, разам з уплывамі хрысьціянства, прывозілі з Бізантыі і ўплывы бізантыйскае культуры Пасьля таго, як княгіня Рагнеда з сваім сынам Ізяславам зьвярнулася з Кіева на Беларусь у 900 г і абвесьціла тут хрысьціянства афіцыйнаю вераю, культурнае разьвіцьцё Беларусі пайшло шпаркімі тэмпамі наперад. Смаленшчына, хоць крыху і пазьней за Полаччыну прыняла хрысьціянства, але дзякуючы эканамічнаму ўздыму і высакаасьвечаным князём, што былі на пасадах у Смаленску, надта прычынілася да культурнага ўздыму Беларусі

Тут у манастырох ствараліся культурныя асяродкі, зь якіх паўставалі цэлыя літаратурна-асьветніцкія кірункі і школы з шмат якімі культурнымі дзеячамі і пісьменьнікамі.

Гэтаму вельмі спрыяў высокакультурны князь Расьціслаў і асабліва князь Раман (1160 — 1180) Гэты апошні ўсё сваё жыцьцё аддаў развою школьніцтва, дзеля чаго наймаў за мяжою, на захадзе і ў Бізантыі, высокаадукаваных, каб яны вучылі беларускую моладзь грэцкай і лацінскай моваў Асьветна-культурнай справе князь Раман ахвяраваў усе свае сродкі і багацьці

"Князь Раман, — гаворыць летапісец, — аддаў на школы і кнігі ўсю сваю маёмасьць, і па сьмерці добрага князя Рамана смаленцы пахавалі яго сваім коштам, бо ў князёўскім скарбе ня было ніводнае капейкі"

Дзякуючы гэтай рупнасьці пра культуру і асьвету з боку саміх князёў праз усе XII — XIII ст смаленцы ўзьняліся ў тым часе на найвышэйшы ўзровень. Ужо ў XII ст вылучаюцца выдатныя асобы культурных дзеячоў у Смаленску, як Клімэнт Смаляціч, Аўраам Смаленскі, мніх Апанас, прэзьбітар Хама, манах Ахрэм і інш Гэткага кніжніка, як Клімэнт Смаляціч, як сьветчыць летапісец, датуль яшчэ ня было навет на ўсёй усходняй славяншчыне Гэта быў высокаасьвечаны чалавек, глыбокі філёзаф, знаўца антычных пісьменьнікаў — Гамэра, Плятона і Арыстотэля Спачатку быў ён мніхам-схімнікам, але, выклікаўшы сваёй адукаванасьцяй увагу высокапастаўленых асобаў у Кіеве і духоўнікаў у Смаленску, ён саборам мясцовых епіскапаў выбіраецца за мітрапаліта (1147 — 1154) Будучы абраным толькі саборам, а не пастаўленым канстантынопальскім патрыярхам, Клімэнт меў нямала супраціўнікаў і няпрыемнасьцяў Але гэта-ж змушала яго ў абарону сваіх паглядаў пісаць нямала палемічных твораў і гэтак прычыніцца да развою беларускага пісьменства тае пары

Гэтак, дайшло да нас ягонае "Пасланьне", напісанае ў вадказ на закіды свайго супраціўніка Хамы, што ён быццам у сваім лісьце да князя Расьціслава выхваляе сябе і выдае за лепшага філёзафа Клімэнт адказаў, што ён ня шукае сьвецкае славы, багацьцяў, а дбае толькі аб душы і пасьмяротным збаўленьні Да гэтага, ён уважае, можна прыйсьці праз духовае дасканаленьне чалавека

Хама трымаўся літары сьвятога "Пісьма" і быў ворагам усякага творчага тлумачэньня яго Клімэнт вызнаваў іншы пагляд — патрэбы тлумачэньня сьв Пісьма паводля твораў Гамэра, Плятона і Арыстотэля, цьвердзіў, што гэта зусім ня зьнячвае сьв. Пісьма, а даець яму новае алегарычна-сымбалічнае тлумачэньне Гэтак беларус Клімэнт Смаляціч яшчэ ў XII ст ужо бачыў тое, што перамагло ў Эўропе куды пазьней — у эпоху адраджэньня і гуманізму Мудрасьць і розум, дасканаленыя і шліфаваныя ведаю грэцкіх аўтараў у арыгінале, зрабілі тое, што сваім Пасланьнем Клімэнт Смаляціч зьявіўся перакаанальнікам гуманізму на Беларусі яшчэ тады, калі ў Эўропе панавалі дагматызм і схалястыка з іхным перасьледам усякае вольнае думкі Гэта важнае сьветчаньне духовае сілы беларускае творчае магутнасьці

Клімэнт Смаляціч памёр у 1164 г Але ён быў не адзіным Побач з ім, другім паводля значэньня культурным беларускім дойлідам у гэтых часох, зьяўляецца Аўраам Смаленскі — бліскучы прамоўца-казальнік таго часу У сваіх запальных прамовах, што зьбіралі ўсё смаленскае грамадзянства, ён уздымаў самыя актуальныя пытаньні свайго часу і выклікаў імі магутнае водгульле, якое будзіла жывую думку, уздымала інтэлектуальныя патрэбы людзей і штурхала іх на шуканьне духовага і культурнага здавальненьня, што спрыяла культурнаму развою

Беларускае пісьменства таго часу ўзбагацілася яшчэ шмат якімі творамі смаленскіх аўтараў Назавём тут такі выдатны літаратурны твор, як біяграфія Аўраама Смаленскага, напісаная ягоным вучнем Ахрэмам, аповесьці пра Мэркура, вандраваньні Ігната Смальляніна ў Палестыну і Канстантынопаль ды інш.

## Непераможны горад Крывічоў

Змагаючыся ўвесь час за сваю незалежнасьць, баронячыся ад агрэсіі з Поўначы (Ноўгараду) і Паўдня (Кіева), а таксама з Захаду ад Літвы і з Усходу ад татарскае навалы, Смаленск здабыў сабе імя непераможнага гораду крывічоў Доўга ніякія ворагі не маглі сходаць супраціву смаленцаў Дзякуючы гэтаму, горад уратаваўся і ад татарскае няволі.

Гэтак, паводля смаленскае легенды аб сьв. Мэркуры, у 1238 г., калі татары сунуліся былі на Смаленск, іх спаткаў недалёка ад гораду з невялікім аддзелам смаленскіх жыхароў Мэркур і гэтак шмат перабіў іх, што тыя змушаныя былі ўцякаць. Калі татары агледзеліся, што смалянаў надта мала, і зноў павярнулі на іх, дык на дапамогу выйшла шмат смаленскіх жыхароў і ў жорсткай бойцы зусім расьцярушылі татараў Пярэпалах у татарскіх аддзелах і памяць аб гэтых паразах доўга стрымлівалі татараў ад намеру заваяваць гэты горад, а Смаленшчына тым часам ня мела жудаснае татарскае няволі. Нездарма народныя беларускія пагудкі пра гэраічныя ўчынкі Мэркура надаюць яму рысы беларускага нацыянальнага гэроя і малююць яго, як вернага вартаўнічага беларускае зямлі, свайго гораду і народу На ягонай дамавіне, як нацыянальныя рэліквіі, смаленцы перахоўвалі ягоную зброю, піку і г.д., яе надзявалі на новавянчаных беларускіх князёў — і ў Смаленску і ў Полацку, а ўсе беларускія сьвятыні імкнуліся мець хоць частачку зброі сьв. Мэркура Гэтак ува Ўсьпенскім саборы знаходзіўся зялезны шалом і камашы з крывымі наскамі дасканальнае формы, у якіх, паводля паданьня, Мэркур біўся з Батыевым войскам. Народ верыў, што ў часы напасьцяў на беларускую зямлю розных чужацкіх зграяў беларускі нацыянальны гэрой сьв. Мэркур уставаў з дамавіны, браў зброю, садзіўся на каня і нішчыў ворага, чым спрыяў крыўскім перамогам Вось-жа таму і на шмат якіх пачатках часоў незалежных беларускіх княстваў ёсьць абраз сьв. Мэркура на кані і ў зброі. Гэтак у арэоле гераічнасьці, у вобразе народнага заступніка выступае ў народных паданьнях сьвяты Мэркур.

Смаленская легенда аб сьв. Мэркуру — выдатны літаратурны помнік беларускага народу, слаўных балонаў ягонага змаганьня за самастойнасьць у часы княжага Смаленску Мастацкая і гістарычная вартасьць гэтага помніку ня ніжэйшая за шмат якія эпічныя творы сусьветнае літаратуры. І дарма маскоўцы хочуць прысвоіць гэтага народнага беларускага гэроя сабе ды выкарыстоўваюць яго ў сваіх інтарэсах, выдаючы ягоныя гэраічныя чыны, як змаганьне за іхныя інтарэсы супроць татараў

Беларускі народны эпас належыць беларусам і зьяўляецца іхным неадымным духовым скарбам Духовая творчасьць, як і ўсе гэраічныя чыны, з правам павінны належаць скарбніцы беларускага нацыянальнага генія.

## Змаганьне за Смаленск

Багацьці і стратэгічнае значаньне Смаленску ўжо ў XVIII ст. пачынаюць прыцягваць да сябе ўвагу заходніх і ўсходніх заваёўнікаў Рэч у тым, што праз Смаленшчыну праходзіць Вялікі Эўрапейскі вададзел, што дзеліць басэйны Дзьвіны і Дняпра, якія ўтвараюць тут вузкую браму, яе як-бы затыкае сабою сам горад Смаленск. Вось-жа ўважаючы на тое, што Дзьвіна з поўначы і Дняпро з усходу зьяўляюцца добрымі стратэгічнымі межамі і прыроднымі перашкодамі для праходу чужым войскам і добрымі абароннымі становішчамі (а Смаленск — ключом да гэтае Смаленскае брамы), кажны, натуральна, хацеў валодаць гэтым ключом, каб быць поўным гаспадаром над гэтым, высунутым на ўсходзе для захаду і на захад для ўсходу, пляцдармам.

Таму ўжо ад XIII ст , каб валодаць Смаленскам, робяць высілкі суседнія палітычна-





дзяржаўныя згуртаваньні — Суздаль, Масква і новастворанае геніем Мендаўга ў Навагрудчыне Літоўскае Гаспадарства.

Сваёй палітычнай мудрасьцю Мендаўг зразумеў значаньне Смаленску для роста магутнасьці маладога беларускага гаспадарства, творанага праз задзіночаньне пад ягонаю ўладаю ўсіх беларускіх земляў Мендаўг першым сярод беларускіх князёў задзіночанага гаспадарства робіць спробу падпарадкаваць Смаленск сваёй уладзе. З дапамогаю свайго пляменьніка Ердзавіда ён і завалодаў ім на нейкі час. Але тым-жа самым часам ня мог на гэтае абыякава глядзець другі, усходні цэнтар — Суздальскае княства. Калі не забывацца і на тое, што Смаленск датуль жыў незалежным княжым жыцьцём і ў ім моцна жылі сэпаратыўныя імкненьні, дык не даводзіцца дзівіцца, чаму дапамога Суздальскага князя Яраслава Усеваладавіча вырвала Смаленск з-пад Мендаўгавае ўлады.

Але тымчасам Смаленск зноў апынуўся паміж дзьвюма сіламі — Літвой і татарска-мангольскай небясьпекай з усходу. Аднаму яму абараніцца ад татарскага націску ня было моцы. Гордае нясхіленьне перад усходнімі сіламі выклікала вялікія напасьці — суздальскія і маскоўскія князі наводзілі татарскіх ханаў і нацкоўвалі іх на смалянаў Гэтак, у выніку правакацыяў, Смаленск у 1274 г ужо быў змушаны аднойчы прызнаць залежнасьць ад ханскай арды. Арыентацыя на ўсход не ратавала. А выбіраць трэ' было. Ня дзіва, што Смаленск пачаў аглядацца на захад, на Беларускую дзяржаву, г зв. Літоўскае княства. Гэта была здаровая ў сваёй аснове, пакуль яшчэ не расшматаная рэлігійным змаганьнем і нутранымі супярэчнасьцямі дзяржава зь лепшым для тых часоў на ўсходзе Эўропы законадаўствам, з рэлігійнаю свабодаю і народапраўствам, з высокаю культураю.

Пры далучэньні новых тэрыторыяў да беларускага гаспадарства праводзіўся прынцып “старыны не парушаем, а навіны ня ўводзім” Устаўныя граматы, што даваліся далучаным князём і вялікім гарадом, забясьпечвалі ім значныя правы самаўрадаваньня і фактычна былі канстытуцыйнымі граматамі асобных земляў

Дзякуючы гэтаму, Полацкая, Віцебская і Смаленская землі, увайшоўшы ў Вялікае Княства, фактычна заставаліся як-бы асобнымі княствамі. Захоўваліся навет усе абавязкавыя для гэтага дваровыя пасады — маршалка, канюшага, лоўчага, акольнічага, сакольнічага, баброўнічага, ключніка і г.д.

Усе яны выбіраліся з мясцовых беларусаў, гэтаксама як і на вялікакняжага намесьніка часьцей выбіралі мясцовага баярына.

Нядзіва, што Смаленск пачынае ўваходзіць у прыязныя дачыненьні з г зв. Літвою. Гэтак, Гедымін робіць з смаленскім князем Іванам Аляксандравічам хаўрус супраць татарскага хана. За Альгердам смаленскі князь называе сябе “малодшым братам” літоўскага князя.

Аднак-жа, дарма, што былі ўсе гэтыя абставіны, якія спрыялі прыязьні Смаленску да Літоўскага княства, ён быў усё-ж такі зарабаваны гвалтам маскоўцамі і за яго давялося на працягу гісторыі шмат ходацца з Масквою. Тлумачыцца гэта тым, што надта моцнымі былі ў смаленцаў традыцыі волі, незалежнасьці. Масква выкарыстоўвала гэтыя свабодалюбныя пачуцьці смаленцаў і накіроўвала іх супраць Літвы, а таксама карысталася часта вайсковымі сіламі Смаленску ў сваім змаганьні за вызваленьне Маскоўшчыны ад татарскае няволі і інш. Гэтак, беларускае смаленскае войска князя Сьвятаслава Іванавіча брала ўдзел у змаганьні расейскага войска Дзімітры Донскага на Куліковым полі супраць татараў. Тут, як і ў шмат якіх іншых войнах, крышыліся беларускія косьці за чужацкія інтарэсы. Лілася беларуская кроў бязь меры, аб чым некалі добра сказаў у вершы “О Крыўская Зямля” В. Ластоўскі:

*“Крывёй сыноў Тваіх*
*Куплялі славу гучную*
*На Грунвальду палёх.*
*Ад дзікае арды баронячы Заход*
*Тваіх байцоў касьцісты вал палёг!*
*Бязыменнаю, а ўсё-ж тваёй крывёй*
*Паліты Хоціма даліны:*
*І па-над Калкаю ракой*

*Маскальскія нізіны.*
*Арошаны крывёй*
*Тваіх сыноў Іпранскі край,*
*Само-Сьера, Райн, Аара, По, Сівы Дунай!*
*О, так, гаротныя Крыўцы,*
*Ламалі косьці за чужую справу;*
*Сваёй крывёй і мазалём*
*Ішлі купляць чужынцам славу!"*

**Красаваньне Смаленшчыны ў Беларускім Гаспадарсьцьве**

З гледзішча беларускіх інтарэсаў спроба вялікага князя Альгерда далучыць Смаленск да Беларускае Дзяржавы была прагрэсыўнай і ў вабставінах панаваньня беларускае культуры не азначала асаблівае страты народных свабодаў пары незалежнасьці Смаленску. Але аднак падбухторваньне Масквы штурхала смаленскіх князёў на супрацію, хоць Альгерду ўдалося здабыць смаленскі горад Мсьціслаў

Пасьля сьмерці Альгерда, смаленскі князь Сьвятаславіч скарыстаў часовае замяшаньне на Беларусі і выступіў супраць беларускіх гарадоў Але бойка ля Воршы дала перамогу беларускаму войску князёў Скіргайлы, Вітаўта ды інш , якое гнала смаленцаў да самага Смаленску Ды дарма, што была перамога, харобрасьць і магутнасьць супраціву смаленцаў выклікала зьдзіўленьне і спачуваньне пераможцаў да сваіх-жа аднакроўных братоў, і пераможцы ўзялі зь іх толькі кантрыбуцыю Але ў палітычным дачыненьні смаленскія князі адгэтуль зьяўляюцца як-бы толькі намесьнікамі Вялікага князя Літоўскага і, калі трэба было, замяняюцца на іншых. Гэтак, вялікі князь Вітаўт пасьля 1395 г. замяніў смаленскага князя Юр'я на ягонага брата Глеба. А калі смаленцы пачалі гучна выказваць з гэтага паваду сваё незадавальненьне, Вітаўт рушыў з войскам на Смаленск, здабыў яго, заарыштаваў варожых яму князёў, а на княжы пасад прызначыў намесьніка Ямонта

Толькі перамога войскаў хана Ядыгея пры Ворсклі і параза Вітаўта вярнулі Смаленску князя Юр'я Але ня годзіцца з гэтым слаўны Вітаўт і колькі разоў спрабуе зноў здабыць Смаленск. Урэшце, скарыстаўшы ад'езд Юр'я ў Маскву, Вітаўт аблажыў горад, і той змушаны быў здацца.

Гэтак старадаўны крывіцкі Смаленск ад 24. VI. 1404 г стаўся складоваю часткаю непадзельнага цэлага — Вялікага Беларускага княства.

Разам з вывадам маскоўскіх элемэнтаў беларускія валадары пачалі даваць жыхарам Смаленску вялікія палёгкі, асабліва ў гандлі Нездарма за беларускіх часоў Смаленск надта вырас, як горад. Было збудавана шмат новых цэркваў, будынкаў, паўстала шмат новых школаў. Рэлігійная лёяльнасьць і талерантнасьць у Беларускай Дзяржаве спрыяла развою асьветы. Гэты пэрыяд асабліва прычыніўся да эканамічнага ўздыму гораду Гэта быў век росьцьвіту смаленскага гандлю Гандляваць, апрача княжнага места, пачаў сам горад. Цэлы шэраг палёгкаў гандляром прывабіў багата купцоў з Полацку, Віцебску, Дарагабужу, з-за мяжы, з Ноўгараду, Разані, Цьверы, Масквы і г.д.

З нястрыманаю хутчынёю расьлі гандлёвыя шэрагі. На месцы пустошаў паўставалі новыя гандлёвыя пункты, рынкі, крамы, склады Вакол асядаў розны люд і забудоўваў горад. На Дняпры пры Траецкім манастыры паўстаў адмысловы гандлёвы "Літоўскі гасьцінны двор", дзе складваліся вялізарныя скарбы тавараў Ува ўсходняй частцы гораду, каля нова-збудаванга Духавага манастыра, паўстаў яшчэ адзін гандлёвы асяродак.

Расло і багацела жыхарства Смаленшчыны і разам з гэтым давала шмат дзяржаўных дзеячоў з свайго асяродзьдзя Гэткім слаўным дзяржаўным мужам, выдатным беларускім дзеячом XVI ст ваеньнікам, юрыстым, дыплёматам, літаратарам і філёзафам з вылучна сьветлай галавой, быў рэдактар і выдавец ведамага Беларускага г.зв. Літоўскага Статуту — Лявон Сапега, які паходзіць з смаленскіх баяраў

*З кнігі:*

Уладзімер Глыбінны. ***Смаленшчына — адвечная зямля беларускага народу.***
*Нью-Ёрк-Саўт-Рывэр, 1963.*



# Барыс ПЯТРОВІЧ | ТЫ



*Ён выбраў дзверы з надпісам: "Смерць" Адчыніў іх і. выйшаў на тую ж самую вуліцу, з якой увайшоў некалі.*

**З Барысам ПЯТРОВІЧАМ** гутарыць Леанід **ГАЛУБОВІЧ**
КОСКА Ў КАНЦЫ СКАЗА
ФЕМІНІСТЫЧНЫЯ НАТАТКІ
**УДОЛ**
АВАНГАРДЫСТ З ВЯЛІКАГА БОРУ
ПІЛІП У КОЛЕ МЁБІУСА
АСОБНАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ
П ІДЗЕ НА Л
**ВЕРА**
"ЛОВЫ"
У ГЭТЫМ СВЕЦЕ .
Барыс ПЯТРОВІЧ паводле Сяргея ВЕРАЦІЛЫ

*З Табой:*

# З Барысам ПЯТРОВІЧАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Леанід Галубовіч.** Барыс, давай адразу пачнём з пытання ў лоб: ты задаволены тым, што табой напісана, і тым як гэта напісанае ацэнена крытыкай і літаратурным асяроддзем?

**Барыс Пятровіч.** Напісана мала. Да прыкрага мала. Я незадаволены найперш сабою. Тым, што транжыру жыццё, губляю яго на справы другасныя, быццам у мяне наперадзе яшчэ дзесяткі гадоў . Па сутнасці, пісьменнікам я яшчэ не быў (не ёсць), а ты ўжо прапануеш падводзіць нейкія падрахункі. Усё, што напісана, лічу, не паўнавартасныя творы, а толькі пачаткі іх, толькі, зноў жа, транжыранне сюжэтаў, ідэй, вобразаў, знаходак.. Ледзь не кожная "мроя" магла б стаць па меншай меры апавяданнем. Ды не стала. І не стане. Як і я не стаў літаратарам-прафесіяналам. Літаратура для мяне — хобі. Таму і раблю я толькі тое, што цікава мне самому, што хацеў бы прачытаць у іншых, ды не пішуць. Я часта працую на мяжы, дзе геніяльнае пераходзіць у графаманскае і наадварот. І таму дзіўлюся, як не скарысталася гэтым нашая крытыка і не разбіла мяне "ў пух і прах", каменя на камені не пакінула ад напісанага мною. Зрэшты, дзе яна цяпер, нашая крытыка? Дзе вы чыталі нешта пра творчасць Сцяпана, Наварыча, Казлова. Добрае ці дрэннае, сур'ёзнае ці павярхоўнае.. Майму пакаленню не пашанцавала. Няма ў нас "сваіх" крытыкаў. Выдатна пачыналі Дубавец, Кавалёў, Васючэнка.. Сёння — адзін публіцыст, другі — драматург, трэці — літаратуразнаўца. Мне, як, пэўна, і іншым, вельмі хацелася б мець "свайго" крытыка. Які разумеў бы мяне, які бачыў бы не толькі сюжэт, але і тэкст, кантэкст ці падтэкст З якім можна было б проста "разумна" пагаварыць. Такія гаворкі, бывае, здараюцца з чытачамі. Якіх у мяне мала, але яны ёсць. І, спадзяюся, з часам, чытачоў, скажам, "Мрояў", "Фрэсак" ці "Трызненняў" будзе прыбываць... Я ўпэўнены — сённяшняя рэалістычная "дарослая" літаратура, заўтра стане "дзіцячай", а сённяшняя так званая інтэлектуальная, элітарная літаратура — звычайнай, нармальнай, проста "дарослай" Так у гісторыі было ўжо неаднойчы.

**Л. Г.** Я разумею, што ты хочаш сказаць, пазначыўшы словы *дзіцячая* і *дарослая* двукоссем... Але. . У мяне ўзнікае спрэчная правакацыя да інтэлектуальнасці. Мы цяпер даволі часта, і да месца і не, хаваемся за гэтым магічным еўрапейскім паняццем *інтэлект*

Я нават у сувязі з гэтым зазірнуў у энцыклапедычны слоўнік. Інтэлект — гэта з лацінскага — веды, разуменне, здольнасць да мыслення, *рацыянальнае* веданне.

Адразу ўспамінаецца біблейскае: чым большыя веды, тым большая скруха.

Мне здаецца, што сусветная класічная літаратура трымаецца ўсё ж не на інтэлекце разумовым, а на інтэлекце духоўным.. На таямніцы душы. . Як для аўтара, так і для чытача.

Можна было б прыводзіць прыклады, але, баюся, што ў адказ ты прывядзеш свае... І кожны будзе па-свойму правы.

І ўсё ж я асабіста схільны прымаць *Слова* як душу і дух, а не як розум і веданне. Прынамсі, у літаратурным (мастацкім) яго вызначэнні...

**Б. П.** Не можа быць Слова душой, духам, але без розуму і без ведаў. Тут ты са мною пагодзішся. Бо інакш гэта нейкая паталогія, хвароба. Не можа быць наогул, а тым болей у літаратурным вызначэнні, як ты кажаш. Ісціна тут — пасярэдзіне, а больш дакладна — на "залатым сячэнні" суадносінаў духоўнага і інтэлектуальнага ў літаратуры, у Слове, на якім і працуе геній. Не можа быць інтэлектуальная літаратура бездухоўнай, а духоўная — безінтэлектуальнай. Тут няма пра што спрачацца, бо тое, што ляжыць па-за гэтым, ляжыць і па-за літаратурай. Але тое, што ты, як мне падалося, адмаўляеш мажлівасць інтэлектуальнай літаратуры быць класічнай і класічнай — быць інтэлектуальнай найперш, мне здаецца сімптаматычным. Якраз тут сёння ў нашай літаратуры і прайшоў адзін з падзелаў. "Класікі" ці "рэалісты" смяюцца з "мадэрністаў" ці "інтэлектуалаў" і лічаць іх графаманамі, а "мадэрністы" не ўспрымаюць усур'ёз "рэалістаў" і. Заўважыў гэтакі падзел?

Гэта ўсё, лічу, ад нашай беднасці і малалікасці. Літаратура павінна быць рознай і яе павінна быць ба-га-та. Месца ўсім хопіць. Для такой вялікай дзяржавы як Беларусь (сярэдняй еўрапейскай, дзесяцімільённай) чатырыста членаў СП (з якіх толькі некалькі дзесяткаў пішучыя) — дужа і дужа мала. Усе навідавоку Кожны — асоба, кожны — стыль, кожны — замяняе сабой часам цэлую плынь у літаратуры развітай, дзе гэтак, як ён, пішуць дзесяткі. . Літаратура інтэлектуальная, гэта значыць тая літаратура, якая патрабуе пэўнай падрыхтоўкі, пэўнай адукаванасці чытача, толькі-толькі нараджаецца на Беларусі. Гэта зусім не даніна модзе, гэта азначае толькі тое, што мы *дараслі* да яе. Пагадзіся, Борхес і Бітаў — Гэта не Бальзак і Праскурын. Чытанне першых вымагае большай разумовай напругі і большай падрыхтаванасці. Не буду, каб нікога не крыўдзіць (як з аднаго, так і з другога боку), прыводзіць беларускія паралелі. Важна разумець вось што: сённяшняя "дарослая" літаратура заўтра стане "дзіцячай", як учарашняя "дарослая" стала сёння "дзіцячай" (Прыгадаем, і Жуль Верн, і Дзюма бацька і сын пісалі для дарослых у мінулым стагоддзі, а сёння зачытваюцца іх кнігамі дзеці.) І тут няма нічога крыўднага. Гэта заканамерны вынік развіцця чалавецтва.. Хацелася б толькі працаваць крыху наперад, каб застацца ззаду Працаваць на заўтра... Прынамсі я да гэтага імкнуся.

**Л. Г.** "Срезал" ты мяне, як пісаў Шукшын, што й казаць. Але зноў жа — але. Па-твойму, і Гамэр, і Дантэ, і Шэкспір, і Віён, і Лермантаў, і Багдановіч. — сёння ўжо "дзіцячыя" паэты і пісьменнікі?

Вядома, і Верн, і Дзюма пры напісанні сваіх твораў разлічвалі на шырокія "масы" .

І не таму Борхес і Бітаў супрацьлегла стаяць Праскурыну і Бальзаку, што — інтэлектуалы, а

# Коска ў канцы сказа

**Калі б мне прапанавалі напісаць артыкул пра прозу Барыса Пятровіча, я б адмовіўся — адразу, нават не спрабуючы асэнсаваць, чаму адмаўляюся. А каб запатрабавалі тлумачэння, то я, узважыўшы, сярод іншых прычынаў, напэўна хутка вылучыў бы асноўную: Барыс Пятровіч "не мой" празаік. У гэтым "не мой" няма ні знаку адмоўнай ацэнкі. Скажам, ніколі не былі "маімі празаікамі" ні Сартр, ні Бітаў, ні Акутагава, што ніяк не замінала (і не замінае) мне з вялікай пашанай ставіцца да іх творчасці... Тое самае і Барыс Пятровіч.**

**Дарэчы, вызначэнне "не мой празаік" таксама не сведчыць пра маю абыякавасць да яго творчасці. Я не прамінаю тэксты Барыса Пятровіча ў газетах і часопісах і не адкладваю яго кнігі ўбок. Зусім не. Чытаю і, здараецца, не без эмацыянальнай асалоды, а з эстэтычным задавальненнем амаль заўсёды. (І як рэдактар, калі атрымліваецца выцыганіць тэкст, заўсёды з ахвотай другую.) Багатая лексіка, выверанае і паўсюль на сваім месцы слова, далікатнае і стрыманае пісьмо (па-брэхтаўску адчужанае ад аўтара), прытоены ў падтэксце інтэлектуалізм, ці, дакладней, не прытоены, а натуральна ўплецены ў тканіну тэксту някідкай ніткай...**

**— Дык якога ражна табе яшчэ трэба?— пытаюся я сам у сябе і сам сабе адказваю:**

**— Халера яго ведае.**

**Вось, скажам, Алесь Асташонак — і словы ў яго абы-як скіданыя, і думкі то разбэрсаныя, то зблытаныя, і ні табе ўцямнага сюжэта, ні па-людску зладжанай фабулы — не проза, а чорт ведама што... Аднак, без сумнення – "мая проза", "мой празаік"...**

**Дык чаму ўсё-такі Пятровіч "не мой"?.. Пэўна, праз логіку гэта не тлумачыцца, хіба выратуе метафара. Творчасць Алеся Асташонка я параўнаў бы з водаправоднай трубой: пакуль яе не прарве ад лішка ўнутранага ціску, то і не бачна, што яна ёсць. Але ўжо калі прарве, то так прэ з разлому і ўверх, і ва ўсе бакі, што адно рот разявіш і глядзіш не адрываючыся на гэтую стыхію, пакуль напруга не спадзе і вэрхал сам у сабе не ачохне.**

**Цяпер паспрабуем гэтую трубу працягнуць на падворак Пятровіча і такім чынам пакарыстацца той самай метафарай для ілюстрацыі творчай манеры апошняга...**

**Праўда, калі быць дакладным, то метафара тут ужо іншая, — бо яна пачынаецца там, дзе тая самая труба ўжо канчаецца кранам... Дык вось, да гэтага крана зрэдчас падыходзіць Барыс Пятровіч са шклянкай, кубкам ці яшчэ якой пасудзінай у руцэ і налівае поўна, але так, што праз край не праліваецца ні кроплі. Заўсёды дакладна, заўсёды вымерана.**

**Барыс Пятровіч аднолькава ўдала і, калі заўгодна, прафесійна, працуе ў рэалістычнай, мадэрновай і нават постмадэрновай эстэтыцы. Што б ён ні пісаў, традыцыйнае апавяданне ці аповесць (ім ён аддавочна**

хутчэй за ўсё, што таленавіцейшыя. А гэта ўжо — прырода, дух. Няўжо ты думаеш, што я і, да прыкладу, каб аднаму не было сумна, Андрэй Федарэнка ці Анатоль Сыс (няхай яны мне даруюць) — інтэлектуалы?

Абазнаныя людзі, хоць і не голасна, а сцвярджаюць, што якраз вышэйназваныя — ці не адны з найбольш таленавітых у сучаснай беларускай літаратуры. . Нонсенс? Абсурд? Ці — няпраўда?

А — Мікола Купрэеў. Зрэшты, застанемся пры сваім. Скажы Барыс, адкуль караняцца твае "Мроі" — з палескай зямлі ці з Ленінскай бібліятэкі?

**Б. П.** Пачакай з пытаннем. Давай дагаворым тое, за што зачапіліся...

Мне самому не падабаюцца гэтыя азначэнні "дарослая" і "дзіцячая" літаратура. Запрымітыўныя яны, занадта шырокія, каб быць дакладнымі Вядома ж, смешна гучыць слова "дзіцячая" побач з тым пералікам празвішчаў, што ты прывёў Але "больш таленавіты" і "менш таленавіты" ці не такія ж самыя, калі не горшыя "крытэрыі"? Я не крытык-тэарэтык і не навуковец-літаратуратуразнаўца, каб аперыраваць звышправільнымі тэрмінамі. Галоўнае, я бачу, ты мяне зразумеў, і чытачы, думаю, зразумеюць. Гэта па-першае. Па-другое, я ніколі нікога не супрацьпастаўляў (супрацьлегластавіў), я казаў пра паралелі і толькі, казаў пра ўспрыманне (успрыняцце), а не будаваў нейкія "іерархіі" хто вышэй, хто ніжэй — "кто более матери истории ценен. " Паўтаруся: у літаратуры хопіць месца ўсім — і Федарэнку, і Сысу, і Бабкову, і Гуменюку У вялікай рускай літаратуры ў дваццатым стагоддзі (пасля Пушкіна, Лермантава, Цютчава...) побач з Вазнясенскім і Еўтушэнкам (Мартынавым, Таркоўскім...) знайшлося месца і "самародкам" Рубцову ды Высоцкаму Што тады казаць пра нас. Але. Але, але. Прыкра, калі літаратар "выязджае" на адным Богам дадзеным таленце і падмацоўвае яго ў маладосці не праседжваннем штаноў у бібліятэцы, а чаканнем "натхнення" над чаркай гарэлкі. Прыкра, калі гэткая "таленавітасць" пачынае правіць баль, пачынае хваліцца сваёй неадукаванасцю ("я Пушкіна не чытаў, але пішу лепш. ", "усе, хто вакол мяне, не паэты, а г "), прыкра, калі слова "інтэлектуал" становіцца лаянкавым, а "самародак" найвышэйшай пахвалой. Я ўсё-ткі за тое, каб талент падмацоўваўся працай, адукаванасцю, эрудыцыяй і г д., а не чаканнем "азарэнняў" Я не ўяўляю, як можна працаваць, не ведаючы сваіх папярэднікаў і не чытаючы сучаснікаў, ды яшчэ і ганарыцца гэтым.

Па-трэцяе, лічу, што кожны творца — інтэлектуал. І Мікола Купрэеў, безумоўна, інтэлектуал. Ён — Пісьменнік. Можна быць, ты ведаеш і пагодзішся, акадэмікам, народным пісьменнікам, а Пісьменнікам не быць (нават з малой літары). Іншая справа, што размова ў нас тут пайшла нібыта пра інтэлектуалаў сярод інтэлектуалаў Што ж, можа быць і такая градацыя, такі падзел, як ёсць літаратура для літаратараў (яшчэ адно азначэнне літаратуры інтэлектуальнай). Можа быць, але рэч, на мой погляд, зусім не ў гэтым, не ў "інтэлектуальнасці" і, так ужо атрымліваецца, як супрацьлегласці — не ў "таленавітасці" Рэч яшчэ і ў тым, якія мэты ставіць перад сабой чалавек, ідучы ў літаратуру Калі не самыя высокія і высакародныя — дык навошта лезці на Парнас?

Але досыць. Цяпер пытанне. Карані "Мрояў" не на Палессі і не ў бібліятэках. . Я пісаў іх некалі для сябе, а не для друку Пісаў гэтак, як хацеў Гэта быў проста палёт Увечары, пасля працы ў сельгасаддзеле абласной газеты, я адпускаў галаву на волю.. Мог дазволіць сабе ўсё. Нішто

**аддае перавагу і, пэўна, лічыць, што тут яго найбольшы здабытак), мадэрновую імпрэсію ці постмадэрновы тэкст, усялякі раз ён выверана адпаведны дамінуючаму ў той ці іншай эстэтыцы фармальна-эстэтычнаму модусу.**

**Дык што тут блага, што благога, калі чалавек акуратна і прафесійна працуе ў прапанаванай сістэме мер, трымаецца законаў вылучанага ім наперад стылю. Тым болей, што і варыянтаў тут няшмат: альбо трымацца ў кожным канкрэтным выпадку чагосьці аднаго, альбо працаваць на ўзмежжы некалькіх сістэмаў, альбо, урэшце, эклектычна змешваць усё ў адну вавілонію.**

**Натуральна, нічога благога ў тым, як працуе Барыс Пятровіч, няма. Але мне здаецца...**

**Дык вось, каб агучыць тое, што "мне здаецца", тое, у чым я і сам, можа, не да рэшты ўпэўнены, але што мне даўно карціць сказаць Барысу Пятровічу, ды ўсё неяк не выпадала, я і адважыўся напісаць гэтую зацемку. (Слова "адважыўся" ўжыта тут дакладна, бо аб'яўляць публічна пра літаратара, якога ты сур'ёзна паважаеш як чалавека і як творцу, што ён "не твой" празаік, — нікому не патрэбнае дурноцце, ды яшчэ якое.)**

**Бачыце, колькі я ні чытаю тэксты Барыса Пятровіча (і бясспрэчна ўдалыя), мне ўсякі раз *здаецца*, што ён не так і не пра тое піша адносна сваіх магчымасцяў і, зусім верагодна, пакуль яшчэ латэнтна ўтоеных і ад яго самога творчых запатрабаванняў. Безумоўна, ён дакладна вытрымлівае меру, якую абірае, але ці тую меру ён абірае, якая яму патрэбная, каб выявіцца напоўніцу і выявіцца менавіта як Барысу Пятровічу, а не проста прафесійна напісаць тра-**





мяне не звязвала. Стыль — гэта чалавек. Значыць, такі я і ёсць, як у "Мроях"... Як ты — у "Зацемках", як Брыль — у сваіх запісах. Гэта — маё. Я тут не пабаюся "падставіцца" яшчэ раз і сказаць, што трохі абазнаны, дасведчаны ў сусветнай літаратуры, дык вось — *такога* я не чытаў ні ў кога. *Падобнае* можна знайсці, але не *такое*. І гэта мяне цешыць.

**Л. Г.** Лаўлю цябе за "хвост", за самы канец твайго адказу.

Я — такі, як і ўсе, бо як пісаў у сваіх "Зацемках...", — "усё ўжо пукнута, усё напісана да цябе, толькі іншае *часам* выветрываецца..."

Яшчэ раз зазначу сваю пазіцыю: літаратура для мяне — гэта не навука і нават не мысленне, а, хутчэй, агучванне грамадскага ці ўласнага, аб'ектыўнага ці суб'ектыўнага чалавечага жыцця.

Той, хто "як не ўсе", так ці інакш, ёсць літаратурны *вырадак*. .

Пагадзіся, творцы зямнога — ідэнтычныя.

Да прыкладу, апроч літаратараў, ёсць і сталяры, і цеслі, і сантэхнікі, і радыёэлектроншчыкі. Імя ім легіён. .

Скажам, сталяры робяць адну і тую ж стандартную альбо падобную да папярэдняй табурэтку

У аднаго атрымліваецца лепш (мацней, надзейней, якасней), у другога — горш. Вось гэтае — лепш і горш — і ёсць мера *здольнасці*.

Аднак, знаходзяцца і такія, што робяць (прыдумляюць) саматугам (самабытна) альбо цэлым КБ новыя віды (канструкцыі) падобных сядзенняў — і гэта ўжо *таленты, творцы*.

Ну, і лічаныя адзінкі надараюцца, што, забываючы на карысць, седзячы на зробленых папярэднікамі табурэтках, — мрояць пра палёт...

Гэта і ёсць *вырадкі* альбо, як прынята іх называць, Геніі. .

Таму пытанне такое: да якой кагорты згаданых мной "сталяроў" ты сябе адносіш? Хто з іх будзе ўслаўлены людзьмі, а хто Богам?

Хоць Бог, на мой розум, гэта ўсё ж выратавальная (апраўдальная) патэтыка слабых і незямных (у сэнсе мала прыгодных для зямнога бытавання) людзей...

**Б. П.** Адказ на гэтае пытанне ёсць у адказе на папярэдняе. Але — дзякуй за палёт Гэта важна. Без палёту (можна назваць гэта медытацыяй ці іншым "разумным" словам) — няма творчасці. Ва ўсім з табою пагаджаюся. Сапраўды: "и графоманы говорят, что рукописи не горят..." і спадзяюцца на Бога, у дадзеным выпадку — проста на Час. Не пагаджуся толькі з адным. хоць і "уже написан Вертер" (Біблія і г.д.), яшчэ *напісана* (лепш сказаць — створана) далёка не ўсё, яшчэ будуць сапраўдныя адкрыцці. Найперш, ва ўласна літаратурных жанрах: паэзіі, прозе, а таксама — на мяжы літаратуры і. псіхалогіі, літаратуры і. . гісторыі, альбо, скажам, літаратуры і тэлебачання. Па тым жа прынцыпе, як на мяжы біялогіі і фізікі ўзнікла біяфізіка і дала новую прастору для творчасці навукоўцаў "Сінтэтычныя" жанры ў літаратуры (дарэчы, Біблія напісана як?) яшчэ зусім не распрацаваны. Ёсць спробы працаваць на мяжы слова і малюнка (Гавел, Вазнясенскі, Сільнова.. ). Скажу так: Літаратура пакуль добра асвоіла зямлю. А яшчэ ёсць паветра і вада, ёсць космас. Дарэчы, пасля Ірландыі з яе "наватарамі XX-га стагоддзя" (Джойс, Бекет), засталася толькі яшчэ адна, на мой погляд, шмат у чым падобная да яе краіна, якая можа здзівіць бабульку Еўропу, — Беларусь...

**дыцыйнае апавяданне, мадэрновую імпрэсію, ці постмадэрновы тэкст. Магчыма, ён і сам адчувае, што нешта найбольш істотнае ім не намацанае, магчыма, менавіта з гэтага яго адчування – спробы працаваць у розных эстэтычных сістэмах, жанрах, формах. Але рэч у тым, што, пераходзячы ў іншае эстэтычнае вымярэнне, ён зноў жа залішне пакорліва падпарадкоўваецца дамінуючым законам таго наступнага вымярэння і зноў гуляе, хай ужо і ў іншую, але аднолькава не сваю гульню.**

**Я разумею, шмат каму жадаецца, але мала ў каго атрымліваецца згуляць у сваю гульню. І было б недарэчна папікаць некага, што ў яго гэта не атрымліваецца, тым болей калі гэты нехта і таленавіта і прафесійна працуе ў тых формах, якія яму прапануе літаратурны кантэкст. І я б ніколі не казаў пра ўсё гэта Барысу Пятровічу, каб не адчуваў у ім (спадзяюся, не беспадстаўна) значна большыя патэнцыяльныя магчымасці адносна ўжо выяўленых. Дарэчы, у гэтым сэнсе — у сэнсе патэнцыяльнай недапраяўленасці па вялікаму "гамбургскаму" рахунку – Барыс Пятровіч (на мой, натуральна, досвед) адзін з вельмі і вельмі нямногіх сярод *трывала сфармаваных* літаратараў.**

**Пэўна, далей мне трэба было б абгрунтаваць, на што абапіраюцца, чым сілкуюцца гэтыя мае прадчуванні магчымасці іншага, "большага" Барыса Пятровіча. Пэўна і трэба было б, ды лянота. І таму я згадаю тут толькі адну, увогуле маргінальную адносна ўсёй прозы Барыса Пятровіча, публікацыю, а менавіта "Піліпікі" ("Крыніца", № 15).**

**Нельга сказаць, што жанр літаратурнага, назавем яго так, "скетча" з героем, у аднолькавай меры глыбакадумным і**

**Л. Г.** Усё, пра што мы тут кажам, ёсць толькі наследаванне літаратуры, але не яе першапачатковая з'ява...

Пра *вынік* і ўвогуле гаварыць не будзем, бо ён аднаму Богу вядомы і, зрэшты, не ад нас, майстроў, а ад Яго, Творцы, залежыць.

Давай заглыбляцца ў канкрэтыку, у сам літаратурны працэс.

Можна *апісваць* і можна *пісаць*. Апісаць вайну ў "Векапомных днях" і напісаць яе ў "Мёртвым не баліць" — не адно і тое ж...

Памятаю, у адным вершы Уладзімір Някляеў напісаў, што "кроў гэта кроў і яе няма з чым параўнаць.. "

Не Бог ведае якое адкрыццё, а — статыка, ад разумення немагчымасці выказаць тое інакай, як ёсць. .

Аднак, гэта ўжо не параўнанне крыві з макавым кветам ці чырвоным палотнішчам сцяга, — што гаворыць пра пэўны абсурд і нігілізм..

Для мяне, як для вершаскладальніка, эталонам была (і змянялася з ходам часу і маім сталеннем) творчасць Купалы, Багдановіча, Танка, Куляшова, Барадуліна, Рубцова..

На тым мая вучоба версіфікацыі скончылася. Традыцыя (класічная) была як бы вычарпнута. аж пакуль не з'явіўся Алесь Разанаў, з чым прыходам наша літаратура (а не толькі паэзія) стала вышэй жытнёвага поля, акопаў, бруствераў, бяроз, жаночых вуснаў, партыйнага і савецкага гонару...

Загнаныя ў загон рытмы, рыфмы, жанры — раптам узбунтаваліся, зламалі агароджу і вымыкнулі ў бясконцы Сусвет шукаць волю, лёс і сэнс чалавечага жыцця.

Хто і што паўздзейнічала на цябе ў сучаснай літаратуры? Ці адбыліся ў беларускай прозе, падобныя да разанаўскіх у паэзіі, адкрыцці?..

**Б. П.** Не магу прывыкнуць да тваіх пытанняў Пытанняў-роздумаў, пытанняў-адказаў... Застаецца толькі разважаць паралельна.

Можна апісваць, можна пісаць, а можна *тварыць*, ствараць. Уласна творчасць якраз і заснавана на тым, што любую з'яву, рэч, падзею можна не толькі апісаць, але і выказаць пасвойму, не так, як усе, іначай, чым ёсць, параўнаць з нечым. І творчасць таго ж Някляева з ягоным раннім "рванула нафта кобрай" таму пацвярджэнне. Тут ужо не скажаш: нафта ёсць нафта, струмень ёсць струмень. . Паколькі пісьменнік працуе са словам, з мовай, то на першае месца я ўсё-ткі стаўлю, калі так можна сказаць, стылёвае і моўнае "афармленне" твора, а потым ужо — наяўнасць значнай тэмы, цікавага сюжэту, займальнасці і г д. Зрэшты, пры абавязковай умове, што гэтае другое (не другаснае) — само сабой разумецца, ёсць. Цікава, запамінальна пераказаць нешта можа і просты вясковы непісьменны дзед. Шмат грамацеяў ёсць, якія і запісаць гэты пераказ могуць. Але сёння гэтага ўжо мала, каб пераказ стаў навелай, апавяданнем і, больш таго, Творам... Усё лепшае, што ёсць у сапраўднай прозе, лічу, ад паэзіі. Рытмізацыя прозы, каб перадаць настрой, эпітэты, параўнанні і г.д., каб вобразна, бачна, "прыгожа" апісваць убачанае. А яшчэ важным лічу тое, што для сябе называю "дакладныя недакладнасці" альбо "свядомыя няправільнасці". Некалі ўразіў Бітаў· "подходили автобусы, *другие, чем надо*". Напішы: " ..но не те, которые шли по нужному маршруту" — і ўвесь смак

**прыдуркаватым, — вынаходніцтва Барыса Пятровіча. Кожная прафесійная літаратура мае дзесяткі такіх герояў. Яны раз-пораз выцягваюцца рознымі аўтарамі з фальклорнай мінуўшчыны (дзе такі тып героя дамінаваў) у літаратурную сучаснасць. Але якраз таму, што нідзе "*літаратурны скетч*" не кананізаваны як жанр, а значыць не мае жорсткіх законаў, якім трэба абавязкова падпарадкоўвацца, ды і ўвогуле існуе толькі як нешта другаснае, неабавязковае, не прэзентатыўнае, — то Барыс Пятровіч у "Піліпіках" пісаў як дыхаў, гуляў са сваім Піліпам, як яму самому (Б.П.) хацелася.**

**Цудоўная атрымалася гульня. Але з гэтага я зусім не збіраюся зрабіць выснову, што Барысу Пятровічу і далей трэба гуляць менавіта з Піліпам. Не, ні ў якім разе. Барыс Пятровіч, я перакананы, здольны на многае — аж да вытанчана рафінавана-рэфлектыўных гульняў. Я згадаў тут "Піліпікі" адно дзеля таго, каб сказаць, што, як мне здаецца, недзе там, воддаль канонаў, за межамі шляхетных, традыцыйна прэзентатыўных жанраў, сярод зарослых быллём літаратурных маргіналіяў чакае не дачакаецца Барыса Пятровіча добра ўтравелая, але ад таго не меней яркая літаратурная ўдача.**

**"Піліп пісаў ліст бацькам у іншы горад. І так яму захацелася ў канцы апошняга сказа паставіць коску, што ён не вытрымаў і паставіў.**

**А потым сядзеў і думаў, што б яшчэ дапісаць?**

**Так, не дапісаўшы нічога, ён і паслаў ліст з коскай у канцы".**

**Мяне вельмі цікавіць, што напіша Барыс Пятровіч пасля коскі...**

**Валянцін АКУДОВІЧ**





губляецца, літаратура губляецца, яе тады няма. За такімі "няправільнасцямі" — будучыня. Бо гэта тое, што стварыць можа толькі чалавечы розум (як, дарэчы, і ацаніць), ніякі камп'ютар, як яго ні праграмуй, няправільна з пункту гледжання логікі, стылістыкі... не напіша. А звычайныя ж, рэалістычна(фантастычна)-прыгодніцкія раманчыкі-аповесці камп'ютар ужо сёння можа складаць без удзелу чалавека...

"Падстаўлюся" яшчэ раз, але, тым не менш, раскажу пра сябе. Я — вясковец. Па нараджэнні. Але я зусім не падыходжу пад той шаблон, якім мераюць у нас усіх літаратараў з вясковым паходжаннем: "адарванасць ад здабыткаў сусветнай культуры, абмежаваная магчымасць паўнакроўнага творчага развіцця. " і г.д. Гэта, у прынцыпе, справядліва. Вёска ёсць вёска. Клуб, бібліятэка з кнігамі пра партызан, мастацкая самадзейнасць... Я гэта ведаю. З адукацыйнымі магчымасцямі горада, вядома, не параўнаць. Але... Буду казаць толькі пра сябе і ў сувязі толькі з адным: чаму гэта я, вясковы хлопец, і раптам кінуўся ў самы што ні на ёсць авангард, мадэрнізм ды постмадэрнізм? Адразу скажу, што надта крытычна стаўлюся да сённяшніх хлопчыкаў, якія пішуць "мадэрновыя" рэчы і пры гэтым хваляцца, што ні Дастаеўскага, ні Чэхава, ні тым болей Гарэцкага ці Чорнага не чыталі. У іх, маўляў, іншыя куміры. Лічу, што сапраўдны мастак, нават геній (ці, пэўна, тым болей — геній), не можа адразу пачынаць з чорнага квадрата, не прайшоўшы ўсю школу малявання, пачынаючы з суперрэалістычных, фатаграфічных пейзажаў ды партрэтаў ці, як гэта прынята было ў мастакоў, з капіравання твораў Майстроў. .(Як можна практыкавацца з мовай, гуляць з мовай, самой мовы не ведаючы дасканала? А нашыя ж маладыя "мадэрністыя" гэта робяць! ) Дык вось, "шлях" мой быў такім: з маленства страшна любіў чытаць. Дома ў нас кніг было няшмат, і таму першае, што зрабіў, пайшоўшы ў школу, запісаўся ў бібліятэку. А калі сталася так, што некалькі гадоў — ад аперацыі да аперацыі — давялося праляжаць у бальніцы ў Мінску, адзіным маім ратункам сталі кнігі. Барыс Іванавіч Сачанка (мой дзядзька і жыццёвы прыклад для мяне) прыносіў мне іх са сваёй вялізнай бібліятэкі Спачатку дзіцячую класіку (усе гэтыя Ваські Трубачовы, Віці Малеевы ды інш., Купер, Майн Рыд, Стывенсан, Верн. ), а потым і дарослую класіку — рускую і замежную. Такім чынам, "курс маладога байца" прайшоў я ў дзяцінстве. Тады ж і сам пачаў спрабаваць пісаць. (Магу прыгадаць адзін з маіх тагачасных бальнічных вершыкаў· "Скоро я поеду домой, скоро я увижу дом мой, скоро я буду в школу шагать, скоро я буду с друзьями играть, скоро это будет, но пока снится, потому что я лежу — в больнице" ) Пісаў вершыкі, хоць чытаў амаль выключна прозу Здавалася тады, што ў літаратуры арыентаваўся больш-менш. І здзівіць мяне нечым было цяжка. І раптам, зусім выпадкова, трапіла мне ў рукі анталогія вершаў паэтаў рускага "серебряного века" — Мандэльштам, Брусаў, Цвятаева і далей — Бальмант, Севяранін, Хлебнікаў .. Прачытаў. Аж дых захапіла. Гэта было адкрыццё: аказваецца, можна пісаць і так... З гэтага пачалося маё захапленне "наватарствам", "авангардам", "словатворчасцю" Пачаў сам шукаць нешта падобнае і чытаць. Спачатку ў паэзіі, потым — у прозе: Кафка, Картасар, Фрыш. Ці трэба казаць, што ў беларускай літаратуры нічога падобнага я знайсці не мог І Разанаў тады яшчэ быў іншым ("Шлях-360" выйшаў пазней). Стаў спрабаваць пісаць сам тое, што падабалася, нікольки не спадзеючыся на мажлівасць надрукавання. (Памятаеш, з якім скрыпам выходзіў разанаўскі "Шлях. " прадмова П. Панчанкі, пасляслоўе В. Бечыка, пад

# Феміністычныя нататкі

**Не ведаю, як мужчыны, але кожная жанчына адчувае сябе індывідуальнасцю. Апранутыя ў эсклюзіў з турэцкага рынку ці распранутыя дарэшты, мы заўсёды адчуваем сваю выключнасць, больш таго, мы ёю жывем. Калі вы хочаце пакрыўдзіць жанчыну, асабліва з творчымі амбіцыямі, скажыце ёй, што яна вам некага нагадвае...**

**" — Не прымі за чарговае глупства ці няўдалы камплімент, але да Цёткі ты нечым падобная...**

**— Ага, як Будны да Скарыны — берэтам ды кнігай у руках..."**

**Гэта фрагмент твору Б. Пятровіча, пісьменніка, з якім асабіста я не знаёмая. Жыццё зводзіла нас толькі аднойчы — на старонках "Зно", дзе нашыя партрэты апынуліся побач. Тым не менш, ведаю, я — гераіня яго рамана, дакладней, аповесці "Неба пад нагамі і вакол", дзе, якраз пасля згаданага дыялогу аб падабенстве, я і ўзнікаю — ва ўсёй красе сваёй індывідуальнасці.**

**"Адарваўшыся на гэтую размову, я не паспеў назваць яшчэ адну адметнасць ейнага пакоя: паўсюль у ім ляжалі кнігі на стале, на канапе, на тэлевізары, на крэслах і нават на падлозе. Разгорнутыя і складзеныя, з доўгімі, бы заечыя вушы, закладкамі. Арына жыла сярод кніг, як бабулька-знахарка сярод траў і красак. З іх гатавала яна лекі для душы... Яна была пачынаючым крытыкам, аспіранткай акадэмічнага інстытута і пісала кандыдац-**

рэдакцыяй У Караткевіча, тры рэцэнзенты...) Большасць з таго, так бы мовіць, маладзецкага, лічы прапала, бо ўсяму свой час, і тое, што я, пры іншых варунках, раней аддаў бы ў друк, сёння ўжо друкаваць не магу — сорамна. А "Мроі", па сутнасці, ёсць выбранае з таго, самае друкабельнае на той час (дарэчы, да таго ў белпрозе нічога падобнага не друкавалася, то была "першая ластаўка"). Быў момант, пісаў па-руску Бо, грэшны, надта ж крытычна, калі не сказаць горш, пачаў ставіцца да беларускіх літаратараў і літаратуры ўвогуле, адчуваў сябе чужым... Тады я быў максімалістам. Жыццё было наперадзе. Цяпер бачу — памыляўся. Транжырыў жыццё, не працаваў сур'ёзна, усё адкладаў на потым, да лепшых часоў Але адна справа — мець патэнцыі і, магчыма, талент, зусім іншая — нешта вартае стварыць. Гады ідуць, надзеі і спадзяванні (авансы?) трэба спраўджваць і апраўдваць. А тут — праца, сям'я, бескватэр'е, дзеці. Вольнага часу ўсё менш і менш. Цяпер разумею: больш і не будзе. Не вычакаеш. А жыццё перачакаць можаш. . Аднак, ці не позна гэтае разуменне прыйшло?

**Л. Г.** У гэтым свеце, Барыс, усё перавернута з ног на галаву· акселерацыя дзяцей стала больш ранняй, а сталенне літаратараў значна пазнейшым, чым гэта было ў мінулыя ці на пачатку нашага стагоддзя.

Трэба было б нам неяк перайсці ад разумовага да *эстэтычнага* — да "alma mater" літаратуры. Адно слова — *краснае пісьменства*, нават два, і не толькі ў адносінах да паэзіі...

Пісаць натхнёна, чытаць з насалодай.

Яшчэ не так даўно ў "ЛіМе" праводзілася анкета наконт паэтычнай красы. Часта там згадвалася імя Міхася Стральцова. Як паэта? Мяркую, што не толькі, бо і ў прозе сваёй ён вызначаўся "эстэтычнай гжэчнасцю"

З сённяшніх мне найбольш блізкая проза А. Федарэнкі, хоць, здавалася б, ён бярэ не зусім эстэтыкай...

Можа, справа ў тым, што Федарэнка стаіць на зямлі, а дыхае небам. Што прырода яго таленту гарманічна ўпісалася ў прыроду чалавечага існавання..

Я не люблю сённяшніх мадэрністаў з вяршкамі ведаў і без глебы пад нагамі. Яны як бы выконваюць галоўную ролю ў казцы пра вяршкі і карэнні, падсоўваючы чытачу-мядзведзю "видимое", але "несъедобное"

Ты працуеш на мяжы "Федарэнка — мадэрністы" Акурат у становішчы сённяшняй Беларусі паміж такімі монстрамі светападзелу, як Усход і Захад.. І як табе ў падобным становішчы захаваць свой набыты суверэнітэт?

**Б. П.** Ведаеш, гэты, апошні, год быў у мяне, можна сказаць "пераломным", "этапным". Я зноў амаль не пісаў, зноў падумваў пра бесперспектыўнасць і, галоўнае, непатрэбнасць нікому (акрамя самога сябе) нашае працы. Хочацца ўслед за Сакратам Яновічам сказаць. кіну ўсё, паеду ў вёску . Хоць ты мадэрніст, хоць ты рэаліст — доля ва ўсіх нас адна. Сёння ўжо ні Шамякіну, ні Федарэнку лісты мяшкамі не носяць. Але не гэта галоўнае. Такое ўражанне, што здзівіць свет сёння лягчэй, чым здзівіць Беларусь. Бо свету мы яшчэ трэба, а Беларусі. . Адно хіба трымае: Беларусь нам трэба. Да таго ж, сам ведаеш, "завязаць" цяжэй, чым нават памерці. Графаманія — хвароба страшнейшая за алкагалізм ці наркаманію. "Завязаць" я не змагу (пераканаўся ў гэтым), а захаваць суверэнітэт? Усё цячэ, усё змяняецца. Дрэйфую патроху і я.

**кую па творах Разанава. Мы пілі каву і, натуральна, гаманілі пра літаратуру. З ёю было цікава гаварыць, яе цікава было слухаць, ёй трэба было выказацца..."**

**Пачынаючы крытык, аспірантка акадэмічнага інстытута, кандыдацкая па творах Разанава — так яно і было на пачатку 90-х, калі пісалася аповесць. А яшчэ — кава, раскіданыя скрозь кнігі з доўгімі закладкамі і ...муж-мастак, пра якога згадвае ўважлівы да падрабязнасцяў пісьменнік. Я да гэтай пары жыву ў дзіўным доме, з вокнаў якога ледзь не штогод выпадаюць людзі. Раней думала — выпадковасць, а зараз ведаю — яны чыталі Пятровіча.**

**"Калі раптам нехта паверыць мне і захоча паспрабаваць пахадзіць па небе ля свайго вакна, дык тых я папрашу не займацца рызыкоўнымі эксперыментамі. Лепш пачынаць не аднаму, а разам са мною. Кожны чацвер месяца я чакаю апоўначы самых адважных і рызыкоўных... Прыходзьце. Я па-ранейшаму пераканана, што хадзіць па паветры могуць усе людзі, без выключэння".**

**Я таксама не раю эксперыментаваць, асабліва, калі вы — асоба жаночага полу. Ну не могуць беларускія жанчыны, падобна булгакаўскай Маргарыце, перасоўвацца па паветры — вось жа і наша з Пятровічам гераіня ўпала з нябёсаў акурат на асфальтавую сцежку. Такі трагічны фінал аповесці — не выпадковы, як, відаць, не выпадковае ў мастацтве ўсё. Падзенне пятровічавай гераіні адкрыла сабой цэлую эпоху нізвяржэння жанчыны ў сучаснай беларускай літаратуры. Ці маглі здаровыя целам сацрэалісты ўявіць, што можна складаць вершы аб няздольнасці жанчыны да творчай працы? Ці даўмеўся б самы правінцыйны, неадукаваны, далёкі ад ідэй еўрапеізацыі савецкі**





У бок Федарэнкі. . Магчыма, таму, што той жа мадэрнізм, каб развівацца далей, патрабуе, як нішто іншае, жывой рэакцыі на зробленае, напісанае: важна, каб тваю "знаходку", "адкрыццё" заўважылі, зразумелі і ацанілі хоць бы ў межах твайго "кола"; патрабуе "тусоўкі" калі не аднадумцаў, дык блізкіх душ. Я ж — адзіночка. І іншым ужо не стану Я ўвесь час імкнуўся даказаць сабе, што я нешта ўмею. Сабе, здаецца, даказаў. Цяпер час даказаць гэта іншым.

**Л. Г.** Любяць пісьменнікі прыбядняцца, паплакацца, каб іх пашкадавалі — пачыталі агулам ці паасобку. .

Кожнаму літаратару бракуе таленавітага чытача, а чытачу — таленавітага літаратара.

Зрэшты, калі без нас не абыдуцца, то нас прачытаюць – так мы, грэшныя, бывае, абыходзімся год без сантэхніка, а пасля, у адзін дзень патопу, яго выклікаем.

Што сёння чытае Барыс Пятровіч, апроч лімаўскіх палосаў?

На што і каго зважае ў нашай літаратуры?

**Б. П.** Па-мойму, мы з табою і сапраўды зацыкліліся на праблемах далёкіх ад жыцця, на праблемах уласна-літарацкіх, такіх, здавалася б, важных, а, па сутнасці, нікому не цікавых і не патрэбных. І нават смешных сёння.. Для асноўнай масы людзей літаратура заўсёды была жыццём, паралельным асноўнаму. Зрэшты, і для большасці літаратараў сёння таксама літаратура — хобі, а не прафесія (мы ўжо пра гэта гаварылі), бо нашыя празаікі і паэты жывуць цяпер не з літаратуры... Але, з другога боку, я не магу назваць прафесіяналамі і тую "магутную кучку" маладых пісьменнікаў, што зарабляюць сёння на жыццё пісаннем рускамоўных "бестселераў"

Што да чытачоў, дык іх заўсёды было няшмат І працэнт іх вось ужо на працягу двух-трох стагоддзяў не змяняецца. Бачыш, як не доўга пратрымалася савецкая выдумка пра самы чытаючы народ. Думаю, што не зменшылі колькасць чытачоў і тэлебачанне з камп'ютарызацыяй... Рэчы гэтыя для тых прызначаны, хто і без таго кніг не чытаў Мы, мяркуючы і па накладах кніг ды часопісаў, проста вярнуліся ў натуральны стан. У часы Пушкіна і Дастаеўскага (не толькі на Беларусі, але і ў Расіі таксама). Але ад гэтага значнасць літаратуры ў грамадскім жыцці ніколькі не змяншаецца. Літаратура была, ёсць і будзе асновай культуры любой нацыі.

Сам я даўно ўжо не чытаю. Я перачытваю. Ёсць у мяне дзесятак-другі пісьменнікаў, кнігі якіх я люблю час ад часу перагортваць. Кожны раз сціскаецца сэрца (млее), калі бяру ў рукі томікі Платонава ці Акутагавы. Люблю Пушкіна-празаіка і, зразумела, Гогаля. . Вось, здавалася б, у апошнія гады была знята ўсялякая цэнзура і да нас — праз Расію — валам хлынула "забароненая" раней літаратура. Прагледзваў яе і я. І што: сапраўдных адкрыццяў — няма. Аказваецца, усё лепшае, нават з эмігранцкай літаратуры, той, хто хацеў, ведаў і без таго. А тое, што былі адлучаныя мы ад "Эмануэль" ды розных секс-машын, дык гэта істотна на нашае інтэлектуальнае развіццё не паўплывала. Пачытаў-пачытаў я "новае" і вярнуўся да "старога", да перачытвання. Прычым, усё залежыць ад настрою: калі сёння "ідзе" Хармс, дык заўтра — Борхес, а паслязаўтра — Булгакаў, Даўлатаў ці замежная фантастыка, якую я вельмі люблю, асабліва Брэдберы. Але, прабач, пералік гэтакі можна доўжыць і доўжыць. Ты тут зачапіў за жывую яшчэ струнку Пра адно шкадую: практычна адрэзаны мы сёння ад літаратуры новай, ад, як кажуць, сусветнага літаратурнага працэсу Ведаю з друку, з тэлебачання, што ў той жа Расіі з'яўляюцца цікавыя

**пісьменнік зрабіць фактам літаратурнага жыцця свой няўдалы палавы акт, ды яшчэ і зняславіць на ўвесь свет маладую партнёрку? Ці мог бы, да прыкладу, Караткевіч кінуць сваю гістарычную дзялянку, каб напісаць твор з назвай, бы знарок узятай з дапаможніка па сексалогіі, увесь змест якога, як ні круці, зводзіцца да думкі-перасцярогі: "Усе жанчыны — пошасныя пачвары!"?**

**Прастора, на якой разгортваецца сучасная літаратурная рэчаіснасць, нагадвае мне апошнім часам краіну вадзянікоў, апісаную ў сатырычным апавяданні Акутагавы, дзе самкі-капы толькі і занятыя тым, каб дагнаць і згвалціць сваіх суайчыннікаў. Імя Акутагавы зноў-такі не выпадковае. Менавіта гэтаму класіку японскай літаратуры мы абавязаны тым, што беларусы атрымалі "Планідаманаду" І "Піліпікі" Б. Пятровіча, чаго апошні асабліва і не прыхоўвае, ставячы імя дракона як апазнавальны знак, не толькі знак павагі, але і таго, што ён ведае ўласную мяжу.**

**Эстэтычная праграма Акутагавы была прынятая Пятровічам як рэлігія — цалкам. Хоць іншы раз ён і спрабуе не тое каб паспрачацца, але ўсвядоміць асобныя моманты. "Седзячы ў мяккім фатэлі, ён чытаў толькі што набытую кнігу Акутагавы. Чытаў і думаў: "І Акутагава, пішучы пра сябе, хацеў, каб лічылі, што піша ён пра кагосьці іншага. Таму час ад часу ўстаўляў факты з нічыйго — не свайго — жыцця. Навошта?" Аднак і ў гэтым удакладненні, праясненні адчуваецца, перш за ўсё, літаратурная манера японскага майстра, які, дарэчы, шмат разважаў аб арганізуючым значэнні стылю. Мініяцюры Б. Пятровіча яшчэ раз пацвердзілі выснову настаўніка: падобнае па форме становіцца падобным і па зместу. І развагі аб прыродзе творчасці, аб сэнсе быцця, аб смерці да**

творы, а прачытаць іх не заўсёды магу. Выпісаць расійскія часопісы, як раней, — грошай няма, а па бібліятэках хадзіць — адвык. Вось бы чым заняцца "Всемирной литературе" — друкаваннем "навінак", а не перадрукам збораў твораў класікаў.. Стараюся чытаць усё, што пішуць (друкуюць) хлопцы майго пакалення (на старэйшых ды маладзейшых не заўсёды хапае часу). Не скажу, што апошнія гады былі страчаныя для нашай літаратуры Наадварот, з гісторыі мы ведаем, што большасць вялікіх (не ў сэнсе памераў), "класічных" твораў былі напісаны якраз у падобныя, неспакойныя, смутныя часы. Скажу толькі, што перадумовы (творы) для таго, каб наш час некалі залічылі ў "сярэбранае стагоддзе" беларускай літаратуры, ёсць.

**Л. Г.** "Сярэбраны век" сучаснай літаратуры, кажаш... Быў такі "век" у рускай літаратуры. А ў нашай нацыянальнай, дык XX стагоддзе — ці з намі, ці без нас — гэта без усякага перабольшвання "залаты век" Як у Расіі "пушкінскі"..

Менавіта ўсё лепшае ў нашай маладой, адносна развітых іншаземных, літаратуры напісана ў XX стагоддзі: Купала, Колас, Багдановіч, Танк, Дубоўка, Жылка, Куляшоў, Панчанка, Караткевіч, Барадулін, Быкаў, Разанаў.

Гэта толькі тыя імёны, што рука выводзіць не пытаючыся ў памяці..

Сённяшні час — туманны.. Ён якраз прыпадае на канец стагоддзя. А мы яшчэ як бы і не старыя ўзростам. Магчыма, мы не патрапім у аналы "залатога веку" беларускай літаратуры.

І што чакае нас і нашу літаратуру ў XXI стагоддзі — аднаму Богу вядома...

Хацелася б, каб тваё прароцтва (сярэбранае) збылося. .

Які найбольшы твой сум ад літаратуры і якая наймацнейшая асалода ад яе?

Што і каму ты пішаш, даўно ведаючы, што "тебе ж нет отзыва. "? "Таков и ты..."?

**Б. П.** Цяжка сёння быць аптымістам, а песімістам быць не хочацца. Не хочацца прызнаць, што значная (ці не асноўная) частка жыцця страчана на нікому не патрэбны занятак, пайшла ў "пясок" . Не хочацца думаць (а жыццё падштурхоўвае да гэткіх думак), што ўсе высілкі – нашыя і славутых папярэднікаў — дарэмныя. Адсюль і гэтая надзея на будучыню — як смех скрозь слёзы.. Я не пра сябе — я пра ўсіх нас кажу Бо ўсе, хто сёння, нягледзячы ні на што, нешта піша па-беларуску — ужо даўно не аптымісты, але, спадзяюся, яшчэ не ідыёты...

Гэта і ёсць мой сум. А асалода — праца.

Пішу я (калі пішу), не для кагосьці, і не камусьці, а выключна для сябе і сабе. Гэта патрэбна толькі мне, найперш мне. Ну, а калі падабаецца яшчэ камусьці — дык частуйцеся. Мне не шкада.

Я нікому нічога не навязваю. Нават калі ў мяне будзе толькі адзін чытач — я сам — мне гэтага дастаткова... Буду шчырым да канца: мне не славы хочацца. Мне хацелася б застацца. Гэта важна. І я разумею, што магу застацца не з дапамогай танненькага скандальчыка, а толькі пакінуўшы нашчадкам Твор. Я не ведаю: пакінаў я яго ўжо ці яшчэ напішу Але я хацеў і хачу гэта зрабіць. Я прыйшоў на гэтую зямлю і жыву тут не дзеля таго, каб адно есці, піць, спаць... Але і каб нешта пакінуць пасля сябе. Нейкі след, метку, памятку, што я быў Удаецца зрабіць гэта не кожнаму Магчыма, не ўдасца і мне. Аднак, я буду нешта рабіць дзеля таго, каб удалося. Бо калі застануся я, калі застанешся ты (Федарэнка, Сыс, Дубавец, Акулін, Шніп, Скоба, Глобус...) – застанецца і Беларусь. Бо чым больш мы пакінем на Зямлі метак-памятак пра сябе (як зрабілі гэта Купала і Колас, Багдановіч і Танк, Гарэцкі і Мележ, Стральцоў і Караткевіч...), тым надзейней застрахаваны будзе народ беларускі ад знікнення...

---

**смешнага падобныя, нават калі размова датычыць такіх прыватных рэчаў, як самагубства ці адносіны да жанчын.**

**"Адмаўленні адмаўлення" Пятровіч піша, відавочна маючы на ўвазе ўласную творчасць: "Ён не хацеў пісаць пра сябе, пра сваіх родных, блізкіх, знаёмых. Хоць і разумеў: пра што б ён ні пісаў — будзе пра сябе. Некалі ў юнацтве ён занатоўваў у дзённіку прыблізна такія словы: "Навошта пісьменніку выдумваць жыццё? Ці не лепш проста браць жыццёвыя сітуацыі і запісваць іх, ажыўляць на паперы..." Спачатку рабіць гэта было яму цікава... Потым ён кінуў гэты занятак".**

**Гэтая мініяцюра, дзе імя Акутагавы ніякім чынам не згадваецца, найпрост звязана з яго творчасцю, якая ўва многім была рэакцыяй на панучы ў японскай літаратуры пачатку XX-га ст. натуралізм, апісаны А. Стругацкім так: "Прынцып жорсткай фатаграфічнасці лагічна прывёў да сцверджання, што дакладна пісьменнік можа апісаць толькі сябе самога. Пісьменнікам было прапанавана прылюдна распрануцца. Так узнікла эгабелетрыстыка, і на старонках часопісаў і кніг прадсталі вывернутыя навыварат душы і ложкі вядомых майстроў літаратуры".**

**Як бачым, не толькі Пятровіч да Акутагавы — сама літаратурная сітуацыя можа быць вельмі падобнай. Дык што ж дзівіцца таму, што гераіня пятровічавага твора так нагадвае аўтара гэтых радкоў? Я не крыўдую: што зробіш, калі мы ўсе жывем у постмадэрне — адлюстраванні адлюстраванняў — які выявіў дзіўнае стварэнне — тэкстасвет, дзе ўсё ўжо сказана пра нас і да нас.**

**P.S. Калі калегі-мужчыны не спыняць сваю ваенную кампанію супраць слабога полу, ці не звярнуцца нам да старадаўняга сродку "Камедыі аб Лісістраце"?**

**Ганна КІСЛІЦЫНА**





# УДОЛ*

*Актава пазнання*

У зграбненькім скверыку паблізу вакзала экскурсавод прыпыніўся і, нарэшце, сказаў·

— А цяпер вы самі можаце пагуляць па нашым горадзе. Але далёка не заходзьце. Лёгка і заблудзіцца. Збіраемся тут — праз гадзіну.

Стах даўно чакаў гэтых яго слоў Зірнуў на гадзіннік — да адпраўлення цягніка на Менск заставалася амаль паўтары гадзіны. Значыць, ён паспее не толькі паблукаць па горадзе, але і падысці да таго дома, на якім заўважыў ён шыльду з надпісам на мясцовай мове, дзе сярод незнаёмых слоў убачыў і пазнавальныя ў любых літарах " .Францішак Скарына. " Цалкам прачытаць, што там было напісана, Стах не здолеў, бо баяўся адстаць ад сваёй групы. З гісторыі ён ведаў, што і сапраўды менавіта ў гэтым горадзе Францішак Скарына некалі выдаваў свае кнігі. Экскурсавод пра гэта нічога не сказаў Паўз дом ён вёў групу да знакамітага касцёла і з захапленнем распавядаў легенду пра ягоную прыгажосць.

У гэтым горадзе Стах быў упершыню. Але заблудзіцца ў ім не баяўся. Заблудзіцца ў незнаёмым горадзе можа хутчэй гараджанін, чымсьці вясковец. Стах вырас сярод лесу і таму арыентаваўся ў горадзе па сваіх, адметных толькі яму, прыкметах, добра. Ён запомніў, што той дом з шыльдай стаяў ці не ў самай нізкай мясціне старога горада, нібыта ў нейкай даліне, у логу І таму адразу пайшоў уніз па вуліцы, забіраючы на паваротах усё ніжэй і ніжэй Вось і дом. І шыльда, прымацаваная не высока, а якраз на ўзроўні вачэй. Сабраўшы ў жменю ўсе свае веды розных моў, Стах прачытаў-зразумеў, што і на самсправе напачатку XVI стагоддзя ў гэтым доме працаваў і выдаваў асобныя кнігі Біблii беларускі асветнік і першадрукар Францішак Скарына. Шыльда была прымацавана да дзвярэй, зробленых пад старыя, аздобленых каванымі карункамі. Стах падумаў, што тут можа быць музей, і вырашыў зайсці ў дом.

Дзверы лёгка, без натугі і скрыпу, адчыніліся. Але ўпусцілі Стаха яны не ў пакой — музейную вітальню, — а ў маленькі дворык. З усіх бакоў былі невысокія, з двухпавярховы дом, цагляныя сцены, крытыя блакітным небам. Дворык быў утульны, прыветны, як і ўсё ў гэтым горадзе. І — пусты. Толькі ля адной са сценаў стаяла драўляная лаўка, нібыта запрашаючы прысесці ды адпачыць. Стамляе чалавека ўсё, нават прыгажосць. Прахадзіўшы дзень па пякнотах горада, Стах дробатакі стаміўся. Тут жа было ціха, чыста і свежа. І Стах падумаў, што нікуды ён больш не пойдзе, што прасядзіць у гэтым мілым дворыку да самага адыходу цягніка.

Дворык, здавалася, дыхаў даўніною. Жывою даўніною. Стаху падалося нават, што і паветра тут не такое, як у горадзе, на блізкай – праз сцяну — вуліцы, а свежае, нібыта ў вёсцы пасля дажджу. Разглядаць у дворыку не было чаго, акрамя сценаў Былі яны дагледжанымі і выдавалі зусім новымі, учора складзенымі. Не адрэстаўраванымі, а нанова адбудава-

---

***Удол – юдоль (слоўнік В. Ластоўскага).**

# Авангардыст з Вялікага Бору

**Прадмову да празаічнага зборніка Барыса Пятровіча "Сон між пачвар" ягоны рэдактар Уладзіслаў Рубанаў нейк нечакана распачаў з развагаў пра вясковасць у літаратуры. Здавалася, ні назва кнігі ў стылі Стывена Кінга, ні яе раздзелы — "Так не бывае", "Настроі", "Згадкі", "Шызы" такой размове не спрыялі. Тым не менш, Уладзіслаў Рубанаў, надзелены, як выяўляецца сёння, здольнасцю прадказваць, асцярожна выказаўся пра вясковасць усяе нацыянальнай літаратуры, вясковасць як яе выратаванне.**

**Не думаю, каб вёска была тым непераадольным заломам, які адгарадзіў бы нашую літаратуру ад урбанізацыі або інтэлектуалізацыі. Але ёсць межы, якія таму або іншаму творцу не наканавана пераступіць. Гэта не сведчыць пра кволасць таленту. Гэта ягоны асабісты фатум.**

**Пасля таго, як празаік Барыс Пятровіч выпрабаваў, здавалася, цэлы набор авангардысцкіх спосабаў пісьма, "версій", фрагментаў, "шызаў" і вольных імпрэсіяў, раптам вычтваецца прызнанне, шчырае, як мне думаецца, бо ўспамін датычыцца студэнцкага юнацтва, размоваў нікому яшчэ не вядомых пачаткоўцаў на**

нымі. “Вось табе і “...у гэтым доме.. ”, — падумаў Стах, — дома таго даўно ўжо няма, знесены вайною ці гора-будаўнікамі, але ж пішуць.. І заўсёды знойдзецца разявака, які паверыць...”

Заўважаны наіўны падман не раззлаваў Стаха, а наадварот супакоіў У дворыку прыемна было сядзець і думаць, крыху прымружыўшы вочы, як у паўсне. Разважаць пра імклівасць часу і безабароннасць чалавека перад ім, часам, — чацвёртым вымярэннем, што штурхае людзей наперад і наперад. Чалавек можа вярнуцца назад, у тое месца, што яму спадабалася, дзе ён быў некалькі хвілін таму, але вернецца ён ужо не той самы, а іншы, пасталелы, пастарэлы на тыя самыя некалькі хвілін..

Салодкая млявасць апанавала Стаха, узяла яго ў свае пяшчотныя абдымкі, ён прыгадаў родны дом, маці, і мама паківала яму пальцам: не спі, не спі, усё праспіш ..

Стах прахапіўся. Час і праўда імкліва бег наперад. Гадзіна праляцела, як адно імгненне. Трэба было ісці на вакзал, да цягніка, які чакаць не будзе. Стах ускочыў і пайшоў у той бок, адкуль прыйшоў Пайшоў па памяці, механічна, і... упёрся ў сцяну Дзвярэй і знаку не было. Стах кінуўся да другой сцяны, да трэцяй. Усюды суцэльная кладка. цаглінка падагнаная да цаглінкі, роўненька, гожа. І толькі на чацвёртай сцяне, на вышыні другога паверха, было відаць маленькае вакенца, зашклёнае мутна-зялёнай шклінай. Стах падняў з зямлі каменьчык і кінуў у вакенца. Шкло дзынкнула, паклікала гаспадароў

Не адразу, але вакно расчынілася, і з яго вызірнула чарнявая дзяўчына.

— Што табе трэба, хлопча? — спытала яна, змерыўшы позіркам Стаха.

— Выйсці адсюль.

— Х-ха! Усе гэтага хочуць. Я таксама хачу . Ха-ха-ха! — смела, гучна засмяялася дзяўчына і зачыніла вакно.

Дзяўчына падалася Стаху прыгожай, з даволі правільнымі рысамі твару і, галоўнае, з надзіва натуральным колерам яго: ні бледным, ні загарэлым, ні падфарбаваным касметыкай, а проста здаровым. Здзівіла Стаха і тое, што апранута яна была ў нешта незразумелае — нейкія шэрыя, грубыя, тоўстыя лахманы. Накшталт мяха з-пад бульбы. І гаварыла яна неяк не так, як чулася Стаху. Сэнс сказанага ён разумеў, нібыта па вуснах чытаў, але словы былі і тыя, і не тыя – чужыя, незнаёмыя, але... зразумелыя .. Як у замежным дубляваным фільме: вусны кажуць адно, а голас за кадрам — зусім іншае.

Ды Стаху было цяпер не да гэтага. Яму трэба было як хутчэй выбрацца з дворыка. І ніхто, акрамя дзяўчыны, не мог яму дапамагчы. Стах набраўся нахабства і зноў шпурлянуў каменьчык у вакенца. Дзяўчына глянула на яго звысоку ўніз і спытала:

— Ты адкуль узяўся, такі смелы?

— Я тут у вас на экскурсіі.

— На экскурсіі? На агледзінах. Не смяшы.

Стах пабаяўся, што дзяўчына зноў зачыніць вакенца, і хуценька загаварыў:

— Праўда! Я прыехаў у ваш горад на выходныя. Каб адпачыць. І зайшоў у гэты дворык выпадкова.

— Выпадкова..

— Так.

— Дзіўна.

— Я беларус, і мне цікава было пабыць. — пачаў казаць Стах, але дзяўчына перабіла яго:

— Ты агледзься, куды трапіў, беларус, куды сам прыйшоў..

Стах пагледзеў вакол: той жа дворык, тыя ж сцены, лаўка, дзвярэй не відаць. . Адзін ратунак — гэтае вакенца. Але... Што гэта? Па кожнай з чатырох сцен павольна, няспешна ходзяць воі з дзідамі ды тарчамі .. І гэта робіць дворык падобным да турэмнага.. “Кіно здымаюць. ”, — прытушыў здзіўленне Стах, прыгадаўшы і дзіўны ўбор дзяўчыны. Дарэчы, а дзе яна? Вакенца зноў было зачынена. Каменьчык. Дзынь! Дзяўчына. Ужо не спакойная і смяшлівая, а нібыта раззлаваная:

— Ну ча-го ты хо-чаш, хлоп-ча? — спытала яна, падзяляючы кожнае слова на склады.

— Дапамажы мне выбрацца адсюль, — папрасіў Стах, — я на цягнік спазняюся.

— Добра. Дапамагу Чым магу Толькі пры адной умове: калі ты выберашся адсюль, раскажы там пра мяне, проста раскажы, што бачыў мяне. Згодны?

Стах згадзіўся б цяпер, у роспачы, і не на такое.

Дзяўчына апусціла з вакна брудна-чырвоную посцілку Стах ухапіўся за яе і зашкрабаў нагамі па сцяне. Гэтак узлазіў ён некалі ў госці да знаёмых дзяўчат у інтэрнат на другі паверх, калі вахцёрка не пускала. “Гэта кіно. ”, – супакоіў ён сябе яшчэ раз: “Кіно. ”

Пакойчык, у які ўцягнула Стаха дзяўчына, быў зусім малы. Акрамя голага драўлянага ложка (посцілка з яго — здагадаўся Стах), у ім нічога не было. Ні стала, ні зэдліка. Але затое былі дзверы — быў выхад.

Стах заспяшаўся: часу да адпраўлення цягніка заставалася ўсё менш і менш. Начаваць жа ў гэтым горадзе, хай сабе і ў пекнай дзяўчыны, яму зусім не хацелася.

— Ну, дык пра што мне трэба расказаць, калі выйду? — спытаў Стах у дзяўчыны, прыгадаўшы ўмову, і нецярпліва зірнуў на дзверы.

— Сядай, — запрасіла дзяўчына, — і слухай...

Мажліва, тое, што яна расказвала, і было цікавым. Але не Стаху цяпер. Пасля першых слоў: “Служыла я ў пана пакаёўкай...”, Стах падумаў, што дзяўчына проста рэпеціруе сваю ролю, і таму далей амаль не слухаў яе, толькі зрэдзьчас ківаў галавою. Грала, між тым, дзяўчына добра, шчыра. Натуральна. І сукенка надта пасавала да яе ролі — спакушанай і абылганай панам простай дзяўчыны, пасаджанай у цямніцу Нават і не сукенка то была, а звычайны мяшок з дзіркамі для галавы і рук.. Счакаўшы, покуль дзяўчына закончыць (а яна, у запале, напрыканцы нат заплакала), Стах спачувальна прамовіў, падыграў дзяўчыне:

— Добра, я ўсё раскажу... А цяпер пакажы мне, як адсюль выйсці.

Дзяўчына адчыніла дзверы і выпусціла Стаха ў напаўцёмны, вузкі калідор. Такі вузкі, што двайм у ім не размінуцца. Стах ішоў па калідоры, нібыта па лабірынце, доўга, паварочваў управа-ўлева ўслед за ім і, урэшце, выйшаў пад адкрытае неба. Уздыхнуў на поўныя грудзі.

***ДО***

.і аслупянеў Ён патрапіў у яшчэ адзін дворык, падобны да папярэдняга, толькі крыху большы.

Высокія сцены з чырвонага каменю абступілі двор з усіх бакоў. Стах, ужо сёе-тое ўцяміўшы, азірнуўся назад. праходу за ім не было — там, адкуль ён толькі што прыйшоў, была такая ж гладкая, роўная, акуратная сцяна, як і справа, злева, спераду. .

---

**лавачцы каля архіерэйскага дома, пад зарасцю бэзу. У “Фрэсцы” “Ударчык”: “Двое з нас пісалі вершы, двое прозу, і мы любілі пагаманіць пра літаратуру наогул і пра творчасць у прыватнасці. Праўда, мажліва, я і прыхарошваю цяпер тыя размовы, бо, шчыра прызнацца, не надта памятаю іх. Прыгадваецца асноўнае: нам не падабалася тое жыццё, што акаляла нас, нам не падабалася тая літаратура, якую рабілі яшчэ не мы, а мясцовыя паэты ды празаікі, нам хацелася сказаць нешта сваё, асаблівае, мы адчувалі ў сабе сілы дзеля гэтага, і кожны, пэўна, зазіраючы ў будучыню, бачыў сябе лаўрэатам Нобеля, не меней... Воўка казаў нешта пра Кафку і Платонава, і сплаў гэтых імёнаў даў на аснове вядомай савецкай песні афарызм, прыпісаны потым сабе нейкім рускім: “Мы рождены, чтоб Кафку сделать былью”. Выпілі за гэта, бо ў сацрэалізме ніхто з нас сябе не бачыў і блізка, а пра тое, каб перасадзіць Кафкаў рэалізм на беларускую глебу, тады можна было толькі марыць”.**

**І вось мара нібыта спраўджваецца — і малады празаік Барыс Пятровіч можа колькі заўгодна маніпуляваць з сваімі версіямі, пазначаючы кожную літарамі беларускага алфавіта, а калі не хопіць літараў — лічбамі. Можа ладзіць умоўны літаратурны хранатоп, уціскаць у яго бясконцасць, як гэта ў свой час рабіў Борхес у “Вавілонскай бібліятэцы” і як Барыс Пятровіч робіць у навеле “Прыемны колер”. Толькі гэтым практыкаваннем часам не стае лядзянага холаду — той амаль абавязковай умовы, з якой ажыццяўляюцца літаратурна-інтэлектуальныя гульні. Бракуе часам і разліку, дакладнай выверанасці — мікрасюжэты некуды плывуць, раскідваюцца...**

**Маладзейшыя аўтары, тыя, што аддаюць перавагу літаратурнаму канструяванню, могуць лічыць Пятровіча за мэтра — пачаўшы раней, ён у гэтых гульнях нагадвае вясковага дзядзьку, які згаджаецца пагуляць у футбол з падшпаркамі. Але падшпаркі хутка гадуюцца, і раптам можа выявіцца, што нехта з “бумбамлітаўцаў” спрытнейшы за мэтра. Што тады?**

**А вось тады застанецца тое, чаго ніхто не зможа напісаць лепш за Барыса Пятровіча.**

**Напрыклад, гэтае апісанне з навелы “Ловы”, якую лічу лепшым на сёння творам празаіка: “Лёнька пачаў даставаць птушанят па адным. Возьме за ногі, а цела — боўць — і ў галаву пералілося, возьме за галаву, а цела — боўць — і да ног пераваліласяі, адвісла, як вада ў гумавым балоніку”.**

**Свет вясковых прасцякоў, гарадскіх люмпенаў, гэтых Петрусёў, Сашкаў, Мішкаў, Лёнькаў — тое асяроддзе, дзе Пятровіч можа эксперыментаваць без дадатковых высілкаў, без непажаданай канкурэнцыі. Ірацыянальныя, “кафкаўскія” сітуацыі магчымыя і ў гэтым свеце, пра што сведчаць апавяданні “Як рыбіна аб лёд”, “Успамін. Яблыкі”.**

**Рана або позна празаік асвойвае гэтую сферу, напаўняе яе сабой, і гэта ёсць вяртанне да самога сябе, юнака з Вялікага Бору, і адбываецца яно, гэтае вяртанне, не без адчування нейкай трывогі, скрухі, горычы. Пра што сведчыць аўтарскі эпіграф да “Фрэсак”: “Дрэвы губляюць сваю лістоту, чалавек губляе сваіх сяброў, жыццё губляе свой сэнс, я старэю...”**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

Але двор гэты быў не пусты. Ля далёкай сцяны, пад невысокім дрэвам, падобным да ясеня ці явара, Стах убачыў купку людзей. Адтуль даносіўся размераны свіст пугі і цёк ціхі гул галасоў — быццам адзін працяжны стогн. .

Стах падышоў бліжэй. На лаўцы.. не, на пласе.. ляжаў хлопец са спушчанымі штанамі і падабранай кашуляй. Двое мужчынаў, аж хакаючы ад натугі, лупцавалі яго. Білі не як у кіно — не дзеля выгляду, а сур'ёзна, бы на адказнай працы. Са спаласаванай чырвонымі пісягамі спіны цякла кроў. Хлопец ляжаў без прытомнасці і на твары ягоным напісаны быў не боль, а жах, які вылучалі шырока расплюшчаныя — у здзіўленні — вочы. Крыху далей, за плахай, пад дрэвам, у цяньку ляжалі збітыя раней людзі. Стах памкнуўся падысці бліжэй, але раптам на яго засыкалі з натоўпу перад плахай:

— Куды без чаргі!. Куды без чаргі! .

І праўда, гэта быў не натоўп, не купка людзей, а чарга да плахі. Стах паслухмяна стаў у канец яе і пачаў назіраць, што тут адбываецца. Яму шкада было хлопца, якога білі, але, калі прыглядзеўся, то яшчэ больш шкада стала тых мужчынаў, што білі яго. Стома ішла ад іх, здаецца, фізічна-адчувальная, стома хранічная, даўняя і страшная ў сваёй бясконцасці, нязменнасці і неадменнасці.

Стах пачаў сачыць за тымі людзьмі, што пабылі ўжо на пласе і ляжалі цяпер пад дрэвам. Ачомаўшыся, яны ўставалі, падыходзілі да чырвонай сцяны за дрэвам і знікалі ў ёй, нібыта праходзілі праз сцяну Да таго месца вяла добра ўтаптаная сцяжына, якая ўпіралася ў сцяну Іншага "выхаду" з гэтага двара не было. . Не, быў! Трохі збоку ад гэтай сцежкі Стах убачыў металічную лесвіцу, што вяла ўверх, да краю сцяны. І хоць на чатырох кутах двара над сценамі ўзвышаліся вежы, на якіх стаялі ахоўнікі з лукамі ды арбалетамі напагатове, Стах не стрываў, кінуўся да лесвіцы Падскочыў, ухапіўся за яе і палез. Ніхто з чаргі за ім не пабег услед. Ніхто з ахоўнікаў ніяк не адрэагаваў на ягоны рывок. Ужо гэта павінна было калі не спыніць Стаха, дык хоць здзівіць. Аднак яму было не да таго: ён хапаўся за парэнчы і лез, лез вышэй і вышэй, да неба.. Узлез, перакінуў нагу праз сцяну, зірнуў уніз і ледзь не самлеў: увесь дворык пад ім быў запоўнены гадаўём — змеямі розных колераў і памераў. Яны спляталіся ў клубкі, качаліся па двары, а некаторыя, падняўшы галовы, сычэлі ці на яго, ці проста ў неба. Па ўсім двары валяліся белыя чалавечыя косткі, чарапы.

Стах павольна, расчаравана спусціўся ўніз, у ранейшы двор, і стаў у канец чаргі. Ён не ведаў, дзеля чаго, навошта яму, як і іншым, трэба прайсці праз гэткае выпрабаванне, праз гэткія пакуты. Але, калі трэба — то, значыць, трэба. Ён змірыўся з лёсам і жадаў цяпер толькі аднаго: хутчэй патрапіць на плаху, адляжацца і знікнуць у сцяне.

У двор увайшоў мужчына, але не з таго боку, з якога патрапіў сюды Стах. Агледзеўся і, пачуўшы: "Куды без чаргі!..", стаў услед за Стахам. Паназіраў-паназіраў моўчкі за пакараннем і пабег да сцяны з лесвіцай. Узлез... і вярнуўся ў чаргу

Падышоў Стахаў чарод класціся на плаху І Стах пайшоў, без роспытаў, быццам бы была ў гэтым патрэба. Жыло ў ім спадзяванне, што атрымае ён сваю порцыю бізуноў, хай і невядома за што, падыдзе да сцяны. выйдзе ў горад і паедзе дамоў .. Раз ужо патрапіў нейкім чынам у гэтакі пераплёт і іншага выйс-

# Піліп у коле Мёбіуса

**Швейцарскі філосаф Францыск Радольф Вейс у сваім творы "Маральныя асновы жыцця" адзначыў: "Ёсць людзі, якія за адзін дзень і гадзіну перадумаюць і перажывуць болей, чым іншыя за ўсё жыццё".**

**З гэтай уласцівасці вынікае як магчымасць найбольшай паўнаты карыстання насалодамі жыцця, так і неабходнае зведванне такой бездані няшчасцяў і душэўнага болю, якая закрытая для абсалютнай большасці людзей.**

**Прататып аднаго з апавяданняў О. Генры, "медзвяжатнік", якому далі шанс атрымаць волю, калі тэрмінова адчыніць патрэбны начальству турмы сейф, здзёр з кончыкаў пальцаў скуру і так, аголенымі нервамі, вызначыў шыфр замка.**

**Праўда, на волю ён так і не выйшаў... Памёр у турме. Начальства, скарыстаўшыся з працы вязня, падманула яго.**

**Ці не так у ідэале працуе кожны пісьменнік? Ці не да пароды тых асабліва адчувальных належым мы?**

**Прынамсі, менавіта ў дыяпазоне адчувальнасці, на маю думку, і ёсць розніца між мастацтвам і гульнёй у мастацтва, штукарствам.**

**Праўда, парадокс у тым, што яе, тую розніцу, можа ўсвядоміць таксама толькі чалавек з аголенымі нервамі...**

**І вось калі я думаю пра асобу Барыса Пятровіча, я думаю менавіта пра боль і шчасце творчасці,**





ця няма, дык варта пацярпець. . Абы хутчэй усё скончылася.

Адзін з мужчынаў-катаў, калі Стах праходзіў паўз яго, шапнуў· "На, патрымай пугу, я пот вытру.. " Жалобна гэтак шапнуў, умольна, ажно варухнулася нешта шчымлівае ў Стаху. Але ён стрымаў сябе, не пашкадаваў ката, не ўзяў пугі, хоць рука была і пацягнулася. Перастрахаваўся на ўсялякі выпадак, бо прыгадаў раптам дзіцячыя казкі і старыя паданні пра гэткую хітрасць: мажліва, калі б узяў ён пугу, дык сам зрабіўся б катам..

Стах спусціў штаны, задраў кашулю і лёг на плаху. Кат размахнуўся і ўдарыў Стах заплюшчыў вочы, чакаючы болю, але. . болю не было.. Фізічнага.. Затое разануў памяць успамін Балючы ўспамін З далёкага дзяцінства. Пра здарэнне, за якое яму ці не ўпершыню ў жыцці было сорамна і пра якое ён даўно забыўся. Гэта быў першы ягоны "грэх"; першы, бо зрабіў ён гэта свядома. Яму было два гады ці трохі болей. Бацька папрасіў знаёмага шафёра, які вазіў торф на поле, каб пакатаў Стасіка. Стасік быў шчаслівы. Дзядзька зрабіў адзін рэйс, другі, а потым спыніў машыну ля канторы і пайшоў у яе. Надоўга. І трэба ж было такому здарыцца, што Стасіку якраз прыспічыла пісяць. З кабіны ён вылезці не мог і трываць болей не мог Пад нагамі ў сябе ён убачыў маленькую лужынку — снег з валёнак растаў — і вырашыў папісяць у яе. Думаў, дзядзька прыйдзе і нічога не заўважыць — была ж лужынка... Але дзядзька заўважыў І моцна накрычаў на яго. Асабліва за тое, што Стасік не адразу прызнаўся яму.

Успамін гэты, горкі і прыкры, пранёсся імкліва. разам з ударам. За ім — другі, трэці.. Удар — успамін, удар — успамін. Балючы. І чым далей, тым страшней. Ад разумення, што зробленага — не паправіць, што перажытае — не паўторыцца. І самыя балючыя ўспаміны не тыя, якія ён і без таго памятаў і ад якіх пакутаваў, а забытыя. Пра тыя падзеі, якім ён некалі не надаў увагі, але ад іх, аказваецца, пакутавалі іншыя людзі. Усё жыццё Стаха да сёння, да гэтага моманту, прайшло перад ім, б'ючы яго, выварочваючы сумленне... Апошнім быў успамін пра тое, як няшчыра абышоўся Стах з дзяўчынаю, што дапамагла яму выбрацца з першага дворыка. Але Стах страціў прытомнасць задоўга да яго. Між болем паспеўшы падумаць, што ўспамінае ён сваё мінулае жыццё, пэўна, каб назаўсёды забыцца пра яго, каб развітацца з ім, поўным памылак і пралікаў, каб ачысціцца, каб засталася ад яго толькі віна, чыстая віна, невядома за што і перад кім.

. Стах апрытомнеў пад дрэвам. Ляжаў на спіне і глядзеў у неба праз голле і лісцё. Па дрэве бегала, скакала вавёрка; у небе, хоць і быў гэта дзень, стаяла поўня. Дзіўна, але памяць ягоная не сцерлася. Нічога не забылася. Наадварот, памяць стала больш вострай. Ён застаўся Стахам і памятаў усе свае крыўды і ўсіх пакрыўджаных ім...

Побач бухнула на зямлю яшчэ адно збітае цела. Стах падняўся і паплёўся па сцяжыне да сцяны Галава ўвайшла ў яе і адразу выйшла з другога боку, быццам сцяны і не было. Стах патрапіў у яшчэ адзін двор.

***РЭ***

...які поўніўся шумам — шоргатам ног, гаманою соцень людзей, што былі ў ім.

У двары стаялі, сядзелі, хадзілі мужчыны ў незвычайнай аранжавай вопратцы, падобнай да камбінезонаў Аднолькавай ва ўсіх, як форма ў войску ці, як у.. турме... Стах глянуў — такі ж самы камбінезон быў і на ім.

**якія злітыя ў адно. Таму што мала я ведаю пісьменнікаў, якія б такім уласным болем адгукаліся на кожны боль сваёй Радзімы. Не таму, што так трэба, таго вымагае статус нацыянальнага творцы, а проста па прыродзе сваёй натуры. Барыс Пятровіч менавіта з тых, каму баліць за ўсё — што адбываецца ў свеце, ва ўласнай краіне, у працоўным калектыве, у коле сяброў.**

**Здаецца, такая ўласцівасць яшчэ называецца абвостраным сумленнем...**

**Проза яго напісана лёгкім пяром: фразы прыпадобненыя флёберавай котцы — кінутыя на паперу, адразу становяцца на ўсе чатыры лапы.**

**Але гэта лёгкасць тонкага провада, па якім прапушчаны ток высокага напружання.**

**Барыс Пятровіч — пісьменнік з парадаксальным мысленнем. Ён не змяшчаецца ў плоскасці рэальнага жыцця і скручвае яе ў кола Мёбіуса. Ён мадэлюе сваю рэальнасць з квінтэсенцыі зямнога болю, філасофскіх трактатаў і ўласнай фантазіі. Яго героі, як тая мурашка ў коле Мёбіуса, кіруюцца прама, але праходзяць праз усе колы выпрабаванняў і варыяцый быцця. Ды гэта не эксперымент над паддоследным паасобнікам, бо герой тоесны аўтару. Яны з'яднаныя адным болем. Іх не двое — гэта адзін чалавек. Ён паглыбіўся ў віртуальную рэальнасць, але ў віртуальнага двайніка і ў яго адна нервовая сістэма.**

**А ад паглыблення ў садамазахічную тэорыю творчасці адхіляе такая акалічнасць, што Барыс Пятровіч надзелены добрым пачуццём гумару. Напэўна, таго ж кшталту, што й непараўнаны Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Ратаванне смехам, ратаванне зямлёю перажывалі народы ў час Адраджэння, — калі з'яўляліся "Дэкамерон" і "Гарганцюа", "Тарас**

Пэўна, пераапранулі, пакуль ляжаў непрытомны...

Людзі на пляцы былі занятыя кожны сваім і ніхто на Стаха не звяртаў увагі. "Дзе я? — падумаў Стах. — Куды патрапіў? Чаму мне ніхто не патлумачыць? Навошта заманілі мяне сюды? Дзеля чаго? Няўжо гэта турма?.. Тады за што? " Здаецца, пакуль ляжаў Стах на пласе, перадумаў-прыгадаў усё, што было ў ягоным жыцці. Аж да дробных крыўдаў, да падрабязнасцяў, усю праўду — як на дэтэктары маны. Але нічога крымінальнага ў ягоным жыцці не было.

Крымінальнага нічога. Тады за "палітыку"?. Гэта прасцей за ўсё. Любога можна лёгка зрабіць шпіёнам, даносчыкам ці "ворагам народа" .

Не, гэта не турма. Гэта гульня нейкая. Накшталт камп'ютарных. Віртуальная рэчаіснасць. Толькі вось у гульні ён мог націснуць на пэўную клавішу і "выйсці" з яе ў любы момант, альбо націснуць на другую і паглядзець, дзе ён знаходзіцца. . А тут... Хто ім гуляе? Хто гуляе ў яго? І навошта...

І вырашыў Стах — нягледзячы ні на што — вырвацца адсюль, з гэтага кола дворыкаў. Не чакаць "вызвалення", а ўсяляк набліжаць яго самому Прайсці праз усе выпрабаванні з адною мэтай: вярнуцца назад, у тое жыццё, з якога ён патрапіў сюды. Бо ведаў: вытрываць любое выпрабаванне можа толькі той, у каго ёсць вялікая мэта, дзеля якой ён жыве. .

— Ага, новенькі. — да Стаха падышлі некалькі мужчынаў, падобных між сабою, як браты. Толькі ў аднаго з іх была адметнасць — акуратна падстрыжаная барада кліночкам. Гаварыў ён, бо, мусіць, быў старэйшым. "Хто яны? — падумаў Стах. — Зэкі? Ары-штанты? Такія ж, як я... Ці з тых, хто ведае, дзе я цяпер знаходжуся і што мне трэба рабіць?.."

Стаха абступілі пяць ці шэсць мужчынаў

— Грошы ёсць? — спытаў барадаты.

Грошы ў Стаха былі, калі ён увайшоў у дворык, а цяпер.. у яго нават кішэняў не было.

— Былі, але... — адказаў Стах, спадзеючыся, што мужчыны далей самі зразумеюць.

— Што "але"? Няма? А гэта што?. — барадаты паказаў на мяшэчак, які вісеў, аказваецца, у Стаха на поясе. Стах не паспеў і вокам міргануць, як барадаты адарваў мяшэчак і ўжо ўзважваў яго на руцэ. Там нешта звінела, нібыта манеты.

— Падманваць надумаў? — са злосцю сказаў барадаты і плюнуў на зямлю: — А ну падымі!..

Падняць скурчаны ў пяску камячок ягонай сліны? Не, нізавошта!. Стах адвёў рукі за спіну, паказваючы тым, што нічога падымаць не будзе.

— Не хочаш? — Стах бакавым зрокам убачыў, як сціскаецца вакол яго кола мужчынаў са сцятымі кулакамі "Заб'юць, — падумаў ён, — ну і няхай. Але падымаць не буду!"

— Стойце, хлопцы, — сказаў барадаты, — нам няма патрэбы спяшацца. Нікуды ён не дзенецца. Хай падумае. Хай добра падумае. А потым мы зноў у яго спытаемся.

Мужчыны раставлі ў натоўпе гэтакіх самых, як і яны, аранжавых людзей. Стах застаўся адзін. Сярод соцень чалавек. Чужы ўсім і нікому непатрэбны. Кожны быў заняты тут сваімі думкамі і ні на што не рэагаваў

Не прайшло і дзесяці хвілін, як Стаха зноў абступілі тыя ж самыя мужчыны Барадаты плюнуў і сказаў· "Падымі!" Стах у адказ — не варухнуўся.

— Не хочаш падымаць? Тады купі.

— За што?

— А дзе твае грошы?

на Парнасе" і "Сказ пра Лысую гару". Валоданне гумарам, "горкім беларускім гумарам", гэтак жа неабходнае пісьменніку страшнага часу, як баласт — караблю ў шторм. І я думаю, што чытач яшчэ пазнаёміцца з гэтым бокам творчасці Барыса Пятровіча, "Пілiпікі" — толькі пачатак. Нездарма ж любімы пісьменнік Барыса — Даніiл Хармс.

Вось колькі важных складнікаў для творчага плёну названа... Але ёсць і яшчэ адзін — Барыс Пятровіч валодае творчым патэнцыялам. Ён фактычна толькі пачынае рэалізоўваць свае магчымасці ў літаратуры, і творчы рост яго на працягу апошніх гадоў не заўважыць толькі той, хто не чытае. Сёння пісьменнік стала заняў месца на празаічным беларускім Парнасе, сярод тых, каго чытаюць, на каго спасылаюцца ў крытычных артыкулах.

Эх, каб яшчэ і выдавалі...

Таму што Барыс Пятровіч чалавек азартны. Ну, не як Дастаеўскі ў Бадэн-Бадэне, але... І свой азарт, свой творчы запал пераносіць у творчасць. Нездарма ж, падобна Дастаеўскаму, любіць пісаць па начах. Так што выдаваць будзе што.

Ну а тое, што рэдка сустракаюцца людзі такія патрабавальныя да сябе і такія вечна незадаволеныя сабой, як спадар Барыс, дае пэўную гарантыю незаштампаванасці.

' Цяпер Барыс Пятровіч падчас творчага працэсу можа аглядаць краявіды Мінскай кальцавой дарогі са свайго дзевятага паверха праз вокны нарэшце атрыманай чатырохпакаёвай кватэры. Праўда, краявіды тут, трэба прызнацца, трохі нагадваюць "сталкераўскія". Але Піліп з "Піліпікаў" туды якраз упісваецца. І назіраць за яго перасоўваннямі з такой верхатуры зручна...

А што наша кальцавая дарога, што кола Мёбіуса — усё адно.

На волю па іх не выйдзеш.

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ





— Ты ж сам..

— Тады падымі..

Стах маўчаў. А мужчыны, вытрымаўшы напружаную паўзу, разышліся.

Праз дзесяць хвілін усё паўтарылася. Яшчэ праз дзесяць зноў, потым зноў... Напружанне расло. Стах разумеў, што гэта не гульня, што адбываецца гэта ўсё на поўным сур'ёзе і хутка павінна нечым скончыцца. Здзекамі? Доўгімі і бязлітаснымі здзекамі, а не кароткай смерцю. Але здзек ужо быў у самой паўтаральнасці гэтай сітуацыі з пляўком. Па сутнасці, драбязы. . Здавалася б, ну што тут такога: скарыся, падымі той камячок, і ўсё скончыцца. Ты станеш такім, як і ўсе. Станеш такім — і застанешся тут назаўсёды? . Не... Вось гэтага Стах не хацеў Смерці ён не баяўся. Але і не шукаў яе. Хоць думка пра самазабойства была варухнулася, страпянулася, ды ён яе прагнаў Ён ведаў і з папярэдняга жыцця, што гэта часовая слабасць, якая не дае выратавання.. Не, трэба змагацца да канца. Не зважаючы ні на што. Калі ідзеш да пэўнае мэты і звяртаеш увагу на кожнага сабаку, што гаўкае на цябе, то ніколі да гэтае мэты не дойдзеш. Ён жа занадта шмат значэння надаў гэтым мужчынам і зусім забыўся, што мэта ў яго адна — вырвацца адсюль... Але, калі яны ёсць, калі лёс звёў з імі, дык, можа, яны чым-небудзь дапамогуць?

Праз колькі хвілін, калі мужчыны зноў абступілі Стаха, ён сказаў·

— Над намі адно неба, пад намі адна зямля. Мы ўсе тут не па сваёй волі. Усе роўныя. Акрамя вас я нікога не ведаю. Дык давайце трымацца разам!

Аднак гэтыя, пафасныя, словы ніякага ўражання на барадатага не зрабілі. Той нібыта не пачуў іх, плюнуў і сказаў·

— Падымі!

— Не хачу! — закрычаў Стах. — Не магу! Не буду! — І, адштурхнуўшы барадатага, ірвануўся з рук мужчынаў і пабег.

Бег доўга, ажно здзівіўся, што такі маленькі дворык ніяк не скончыцца.. Бег між людзей, збіваў іх з ног, падаў сам, падымаўся і зноўку бег Пакуль не заўважыў наперадзе дзверы і не ўбег у..

***МI***

.жоўты ад голых людскіх целаў дворык.

Стах спыніўся, задыханы ад хуткага бегу Людзі павярнуліся да яго, і Стах убачыў, што патрапіў ён у дворык, поўны жанчын...

Жах! Згвалтуюць! Стах кінуўся назад — сцяна паўстала перад ім. Зноў пастка. І тут убачыў Стах, што ён таксама голы. Пэўна, тыя крымінальнікі паспелі садраць з яго адзенне, калі ён вырываўся... Аднак — што за д'ябальшчына! — Стах зірнуў уніз і. Гэта быў не ён. Гэта была жанчына. Ён — жанчына? Не можа быць! Не хачу!

Але факт быў навідавоку — Стах стаў жанчынаю. Толькі памяць ды розум засталіся ў яго мужчынскімі.

Некалькі жанчын узялі Стаха пад рукі. Ён не супраціўляўся. Жанчыны завялі Стаха ў вялізны пакой, у якім уздоўж сцяны стаяў суцэльны ложак — метраў на сто даўжынёй. На ім ляжалі такія ж голыя, як і Стах, жанчыны. Паклалі на ложак і Стаха.

Усё рабілася моўчкі, без тлумачэнняў Нібыта пакідалася выключна на розум Стаха. Як ён зразумее, як ацэніць тое, што дзеецца, так і будзе. А адбылося тое, чаго ён і чакаў, убачыўшы ложак: у пакой увайшлі адразу мо сто голых мужчынаў. Стах згадаўся потым, што гэта былі такія ж мужчыны, як ён —

# Асобная рэальнасць

Стары індзеец Хуан, настаўнік Карласа Кастанеды, філосаф і маг, кажа яму:

"Мы — людзі, і наш лёс, наша прызначэнне — вучыцца дзеля адкрыцця ўсё новых і новых светаў".

"Што, новыя светы — гэта рэальнасць?" — недаверліва пытае вучань.

"Калі навучышся *бачыць*, ты даведаешся, што непазнаных светаў безліч і што ўсе яны — тут, перад намі".

У творчасці Барыса Пятровіча даволі акрэслена прасочваюцца тры пласты: рэалістычны, асобна рэалістычны і, скажам так — як ні дзіўна, гумарыстычна-сатырычны.

Першая, тонкая, на пяць аркушаў кніжка празаіка выйшла ў друк у 1992 годзе ў бібліятэцы часопіса "Маладосць". Яна называлася "Ловы". Трынаццаць (выпадковасць?) апавяданняў у дакладна акрэсленым рэалістычным напрамку далі маладому аўтару пэўнае права заявіць: я вучуся бачыць, і, магчыма, гэта адбудзецца. Апошняе з невялікіх апавяданняў, трынаццатае, малады пісьменнік назваў "Забыты аповед". На маю думку, яно лепшае ў кніжцы і заслугоўвала таго, каб

жанчына... Бо ім увесь час хацелася памяняцца месцамі. І яны мяняліся... Аж да стомы, што перайшла ў сон-забыццё. Увесь час пры гэтым гучала прыгожая музыка. Знаёмая Стаху мелодыя, накшталт: "Зорка Венера ўзышла над зямлёю..." , і ўвесь час вочы засцілаў салодкі туман...

Скрозь сон Стах пачуў, як яго ўзялі за рукі і за ногі і панеслі. Калі б Стах хацеў застацца тут, ён мог бы падаць знак і застацца. Але ён не хацеў..

Ачуўся Стах ужо ў іншым дворыку. Ачуўся...

### ФА

...ад казытання травінак па твары...

Ён ляжаў у высокай, густой траве. Павяваў лёгкі ветрык, варушыў траву, і яна казытала ягоны твар.

Гэта быў першы дворык, напоўнены зелянінай. Так, дворык, а не звычайны зямны луг, як падумалася Стаху адразу. Ён палічыў ужо, што вырваўся назад, дамоў, на волю, аж не — зноў убачыў сцены, вежы над імі і вояў са стрэльбамі...

Трава была мяккая і ласкавая. Лісьлівая. Можна было б ляжаць гэтак хоць усё астатняе жыццё. Калі б не голад, калі б не вострае жаданне есці, якое адчуў раптам Стах.

Ён адарваў колькі травінак і пажаваў Нясмачна. Жавалася трава, нібыта пластмасавая — нават сок з яе не выціскаўся.

— Што, есці хочаш, хлопча? — да Стаха падсеў чалавек. Стах зірнуў на яго, ацаніў: з "нашых", ці з "абслугі". Здаецца, з такіх, як і ён, прышлых.

— Не памятаю, калі еў апошні раз, — сказаў Стах, без асаблівай ахвоты падняўся і сеў, — не памятаю...

— Бачыш, вунь чалавек у зялёным капелюшы? Падыдзі да яго і скажы, што ты з пятага кута. І ён цябе накорміць.

— Але ж я не з пятага кута. Я не ведаю, адкуль я, але, мусіць, не з пятага...

— А якая розніца. Табе хочацца есці — дык змані. Тут так: не падманеш — не паясі.

— А хто-небудзь іншы накарміць можа? Каб проста так, без маны.

— Не, толькі ён.

Стах паляжаў яшчэ трохі. Голад рабіўся зусім невыносным, пякуча-балючым. І тады Стах падняўся і пайшоў да чалавека ў зялёным капелюшы.

— Ты з пятага? — спытаў той адразу. Стаху заставалася толькі нават не сказаць "так", а хоць бы кіўнуць галавою, і ежа была б ягонай. Але дагэтуль дапамагалі яму выжыць, вытрываць ягоныя наіўнасць ды шчырасць, і цяпер ён вырашыў не здраджваць самому сабе:

— Не.

— Не з пятага? — здзівіўся чалавек, — ты што, я ж бачу, з пятага...

Яшчэ адзін шанц назвацца і пад'есці. Але Стах быў ужо цвёрдакаменны ў сваім перакананні:

— Я не з пятага. Я не ведаю, адкуль я.

— Першы раз чую, каб чалавек сказаў праўду Чаму ты не зманіў? Дзіва. Есці хочаш? Ну, прысядзь. Я ведаю, хто ты і адкуль. Хочаш, раскажу? — І чалавек у зялёным капелюшы пачаў расказваць Стаху пра Стаха.

Пачаў здалёк, з бацькоў, з данараджэння. Распавядаў такія рэчы, што Стах адразу пераканаўся: гэты чалавек і сапраўды ўсё пра яго ведае. А потым дайшоў да такіх прыкрых, брудных падрабязнасцяў пра бацьку і маці, што Стаху зрабілася сорамна за іх. . Сёе-тое ён ведаў, можа, не так дакладна, але ведаў. Калі б чалавек расказваў пра чужых людзей,

**па ім даць агульны назоў усяму зборніку, але Барыс Пятровіч вырашыў інакш.**

**Пра што "Забыты аповед"? Ён пра вясковую інтэлігенцыю, пра яе дэградацыю разам з беларускай вёскай, пра тое, як нізка можа апускацца чалавек і не бачыць гэтага. Я сам працаваў у раёнцы і ведаю свет правінцыйных настаўнікаў з іх бурачковымі ад віна тварыкамі, супавымі плямамі на жакетках і гальштуках, з іх схільнасцю да дробных інтрыг, з іх, у той жа час, безабароннасцю і вартым жалю жыццём. Аповед аўтабіяграфічны, пра што аўтар і напісаў у яго канцы, дадаўшы, што такога больш пра сваіх знаёмых не пісаў, а "пісаў толькі... пра тое, што *магло б быць.* "**

**Асобна рэалістычны перыяд Барыса Пятровіча пачаўся, мяркую, пасля "Ловаў" і працягваецца да гэтага часу, хаця зусім нядаўна пісьменнік здзівіў мяне.**

**— Ведаеце, — сказаў ён у адной нязначнай гутарцы паміж размовай пра футбол і некалькімі глыткамі гарбаты, — я, пэўна, вярнуся ў старое рэчышча рэалізму. Вось і Галя Багданава мне пра тое яшчэ раней казала. Прадбачыла, магчыма.**

**Я хацеў сказаць яму, што разбурэнне старога бачання, раз пачаўшыся, спыніцца не можа, і ўсё роўна на яго месцы з'явіцца нейкае новае бачанне, як пры вяртанні-ўваходзе ў раку — будзе цячы іншая вада, але, падумалася, зразумее і сам. Дзіўна было чуць гэтую заяву ад Барыса Пятровіча яшчэ і таму, што літаральна гады паўтары таму ў інтэрв'ю ён сказаў наступнае: "Рэаліс-**





і тое Стаху было б няёмка, брыдка. А тут — бацька і маці. Чалавек раптам спытаў "Можа, я памыляюся. . Можа, я не пра тваіх бацькоў расказваю?" Прасцей простага было сказаць. не пра маіх, і адмежавацца.. Але Стах стрымаў сябе, ледзь не крыкнуў на самога сябе: будзь шчырым. І прызнаўся чалавеку пра маіх, пра маіх бацькоў ..

Чалавек здзівіўся, але выгляду не падаў. І пачаў распавядаць Стаху пра ягоны народ, пра краіну, у якой ён жыве. Зноў жа — праўду. Непрыемную, горкую, ганебную, але — праўду. Стаху карцела адрачыся ад сваёй, такой нягеглай, краіны, з якой смяецца ўвесь свет Сказаць, што прыйшоў ён з той, у якую прыехаў на экскурсію. І гэта было б амаль праўдай. Аднак ён зноў стрымаўся, хоць разумеў, што калі б адрокся, шлях да ежы адразу ж скараціўся б. Да ежы, але не да волі..

Чалавек зноў выгляду не падаў, што здзівіўся. Між тым Стах убачыў за ім стол, поўны найсмачнейшых закусак ды выпівак. За сталом Стах, ці не ўпершыню за час вандровак па дворыках, убачыў некалькі знаёмых твараў. Проста насупраць яго сядзеў паэт, які праславіўся адным вершам, а побач з ім — той, супраць каго гэты верш быў напісаны. Яны разламалі на дваіх смажанае парасё і ўгрызліся ў сцёгны. Стах убачыў яшчэ некалькі знаёмых з твару людзей. Аднак не было сярод іх ягоных сяброў ці хоць бы тых, каго ён паважаў і мог бы падысці цяпер і паразмаўляць.

Галава кругам пайшла ў Стаха ад смачных пахаў, што паўзлі ад стала, глыток сліны перакрыў дыханне. А мужчына сказаў

— Ідзі і еш...

Стах засумняваўся: ці варта яму сядаць за адзін стол з тымі людзьмі, якіх ён не паважае... Тым самым — ці не стане ён падобным да іх? Спыніўся на паўкроку і вярнуўся да чалавека ў зялёным капелюшы.

— Чаму ты не пайшоў? Там што, ёсць табе знаёмыя? Хто? Калі гэта кепскія людзі, здраднікі ці даносчыкі, дык мы іх прыбярэм. У расход пусцім адразу ж. Каб табе есці не заміналі. .

Стах хмыкнуў. Усё ён ведае, гэты чалавек. Аднак жа хоча, каб Стах сам назваў людзей, якіх тут жа "ў расход" пусцяць.. Не, нікога ён не назаве. Подласць подласцю не лечаць, а зароблены такім чынам кавалак хлеба — папярок горла стане. Данос ёсць данос, якою б прыгожаю, высакароднаю мэтаю ён ні прыкрываўся... Данос, як і здрада, у любой "вопратцы", у любы час — зло, а не дабро..

Толькі Стах падумаў гэтак, як стол знік, і чалавек у зялёным капелюшы прапаў, нібы і не было яго побач. Вакол адно — трава. Зялёная трава на прастакутных магілках, зялёны мох на старых крыжах. Гэта былі могілкі. Стах пайшоў між магіл і крыжоў, пайшоў да расчыненых дзвярэй... у новы дворык. Спыніўся. Павагаўся трохі і ступіў...

### СОЛЬ

у ланцуг людзей, якія павольна рухаліся наперад.

Настолькі павольна, знясілена, зморана, што Стах, яшчэ не стомлены, яшчэ свежы, ледзь стрымліваў сябе, каб не выйсці з гэтага ланцуга і не пакрочыць, абганяючы іншых, да той мэты, да якой паўзлі яны гэтак марудна. Наперадзе чуўся грукат, нібыта трушчылі там кіркамі ды кувалдамі каменне. Так і было: ланцуг людзей цягнуўся да каменяломняў Там кожны браў сабе камень па сілах, узвальваў на плячо і нёс. Стах таксама ўзяў сярэдніх

**ты" загубілі нашую літаратуру, адвучылі чытача думаць".**

**Верыцца, пісьменнік будзе ўсё-такі шукаць свае шляхі самавыражэння, тым больш у святле таго факта, што, хоць і замаруджана, але прыходзіць літаратура новага пакалення, якая, упэўнены, канчаткова пахавае сацрэалізм. Пачалася яна, магчыма, з А. Разанава, які першым зазірнуў у, так бы мовіць, залюстэркавасць жыцця, а за ім прыйшлі іншыя. Вядома, пазіцыі сацрэалістаў яшчэ настолькі моцныя, што яны здольныя ўвогуле пакінуць гэтае пакаленне з 1—2 кніжкамі, але канец акрэслены і прадбачваецца. Калі, вядома, не здарыцца зусім благое: мы згубім *усяго* чытача. Вырвалася ж некалі пра тое і ў Пятровіча: "зірнеш наперад і жахнешся: там *усё* можа быць".**

**Крытыка не вельмі песціла яго ўвагай. А калі некаторыя і заўважалі, то бачылі, іншым разам, павярхоўнае. Між тым, другая кніжка Барыса Пятровіча "Сон між пачвар" вартая ўвагі. Яго "жыццясны" і "мроі" — гэта не толькі значны крок убок ад набіўшага аскоміну рэалізму ў нашым, беларускім, выкананні, а і рух наперад, да еўрапейскіх кшталтаў.**

**Я ўпэўнены, што Барыс Пятровіч таксама інтуітыўна адчуў тую самую шматмернасць і шматаблічнасць жыцця, пра якія выказаўся антраполаг, маг і пісьменнік Карлас Кастанеда. Сон, як уваход у іншую рэальнасць і выхад з яе, займае асобнае месца ў жыцці чалавека і ўсе часы прыкоўваў да сябе пільную ўвагу даследчыкаў.**

**Тэма сну, як асобнай рэальнасці, увогуле характэрная для**

памераў кавалак блакітнага граніту і панёс. Назад, з грузам, людзі ішлі крыху хутчэй. Падыходзілі да краю вялізнай яміны, кідалі туды камяні і зноў павольна сунуліся да каменяломняў.

І гэтак цэлы дзень. Доўгі дзень — гадзінаў пятнаццаць, ад цямна да цямна. Потым кароткая ноч. А з ранку — праца. На гэты раз з кіркай і кувалдай. Праз дзень змены — то камяні насіць, то разбіваць блакітную скалу. Вось і ўся разнастайнасць.

Стах пазнаёміўся з суседзямі па ланцугу Гэта былі першыя за ўвесь час людзі, з якімі ён сам загаварыў тут і паразумеўся. Таго, хто быў перад Стахам, звалі Кнут, а таго, хто быў за Стахам ,— Джой. Яны жылі тут даўно — ужо нават збіліся з ліку, колькі дзён, ці, можа, нават гадоў

Дзень заканчваўся. Усе сядалі, не разбураючы жывога ланцуга, там жа, дзе заспяваў іх вечар, на адпачынак-сон. І, дзіўная рэч, радаваліся, што яшчэ адзін дзень пражыты. Некаторыя так і казалі: "Дзень прайшоў — і дзякуй Богу!" Чалавек такая жывёліна, што да ўсяго прывыкае. Усё з'ядае ў рэшце рэшт абыякавасць і апатыя. Ніхто, здаецца, не задумваўся, дзе ён, навошта носіць гэтае каменне. Не думаў нават, што тут — горш як у турме. Бо ў турме ведаеш, за што сядзіш і колькі табе яшчэ засталося. Ведаеш, што некалі твой "тэрмін" скончыцца. А тут. тут ніхто нічога не ведаў.

Не ведалі і не задумваліся нават ні пра што і суседзі Стаха. І калі Стах падзяліўся з імі жаданнем збегчы адсюль, ні Кнут, ні Джой яго не падтрымалі.

— Навошта, — абыякава сказаў Кнут, — ад свайго — куды ты ўцячэш. А па-за сваім — чужое. Раз дадзена нам гэткае жыццё, гэткі лёс — трэба жыць.

— Няпраўда. Гэта зусім не так. Чалавек можа змяніць свой лёс, сваю будучыню. Трэба толькі вельмі хацець гэта зрабіць і нешта рабіць дзеля гэтага. Пад ляжачы камень. Калі б я не імкнуўся нешта змяніць, я застаўся б у тым самым першым дворыку. Ці другім...

— Змяніць. Жадаць... Навошта? — гаварыў Кнут, мусіць, па-нарвежску, але Стах разумеў яго. — Дзеля чаго? Каб з адной турмы трапіць у другую, можа, яшчэ горшую? Жыць можна і тут

— Жыць? Ты называеш гэта жыццём?

— Жыццё ёсць вучоба, вучэнне цярплівасці і цярпенню. І тут мы ў ідэальным становішчы.

— Так, жыццё вучыць чалавека цярплівасці. Але не цярплівасці ў чаканні, а цярплівасці ў дзеянні. Калі раз нешта не ўдалося, не атрымалася, зрабі другі, трэці. І ты — пераможаш, даб'ешся свайго... Ведаеш прытчу пра жабу ў смятане: боўталася яна, боўталася там, збіла масла і вылезла. Трэба дзейнічаць.

— Дзейнічаць? Каб загінуць? Не, я ведаю, што я — непаўторны, я адзіны такі на свеце. І я павінен сябе зберагчы, захаваць як мага большы час. Вось мая задача на гэтай зямлі, ці ў гэтым двары. Мая задача не толькі дабіцца мэты, але і не страціць сябе пры гэтым. Неабходна выкарыстоўваць любую мажлівасць жыць і выжываць. У любых умовах. І не рызыкаваць па-дурному

— Жыць. Выжыць. Працягласць жыцця вымяраецца не колькасцю пражытых гадоў, а колькасцю назапашаных уражанняў Чалавек, які пражыў сто гадоў у вёсцы і не быў далей за рэчку за хатай, пражыў кароткае жыццё.. Памрэш і ты, колькі ні будзеш берагчы сябе. Памрэш рана ці позна. У нас кажуць. усё, што свеціць — згарае. Ці не так?

творчасці Б. Пятровіча. Вось і адно з апошніх апавяданняў "Спакушэнне", змешчанае ў "ЛіМе" за 29 лістапада 1996 г., пра тое ж. Не буду абмяркоўваць яго вартасці — скажу толькі тое, што на фоне звычайнай, "рэалістычнай" прозы яно выгадна вылучаецца і па зместу і па форме.

У адным з леташніх нумароў "Крыніцы" з`явіліся "Піліпікі" — нізка карацелек пра Піліпа, якія, як заўважае аўтар, "пісаліся не жартам, не ўсур`ёз і не дзеля выпендрону. Яны проста пісаліся". Вось, дзеля прыкладу, адна з самых маленькіх.

"Піліп сустрэўся на вуліцы з прэзідэнтам. Былым. Нос у нос. І не размінуцца ім: злева лужына і справа лужына.

Піліп падскочыў, каб прэзідэнт прашмыгнуў пад ім, ды той не здагадаўся: стаіць, як укапаны. І ні ўзад ні ўперад.

Так і не размінуліся".

Пагодзімся, што як гумар, так і сатыра бываюць рознага кшталту. Ад спрошчана-народнага да вытанчанага і пазначанага добрым густам. Гумар Барыса Пятровіча я б вызначыў словам "элегантны". Лёгкі, крыху сюррэалістычны. Мяркую, аўтару абавязкова варта працягваць свае "Піліпікі". Няхай гуляе па свеце незвычайны, смешны, добры і дурнаваты дзядзька Піліп.

Нічога, калі цябе не зразумеюць тысячы, важна, каб зразумеў хоць адзін, выказаўся ў "Мроях" Барыс Пятровіч. Мяркую, што, нягледзячы на свае апошнія заявы, пісьменнік будзе ўсё ж такі пісаць для гэтага аднаго чытача. Пакуль жа — пачакаем.

Юры СТАНКЕВІЧ





— Так.

— Згарыш і ты. Згнієш тут, так нічога больш і не ўбачыўшы, акрамя блакітнага камення і сагнутых спінаў перад сабою. Дык няўжо так і будзеш ты цягаць гэтае каменне, не пойдзеш са мною? .

— Кожны памірае сваёй смерцю. Так кажуць у нас.. Значыць, мне наканавана гэта: нічога не рабіць, жыць, як жыву І таму, нават калі б я ведаў, што заўтра надыдзе канец свету, я ўсё роўна насіў бы каменне.

Ягоную жыццёвую філасофію нельга, немагчыма было "прабіць" І пагаварыўшы гэтак яшчэ колькі разоў, Стах вырашыў не шукаць супольніка, а выбірацца аднаму

Пад раніцу, калі ўсе спалі, ён устаў і пайшоў. Было яшчэ цёмна, ён не бачыў куды йдзе, куды караскаецца па каменні. Урэшце дапоўз да схілу, які заканчваўся недзе глыбока ў цемры. Стах заплюшчыў вочы і пакаціўся ўніз.

Калі развіднела, Стах убачыў, што знаходзіцца зноў у дворыку, які патанае...

*ЛЯ*

.. у перадранішнім сінім паўзмроку

Колькі бачылі вочы, двор быў запоўнены невялікімі, дачнымі дамкамі. Падысці да іх адразу Стах не адважыўся. А дарэмна. Мог бы ў любым з іх адпачыць з дарогі. Яго прынялі б з радасцю.

Даведаўся пра гэта Стах толькі тады, калі двор прачнуўся і напоўніўся людзьмі. Яго ўбачылі, кінуліся абдымаць. І Стах зразумеў, што сюды рэдка хто прыходзіць.

Жыццё тут цякло размерана і спакойна. Нешматлікія насельнікі лічылі, што патрапілі яны — ні больш, ні менш — у рай. Кожны тубылец меў свой асобны дамок, выдатную ежу, якая невядома адкуль бралася кожную раніцу, — і ўсё свежае, смачнае, рознае. . Дні людзі праводзілі ў цікавых гутарках, у чытанні кніг, у гульнях. Некаторыя малявалі, іншыя нешта пісалі... На адно тут было "табу", забарона — на ўспаміны пра мінулае.

Варта на сценах стаяла, але ўцякаць адсюль ніхто не збіраўся, — гэта Стах зразумеў адразу ж. І пераканаўся пасля адной-дзвюх размоў

— Ад дабра — дабра не шукаюць, — загаворвалі ягоны неспакой тубыльцы, — мы шмат дзе былі, але лепшага жыцця не бачылі. Адсюль можна выйсці, але яшчэ ніхто сюды не вярнуўся. Не рвіся дарэмна і ты, жыві тут

— Калі ніхто сюды не вярнуўся, то гэта зусім не азначае, што недзе горш, чым тут Можа, якраз наадварот... — казаў Стах, але ніхто яго не слухаў Людзі, зняверыныя і стомленыя жыццём, радаваліся свайму ціхаму шчасцю тут і нічога лепшага не жадалі. Хоць, па сутнасці, жыццё іхняе нічым не адрознівалася ад турэмнага.

Стах жа супакоіцца не мог У яго засталася памяць, у яго ёсць права выбару спакусіцца адносна сытым і лёгкім жыццём, асабліва ў параўнанні з тым, што бачыў, пеpажыў ён раней, у іншых дворыках, і жыць тут, альбо... Што чакае яго наперадзе, там, за сцяной, ён не ведаў Але спыніцца, як яму здавалася, на паўдарозе, не хацеў ..

У той дзень, калі Стах канчаткова вырашыў ісці далей, да канца, ён, зусім неспадзявана, знайшоў аднадумца. А пераканаў ён даўняга жыхара гэтага дворыка простым пытаннем:

— Што такое, па-твойму, шчасце?

— Не ведаю. Тут, канкрэтна, не ведаю.

# П. ІДЗЕ НА Л.

У той момант, як прыходзіць уменне *самастойна*: думаць, параўноўваць, разважаць, супастаўляць... — фактычна і фарміруецца творчая асоба. *Уменне пісаць* даецца пісьменніку не праз яго жаданне пісаць, а з прычын больш важкіх, звышпрычын... Балансаванне паміж простым пісьменствам і таленавітым пісьменствам пагражае любому, хто прыналежыць літаратуры. Да таго ж, гэтае пакутлівае самабалансаванне абцяжарана пільнымі, і не заўжды спачувальнымі, поглядамі звонку. "Дрэвы, на якіх ёсць плады, асыпаюць камянямі", — кажуць у народзе. Любы творчы працэс — гэта выспельванне пладоў. Дзякаваць Богу, тутэйшыя пісьменнікі пазбаўленыя *публічнасці*, такой, якой яна ёсцека ў іншых краінах, што дае шанц на абароненасць, схаванасць, *не*-трагічнасць; разам з тым падвышаецца небяспека аранжарэйнасці, местачковасці, адасобленасці. Бо і тыя, для каго стваралася, — не хочуць заўважаць творчы працэс таго ці іншага пісьменніка, покуль спрыт журналістаў, а часцей самога пісьменніка не народзіць міф: маленькі, бяскрыўдны *міф* пра Узровень Творцы. І паколькі *шлях наверх* мае адзіны пачатак ва ўсім свеце (згода-не згода

Там — ведаў... Хіба мо — шчасце ў тым, каб вярнуцца туды: дамоў, на радзіму, да родных...

— Вось-вось. . Дык мо паспрабуем, мо рызыкнём?

— Рызыкнём.

Ноччу, калі ўсе спалі, яны зрабілі падкоп пад адною са сценаў і пралезлі. .

*СІ*

. .ну вядома ж, у яшчэ адзін дворык.

Ён быў пусты.

Толькі — дзверы, дзверы, дзверы.. у сценах.

І на кожных дзвярах надпіс: "Шчасце", "Гора", "Багацце", "Страх", "Радасць", "Боль", "Каханне" — усе мажлівыя пачуцці і станы чалавека.

Стах не бачыў, што выбраў той, хто патрапіў у гэты дворык разам з ім.

Яму ж хацелася выбраць дзверы з надпісам, які ўключаў бы ў сябе ўсе гэтыя паняцці, каб раз і назаўсёды пазбавіцца гэтых пакутаў, гэтых выпрабаванняў, гэтых вандровак па дворыках...

Ён выбраў дзверы з надпісам: "Смерць".

Адчыніў іх і..

.выйшаў на тую ж самую вуліцу, з якой увайшоў некалі ў Скарынаў дворык.

# ВЕРА

"...Так, я — Гой. Я — Гой! Мне сорак восем гадоў. Прозвішча —.не памятаю. Ці сорак дзевяць? Не памятаю. А чаму вы ў мяне пытаецеся? Што вам ад мяне трэба? Я ж вас не чапаю Я ціха, ціха-ціха, ціхенька іду дамоў. Вунь мой двор... Ага, блізка. І не штурхайце мяне! Не трэба! Я й сам упаду А-а-а! Трава мяккая і сырая. Як абас.. Раса-а... Рукі вытру Вось так, і так, і та-ак. Сяду Мокра... А хата — вунь, хата.. Рукой дастану . Дайду... Но! Коні мае залётныя! Но! Панеслі! "

П'яны Гой уваліўся ў свой двор. Зноў не ўтрымаўся на нагах і ўпаў ніц, тварам проста на ўтрамбаваную зямлю сцяжыны, пратаптанай між муравы да хаты. Хаты не хаты, а нейкага будана-халупы, крытага старой, выцвілай толлю. . Брудна-чырвоная кроў сабралася ля носа ў лужынку: зямля не прымала яе, не піла. Гой, устаўшы на локці і калені, звіваючыся як параненая яшчарка, папоўз па сваёй крыві да ганка хаты Чапляючыся за сцяну і дзверы ўстаў, пераступіў парог і зноў упаў, цяжка грукнуўшы целам аб падлогу

". . Х-холадна... Чаму так холадна? Дзе я? Дома.. Чаму ніхто не прапаліць у грубцы? А хто прапаліць? Ніхто .. Ік.. Дровы. Дзе мае дровы? Запалкі. Дзе мае запалкі?. У кішэні. А дзе дровы? Дровы ў печы. Ага-а, у печы. Учора паклаў Ай, сукі, ломяцца Не гараць, а толькі пшыкаюць. Сырыя. Не гараць. Ломяцца... Смярдзяць. . Нічога. Ні-чо-га..."

Дзверы печкі-буржуйкі, што стаяла амаль пасярод хаты, Гой пакінуў расчыненымі. Зыркія водбліскі полымя скакалі па сценах, па небагатым скарбе, па скрываўленым твары. Гой так і не адышоў, не адпоўз ад грубкі, заснуў каля яе на падлозе. Праваліўся ў сон да раніцы.

"... Ай, а ўсё-ткі перабраў учора. Добра пасядзелі з Віталём. Чатыры пляшкі на дваіх!.. З палучкі, яно можна. Законна можна... Перахапіць бы чаго — ды на работу. Машына чакаць не будзе. А бегма-бегчы ўслед, каб не спазніцца, не хачу. З перасмяглым горлам не разбяжышся..."

Гой напіўся вады проста з вядра, умыўся, даланёю пааббіваў трохі пыл са штаноў і пінжака. На каленях і локцях чарнела засохлая кроў — штаны і пінжак стаялі там лубам і не згіналіся. Гой выйшаў на ранішнюю вясковую вуліцу. У паветры стаяў змешаны з пылам пах сырадою, а ўся вуліца была ў воспінах свежых каровіных слядоў Гою зноў захацелася есці — аж засмактала пад лыжачкай так, што пустыя кішкі самі сабой сталі збірацца ў камяк і балець. Але выпітая вада пачала ўжо рабіць сваю справу — п'яніць галаву, і ногі лёгка панеслі Гоя да павароту вуліцы, дзе звычайна чакалі машыну рабочыя завода, што быў у суседняй вёсцы. На тым заводзе працаваў і Гой. Чаму яго клікалі Гоем, ні ён, ні, пэўна, ніхто ў вёсцы не ведаў. Сам ён пра гэта не думаў. Можа, такая мянушка дасталася яму ад бацькі, можа, ад дзеда, а можа, і сам заслужыў сваім жыццём. Але стала ў вёсцы мянушка ягоная лаянкай і страшылкай. Лаянкай, бо жонкі абзывалі гэтак п'яных мужыкоў. Страшылкай, бо маці палохалі дзяцей: "Не будзеш слухацца — Гою аддам..." Альбо : "Не будзеш вучыцца (проста — вучыцца, а не добра ці лепш) — будзеш як Гой путацца. ."

Гоя ў вёсцы не любілі. Усе І асабліва дзеці. Пагарда да Гоя перадалася ім ад бацькоў. Аднак тут было і іншае: дарослых дзеці ўсё ж баяліся. Гой быў дарослы, але не такі, як усе. На ім можна было адыграцца за перавагу іншых дарослых над імі. І таму, убачыўшы ўвечары п'янага Гоя, дзеці кідалі свае гульні і з крыкамі "Гой!.. Гой!.." беглі да яго, каб падражніць ды паздзекавацца. Гой ужо прывык да гэткіх сустрэч, не злаваў на дзяцей, як было напачатку, не кідаўся, а ішоў між іх, нібыта не заўважаючы, што яны бегаюць вакол і крычаць: "Дрыг нагой!. Дрыг нагой! ." О, якімі крыўднымі былі гэтыя словы раней!.. Рэагаваў на іх ён і цяпер, аднак — не злаваў. І наогул, ні п'яны, ні цвярозы ён дзяцей не чапаў. Ён шкадаваў іх, як неразумных яшчэ. Нават калі самыя "смелыя" з хлопцаў штурхалі і піхалі яго, не зважаў, а ішоў далей, падаў, падымаўся і ішоў.

" ..Буфет на заводзе адчыняць у адзінаццаць. Грошай трохі засталося. Пад'ем... Кансервы там смачныя... З хлебцам... Фу-у, лепш не думаць пра ежу. Баліць, баліць, смокча пад лыжачкай .. І сушыць. Смаліць проста. Аж холадна. Аж дрыжыкі па целе бягуць, асабліва, калі ценем ідзеш... Ага, хлопцы ўжо на лавачцы сабраліся, гамоняць, машыны чакаюць. Перасмейваюцца на сонцы..."

— Што, Іванавіч, кепска пасля ўчарашняга? — Сцяпан рагоча, убачыўшы Гоя. — Наўхаб кідае, як з бабы злезшы..

— Ну ты параўнаў!.. — чапляецца за размову Пятро. — Ён бабу мо шчэ й за руку ні разу не трымаў, а не тое што...

І мужчыны пачынаюць абмяркоўваць, была калі-небудзь у Гоя жанчына ці не, і ці можа быць наогул. Крычаць гучна, ледзь не сварацца. Гой моўчкі стаіць збоку. У яго

**з уладамі, сяброўства з газетчыкамі, рэдактарамі, кнігавыдаўцамі — нянавісць да іх, якая "падаграваe" адпаведны інтарэс, геніяльная сціпласць, скіраваная *на захад* — разбэшчаны цынізм, звернуты да сваіх і г.д. — усё гэта *інтрыгі*: свядомыя альбо несвядомыя), дык і вызначэнні гэтаму шляху даюцца агульнавядомыя (агульнаеўрапейскія, сусветныя — калі хочацe). Такім чынам *наш* пісьменнік атрымлівае (не тытул!) эпітэты і параўнанні, якія атаясамліваюць яго з творцамі з іншых краін. Такая раздача "сланоў", і прыводзіць да сумных вынікаў: мы замаруджваемся ў развіцці, супакойваемся...**

**З летаргічнага сну нашу літаратуру можа вывесці толькі моладзь, гэта банальная ісціна; моладзь, якая яшчэ не пачула эпітэтаў, якая б імкнулася ў Сусветную Літаратуру не з шэрагу тутэйшых пісьменнікаў, а з шэрагу Творцаў.**

*******

***Нашая прыгнечанасць, нашае рабства не вонкавае. Яно ўнутранае, а праз абыякавасць да свайго далейшага лёсу яно набыло генетычнасць.***

**"Падзяліць тры яблыкі між трыма чалавекамі, каб кожнаму было пароўну, — што можа быць прасцей?**

**А ты не змог. Ты разрэзаў свой яблык напалам.**

**Адну палову аддаў усходняму суседу, другую — заходняму. А сам, праз сваю шчырасць, застаўся ні з чым.**

**Бо ніхто з суседзяў і не думаў дзяліцца з табою. Наадварот, яны паглядвалі, што б яшчэ адхапіць у цябе.**

**...І ніхто больш не дасць табе тры яблыкі і не скажа: "Дзялі".**

**(Б. Пятровіч. Версія 13)**

**Літаратура — гэта аўтапартрэт нацыі. І, пэўна, Беларусі наогул не існавала б, калі б не літаратура. "Версія 13" Барыса Пятровіча — міні-партрэт нацыі.**

**Якім бы талентам ні былі надзеленыя нашыя *хатнія* пісьменнікі, яны звяртаюцца толькі да тутэйшай публікі, і ніводзін з іх не мае смеласці звярнуцца ў сваіх творах (акрамя публіцыстычных) да сусветнай чытацкай публікі. Наша нацыянальная самабытнасць захоўваецца ў рамках гэтай жа самабытнасці. І словы з "Версіі 13": "У гэтым аднаразовым жыцці — усё аднаразовае. Ува ўсіх: у аднаго чалавека, у адной сям'і, у аднаго роду, у аднаго НАРОДА" — адносяцца ў першую чаргу да НАШАГА НАРОДА. А для прадстаўнікоў астатніх літаратур мы настолькі нецікавыя, што ніхто з іх не мае ахвоты шукаць на нашых тэрыторыях нацыянальную экзотыку. (Хто з замежных пісьменнікаў адпраўляе свайго героя на Беларусь?)**

*******

**...Як цяжка нам, калі бываем за мяжой, даказаць, што мы беларусы. Не існуе нават *шаблона нацыі*, па якім нас прызнаюць у свеце! І ці не з гэтай прычыны *пісьменнік-мысляр* апынаецца ў сітуацыі, калі застаецца адно — заняцца пошукамі *сябе*.**

**"За мной увесь час сочыць мой учарашні дзень, і чакае не дачакаецца мяне дзень заўтрашні. Учарашні дзень ідзе за мною след у след, а заўтрашні дзень адступае і адступае, і не паспею я нагнаць яго, як ён ужо стаў учарашнім. І я адчуваю сябе нічым, слабым, нямоглым, бо не магу вярнуцца назад і не**

не пытаюцца, каб развязаць спрэчку, яго быццам бы і няма побач.

Падняўшы хвост цяжкага ранішняга пылу, пад'язджае машына. Не аўтобус, а звычайны бартавы газончык, у кузаве якога некалькі радоў лавак — адпаліраваных за гады да бляску дошак.

Спрэчка заціхае Смяюцца ўжо з пузатага Пятра, для якога ўзлезці ў кузаў — кожную раніцу выпрабаванне і пакута.

" .. Я — Гой. . Мне добра.. Я ведаю, куды йду Ісці мне лёгка, і хата блізка, а я ніяк не дайду Зямля не слухаецца, гойдаецца, і дрэвы гойдаюцца, і вуліца ўцякае з-пад ног. Тп-ру-у! Ха-ха-ха! Мне добра. Я дайду Ой, туманы мае, растума-а-ны... Толькі не чапайце мяне Ні людзі, ні сабакі, ні дзеці.. Якія яны смешныя. Бегаюць за мячыкам, ганяюцца, падаюць, бегаюць. І цікава ім гэта. Толькі не чапайце мяне Я вам нічога не зрабіў Не зраблю. Не раблю. Я йду дамоў... Не чапайце мяне, хай вас сарочка не чапае.. "

Хлопцы, што гулялі ў футбол проста на вясковай вуліцы, даўно ўжо прыкмецілі Гоя. І калі ён, віхляючы і ступаючы два крокі наперад, адзін назад, потым тры ўбок, датэпаў да іх, Мішка наўмысна мацней ударыў па мячыку, скіраваў яго да Гоя.

— Гой-Гой, дрыг нагой .. — Хлопцы ўжо бегалі вакол Гоя і хапалі яго за рукавы, штурхалі ў спіну, у бакі Ён хістаўся, але не падаў І тады Сашка разагнаўся і плячом урэзаўся ў Гоя Той не ўстояў на нагах і паваліўся якраз на Мішку, што падбягаў з другога боку, падмяў яго пад сябе, прыціснуў да зямлі ўсім целам.

— Сука! — заверашчаў Мішка. — Ах ты, сука! Хлопцы, памажыце, задушыць! — І, падхапіўшыся, пачаў біць Гоя нагамі, цаляючы па галаве, як па футбольным мячыку.

Яшчэ некалькі старэйшых хлопцаў падбеглі да Гоя і сталі біць яго босымі нагамі, падкурчваючы пальцы, падбіраючы ступню. У бок, у жывот, пад зад, між ног, між рук у твар.

— Што ж вы, гады, робіце! — гэта цётка Соня, ля двара якой хлопцы білі Гоя, убачыла тое і крыкнула з ганку, ад сенцаў: — За што вы з чалавека знушчаецеся! Што ён вам зрабіў!

Хлопцы разбегліся. Але цётка не выйшла, не дапамагла Гою ўстаць. І ён так і застаўся ляжаць у пяску, скурчаны ў клубок, з затуленым у рукі тварам. Як непрытомны, як нежывы. Адзін. Нікому не патрэбны. Людзі праходзяць міма, не зважаючы на яго, хлопцы зноў у футбол гуляюць паблізу, а ён ляжыць. Ляжыць і хай ляжыць. Ці ж першы раз..

"...Я дайду Я сам дайду. Толькі не трэба мяне біць, не трэба біць. Мне ж баліць! Я ж не калода вам, не пень... У мяне жывога месца няма. Усё баліць. У мяне ўсё баліць. У мяне душа разрываецца... Павешуся! Жыць не хачу А-а-ай! Не трэба, не трэба мяне біць. Я ж нікога не чапаю Я як чалавек іду дамоў Я нікому не перашкаджаю жыць. Я сам... Я. "

Слёзы цяклі па твары Гоя, размываючы бруд і пыл, пакідаючы бляклыя палоскі-сляды на шчоках. Накульгваючы і трымаючыся за жывот, дацягнуўся ён да хаты. Ён нібыта працвярэзеў ад болю. І крыўды. Увайшоў у хату, сеў за стол. Так кепска і адзінока яму даўно не было. Крыху шчымелі пабітыя месцы. Але балелі не яны. Боль ішоў знутры. Душа балела. Ад крыўды.

" За што? За што яны мяне так? Што я ім зрабіў? Чаму яны мяне так ненаві-

**магу ўвайсці ў заўтра. Я ўвесь час між імі, а значыць — нідзе. Вечная пакута паміж учора і заўтра, паміж мінулым і будучыняй і ёсць жыццё?" (Версія 27)**

**..."Маладая" беларуская літаратура апошніх гадоў набывае адрознасць. Яна мае не так апавядальны характар, як спавядальны. Заблытаўшыся ў сістэме *пошукаў*, пісьменнік ператвараецца ў асобу, падпарадкаваную ўнутраным працэсам разваг "за" і "супраць", незадаволеную сабой, акаляючым і крайнай... Але і гэтыя пакуты — толькі будаўнічы матэрыял для новых твораў; калі час губляе працягласць, пісьменнік змешвае пясок рэчаіснасці і глейкую ваду з крыніц сваёй псіхікі... І ці не праз гэты працэс ён апынаецца ў сітуацыі, калі пошукі *сябе* прыводзяць да ДЗВЯРЭЙ у вар'ятню?**

**"За мной увесь час сочыць мой учарашні дзень, і чакае не дачакаецца мяне дзень заўтрашні. Учарашні дзень ідзе за мною след у след, а заўтрашні дзень адступае і адступае..." і г.д.**

*******

**Кожны творца — патэнцыйны вар'ят. Творчая асоба, *закратаваная* ўмовамі, лёсам, незадаволенасцю сабой, немагчымасцю ствараць, зацяглым крызісам у творчасці, робіць крок да памяшальніцтва — рэальны шанц расчыніць дзверы ў вар'ятню. І г.д.**

**Па сутнасці, творчая энергія разбуральная, як і стваральная. Псіхіка чалавека магла б быць імгненна разбуранай, узарванай, калі б энергія не знаходзіла выйсця ў творчасці, але творчасці, якая б задаволіла самога творцу. І г.д.**

**"Кропля вады ўпала на по-**





дзяць усе І Сцяпан, і Пятро, і бабы, і дзеці Хіба я не такі, як яны. Хіба ў мяне рукі не такія . Ого, я так зраблю, што ніхто не зробіць, ніхто не дакажа, ніхто не зможа. А што п'ю Дык хто не п'е. Хто? Ці Сцяпан, ці Пятро, ці Віталь? Усе п'юць. А-а-а, я адзін. Адзін. . Татка, мамка, дзе вы? Чаму я вас не ведаю. Навошта вы мяне на свет гэты пусцілі? Баба Варка, навошта ты мяне гадавала-ратавала Баба Варка, баба Варка . Каб ведала ты, як я тут жыву Каб хоць ты мяне пашкадавала там тут .. Як не стала цябе, так жыцця ў мяне не стала. Школу кінуў Якая школа, калі есці няма чаго, а трэба. Пайшоў на завод. Не бралі Малы, кажуць.. Чуеш, баба Варка? Але куды дзецца? Пашкадавалі. Узялі. Так і жыву Палучку атрымаў — замачыў З табою, чуеш баба Варка, не ведаў, што такое гарэлка, а тут пайшло-паехала. Як грошы атрымаю — сяброў поўная хата Школьных. П'юць, ядуць. На ўрокі не ідуць, жывуць у мяне Дзе яны цяпер? Прыязджаюць, нос вернуць, не пазнаюць. Эх, баба Варка, баба Варка. Колькі гадоў прайшло — не агледзеўся Як жыць? І навошта "

— Іван, Іван! — Гой адразу і не зразумеў, што гэта яго клічуць. Ён ужо і забыўся, што яго так завуць. Працёр вочы ад ліпкіх слёз. Насупраць яго сядзіць жанчына. Па ўсім — незнаёмая. Чужая, мусіць. А мо і свая, вясковая, мо і суседка якая Даўно ён на жанчын не глядзеў, з маладосці Як не пайшла за яго Валька, як адмовіла некалі, так і думаць пра іх забыўся.

— Хто ты? Як увайшла?

— У цябе ж адчынена нахлашч Хто хочаш увойдзе. Вера я Не пазнаў?

— Якая Вера? Адкуль ты? Я цябе не ведаю, не пазнаю..

— Не дзіва, столькі піўшы, хіба пазнаеш каго. .

У гэты вечар яны доўга размаўлялі. Проста, без хітрыкаў Вера ведала пра яго шмат, калі не ўсё, і не саромелася расказваць пра сябе Яна ўдава Муж загінуў у лесе Валілі хвоі на новую хату І адна сухастоіна не паслухалася, пацягнула яе не ў той бок, куды меркавалі, і ўпала проста на яе мужа. Ён выпіўшы трохі быў і не здалеў адскочыць. У памяці Гоя нешта варухнулася. быў, здаецца, у іхняй вёсцы такі выпадак некалі Быў, і яго моцна тады ўразіў..

Гаманілі яны доўга І, урэшце, прызналася Вера, што любіць Івана Даўно любіць ды прыйсці не адважвалася . І дамовіліся яны нават на гарачую руку — пажаніцца. Толькі вось спрэчка ў іх нейкая неразумная тут усчалася: колькі будзе ў іх дзяцей. Быццам гэта так важна . Хоць ведаў ён ужо, што ў яе дзяцей не можа быць з-за ранняга аборту, а ў яго не можа быць.. бо не можа быць.. Але ні з таго, ні з сяго пачалі яны прыдумваць імя першынцу. Прыдумваюць і спрачаюцца. Ён называе, яна не згаджаецца. Яна гаворыць, яму не падабаецца. А потым Гой нейк адразу заснуў, быццам у яміну праваліўся Скроз сон пачуў, праўда, што Вера, адыходзячы, паабяцала заўтра ўвечары зноў прыйсці

" Хто ж то быў? Няма ў нас такіх. Няма ў нашай вёсцы падобнай бабы. Няма Ці, можа, і ёсць. Вёска ж вялікая. Можа, прыезджая якая Можа з. як іх, перасяленцаў Там, у цэнтры вёскі, ім хат набудавалі. Нічога, прыйдзе ўвеча-

**пел... на ягонай паверхі засталася ямінка.**

**Яблык упаў на зямлю... Выбраў лагчынку па сабе і заціх.**

**Чалавек зачапіўся за камень, упаў. Падняўся, абцёр пыл са штаноў і пайшоў далей". (Версія 35 — з нізкі "Шызы")**

**І г.д.**

*******

**"Калі б Моцарт нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і, ягоны геній быў бы для яго самога і ўсіх яго блізкіх цяжарам". (Л. Шастоў). Беларускаму пісьменніку не абавязкова мець адзнакі геніяльнасці, хіба толькі пачувацца нацыянальна свядомым, каб стаць абыякавым, непажаданым для такой сукупнасці, як беларуская нацыя... і адчуць унутранае несуладдзе.**

**Мець больш, чым іншыя — не заўжды радасць.**

**"Вось так і жыццё праходзіць, — думаў ён, — б'ешся-б'ешся як рыбіна аб лёд, а толку..." І насілася думка гэтая пагнутай бляшанкай у пустой галаве, бязглуздая ў сваім паўтарэнні, непатрэбная". ("Як рыбіна аб лёд". З кнігі "Ловы") І тыя, хто здольныя, як герой Б. Пятровіча, на злачынства, і тыя, хто не здольныя, — вакол, — у большасці сваёй людзі з пустымі галовамі. Жыць сярод іх — наканаванне...**

*******

**Творчасць, па сутнасці, імітацыя існага; інтраспекцыя — назіранне за асабістымі ўнутранымі псіхічнымі з'явамі — становіцца для пісьменніка новым вопытам, даючы магчымасць пабыць у ролі вучонага; пісьменнік — добраахвотны доследны ў працэсе раздваення натуры ў новым, нікім не разгледжаным ракурсе, калі**

ры, разгледжу лепш. Калі прыйдзе — усё распытаю..."

Усмешка цеплілася на вуснах Гоя. Бяскрыўднае такое шчасце. Ён добра запомніў твар жанчыны, яе рукі, голас. І ўвесь дзень прыгадваў іх, хоць і думалася часам, што прысніў ён жанчыну Проста прысніў... Але гнаў ён гэтую думку ад сябе І працаваў, працаваў. За дзень, амаль не перакурваючы, зрабіў дзве нормы. У абед — не выпіў ні грама, чым здзівіў усіх. І наогул, у гэты дзень ён упершыню гадоў мо за дваццаць нічога не выпіў, хоць грошы ў яго былі І не проста не выпіў, а і не думаў пра гэта. Забыўся, не хацелася, не карцела Ён чакаў вечара І ўпарта набліжаў яго кожнай апрацаванай дэталлю.

Але па дарозе дамоў усё ж зайшоў у краму і купіў пляшку віна. А да пляшкі — добрую закуску, чым надта ўразіў прадаўшчыцу: больш, чым кулідку хлеба да віна ён ніколі нічога ў яе не браў.

" .. Можа, пакрыўдзіцца. Можа, не зразумее. Але як жа без пляшкі.. Учора гаманілі без пляшкі, дык яна мне і не трэба была, і без таго п'яны быў. А як жа сёння . Як жа без пляшкі Не, тады моўчкі праседзім увесь вечар... Трэба пляшка, трэба. На пачатку, трэба..."

Гой хваляваўся, чакаючы ўчарашнюю жанчыну. Веру... На стары расшатаны стол, які, здавалася, павіскваў нібы жывы, калі да яго дакраналіся, паставіў пляшку, нарэзаў хлеб, каўбасу, адкрыў кансервы — кількі, салянку... Паклаў дзве лыжкі Падумаў і дастаў дзве чаркі. Атрымалася прыгожа, нават святочна. Пляшку не пачынаў, хоць і карцела, вельмі карцела грамочак выпіць. Дзеля смеласці. Але трываў Трываў і баяўся, што Вера не прыйдзе, што прыдумалася яна яму ўчора ў п'яным трызненні Чакаў і хваляваўся, як, можа, ніколі ў жыцці.

Вера прыйшла, калі добра сцямнела. Як і думаў Гой, ён спачатку пачуў яе крокі ў двары, у маленькім вакне мільганула, яшчэ больш зацямняючы яго, яе постаць, а потым, як і чакаў ён, Вера лёгенька пастукала ў дзверы Гой нібыта прыліп да ўслона. Хацеў устаць, ды не мог Знерухомеў Так прайшла мо хвіліна. Вера пастукала зноў — ціхенька, быццам мыш шкрабае, — гэтак міла, па-жаночы, што ў Гоя сэрца яшчэ больш самлела Аднак на гэты раз ён ускочыў, кінуўся да дзвярэй

— Заснуў над сталом? — Вера не злавала, адразу адчуў Гой і супакоіўся

— Ды не, задумаўся

Вера агледзела хату, убачыла пляшку на стале

— А пляшка нашто? Я ж казала Калі будзеш піць зноў — больш не прыду

Сказала гэта яна нечакана жорстка, рэзка, сказала, нібы секанула. Гой зніякавеў Ён так і думаў, недзе ўнутры глыбока сядзела гэтая думка, што віно на стале ёй вельмі не спадабаецца. Але ж ён хацеў як лепш А што можа быць лепш, правільней, хіба ён ведаў Ды і як гэта можна — без гарэлкі зусім Аднак, калі не трэба, дык ён не будзе.. Гой упершыню ў жыцці адчуў, што яму шкада страціць гэтага чалавека, гэтую жанчыну. Веру .. Ён усё свядомае жыццё быў адзін, у яго нікога не было — ні бацькоў, ні братоў Ні сяброў Дзеля гэтай жанчыны ён быў гатовы на ўсё Абы толькі не кінула яго. Аднаго

*праз аднаго* **ўзнікаюць, узаемадзейнічаюць: два, тры, мноства...**

**"Іх было двое на ўвесь вагон... Я не ехаў у гэтым вагоне. Я назіраў за імі са свайго дому, седзячы за сталом, над непачатым аркушам. У адрозненне ад іх, я ўжо ведаў, што будзе далей. Аднак не мог анічога ні падказаць ім, ні змяніць. Жыццё развіваецца па сваіх законах, якія не падуладныя нікому. І мне". (Версія Ж)**

***

**Пішучы новыя творы, новыя кнігі, сам сабе супернік і вораг, кожны пісьменнік імкнецца да дасканалага пісьма, арыентуючыся адно на інтуіцыю і** ***божы дар*****. "Што тычыцца аўтара, першапачынальніка, паэта — ён не толькі б хацеў жыць з іншымі ("жыць" — дзеяслоў, частка мовы, якая абазначае дзеянне), але і зрабіць абжытай мову, на якой ён піша", — разважае-сцвярджае Г.Бёль у сваіх "Франкфурцкіх лекцыях". Б. Пятровічу ўдаецца не толькі "абжыць" мову і "пражываць" у ёй, але відочна шчырае жаданне зрабіць абжытай мову для ўсіх чытачоў.**

**"Людзі звычайна прачынаюцца, каб ісці на працу. Ці на вучобу, каб потым умець працаваць і прачынацца на працу".**

**"...па невялікім хітрым твары лісой прабегла радасць".**

**"Званок паклікаў гаспадароў".**

**(са старонкі 18 кнігі "Ловы")**

**"А вось гэтага (маладой жонкі. —** ***В.К.*****), бадай асноўнага кампанента салаты ці дадатку да кулінарнага даведніка ў Сержука якраз і не было".**

**"...у галаву прыйшла думка... як гаспадыня, вымеўшы ўсе астатнія за парог".**





— Не трэба — дык больш не будзе — сказаў Гой няўпэўнена. Ён баяўся быць грубым з Верай, але і баяўся быць занадта ласкавым Ён разумеў, што і адно, і другое магло стаць прычынай страты яе Але якім быць? Хітрым. Ды дзе ўзяць тую хітрасць?

— Глядзі ж. — Вера цёпла пагглядзела на Гоя, нібы агарнула яго дабрынёй, і ў яго адлягло на сэрцы не пакрыўдзілася, значыць, застанецца .

Яны зноў размаўлялі ўвесь вечар. Гой расказваў пра сябе — жанчына плакала. Ён не хацеў яе разжалобіць, але тое, што яна заплакала, яму спадабалася. Яго ніколі ніхто не шкадаваў Гэтак. Прынамсі, ён не памятаў Калі і "шкадавалі", дык было ў тым больш паказнога, для іншых, чулася ў той шкадобе пагарда і непрыязь. Не, ніхто ніколі яго не шкадаваў Нават сам ён сябе, пэўна ж, не шкадаваў Неяк не думаў пра тое Не было калі

Пляшку яны ўсё ж адкаркавалі. Але выпілі патрошкі Прычым Вера выпіла толькі дзеля яго, толькі вусны намачыла, сарамліва ўсміхнуўшыся

Слова за слова, і засталася Вера ў Гоя на ноч. Калі пайшла раніцай — ён і не памятаў Чуў скрозь сон, як збіралася яна, але не мог нават вейкі разняць.

Прачнуўся Гой шчаслівым чалавекам. Соладка пацягнуўся Косці, распростваючыся, прыемна балелі Ад ночы застаўся жывы, ні з чым не параўнальны, успамін. Здаецца, заплюшчыш вочы і — вось яна, Вера, у тваіх руках. Вось ён, жар яе цела

Нізкае яшчэ сонца свяціла проста ў вакенца хаты, высвятляла ўсё нязграбнае яе нутро Гой убачыў раптам, наколькі брыдка і брудна ён жыве Упершыню ўбачыў Яму стала сорамна і горка. І прыкра.. Які бруд вакол! Сто гадоў нямытая падлога з закарэлаю ў некалькі слаёў гразёю . А пасцель? Як магла Вера легчы ў гэтую пасцель? .

Гой падхапіўся, прайшоўся па хаце. І смярдзіць жа, мусіць, тут. Сам ён паху свайго жытла не адчуваў Але Вера. Але Вера..

" . Вера, Вера... Адкуль ты ўзялася?. Нашто я табе? Такі брыдкі, смярдзючы .. Божа, як я жыву! Як жыву!.. Хіба можа так жыць чалавек? Я ж не жывёліна, Божа. Я ж чалавек... Чалавек. Усе людзі, як людзі Усе сем'і маюць. Дзяцей. А мяне як панесла некалі, дык і спыніцца не магу Жыву нібы ў сне. Нібы ў тумане нейкім Трыццаць гадоў у тумане. У дурмане. Трыццаць! А што я з іх памятаю? Што ведаю. Можа, вайна дзе была — я не ведаю. Можа, вайна дзе цяперака блізка ідзе — я не ведаю І дзе жыву — не ведаю А як жыву-у! Адно: хата – завод, завод — хата. І п'янкі. Толькі пра тое і думкі. як бы выпіць, з кім бы выпіць, дзе грошай узяць, каб выпіць. Не-е-е! Не! Хопіць. Хопіць. Хо-піць! "

Гой кінуўся прыбіраць у хаце Найперш вымыў падлогу Адшкроб ад бруду драўляны стол, сарваў з вакна некалі белую, а цяпер шэра-чорную запінку, садраў з пасцелі, з матраца коўдры, якіх было там ажно чатыры, і ўсё гэта памыў у двары і павесіў сушыцца Потым знайшоў у шафе штаны і сарочку, таксама брудныя, але не такія, як былі на ім. Памыў штаны і пінжак, дзівячыся, якой чорнаю робіцца ад іх вада, нібы фарбуецца — густа, слізка. Раней ніколі не мыў ён

**"...і так ляснуў дзвярыма лядоўні, што яна пакрыўдзілася і адключылася".**

**(са старонкі 18 кнігі "Сон між пачвар")**

**"А літаратура толькі і каштоўная ўражаннем адкрыцця. Цяжка прыйсці маладому пісьменніку да высновы, што самае цікавае (калі яно, вядома, ёсць) ва** ***ўласнай*** **душы. Б. Пятровіч, можа, як мала хто з ягонага пакалення, даверыўся ёй смела, і яго напаткала несумненная ўдача".**

**(Ул. Рубанаў. З уступнага артыкула да кнігі "Сон між пачвар")**

***

**Нягледзячы на ўсе перавагі, адчуваецца, як цяжка вылучыцца Б. Пятровічу сярод астатніх празаікаў яго пакалення. Але ж аўтар і** ***не імкнецца*** **вылучацца; мастацкае ўяўленне творцы вагаецца ў межах аднаго і таго ж знойдзенага ўзроўню. І натуральная цяга папрактыкавацца ў "Версіях" выглядае як жаданне паказаць чытачам, што Б. Пятровіч можа быць розным; выкарыстоўваючы сацыяльны і духоўны вопыт, пісьменнік выступае як эксперыментатар.**

**Назіраю за творчым працэсам Барыса П., упэўніваюся: пошукі — гэта падрыхтоўка да дасканала-класічных апавяданняў, эпічнага твора, прозы новай формы (?)...**

**Такім чынам, узнікае версія: П. ішоў, ідзе і будзе хадзіць на Л.**

**А для тых, каму патрэбна расшыфроўка, патлумачу: П. — Пятровіч, Л. — ловы.**

**Ну а мэта ўсё тая ж (д.-к. а.; э. т.; п. н. ф..!).**

**Вольга КУРТАНІЧ**

сваю вопратку Насіў, пакуль зусім не парвецца, і выкідваў І не купляў ён нічога На заводзе выдавалі ці сінюю, ці чорную спяцоўку — касцюм-камбінезон раз на год, а то бабулька якая спыніць яго на вуліцы і вынясе мужаў ці сынаў пінжак, альбо сарочку Так і жыў

Гой знайшоў старое іржавае лязо і сяк-так пагаліўся, паздзіраў бруд і кроў з прышорхлых ран на шчоках. А на працы, у абед, папрасіў Сцяпана, каб той падстрыг яго, абрэзаў крыху патлы. Сцяпан здзівіўся, але дастаў з бардачка ў станку нажніцы і досыць акуратна абстрыг валасы Гоя.

Змены ў Гоі прыкмецілі ў вёсцы адразу Ды і не заўважыць іх мог хіба сляпы Назіралі за ім спачатку моўчкі, а праз тыдзень-другі — загаварылі, пакручваючы галавою і высока падымаючы бровы, бабы на лавачках. Высаджваліся нават раней, каб пабачыць, як вяртаецца ён з працы Цвярозы, пахарашэлы І заўважылі жанчыны, асабліва тыя, што мужыкоў рана пахавалі· а ён жа — нічога яшчэ мужчына.. Сімпатычны нават На галаве, хоць і ва ўзросце ўжо, ніводнага сівога воласа. Чуб чорны, як у маладога ўецца. Ды і цела стройнае — хоць і худаваты, але жылісты У яго гадах мужчыны ўсе ўжо з жыватамі абвіслымі, лысымі галовамі, задышкаю ды радыкулітам А ён — як хлопчык. Ідзе борздка, спяшаецца, вітаецца ласкава — крыўдаў не згадвае Як нанова нарадзіўся

І здагадаліся бабы. Адразу здагадаліся — жанчыну займеў Толькі вось каго? Хто да яго ходзіць? Перабралі сваіх, вясковых, па пальцах — усе навідавоку, нікога не здумалі, не западозрылі. У той-сёй перапыталі нават, прыцІснулі: прызнавайся Не. Не яна... Хоць цяперака і яна была б не супраць — бач, як вочкі забегалі...

" ..Што гэта вы растрывожыліся так, замітусіліся? Чаго спалохаліся? Не чакалі? Бачу, бачу, не падабаецца вам.. Вось, каб п'яны я цёгся, ды ўнукі вашыя ці дзеці за мною беглі ў плечы штурхаючы, тады б вы былі спакойныя Тады ўсё ў парадку ў вас было б, усё ў норме... Тады б вы радаваліся. А мне смешна, смешна глядзець на вас такіх: разгубленых, здзіўленых.. Сядзіце на лавачках, як куры, як вароны старыя Няймецца вам. "

Гой крочыў з высока паднятаю галавою. Крочыў роўна і годна. І яму падабалася быць такім, якім ён стаў Ён сам нібыта збоку любаваўся сабою І баяўся цяпер ён толькі аднаго. каб не знікла раптам Вера — ён так і не ведаў, хто яна, адкуль, — каб не кінула яго

Зрэшты, перлом у ім ужо адбыўся. Ён пакаштаваў смаку іншага жыцця, і яно яму спадабалася. Таму ён, здаецца, унутрана быў гатовы да таго, што ў нейкі вечар Вера можа не прыйсці да яго. Ён, хоць і не дазваляючы сабе напоўніцу такіх думак, памалу рыхтаваў сябе да гэтага, каб не сарвацца тады, каб не кінуцца зноў у роспач, у бездань п'янак. Рыхтаваў, але і баяўся, што гэта здарыцца

Дзеці ўжо не спынялі гульні, калі Гой ішоў паўз іх, і не дражнілі яго Старэйшыя ж хлопцы вырашылі аднойчы высачыць. хто гэта да яго ходзіць. . Увечары падкраліся да вакенца Гоевай хаткі. Глядзяць: сядзіць ён за сталом, есць і з кімсьці нібыта перамаўляецца. А насупраць яго — нікога няма І ў пакоі пуста . Прыслухаліся называе Верай таго, хто быццам бы перад ім Пытаецца пра штосьці, слухае паважліва, ці не замілавана, адказ, сам адказвае на пытанні, якіх не чуваць, бо няма нікога насупраць яго... Няма і ўсё...

Доўга хлопцы назіралі, аж пакуль Гой не ўстаў з-за стала, не ўзяў кагосьці нібыта за руку і не павёў да ложка. Распрануўся і лёг — так, як на жанчыну кладуцца.. А пад ім — нікога няма. Быццам бы і ёсць пустата нейкая, але не відаць нікога. Перапалоханыя хлопцы кінуліся ўцякаць. Наваліліся ўтрох на гнілы плот, каб пералезці, і старыя жэрдкі не вытрымалі З трэскам і грукатам гахнуўся плот на зямлю. На шум выскачыў з хаты Гой Ды дзе там — хлопцаў і след прастыў.

"...Сочаць. Няймецца ім. . Высочваюць. Вось каб п'яны прыцёгся — не сачылі б. Памёр бы тут — ніхто не прыйшоў бы пабачыць, што са мною... І чаму гэта людзі такія: чужому гору — радыя, а чужому шчасцю — зайздросцяць і напаскудзіць хочуць... Думаеце, не бачу я, што вы з'есці мяне гатовыя за тое, што змяніўся я. Што такі, як вы, зрабіўся. Бачыце, як мала трэба, каб быць гэтакім, як вы. Кожны сам, вядома, свой шлях выбірае. Але ж я малы быў, дурны. Чаму мне ніхто не сказаў не рабі ты гэтага, не пі. Дык не, наадварот, спойвалі мяне, смяяліся з мяне п'янага, цырк сабе ўстройвалі, здзекаваліся, як са шчанюка бяскрыўднага. Такі я вам трэба быў .. У-у-у, як я вас ненавіджу за гэта.. І за тое, што цяпер не прымаеце да сябе — ненавіджу Але я вам дакажу, што я не горшы за вас. Я — лепшы!. "

Гой вярнуўся ў хату Вера сядзела на ложку. У адной сарочцы, з распушчанымі, растрывожанымі валасамі, у паўцемры, яна здавалася маладой, зусім маладзенькай, дзяўчынкай Глянула ласкава на Гоя і прамовіла.

— Ды не злуйся ты на іх. Будзь дабрэй да людзей Калі злом за зло плаціць будзеш, дык ніколі не паразумеешся. А дабрыня — любое зло растопіць. .

Правільна гаварыла Вера, правільна. Але адна справа ведаць праўду, другая — жыць па ёй І як, калі заўтра мужчыны, чакаючы машыну, пачнуць зноў паджартоўваць, пакепліваць і рагатаць, як адказаць ім так, каб зразумелі яны ён такі ж самы, як і яны, і каб прынялі яны яго ў сваю кампанію, як роўнага

— Іванка, што задумаўся, ідзі сюды, скажу штось.

Гой падышоў, сеў на край ложка, цяжка ўздыхнуў Вера абняла яго, прытулілася, паклала галаву на плячо і прашаптала:

— Іванка, мілы, ды не хвалюйся ты так, не перажывай. Усё будзе добра, усё ўладкуецца, павер Не адразу Памаленьку. Людзям жа таксама прывыкнуць трэба .. Не перажывай.. Абяцаеш? Нам жа з табою яшчэ жыць ды жыць. Нам дзяцей яшчэ гадаваць

— Што? Дзяцей?

— Так, Іванка, так. Зацяжарала я .

Калі б мог назіраць гэтую сцэну нехта збоку, нехта з тых, хто ведаў Гоя ранейшага, толькі пасмяяўся б Надта ж ненатуральна выглядала гэта, неяк не пасапраўднаму, па-дзіцячы

А Гой абхапіў Веру, прыхінуў да сябе, і слёзы пакаціліся з ягоных вачэй Упершыню мо ў жыцці заплакаў ён, як плача чалавек, а не бяздумная істота, не жывёліна .

# "ЛОВЫ"

**Барыс Пятровіч — гэта пісьменнік, якому стае моцы выжываць у *беларускім* часе. Да таго ж — ён хоча ўразумець, як гэта яму ўдаецца, і паразважаць над тым разуменнем з іншымі...**

**Усё напісанае ім не надуманае, а — *дадуманае*... за тых, хто жыве ў гэтым часе поруч з ім...**

**А яшчэ ён — правакатар. Літаратурны, вядома. Ён правакуе чытача на "вшивость" рэакцыі адносна ім напісанага і акаляючай нас рэчаіснасці. Інстынкт і рэфлексія на яго тэксты залежаць ад інтэлектуальных здольнасцяў апанента.**

**Яшчэ я ведаю, што Пятровіч захапляецца Хармсам. Я таксама прыхільнік творчасці Данііла, але гэта ніколькі не абавязвае мяне захапляцца Пятровічам. Тым больш, што кожны з нас, найперш, *захоплены* самім сабою...**

**Цікава да ўсяго, што дэбютная "маладосцеўская" кніжачка Пятровіча называлася "Ловы". І гэта *не выпадковая назва*, як часта здараецца ў большасці беларускіх літаратараў, і зусім іншы змест вызначае, чым неасабліва ўдалае аднайменнае апавяданне з той жа кніжачкі. Пятровіч *ловіць* чытача на "мроях" здаровага розуму, як рыбак рыбу на чарвяка. ЛОВЫ — гэта своеасаблівае літаратурнае паляванне, без ахвяр, бо мае мастацкую падаплёку дзейства. Тут калі і ўзнікае небяспека, то найчасцей для самога *аўтара ловаў*...**

**..."лавец чалавечых душ", "ловец любви и счастья", "мир ловил меня и не поймал" — цытаваць можна бясконца...**

**Карацей кажучы, мастацкая страсць ёсць ловы вобразаў у падсвядомасці...**

**У ягдташы *паляўнічага* заўжды знойдзецца месца калі не для здабычы, то хоць бы для "шызы", "мроі" ці "згадкі"...**

**Чамусьці ўспамінаецца вядомая карціна рускага мастака Пярова "Паляўнічыя на прывале"... Прадчуваючы наіўна-інтуітыўнае чытацкае рэагаванне на спантанна ўзнікшую асацыяцыю, скажу, што Пятровіч — гэта не цэнтральны *герой* карціны, распавядальнік паляўнічых гісторый-імправізацый, а *персанаж* гэтай жа карціны...**

**Хто? Так я вам і сказаў. І ўвогуле гэта тэма для іншай гаворкі. Магчыма, пра ўжо масцітага Барыса Пятровіча Сачанку.**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# У ГЭТЫМ СВЕЦЕ...

Пішучы пра Барыса Пятровіча, я не ведаю, што пішуць для "Крыніцы" пра яго іншыя, аднак упэўнены, што крытыкаваць яго ніхто не будзе. І я не буду. Але я ведаю, што Барысу больш патрэбны канкрэтны аналіз яго твораў, бо ён ужо не ў тым творчым узросце, калі хочацца аднаго — "пахваліце мяне". Нашым прафесійным крытыкам-літаратуразнаўцам сёння даецца рэальная магчымасць пасур'ёзнаму ўнікнуць у прозу Барыса Пятровіча, але, я думаю, ніхто не скарыстаецца гэтым. На жаль, я не крытык. Я ім і не магу быць, бо я, працуючы з Барысам у "ЛіМе", так прывык да яго, што творы, напісаныя ім, успрымаюцца мной як род-ныя: мне хочацца бачыць іх у друку і не ў абы-якім, мне хочацца, каб пра гэтыя творы гаварылі і, самае галоўнае, каб іх чыталі і перачытвалі. А Барыса Пятровіча трэба чытаць і перачытваць. Ён не такі просты, як некаторым падаецца. І не такі складаны, як падаецца. Ён па натуры паэт, і таму большасць яго твораў – невялікага аб'ёму. Яны, як таблеткі, п'ючы якія, можна атруціцца (нічога не зразумець), але якія ў прымальных дозах даюць адчуванне, што ў нас ёсць проза высокага еўрапейскага гатунку.

***

Барысу Пятровічу, як і многім з нас, каму ўжо за 35, не пашанцавала — выдаў толькі дзве кніжкі невялічкага фармату, у якіх змешчана тое, што не вымалёўвае сапраўдны творчы партрэт аўтара. А тое, што ляжыць дома ў пісьмовым стале, — яно і ёсць, яго і няма і, можа, ніколі і не быць — для чытача. У Барыса Пятровіча дома ў рукапісах ляжыць самае лепшае, што ён напісаў, але пра гэта ведае толькі каля дзесятка чалавек. Такая ўжо наша сённяшняя доля.

***

Я іду з Барысам Пятровічам дахаты — жывём побач. Едў з ім у тралейбусе. Гаворым, марым, спадзяемся. Пaглядаем на прыгожых жанчын. Купляем у крамах прадукты і не злуемся, што робім гэта самі, а не нашы жонкі. Мы можам купіць "чарніла" ці чаго мацнейшага і, зайшоўшы за вугал дома, выпіць, але мы не робім гэтага. А навошта? Мы ведаем, што ад гэтай таннай асалоды мы большымі не вырасцем. Мы купляем кнігі. Мы едзем у тралейбусе. Выходзім, ідзём па вуліцы. Стаім. Гаворым...

***

Учора былі на футболе. Нашы прайгралі. Шкада. А сёння Барыс прынёс новае апавяданне "Удол". Здаецца, гэта яго першы твор у гэтым годзе. Я прачытаў, і ў мяне самі па сабе вырваліся словы: "Сілён Барыс!"

***

*У гэтым свеце нас даўно няма.*
*Як па вясне нам помніцца зіма,*
*Мы помнім гэты свет і тым жывём.*
*Жывём, нібы цяпло, што над агнём,*
*Якога ўжо амаль няма зусім.*
*І гэты свет, як над кастрышчам дым,*
*Ляціць да зор, знікаючы ўвышы,*
*Як у пяску — хвілінныя дажджы.*
*І гэты свет нам век не зразумець,*
*Нам на яго, як на сябе глядзець,*
*І верыць, што мы ёсць, а не былі,*
*Як гэты век, што сёння на зямлі.*

***

Чакаю кнігу. Не сваю. Барыса Пятровіча. Яна скажа, што ёсць Барыс Пятровіч, што ёсць мы, што мы жывём у Еўропе, якая пакуль што не ведае, хто ў нас ёсць, бо мы самі гэтага не ведаем. Але будзем верыць, калі прачытаем кнігу, Якую Я Чакаю.

Віктар ШНІП

# Барыс Пятровіч паводле Сяргея Верацілы

*Эсэ [Спроба пятая]*

*"Сон розуму..."*
Ф. Гойя

Супакойваю сябе: "Усё нармальна. Усё добра". І гэта амаль праўда, калі не прыглядацца да таго, што названа жыццём і крочыць наўпрост, трымаючыся кірунку зорак, але варта толькі крыху збочыць і азірнуцца наўкол, дык мяне папросту і грунтоўна аглушае тое, што хочацца назваць, не шкадуючы куды больш моцных эпітэтаў, ідыятызмам і абсурдам жыцця, пародыяй на вырай ці недасканалым пеклам. І неадольная туга чамусьці сціскае сэрца, і я міжволі ўзгадваю абразок Гарэцкага пра хлопчыка, які на вакзале просіць "копіечку".

Камусьці дадзена чуць плёскат вады, стракатанне конікаў, подых агню, зорнае святло і спяваць песню радасці і кахання, а камусьці — курчыцца ад усведамлення галечы і ўбоства чалавечага існавання пад халодным святлом ліхтароў. Усё не так, як трэба. Усё не тое. — Не па-Боску. Не па-людску. І гэтая думка працінае глыбока, да самай душы, і душы — балюча. І страх, што гэтую няправільнасць, абсурднасць, нялюдскасць жыцця нехта прыдумаў нават не дзеля збыткавання, і не дзеля смеху, а толькі дзеля... Гэты страх не дае мне заснуць. Я яшчэ вярнуся да шматкроп'я, можа быць, вярнуся, а зараз пануе ноч, і ў сне душа на некалькі гадзінаў развітаецца з целам і блукае горкім, няшчасным прывідам па глухіх берагах Чорнай Ракі, і толькі розум, апечаны смуткам неўладкаванага жыцця нараджае і паслужліва падсоўвае ўсё тое, перад чым ты і ў светлы дзень стаяў як слуп: разгублены, няўмелы, безабаронны.

Як салодка спіцца ў цягніку на жорсткай паліцы, угрэтай тваім уласным целам у так званым "агульным" вагоне. Стукат колаў, размераны стукат колаў на стыках нараджае сны такія ж недарэчныя, як і самое паняцце адпачынку ў агульным вагоне. Сон пераплывае ў сон, і фізіялогія ўжо часам няздольная разблытаць гэтае вычварнае сплячэнне прыдуманага табою, прыдуманага кімсьці, таго, што адбылося, і таго, што магло б адбыцца. Сон адлучаны ад сну толькі мераю жудаснасці, але мы маем магчымасць прачнуцца ў нечым яшчэ больш стракатым і страшным, чымсьці тое, што сасніла. І колькі сітуацый мы б сабе ні ўяўлялі, як бы мы ні вычваравіліся ў прыдумках, рэчаіснасць усё роўна адкажа нам яшчэ больш моцна. А яшчэ бывае і так: прачытаўшы прыдуманае кімсьці, прыдуманае ад канца і да пачатку, здзіўляешся, адчуўшы, што гэта прыдуманае адбылося на самсправе, калі не з табою, дык з кімсьці з тых, каго ты добра ведаеш. Ідыятызму, абсурду існавання мы часам можам супрацьпаставіць толькі "пошлый житейский опыт".

Але "людзі доўга не жывуць". Што рабіць, калі гэта так, але і тут ёсць варыянт: пакуль едзе ліфт, думка, хутка ўчапіўшыся за якія-небудзь фразу, слова, паўслова, пакажа вам тое, што з вамі адбываецца, тое, што адбудзецца, альбо можа адбыцца, асабліва калі гэтая зачэпка аздобіцца далёкім з успаміну пахам яблыкаў. Вось вам і завод, вось вам і сход, вось і каньяк, вось і вочы, якія ты не хахаеш, і якія выганяюць цябе, але "выганялі толькі вочы". Дарэчы, гэта толькі ліфт і толькі фраза: "Людзі цяпер доўга не жывуць". Вось быццам і паспрабаваў разгледзець два апавяданні з Пятровічавай кніжкі. І гэта, мабыць, на рэцэнзію не падобна — але я і не прэтэндую — і рэцэнзія не была маёй мэтаю, гэта хутчэй — рэакцыя на прачытанае. На эмоцыі — эмоцыяй, на думку — думкай. І чым мацнейшая і глыбейшая эмоцыя-думка, а ў мастацкім пісьменстве яны непадзельныя, тым мацнейшай і глыбейшай будзе рэакцыя чытача. Душа знаходзіць душу, кніга — чытача. Яшчэ Кальдэрон абвесціў: "жыццё — гэта сон". Але шэрагі наступных мысліцеляў усведамлялі сон толькі як нейкую іншую ірэальную рэчаіснасць і таму перадавалі сном, як літаратурным прыёмам, толькі самае важнае, альбо самае патаемнае...

Мне й самому захацелася спаць. Разбэрсаныя думкі стамілі мяне, хаця ёсць яшчэ што сказаць Барысу Пятровічу, таму што і ён кажа мне. Я адгукнуся на словы нават і тым, што перачытаю ў яго тое, што мне спадабалася, і ўсміхнуся, і слязу прыдушу. Заўважце, я мала цытую. І гэта — наўмысна, бо сталася так, што я перапісаў бы значную частку "ягоных" словаў, толькі паставіўшы іх у "свае" двукоссі. Я ведаю, як цяжка ісці наперад, быць наперадзе, спрабаваць, каштаваць, выпрабоўваць. Каштаваць слова навобмацак, на смак, пах, слых; выпрабоўваць яго вокам, голасам, рукамі, языком. І ў рэшце рэшт скрушацца, што гэта ўсё яшчэ не тое... І скрушацца, што цябе не зразумелі, альбо зразумелі не так, што па сутнасці адное і тое ж. Але людзі цяпер — пустыя збаны, напоўненыя адно толькі ўласным рэхам, кожны прагне быць геніем-мэтрам, хаця, здаецца, што зараз амаль усе прагнуць толькі грошай, а прага разумення ўзнікае бадай толькі за сталом, дзе п'яная савецкая душа прымушае вусны прамаўляць сакраментальную фразу. Але ты не думай, што я хачу суцешыць цябе: проста ў кожнага свой выбар і свой шлях: выбрай? — ідзі!

У пяты раз, так, здаецца, у пяты, я кладу перад сабою паперу і пішу чарговую версію свайго прачытання тваіх тэкстаў. Чаму ў мяне не атрымаліся папярэднія? Ды яны атрымаліся, але я кожны раз чытаю па-іншаму. У рэшце рэшт я хачу злавіць (і злаўлю!) тую хвастатую думку, што слізгае недзе наперадзе, недзе каля самых вачэй. Ухаплю і не адпушчу, пакуль увесь ейны сок не выцячэ на паперу. Але часам мяне бярэ адчай ад гэтай няўлоўнасці, альбо ад майго ўласнага няўмення лавіць. Хаця словы радасна каламуцяцца ўнутры і просяцца, просяцца, просяцца вонкі. "Сядзець! Не. Стаяць! Направа! Шарэнгаю па адным! Крокам руш!" Але яны хлынуць неўтаймаванай плынню, спакушаныя раскошаю хвастатай думкі, і я не паспею іх шыхтаваць бронзавай кулькаю стрыжня. Адкіну асадку прэч і стану радасна-тупа глядзець на сцяну. Не, сёння такі варыянт адмяняецца. Сёння такога не будзе. Сёння я рашуча настроены на перамогу. Яны ўсе, як міленькія, лягуць трапна і лоўка, як я ўмею. Толькі, можа, крыху шкада чатырох папярэдніх версій, але маю спадзеў, што і яны з часам будуць уладкаваныя.

Ну дык што, давай пагаворым, браце-Барысе. Давай. А пра што? А хоць пра нішто. Тут галоўнае толькі распачаць. А надалей яно само пойдзе. Альбо ты мне раскажаш, як добра мне ў "маёй правінцыі", альбо я табе раскажу, як добра табе ў "тваёй сталіцы". Альбо гэта будзе яшчэ нехта, хто пачне з захапленнем гаварыць пра тое, што мы даўно прачыталі, абмеркавалі, адпакутавалі, і шчасліва пазбыліся чужога. І гэта чамусьці намі не напісана, а калі напісана, дык там, дзе прачытаць найбольш цяжка. Але не сумуй: версій — мноства.

Ужо шмат разбітага за плячыма. Можна было б і спыніцца. Але сэрца баліць, якраз на тым месцы, дзе да яблыні прышчапілі дзічка [ты якія яблыкі больш любіш? я — ранет, белы наліў і антонаўку], узялі і прышчапілі, і не спыталі ў сэрца-яблыні. А цяпер? Гэта табе не нагадвае мічурынскія кавуны на елках? Мне асабіста не нагадвае, але занадта чужа я зараз сябе адчуваю сярод усяго, што тут. І цяпер таксама людзі доўга не жывуць. Але няшчасцем гэтага нязграбнага жыцця мы можам супрацьпаставіць цэлы арсенал зброі: афарызмы, парадоксы, жарты і бляск іроніі, што бранёю прыкрывае тонкую, адчувальную... Калі ў вас бракуе, дык займіце ў Пятровіча. Там — багата. Узяў — перачытаў, і далібог, жыць лягчэй. Галоўнае: не заснуць!

Галоўнае: не заснуць! У Бахаўскіх "Страсцях паводле Мацвея" хор спявае Пятру: "Не спі! Не спі! Не спі!", але Пётра засынае і маленне пра кубак адбываецца на самоце. Што ты тут будзеш рабіць? Мастак прачнуўся, спалохаўся, здзівіўся і заступіў на сваю цяжкую і, можа быць, няўдзячную вахту. І брыняюць бяссоннем вочы, і зморшчыны крэсляць лоб. "Не спі!", бо ў сне прыходзяць пачвары і шыхтуюцца вакол цябе, і кожная з іх душыць толькі цябе. У кожнага свой кубак, але хіба што я вып'ю і паспадзяюся на тое, што ты не ў крыўдзе на ўсе мае недасведчаныя спробы зразумець, на маю касамоўную спробу сказаць? Калі ты пакрыўдзішся, дык скажы, і я падпраўлю. А калі не маеш крыўды, то я на гэтым спынюся. І яшчэ, ёсць тут у мяне адна задумка, але пра гэта потым.

Бывай здаровы.

Сяргей ВЕРАЦІЛА

***

Пятровіч? Што — Пятровіч? Выдатны пісьменнік і тонкі даткlівы чалавек. Выдатнасць ягонага адносна маладога таленту ацэніць — да канца і сапраўдна — нават строгі час. Пятровіч ёсць мне — ці быў? не ведаю, як тут лепей сказаць — найбліжэйшым па духу беларускім празаікам. Разам са Стральцовым. Шкада адно, што не мроям, а газеце аддае ён найбольш свайго часу. Але гэта трагедыя ўсіх. Хто — газеце, хто — гарэлцы, хто — чорт ведае каму і чаму...

А можна пакінуць толькі першыя два сказы?

Алесь АСТАШОНАК

ЯНО

# МОЙ ГЕНРЫХ БЁЛЬ, альбо ВЫСОКІ, ЯК САБОР

Цягам апошніх гадоў у сценах маёй кватэры досыць часта бываюць госці з Германіі. Сціплае некамерцыйнае выдавецтва евангелічнай царквы выпусціла там па-нямецку кніжку маёй жонкі Ганны Краснапёркі — непрыдуманую аповесць пра перажытае ёю дзяўчом у акупаваным гітлераўцамі Мінску за дротам гета. З таго часу займелі мы па-над Рэйнам, Шпрэе, Майнам, Одэрам нямала сяброў Раз-пораз яны запрашаюць нас да сябе Не праходзіць месяца, каб не абнялі каго-небудзь з іх у Мінску

— У вас дома новая нямецкая акупацыя! — пажартаваў блізкі нам чалавек.

Кожнаму, каму, адчыняючы дзверы, прывітальна кажу я не "добры дзень!" ці "добры вечар!", а "гутэн таг!" або "гутэн абэнд!", хоць раз ды пахваліўся я, грэшны, дарагой для мяне фатаграфіяй. Прапануючы пазнаць аднаго са сфатаграфаваных — у гурце не цэнтральнага, знешне не прэтэнцыёзнага, з мужным асмужаным тварам.

Госць, як правіла, узнімае брыво.

— Бёль? — глядзіць ён на мяне запытальна. — Гайнрых Бёль?

Піжоны немцы! Вымаўляць свае імёны і назвы не так, як вымаўляем мы! Генрых у іх Гайнрых, Эйнштэйн — Айнштайн, Гановер — Ханофер..

— Ён! — пацвярджаю я. І паказваю на здымку таксама сябе — яшчэ не белагаловага, амаль удвая маладзейшага за цяперашняга.

— О-о! — далікатна ўнікае госць сентэнцыі, што аблічча чалавека як жа змяняюць пражытыя дзесяцігоддзі — Дзе вы з ім? Калі?

Адказваю, не без смутку ўздыхаючы:

— У пісьменніцкім Доме творчасці на Рыжскім узмор'і. У шэсцьдзесят пятым годзе.

Цяпер прынята пісаць пра пісьменніцкія, мастакоўскія, кампазітарскія Дамы творчасці савецкай пары толькі кпліва. Маўляў, былі яны ў стасунках улады з творчай інтэлігенцыяй адной з формаў аплаты за лаяльнасць і апалагетычнасць вольналюбівай па прыродзе браціі. Рэжымам нібыта наказвалася-гаварылася: даю вам, рыфмачы і раманісты, стваральнікі песень і кантат, партрэтысты і пейзажысты, у карыстанне катэджы і колішнія паляўнічыя дамкі ў прыгарадных лясных зацішках, даю камяніцы ў гарах ды на прыморскіх раздоллях, гарантую пад іхнімі дахамі прыстойныя ўмовы на тыдні-месяцы знаходжання там, — дык жа таксама і за тое ўслаўляйце мяне, алілуйце, нараджайце прадукцыю, што мне ўсцешная.

Вядома, было і гэта. Вядома, было і смешнае, нават прыкрае. Напрыклад, у тым самым літфондаўскім Доме ў Дубултах на Рыжскім узмор'і наколькі высока рангаваны літаратар афіцыйным (не чытацкім!) прызнаннем, можна было вызначыць па тым, на якім паверсе галоўнага корпуса ён паселены. "Самым-самым" нумары адводзілася на дзевятым-восьмым (за вокнамі відна раскашнейшая, чым ніжэй, далячынь краявідаў!), "не самым, але ўсё-такі" — на сёмым-шостым, афіцыйнага прызнання не ўдастоеным — на другім-трэцім, з вокнамі ў цяню дрэў Стары тэатральны крытык, шаноўны і разумны чалавек, ад якога колькі пачуў я цікавага пра карыфеяў маскоўскай сцэны, помню, ледзь не плакаў, абражаны тым, што апушчаны на непрэстыжны паверх: "Нікчэмны нуварыш NN на сёмым, а я, член Саюза з году заснавання, на другім!"

Ды, пасміхаючыся з пеннага, не кіну каменя няўдзячнасці ў сам факт, што творчыя суполкі мелі прытулкі, а то аазісы, дзе члену суполкі на адрэзак часу забяспечвалася свабода ад іншых клопатаў, давалася магчымасць застацца сам-насам з тым, што ў галаве: пішацца — дай бог табе ўдачы, не пішацца — адпачывай, думай. Да таго ж, як шырыўся там у кожнага, хто бываў, круг цікавых яму знаёмстваў, колькі завязвалася ўзаемаўзбагачальных дружбаў!

Не плачу па распадзе савецкай імперыі Распалася, таму што не магла не распасціся. Але згадваю шматкіламетровыя праходкі каля юрмалаўскіх выдмаў з суразмоўнікамі, якіх слухаў бы і слухаў, згадваю спатканні на іншых гэткіх астраўках пісьменніцкіх стасункаў і смуткую, што наперадзе мне такое ўжо не свеціць.

Як помніцца, Генрых Бёль пажыў тады ў Дубултах тыдні два. З жонкай і двума сынамі У Доме творчасці яны чацвёра сталаваліся, прагульваліся па алеях сядзібы, кантактаваліся з тымі, хто на кантактаванне набіваўся. Спыніліся ж, базаваліся на недалёкай дачы Віліса Лацыса.

У цяперашняга нашага чытача імя гэтага буйнога латышскага празаіка не на слыху Яго савецкія раманы выпрабавання часам не вытрымалі, напісаныя ж у Латвіі дасавецкай, раней шырока папулярныя, цяпер па-за межамі радзімы пісьменніка прызабытыя Пагатоў шмат хто з сённяшніх маладзейшых не ведае, што пасля далучэння краін Прыбалтыкі да Савецкага Саюза Лацыс дзевятнаццаць гадоў быў старшынёй урада Латвійскай ССР Дача ў асобы такога маштабу ўяўляла сабой, безумоўна, не хляўчук на пяці-шасці сотках садова-гароднага таварыства, прапанаваць яе сусветнай знакамітасці як прыстанак было не сорамна.

Тое, што поруч Бёль, грымнула сенсацыяй для ўсіх, каму выпала тады займаць катэджы і церамкі Дома творчасці — дзевяціпавярховы гмах галоўнага корпуса пасяродку сядзібы яшчэ не вымахаў Шырачэзныя прасторы нашай тагачаснай дзяржавы ў тую пару былі ахоплены кніжным бумам. У кнігарнях змяталася ўсё, што туды завозілася. Кумірамі чытацкай грамады сталі Хэмінгуэй і Рэмарк, якіх пачалі ў нас выдаваць не выбарачна, багацей па назвах, чым у сталінскія дзесяцігоддзі. І не парабольшу, сказаўшы, што блізкім да гэтых куміраў, у радзе з імі, у нас адразу, як напісанае ім завыходзіла на рускай мове, успрымаўся ён, Генрых Бёль.

Зазіраю ў бёлеўскую дзялянку свайго хатняга кнігазбору "И не сказал ни единого слова. " выпуску 1959 года, "Бильярд в половине десятого" выпуску 1961 года, "Где ты был, Адам?" выпуску 1963 года, "Город привычных лиц" выпуску 1964 года, "Глазами клоуна" выпуску 1965 года — называю што здолеў падпільнаваць у продажы і набыць да дубултаўскіх дзён, якія ажыўляю ў памяці, а не ўсё Бёлева, на той час па-руску ўжо выдадзенае. Гэтыя кнігі на тадышнім бязмежжы тэрыторыі, дзе распаўсюджваліся, уразілі бачана-нябачана чытацкіх сэрцаў Хэмінгуэеўскую, рэмаркаўскую інтанацыю, яе шчымлівую беспафаснасць пры паказе найдраматычнага новаадкрыты нямецкі праўдапісец працягнуў, развіў, узбагаціў сваім. Германія падгітлераўская, Германія кінутая ніц за ўчыненае нацызмам, заходняя частка Германіі, што стала пасля падзелу яе на дзве дзяржавы несацыялістычным фатэрляндам — гэтыя тры Германіі вымалёўваліся яго прозайва ўсёй складанасці таго, як жылі. Са зламанымі ў катаклізмах лёсамі адных, маральнымі піруэтамі другіх, непатапляльнасцю ні ў якіх грамадскіх бурах-штормах трэціх. З пранізлівай спагадай знядоленым. З трапяткім пульсаваннем дабрыні і на старонках, дзе пісьмо было з'едлівым, саркастычным.

Зразумела, як амаль усе, хто тыя два тыдні ў адной з Бёлем сталоўцы снедаў-абедаў, хто натрапляў на яго ў засені міжкорпусных прысад, я толькі зводдаль пачціва за ім цікаваў Там, дзе ён мясціўся, на лацысавай дачы, візітантаў, трэба думаць, яму ставала. Мо нават і лішне. Але мне ён помніцца ў кампаніі, апроч сям'і, толькі са Львом Гінзбургам. Вядомы перакладчык публіцыст, глыбокі знаўца нямецкай культуры, часты наведнік (тады!) Федэратыўнай Германіі, Гінзбург і прыехаў у Дубулты разам з ім, маючы, відаць, даручэнне памагаць шаноўнаму госцю ў зносінах, у арыентацыі пры патрэбах, якія ўзнікнуць.

Але быць пры ім неадлучна ды паспяваць яшчэ на падмогу ў стасунках ягонай жонцы, сынам — ніхто ж па-руску не гаварыў, — было Гінзбургу цяжкавата. І ён рэкрутаваў у памочнікі каго-нікога са знаёмых масквічоў, на той момант таксама часовых дубултаўцаў, за чый узровень нямецкай мовы і ўзровень наогул быў спакойны. Для нас з жонкай то абярнулася неспадзяваным прэзентам. У рэкрутаваныя трапіла Караліна Франчэскаўна Мізіяна, аўтарытэтны маскоўскі гісторык. Гадам раней мы пазнаёміліся з ёй у іншым Доме творчасці і тут сустрэліся як звязаныя даўняй узаемапрыязнасцю.

Адседзеўшы вячэрнія гадзіны з Бёлем і невялічкім зборам у яго, экспансіўная, рухавая, па-жаноцку ахвочая хутчэй падзяліцца чым поўная, Караліна Франчэскаўна раніцай дакладала нам, пра што ішла ўвечары гаворка, што з пачутага — найперш, вядома, ад самога Бёля — было, на яе думку, асабліва цікавым, што дыскутавалася, якая мілая разумніца Бёлева Анемары, і яшчэ, яшчэ. Зразумелая рэч, былі мы ўдзячнымі слухачамі

Тут яшчэ раз адхілюся ад асноўнага, пра што пішу Караліна Франчэскаўна — дачка вядомага італьянскага камуніста Франчэска Мізіяна. Вось адкуль экзатычнае для нашых вушэй імя. Бацька яе памёр у сярэдзіне трыццатых у Маскве палітэмігрантам. Прозвішчы, што мне гучалі ў юнацтве агністымі легендамі, — Грамшы, Тальяці, Лонга, — пры нашых размовах ёю вымаўляліся звыкла-сямейна: у гэтых партыйных правадыроў яна сядзела маленькай на руках. Шмат што закранутае Бёлем пры тым у яго вечараванні дубултаўскіх суразмоўнікаў яна разумела лепш, чым хто іншы з вечароўнікаў ведала замежжа і яго праблемы не адно з савецкіх газет і экскурсійных туды наездаў у турысцкім статку

З цяперашняй адлегласці, ды пасля ўсяго, што скаланула-перайначыла былую серпамолатную шостую частку свету, у асяроддзі нашых інтэлектуалаў досыць часта выказваецца дакор прагрэсіўнай зарубежнай інтэлігенцыі дваццатых — трыццатых гадоў за тое, што не разгледзела негатыўнай сутнасці камунізма. Папракаюцца Бернард Шоу, Анры Барбюс, Тэадор Драйзер, Ліон Фейхтвангер — маўляў, як яны маглі, мудрыя і ўчэпіставідушчыя, толькі рукапляскаць карцінам, якія ўбачылі ў СССР З маральных п'едэсталаў скідваюцца кампартыйныя аўтарытэты краін Захаду, італьянскія ў тым ліку

Што ёсць, тое ёсць. увасабленне ў жыццё камуністычнай ідэі паўсюль, дзе яго ўдалося на большы-меншы перыяд здзейсніць, ушчэнт гэтую ідэю скампраметавала. Тым не менш разумею: "пачырванення" ў дваццатым стагоддзі мала не трэці планеты адбылося не па зламыснай волі. Не былі зламыснікамі галавачы, якія агонь камуністычнай ідэі распалілі. Не зло было наўме ў ідэалістаў, што па планеце яго панеслі. Шчыра верачы самі, што трымаюцца адзінай магчымасці даць жабракам дастатак, прыніжаным годнасць, нізрынутым у цемру святло, яны зрабілі сваю веру рэлігіяй мільёнаў і мільёнаў. Што ў выніку атрымалася, агульнавядома.

Ды заходняя інтэлігенцыя, якую цяпер папракаюць, у дваццатыя — трыццатыя бачыла левых, самабольш камуністаў, сілай, здольнай процістаць пошасці карычневай чумы. І дужа ж прагнучы (як і ў ранейшыя часы, як і цяпер), каб клятай сацыяльнай няроўнасці ў чалавецтве не стала, паверыла бажбе савецкай прапаганды (не ўся, але шмат хто з яе складу), што ў СССР будуецца адметны тым кампанелаўскі "горад Сонца" — вялізны, на шостую долю зямной сушы!

Вось і Бёль перакананнямі быў з левымі. Жывучасць радыкалізму — аж да крайніх праяў, накшталт акцый крывавых "чырвоных брыгад", — тлумачыў найперш сацыяльнымі праблемамі. Самазадаволеным заходнегерманскім бюргерам гэта не магло падабацца. Пісьменніку неаднойчы кідаліся абвінавачванні нават у падтрымцы тэрарызму.

З таго, што тэмпераментнай скорагаворкай расказвала і пераказвала Караліна Франчэскаўна, памятаю хіба асобныя шматкі. Мінула ўсё-ткі больш за тры дзесяцігоддзі.

Як помніцца, яна прынесла неяк пачутае з вуснаў Бёля пра моладзь. Пра тадышнюю, шасцідзесятых гадоў, еўрапейскую моладзь — па абодва бакі нябачнай жалезнай заслоны, што адгароджвала свет, у якім жылі мы, ад свету, у якім жыў ён.

За некалькі наездаў у Савецкі Саюз Бёль заўважыў тут у юнацтва алергію на палітыку Перакормка нудой камсамольскіх сходаў, абавязковасць удзелу ў жаванні абрыдлага на розныя формы палітзанятках, начотніцтва лекцый па гісторыі партыі і па дыяматах-гістматах у ВНУ далі плён. Да таго ж толькі-толькі скончылася дзесяцігоддзе хрушчоўскай адлігі, калі ў памянёнай жалезнай заслоне прабіліся сякія-такія прасветы. Праз іх прагледзелася, як жывецца пры духоўнай свабодзе. І папрыкнопваліся ў пакоях студэнцкіх інтэрнатаў партрэты Хэмінгуэя замест партрэтаў Маякоўскага, запіжонілі глытальнікі Рэмарка словам "кальвадос" Цікавіцца палітыкай стала азначаць прыслужвацца, дэманстрацыя апалітычнасці выглядала формай фронды. Другое яўна больш прыйшлося да спадобы тым, хто сталеў.

Інакшае, сказана было Бёлем, наглядалася на яго радзіме і паўсюль у краінах Еўропы, ідэалагічна да СССР не прыкутых. Пры тамтэйшым палітычным плюралізме моладзь мала не ўся кучкавалася ў якіхсьці прыпартыйных згуртаваннях. Займала, забарыкадоўвала, выстаўляючы патрабаванні ўрадам, універсітэцкія будынкі, як, не помню дакладна, тым або блізкім да таго летам парыжскія студэнты. Вылівалася на вуліцы шэсцямі то "зялёных", то анархістаў, то ў знак салідарнасці з курдамі, то з якой яшчэ прычыны.

Развянчанне Сталіна, праўда аб тым, што з ягонага блаславення было натворана, зрэдзілі лік прыхільнікаў сацыялізму. Але нямала маладых засталося яму ідэйна вернымі. Заталмуджаныя, яны мкнуліся зразумець, чаму ў сацыялістычнай цытадэлі здарылася тое, чаго здарыцца, паводле тэорыі, не павінна было. Каб дапяць, якія з пастулатаў вялікага вучэння былі тут парушаны, штудзіравалі Леніна, Каўцкага, нават — прынамсі, яго, Бёлевы, сыны — Троцкага. Вымаўляючы апошняе прозвішча, сказала Караліна Франчэскаўна, Бёль жартаўліва сцішыў голас — маўляў, даруйце, дазволіў сабе крамольнае.

Помніцца таксама мэта, ці адна з мэтаў ягонага тагалетняга прыезду ў нашы палестыны. Зноў жа з перададзенага Каралінай Франчэскаўнай, так што за абсалютную праўдашнасць сваёй паінфармаванасці не ручаюся.

Празаік Генрых Бёль, як вядома, актыўна працаваў і ў спецыфічным жанры драматургіі для радыё. Не наогул драматургіі, а менавіта для радыё. Жыццё маё склалася так, што з радыётэатрам нямала часу быў цесна звязаны. Ведаю таму не з нечай падачы радыёп'есы Бёля — з вышыннага ў сусветнай літаратуры для сцэны, дзея на якой бачыцца вухам. Дык у дубултаўскае вакол яго тады акружэнне прасачылася на той час ім ці то задуманы быў, ці то ўжо ствараўся тэматычны цыкл радыёп'ес і сцэнарыяў для тэлебачання, што назваць можна "Гарады і пісьменнікі" Да прыкладу, пра месца Парыжа ў жыцці і творчасці Бальзака, пра Лондан для Дыкенса. На тыя тыдні ў Савецкім Саюзе настроіла, быццам, гэтая работа: патрэбен быў дадатковы порах у парахаўніцы для радыётэлеасэнсавання ролі Пецярбурга для Дастаеўскага і Адэсы для Бабеля. Бабель у Германіі папулярны, і Бёль неаднойчы пісаў і гаварыў, як высока яго ставіць.

Ну і яскравей, чым прынесенае Каралінай Франчэскаўнай ці кім яшчэ, у памяці паходжанне фатаграфіі, якой хвалюся перад гасцямі з Германіі. Седзячы ў сталоўцы ў гадзіну снедання, я ўбачыў за шклом дзвярэй на тэрасу, што купка масквічоў здымаецца там з Бёлямі — самім, жонкай, сынамі. Праявіў ініцыятыву, кінуў кліч, за мной з-за сталоў падхапілася з тузін літаратараў немасквічоў, да сталічных снобаў настроеных без сімпатыі, і мы таксама пакіраваліся на тэрасу. Бальшыню тузіна складалі сярэднеазіяты — узбекі, таджыкі, туркмены. Самашаноўны з іх быў Уйгун, гэтак мовіць, узбекскі Броўка. З мімаходных размоў помніцца ён чалавекам зычлівым, ветлівым. І творцам, казаў пра яго маладзейшы зямляк і калега, быў небяздарным. Але ў класікі узбекскай мастацкай славеснасці ўзнесены быў усё-такі не вышынёй таленту — Сістэмай. За асабліва старанны ёй хваласпеў. Класікам сябе і адчуваючы, прывыкшы, што для агульных здымкаў народ фатаграфуецца *з ім*, ён і ў нашай фотагрупе важняком сеў у цэнтр. Перакладзены цяпер на 48 моваў, Бёль па самаадчуванні класікам не быў і прымасціўся з краёчку.

У жніўні 1968 года свет быў скалануты весткай аб тым, што ў Чэхаславакію ўведзена савецкае войска. Нас з жонкай гэтай весткай сустрэў дачны пасёлак Займішча на беразе Волгі бліз Казані. Мы прыехалі туды на некалькі дзён да татарскага празаіка і драматурга Аяза Гілязава — дзякуй лёсу за тое, што патаварышаваў мяне з ім. Калі таксіст падвёз нас пад ягонае лецішча, Аяз у старэнькіх шортах стаяў на падворку з тварам чалавека, далёкага думкамі ад месца, дзе знаходзіцца, і круціў каля вуха транзістар. Праз хрып і скавытанне глушэння адтуль прадзіраўся, знікаў, зноў прадзіраўся ўсхваляваны голас.

Тыя сонечныя, ласкавыя, у доме харошых, шчырых сяброў дні — пра другое б там думаць і гаварыць! — нашым сумесна з гаспадарамі нерасстанне з невінаватым у сваёй агрэсіўнай хрыпатасці на хвалях "Бі-бі-сі", "Свабоды" і "Голасу Амерыкі" транзістарам перадусім і помняцца. Як мільёны суайчыннікаў, мы рваліся да праўды аб Празе, — крамлёўскія глушыльшчыкі эфіру не хацелі, каб мы яе ведалі.

Варочаючы антэнку прыёмніка, пераключаючыся з дыяпазону на дыяпазон, ганяючы ўказальнік па кілагерцах і мегагерцах, што-ніштo ўдавалася злавіць. І аднойчы гэтым злоўленым — пра то абмяняліся ўзаемапаведамленнем усе пісьменніцкія дачы ў пасёлку — было перададзенае "Свабодай" слова Бёля. Аб ганебнасці таго, што адбылося. Аб тым, што савецкай арміі чэхі і славакі былі ўдзячныя, як вызваліцельніцы ад акупантаў, ад гэтага ж часу яна для іх сама акупанцкая. Аб тым, што танкі краін Варшаўскага дагавору перайшлі мяжу Чэхаславакіі пад лозунгам абароны заваёў сацыялізма, на справе ж надзвычай падарвалі пазіцыі сацыялізма паўсюль у свеце, а ў Чэхаславакіі — канчаткова. Магу і памыліцца, але, па-мойму, Бёль пабываў у Чэхаславакіі ў тыя змрочныя дні яе гісторыі. Гнеўнае слова яго было і рэпартажам пра ўбачанае.

Прабегла некалькі гадоў, і Бёль зноў заўспамінаўся закардоннымі радыёстанцыямі, якія адчайна ў СССР глушыліся, з малапрыемнай для савецкага прапагандага кліру прычыны. З нашай краіны быў высланы Салжаніцын. Без права вяртання пасаджаны з канваірамі на самалёт рэйсам у ФРГ Дык хто яго там на вачах у зграі карэспандэнтаў сустракаў, абняў, павёз перш-наперш да сябе дамоў? Бёль!

Назвы Бёлевых кніг павыкрэсліваліся з планаў савецкіх выдавецтваў. У прадмове да выдадзенага шмат пазней, у 1989 годзе, зборніка яго дакументальнай прозы і мастацкай публіцыстыкі я прачытаў "Читатель вправе спросить. почему же все-таки произведения Бёлля у нас в течение 10 лет не печатались? Только 3 июля 1985 года, за несколько дней до его смерти в "Литературной газете" было опубликовано "Письмо моим сыновьям", которое, к счастью, еще увидел писатель. Неужели у наших издателей были серьезные основания на время как бы вовсе забыть о Бёлле? На мой взгляд и на взгляд многих, таких оснований не было. "

Аўтар прадмовы — Тамара Матылёва. Найвопытны і найдасведчаны ў савецкай выдавецкай практыцы літаратуразнаўца. Цудоўна яна разумела, пішучы: не выдавецтвамі тое вырашалася, друкаваць ці не друкаваць Бёля. Ды хто б дазволіў назваць інстанцыю, якая вырашала!

Тую, што нейкім часам і Кіплінга не раіла ў нас выдаваць — трубадур брытанскага імперыялізму. І ад Стэйнбека перасцерагала — не асудзіў дзеянняў амерыканскай ваеншчыны ў В'етнаме. І Артура Мілера не дазваляла тэатрам краіны ставіць — недзе выказаўся пра Ізраіль не так, як выказваўся з трыбуны ААН Андрэй Андрэевіч Грамыка.. Не злічыць падобнага, не вымераць маральнага ад яго ўрону.

Мімаходзь ужо сказана: на працягу жыцця я быў, гаворачы прафесійным жаргонам, актыўным "радыйнікам" Нямала пісаў для радыё як пазаштатны аўтар, пры запісе на плёнку таго, што зрабіў, бываючы ў студыях, а то седзячы перад мікрафонам. Двойчы апынаўся ў радыйнай літаратурна-драматычнай рэдакцыі штатным супрацоўнікам. Гэтай акалічнасцю тлумачыцца асаблівая мая слабасць да Бёлева апавядання "Маўчанне доктара Мурке", прачытанага адразу, як у сярэдзіне пяцідзесятых яно па-руску з'явілася ў часопісе "Иностранная литература" і не раз пасля перачытанага.

Доктар Мурке служыць рэдактарам у буйной радыёкампаніі, у падраздзяленні, якое рыхтуе праграмы па культуры. Службовая калатнеча, замарочанасць штодзённай чарадой запісаў выступоўцаў, мантажная варажба па ачышчэнні запісанага ад агаворак, сэнсавай бязглуздзіцы, кашлю-чхання, кантрольнае слуханне гатовай гаварыльнай прадукцыі перад выпускам у эфір прывялі да таго, што, так мовіць, салодкім патананнем у нірване сталі для Мурке моманты, калі дома ўключае магнітафон і слухае зафіксаванае плёнкай маўчанне. Слухае цішыню, бязмоўнасць, запісаную самім і складзеную для яго спагадлівым прыяцелем студыйным мантажорам з выразаных у маналогах выступоўцаў секундных паўз.

Густа наперчаны сарказмам шэдэўр. Чытаць яго асалода і чалавеку, які пра атмасферу на радыёканвееры ўласнага ўяўлення ні блізка не мае. Ува мне ж рассыпанае на плошчы апавядання абуджае асацыяцыі і параўнанні. Не ў адным выпадку дзялюся падабенству адчуванняў і рэакцый Бёлева персанажа, хутчэй за ўсё, кёльнскага затлумленага радыёрабацягі і, дазволю сабе нясціплась, колішняга беларускага радыёрэдактара Мехава.

Сюжэтны стрыжань апавядання — змест аднаго рабочага дня Мурке Своеасаблівая хірургічная аперацыя, якою ён вымушаны ў той дзень займацца. Самаўпэўнены і самаўлюбёны нудзіла, забранзавелы газетны і мікрафонны мараліст Бур-Малотке ў чарговай сваёй пропаведзі, на плёнку ўжо запісанай, але яшчэ не перададзенай, вырашыў слова "бог" замяніць на моўны выраз "тая вышэйшая істота, якую мы шануем". Знакам для слухачоў, што ён, высокапаважаны імі (у чым не сумняваецца!) Бур-Малотке, у светапоглядзе не застыў, развіваецца. А паколькі бог успомнены быў у пропаведзі дваццаць сем разоў, то на змену трэба атрымаць такую ж, на запас жа нават большую, колькасць вымаўленых словаблудам Малотке "вышэйшых істот" Ды вымаўленых у розных склонах. Каб укleіць у плёнку замест выразанага "бога" Ідыясінкразія небаракі Мурке да напышлівага пустабрэхства Малотке, і не яго аднаго, падскоквае пад нясцерпны градус.

Божа міласэрны! — гатовы ўсклікнуць я, нібы выкарыстоўваючы якую выразку з першай рэдакцыі злашчаснай пропаведзі. А хіба мне ў радыйнай маёй іпастасі не даводзілася мець справы з аналагічным, толькі савецкага замесу? А іншае з апавядання — студыйныя рэплікі, падчас ідыёцкія пісьмы-прэтэнзіі слухачоў, штрыхі ўзаемаадносін вышэйшых па службовай лесвіцы з ніжэйшымі, — хіба не накладаецца з Бёлевым сарказмам на добра знаёмае і мне?

Мы бывалі ў Кёльне, ці не галоўным горадзе германскага радыё, — ва ўсякім разе, добра знаёмая радыёслухачам у нашай краіне "Дойчэ вэле" — "Нямецкая хваля" - вяшчае адтуль. І неяк запрошаны былі там на гутарку да масцітага радыёаглядальніка. Я паглядаў у ягоным кабінеце на цуда-тэхніку на ўсё ў пакоі і разумеў: не хутка, ой, не хутка дажывуць да гэткіх умоў для працы мэтры (калі такія з'явяцца) нашай радыёжурналістыкі Час ад часу гаспадар кабінета тэлефанаваў памочнікам, загадваў з нечым зайсці. То гледзячы на паслужлівых, ціхагалосых, з аднолькавымі фірменнымі блакнотамі для занатоўкі даручэнняў патрона маладых мужчын, падумалася: пэўна, так выглядаў прататып доктара Мурке.

І яшчэ пра адно звязанае з гэтым апавяданнем. У Тройсдарфе, гарадку між Кёльнам і Бонам, мы з жонкай завіталі ў мясцовую гімназію, з некаторымі настаўнікамі якой падтрымліваем адносіны. Нам прапанавана было пасядзець у класе, які выберам, на ўроку. Выбралі літаратуру ў выпускнікоў Пры ўсёй зычлівасці да гасцей з боку вучняў і дзяўчыны-настаўніцы, знешне ад вучняў мала адрознай, закантактавалася ў нас з імі не адразу Прысутнасць нечаканых старонніх спачатку іх бянтэжыла. Не ведалі і мы, як трымацца, — у гімназістаў меўся ж быць звычайны ўрок, а не пазапраграмная сустрэча з іншаземцамі.



*Генрых Бёль сядзіць крайні злева. Побач з ім справа Леў Гінзбург. Затым жонка Бёля Анемары. Затым Уйгун. Стаяць другі і чацверты злева – сыны Бёля. Другі справа – Уладзімір Мехаў.*

На радасць сабе, дазнаемся, што тэма ўрока — "Маўчанне доктара Мурке"!

Урок сарваны не быў. Праграмную тэму абгаварылі разам. Але настаўніца сказала, што пры нашым актыўным удзеле гаворка атрымалася нашмат больш змястоўнай, чым прайшла б без нас.

Згаданы зборнік дакументальнай прозы і мастацкай публіцыстыкі Бёля, выпушчаны ў Маскве пасля доўгага адлучэння яго ад савецкіх выдавецтваў, прэзентаваны быў нам укладальніцай зборніка Яўгеніяй Кацавай, — колькі гадоў у адзін час з ёю даводзілася бываць у тых самых Дубултах. Першакласная перакладчыца, асабіста з тым, чый зборнік уклала, знаёмая, яна мне, да ўсяго, была цікавая яшчэ таму, што блізка ведала нашага незабыўнага Рыгора Бярозкіна, з якім самому пашчасціла быць дастаткова блізкім. Таварышаванне іхняе пачалося ў паваенным Берліне, дзе яна і Бярозкін, да другога яго арышту, лейтэнантамі служылі ў рэдакцыі газеты савецкай адміністрацыі для немцаў Доўжылася ў наступныя дзесяцігоддзі, калі Яўгенія Аляксандраўна штатна працавала ў часопісе "Вопросы литературы", а рэабілітаваны Бярозкін быў там жаданым аўтарам, прыязджаючы ў Маскву, у рэдакцыю наведваўся.

Перакладзенае Кацавай жа і ўключанае ў зборнік "Пісьмо маім сынам, альбо Чатыры веласіпеды" — споведзь пісьменніка ў смутку прадчування хуткага сконы аб тым, што з ім назаўжды засталося з вайны. Як аганізавала Германія Гітлера. Як хітраваў, хаваўся, круціўся обер-ефрэйтар вермахта, да мабілізацыі кёльнскі студэнт Генрых Бёль, каб у гэтай агоніі ўратавацца. Якія з бачанага і перажытага зрабіў сабе на будучае жыццё высновы.

У "Пісьме" ўспамінаецца рэчка Зіг, успамінаецца горад Зігбург, што абапал яе і ўпрытык да названага Тройсдарфа. У тым кутку Германіі нам пашанцавала неаднойчы пабываць. І несучыся ў зіхатлівай камфартабельнай машыне каго-небудзь з тамтэйшых знаёмцаў, сціплага інжынера ці настаўніка, па вылізаных бетанаваных аўтабанах, я спрабаваў, здаралася, уявіць тое, што адкрывалася маім вачам, такім, якім яно балюча помнілася Бёлю. У вусцішным здранцвенні гарадкоў, цяпер акуратненькіх, прычапураных, руплівых. У гразюцы і макрэдзі прасёлкаў і не па-нямецку запушчаных, скрозь у выбоінах, гасцінцаў, па якіх ён, тады дэзерцір з фальшывымі дакументамі, па начах матляўся на чужых веласіпедах, баючыся стрэчных немцаў у вайсковым (дэзерцір жа!) больш, чым наступаючых, недалёкіх ужо амерыканцаў.

Сыноў ягоных, каму з пяшчотнай да іх любоўю ён у гэтым запаветным паспавядаўся, я памятаю дубултаўскімі. Далікатнымі, трошкі сарамяжлівымі русявымі юнакамі. Часу прабегла многа, тадышнія шаснаццаці-семнаццацігадовыя сёння ва ўзросце, у якім быў тады Бёль. З двух сыноў, што поплеч з ім у тое лета пахадзілі бурштынавым берагам Рыжскага заліва, такога веку дасягнуў адзін. Другога, як і бацькі, няма ўжо: па ўласнай волі — горкай волі! — развітаўся з жыццём маладзейшым. Брат колькі гадоў назад пабываў у Мінску Прыязджаў у групе суайчыннікаў — дзейных спагаднікаў Беларусі ў паслячарнобыльскіх бядотах. Што ён знаходзіцца ў Мінску, паведаміла нам брэменская знаёмая, якая таксама прыехала ў той групе. У шчыльнай рабочай праграме яна выкраіла вечарок, каб пасядзець у нас дома. Вядома, я паказаў ёй дарагую дубултаўскую фатаграфію. Госця сказала:

— Падыдзіце туды, дзе мы працуем. Пакажыце здымак геру Бёлю. Упэўнена, ён будзе ўдзячны, яму будзе цікава і прыемна.

Я не пайшоў, пасаромеўся.

Зварот у пачатку "Пісьма" сямейны: "Дарагі Рэнэ, дарагі Вінсент" Але, зразумела, звернута яно было не да адных непасрэдных прадаўжальнікаў роду Бёляў. У Германіі безліч немцаў пасляваенных пакаленняў, якім за нацысцкае мінулае радзімы сорамна. У Мінску да нас час ад часу заходзяць нямецкія альтэрнатыўнікі — хлопцы, што, зноў жа саромячыся не так далёкага мінулага айчыны, адмовіліся браць у рукі зброю і тэрмін абавязковага вайскоўства палічылі за лепшае адрабіць санітарамі пры самацяжка хворых, нянькамі ў садках для дзяцей з цэрэбральным паралюшам, на якой іншай працы такога кшталту Адрабіць у Германіі ці за мяжой, вось таксама і ў нас у Беларусі. Для мяне ўсё гэта дзеці Генрыха Бёля.

Былога салдата гітлераўскага вермахта, параненага на ўсходнім фронце, які на досыць гучны ў яго краіне роў ваяўнічых ультрапатрыётаў, што да злачынстваў нацызму вермахт дачынення не меў, што яны ўчыняліся не армейцамі, а службамі гестапа, СС, СД, СА, бязбоязна рэзнуў у "Пісьме" праўдуматку: "Без германскага вермахта, у якім я служыў, ніводзін канцлагер і году не пратрымаўся б"

Пісьменніка, чутнага на ўвесь свет, у якога тамсама ў "Пісьме" чытаем: "Нават ледзь улоўны дух фашызму кідае мяне ў паніку"

У Кёльне, горадзе, дзе ён нарадзіўся і жыў, ёсць цяпер плошча Бёля Каля найслыннага старажытнага Кёльнскага сабора — выдатнага еўрапейскага помніка духоўнай культуры, што з сівога сярэднявечча сімвалізуе людское памкненне ў ачышчальныя высі.

Сумленне новай Германіі Бёль — роднасная гэтаму сабору постаць.

**Уладзімір МЕХАЎ**

